*Алесь Камароўскі*

# Пенальці



МІНСК
"УРАДЖАЙ"
2000

*Футбол... Слова, якое прымушае біцца мацней сэрцы мільёнаў балельшчыкаў. Гульня, якая стала сацыяльнай з'явай у жыцці. Гульня, якой я прысвяціў свае лепшыя гады.*

*Футбол — як люстэрка, якое высвечвае ўсе чалавечыя якасці: калектывізм, узаемаразуменне, гонар і сумленнасць, гатоўнасць аддаць усяго сябе справе, як кажуць футбалісты, выкласціся да апошніх сіл дзеля перамогі. Але калі ты сапраўдны спартсмен, то павінен быць і патрыётам сваёй каманды, у зборнай — патрыётам сваёй Радзімы.*

*Мой боль і мая радасць цесна звязаны з беларускім футболам, атакуючым і самабытным, багатым на яркія таленты ва ўсе часы. Упершыню каманда мінскага "Дынама" ў 1982 годзе стала чэмпіёнам СССР.*

*Аповесць Алеся Камароўскага "Заварожаны мяч" — першая ластаўка ў беларускай літаратуры на футбольную тэму. Не буду меркаваць аб мастацкіх вартасцях твора. Гэта справа літаратурных крытыкаў. Як спецыяліст адзначу, што аўтар аповесці дасягнуў галоўнага, яскрава паказаў: футбол — гэта штодзённая цяжкая праца і пошук на шляху павышэння майстэрства. Толькі тады заварожаны мяч можа стаць паслухмяным любому руху іграка. Толькі ў цяжкай працы вырастае сапраўдны футбаліст, вялікі спартсмен і, вядома, чалавек.*

*Думаю, чытач цёпла сустрэне гэту і другія на спартыўную тэму аповесці Алеся Камароўскага.*

***ЭДУАРД МАЛАФЕЕЎ,***
***заслужаны майстар спорту СССР, галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболу***

1*

Як у футболе,
То спрыяе,
То б'е жыццё пад дых пенальці —
І ўдар трымаць нам памагаюць
Радзіма,
Мова наша,
Маці.

*М. Маляўка*

Спорт нараджае сілу, лоўкасць, вынослівасць, выхоўвае цярпенне і веру ў будучае.

*А. Мядзведзь*

Спорт — гэта цяжкая штодзённая праца, якая шліфуе чалавека і яго характар.

*У. Парфіяновіч*

Каб пазнаць магчымасці і адкрыць тайны свайго цела, трэба займацца фізічнай культурай.

*В. Корбут*

Усім, што дало мне жыццё, я абавязаны спорту.

*Л. Ерахавец*

# ЗАВАРОЖАНЫ МЯЧ

*аповесць*

Стадыён выбухнуў, падхоплены адзіным парывам, узняты маланкавым выстралам мяча, увінчанага ў “дзевятку”. Узляталі ў руках парасоны, крылялі над галовамі плашчы, плашч-накідкі, газеты... Нельга было знайсці падобную сілу, якая гэтак жа спружынна, імгненна ўскінула б тысячы прагных да гола балельшчыкаў, зліла крык, гаману і свіст у адну моц.

Варатар, распластаўшыся на зямлі, здаецца, усё яшчэ сіліўся выцягнутай рукой адбіць мяч. Хоць спіной адчуваў, што мяч там, у варотах, ды і па выбуху стадыёна зразумеў, што на гэты раз не абярог, не засланіў сваю святыню...

Не ўставаў і цэнтральны абаронца супернікаў пасля адчайнага, але запозненага падкату ў штрафной. Доўгая брудная паласа пасля падзення на разбітае поле чарнела на рукаве яго белай футболкі. Чорны нумар на спіне, здавалася, наліўся нейкім цяжарам, і ці то ён, ці то скразны свіст цісну ў абаронцу к долу.

— Го-о-о-л! — у адзін голас роў стадыён...

Другі абаронца, закрыўшы рукамі вочы, стаяў як укопаны. Суддзя бег да цэнтра поля, упэўнена паказваў на белы круг розыгрышу мяча. Арбітру спрабаваў нешта даказаць, забягаючы наперад, высокі нападаючы гасцей. Але суддзя быў няўмольны.

На электрычным табло ўспыхнулі яркія літары: “Галы забілі...” Але прозвішча аўтара гола не з’яўлялася. Відаць, аператар чакаў, пакуль аб’явіць па радыё дыктар. Нарэшце дынамікі, прарваўшы магутны гул стадыёна, абвясцілі: “Гол забіў...”

— Го-о-о-л! — не сціхалі балельшчыкі, махаючы ўзнятымі транспарантамі і сцягамі...

* * *

Ён любіў гэтую пару года — восень. Калі вясна, сплавіўшы ў раку набрынялыя снягі, неяк неўпрыкмет зелянілася і пераходзіла ў тлумнае і задышнае лета, то восень увачавідкі, размашыста і багата разгортвала сваё стракатае цыганскае ўбранне, прываблівала непаўторнымі барвамі, зачароўвала, клікала ў лес, каб прыадкрыць там штосьці таямнічае.

Асмужаны небакрай, чакаючы пазалоты вечаровага сонца, ясна блізіўся, ахопліваючы душу шырынёй і вольнасцю, зваў наперад, каб увабраць гэтую красу, што множылася ў няўлоўных танах.

Вадзік любіў хадзіць адзін па восеньскіх лясных верасоўях і выжарынах, любіў спяваць, не саромеючыся, што нехта знянацку падслухае, і шукаў у лясных сховах каралеўскія грыбы — баравікі. Наспех прыхоплены скрылік усохлай паляндвіцы з акрайцам хлеба здаваўся тут асабліва смачным, і заўсёды ўспаміналася маленства, калі бацька прыходзіў надвячоркам з працы, асцярожна разгортваў паперыну і частаваў “зайцавым” хлебам.

Лес прыглушваў у душы затоены боль, прыцішваў перажыванне часовага паражэння. Магутны і ўпэўнены ў сваім пошуме, ён ахоўваў чалавека ад унутранага надрыву і, здаецца, пераліваў у цела сваю векавую моц і былінную сілу. Нетаропка ідучы між параснікаў, можна было ўяўленнем вярнуць і ацаніць пражытае, зробленае, зірнуць на сябе як бы збоку, нібы на іншага чалавека, убачыць свае памылкі.

Дрэвы скідалі лісце, выпрамлялі разволенае голле. У выносных ствалах, падспудна чулася, затаіліся сокі як спаконная сіла жыцця, каб выбухнуць маладой радасцю ў новую вясну.

* * *

— Ты думаеш, мы прайгралі толькі таму, што гулялі слабей за сапернікаў?

— А хіба не? — Вадзік з прыжмурам, з непрытоенай злосцю зыркнуў вачыма на Юрку Красецкага, быццам хацеў угадаць яго затоеныя думкі.

— А ты глыбей глядзі... Чаму б, скажам, пасля двух перамог не падкінуць хлопцам прэмію ці матэрыяльную дапамогу? Не падмажаш — не паедзеш. А Ван Ваныч мог прабіць начальства...

— Ды ты што, за грошы гуляеш? — кадык у Вадзіка суха перасмыкнуўся, прыжмур вачэй яшчэ больш звузіўся, скулы на твары, здаецца, пабялелі... — А выйгрыш — гэта не прэмія? "Не падмажаш — не паедзеш!" Нас трэба мазаць, толькі не грашыма, а так, каб сёмы пот цуркам ліўся, а то прывыклі: "Ван Ваныч праб'е...", "Ван Ваныч дамовіцца..." А дзе сумленне тваё, гонар? — Вадзік сціскаўся, як спружына, якая вось-вось гатова імгненна выстраліць і збіць перад сабой усё, што не дае ёй разгону і руху. Толькі Вадзікаў твар не распаляўся, а бляднеў, быццам уся кроў адхлынвала ў сэрца, каб з яго раптам рынуцца зноў і заліць збялелы твар жывой чырванню.

— Ціха ты, ціха, стары... Я ж пажартаваў... Можа, я цябе хацеў праверыць... А ты — як чайнік: закіпеў, зашыпеў, — Юрка адступіў на крок, відаць, спалохаўся нечаканага выбуху гэтага парывістага хлопца, глянуў больш уважліва на яго.

Стройны, з русявай "канадкай" валасоў, з аскетычнай худзізной шчок, прамым, можа, трошкі задоўгім носам, ад якога прыгожа разбягаліся выразы вачэй, з белёсымі брывамі Вадзік нагадваў казачнага Алёшу Паповіча. Ён здаравеў на вачах, убіраўся ў сілу. Шырокі разлёт каўняра блакітнай сарочкі хораша клаўся на яго сівы, грубай вязкі світэр.

— У кожным жарце — доля праўды... — Вадзік памалу адыходзіў, шчокі пачыналі пунсавець. І гэтая ружовасць роўна разлівалася па твары.

Юрка зноў пайшоў поруч з Вадзікам і, быццам звязваючы перарваную нітку, пачаў даводзіць тую самую думку, але ўжо іначай:

— Эх, стары, жыцця ты яшчэ не ведаеш... Бразільскія клубы мільёны плацяць, каб добрага іграка ўзяць. Вось і гуляе ён, гуляе да канца, выкладваецца што ёсць сілы... Бо ведае, за што гуляе. А мы?..

— А я не хачу такога жыцця, разумееш, не хачу! — Вадзік перабіў Юрку. — А за каго і за што гуляю, я ведаю, — сказаў ён цвёрда, і па яго ўпэўненасці было відаць, што ён сапраўды ведае, за каго і за што гуляе. — Ну, будзь! Мне — на аўтобус...

Не, Вадзік не забыў нічога, і цяпер па нязначных фразах Красецкага, па яго адносінах да хлопцаў, нават па яго гульні, як з драбніц, з разбітых асколкаў клеіў люстэрка, каб убачыць сапраўдны воблік свайго капітана. І, як быццам гэта было ўчора, ён добра помніў тую гульню...

Гэта быў яго першы выхад на поле ў асноўным саставе. Каманда прайгравала: нуль — адзін. Недзе ўсярэдзіне першага тайма правы абаронца гасцей прайшоў цэнтр поля, ірвануўся па краі, праскочыў між двух ігракоў сярэдняй лініі і з вугла штрафной падаў мяч на дальнюю штангу. Правы абаронца Саша Сакалоўскі высока скокнуў, адвёў корпус тулава назад, каб галавой выбіць мяч са штрафной... І ў гэты момант на перахват мяча рвануўся Жэня Макевіч... Рука варатара на міг апярэдзіла галаву абаронцы, але дацягнулася да мяча ледзь-ледзь, чучкамі кулака, і — усё ж такі Сакалоўскі перашкодзіў — не змагла і на паўсілы адбіць мяч. Ён злёгку слізгануў з-пад рукі і ўпаў метры за тры, пакаціўся паралельна варатарскай лініі... Цэнтральны нападаючы гасцей не праспаў: лёгка качнуў мяч "шчочкай" нагі ў пустыя вароты... Нуль — адзін...

Хлопцы моўчкі сядзелі ў раздзявалцы. Хто перашнуроўваў буцы, хто, заплюшчыўшы вочы, адкінуўся на мяккую спінку крэсла і адпачываў...

Вадзік бачыў, як Іван Іванавіч нервова прайшоўся ўперад-назад па раздзявалцы, спыніўся:

— Ну, што скіслі? Яшчэ — сорак мінут гульні наперадзе. А вы насы павесілі... Можна яшчэ зраўняць

лік і выйграць! Ясінскі выйдзе заміж Гракава на левы край... Ты, Дудко, адцягніся трошкі назад, памажы праваму краю, а Сакалоўскі бліжай да цэнтра стане...

"Ясінскі выйдзе заміж Гракава..." Вадзік аж не паверыў: яго — на замену! Звычайна запасных, такіх, як ён, неабстраляных, выпускаюць тады, калі каманда выйграе два-тры мячы... А тут — нуль — адзін.

Хлопцы пачалі ўставаць. Іван Іванавіч падышоў да Вадзіка, паляпаў па плячы:

— Давай-давай, пабегай...

Вадзік хуценька зняў шарсцяное трыко, падцягнуў гетры, увабраў футболку, пачаў размінацца...

З суседняга пакоя рэзка прагучаў свісток: перапынак закончыўся. Хлопцы адзін за адным выйшлі з раздзявалкі, пратупалі па калідоры і вынырнулі з-пад трыбун каля цэнтральнага выхада.

Вадзік трапіў як пад абвал. Шматтысячная, рознакаляровая грамада балельшчыкаў ракатала, як расхваляванае возера з зялёным астраўком пасярэдзіне, — футбольным полем, — якое, здаецца, магло выплеснуцца ўніз і затапіць гэтую зялёную прастору. Калі першы ігрок у сіняй футболцы аказаўся навідавоку, трыбуны засвісталі працяжна і зняважліва. Вадзік панурыў галаў, быццам у тым, што каманда прайграе, была і яго віна. Хваляванне ўзнялося нейкімі ўнутранымі дрыжыкамі, сутаргава перайшло ў ногі. Вадзік ведаў: дакранецца ён да мяча і хваляванне знікне, быццам гэты чорна-белы лапісты шар развaрожыць і здыме нейкія чары, дасць вольнасць і ўпэўненасць целу і рухам...

Суддзя зірнуў на секундамер і даў свісток. Пачаўся другі тайм.

* * *

Іван Іванавіч, здаецца, ніколі не спыняўся: то спяшаўся ў выканкам, каб выбіць без чаргі кватэру для прыезджага майстра спорту, то бег у федэрацыю, каб

не зяўнуць пераходы ігракоў, завербаваць каго-небудзь з іх у сваю каманду, то мітусіўся на базе, падбіраў — як ён любіў казаць — "экіпіроўку сваім бэйбусам", то снаваў па футбольным полі, каб паказаць, дзе якія выбоіны прысыпаць і ўкатаць, дзе загарэбці і засеяць травой. Яго магутная фігура, ацяжараная гадамі, быццам наплывала па фісполавай дарожцы, як невялікая хмара без грому і злосці, спынялася на ўскрайку зялёнага газона. Іван Іванавіч не вельмі пільна сачыў за трэніроўкамі футбалістаў, нават не паварочваў галаву, аднымі вачыма. Са спіны магло здацца, што ён, старшы трэнер каманды, глядзіць нават не на поле, а туды, на сярэднія рады цэнтральнай трыбуны, каб выхапіць зрокам з рэдкіх, цікаўных балельшчыкаў некага знаёмага... Праз дзве-тры хвіліны, лагодна буркнуўшы ці сабе, ці ігракам "давай-давай", ён паварочваўся і "плыў" назад, да цэнтральнага выхада, дзе пад трыбунамі былі раздзявалкі.

Што таілася за гэтымі добрымі вачыма, якія думкі роіліся пад гэтай сівізной? Цяжка было ўгадаць. Можа, успаміналася юнацтва, калі ён, рослы, імклівы, наспружынены ў скачку, мог на хуткасці абвесці двух-трох чалавек і прабіць, прабіць "мёртва", як казалі футбалісты, у дальні верхні вугал варот, мог высока ўзвіцца над стоперамі і галавой усадзіць у сетку пругкі мяч... А можа, бачылася вайна, якая забрала яго росквіт і сілу... Ва ўспамінах і снах грымелі смяротныя баі пад Ленінградам і Курскам... Ён вярнуўся пасля перамогі з прастрэленымі лёгкімі, доўгі, схуднелы, але такі ж энергічны і непаседлівы. Пяць ваенных гадоў узялі сваё: гуляць за каманду майстроў ён ужо не мог. Але не мог і адысці ад футбола, быццам душой прыкіпеў да гэтага вёрткага мяча і пакінуў на затравянелым прамавугольніку поля нешта сваё, блізкае і дарагое. Не, ён ужо не мог вырваць з сябе жаданне бачыць, як мяч улятае ў створ варот, не мог жыць без шалёных выбухаў стадыёна. Спачатку трэніраваў другарадныя каманды, некалькі гадоў сядзеў у спорткамітэце, дзе да ачмурэння чарціў

турнірныя табліцы і графікі, а пасля яго паслалі трэніраваць адну з лепшых каманд рэспублікі. Не агледзеўся, як з таго часу прайшло сем гадоў.

* * *

— Дзядзя Сёма, а праўда, што ў аднаго футбаліста быў мёртвы ўдар? — віхрасты белагаловы падлетак наском лоўка падкінуў мяч, злавіў яго рукамі і спыніўся каля лаўкі.

Дзядзя Сёма, а дакладней — Сямён Міхайлавіч, моцны, жылісты, год пад пяцьдзесят чалавек, палажыў на калені газету і з хітрынкай у вачах зірнуў на хлапчука:

— Быў, Віця, быў... Хочаш, раскажу?

Віця сеў на лаўку і як застыў, утаропіўся вачыма ў дзядзю Сёму. У яго наіўных вачах была такая вера, такое жаданне пачуць нешта незвычайнае, што Сямён Міхайлавіч засумняваўся: а ці варта падманваць гэтага жывунка рознымі выдумкамі? Але тут жа падумаў: "Хай слухае, хай вучыцца..."

— У адной камандзе гуляў у нападзенні невысокі хлопец. От, так сабе гуляў: ні добра, ні кепска. З левай і правай біў слабавата, бегаў — не вельмі, здалёк галы не забіваў, а біў зблізку і то — калі пашанцуе... Адзін раз адцягнуўся ён у абарону дый зрэзаў мяч у свае вароты. А якраз фінал нейкі вялікі быў. Так і прайграла каманда. Трэнер раз'юшыўся, уз'еўся і выгнаў яго. А хлопец упарты быў, ганарлівы: рашыў даказаць...

Сямён Міхайлавіч перапыніў расказ, зірнуў на гадзіннік і ўзняў позірк на Віцю. Вочы хлопчыка чакалі, былі гатовы ўвабраць кожнае слова, кожны штрых легенды...

— Днямі біў ён мяч адной і другой нагой у каменную сцяну. Футболку — выкручваў ад поту, з ног — кроў сачылася... А мяч заўсёды браў цяжэйшы, чым звычайны. І вось ногі ў яго акрэплі, сталі як жалез-

ныя. Ад яго ўдару мяч ляцеў, як гарматнае ядро. Асабліва страшна ён біў правай. Узялі яго зноў у каманду. І што ты думаеш? Варатары дрыжалі, калі ён біў, пальцы вывіхвалі, рукі і рэбры ламалі, ловячы мячы. А двух — насмерць забіў мячом. Адным словам, галы, як цвікі ў дошку, калаціў! Калаціў так, што забаранілі яму правай нагой біць, чорную павязку налажылі...

— Ай-ёй-ёй! — выдыхнуў заварожаны Віця.

— А ў аднаго буржуя ма́лпа натрэніраваная была — гарыла. Даўгарукая, вёрткая, з дрэва на дрэва магла метраў за дзесяць сігануць... І навучылі яе ў варотах стаяць, мячы лавіць. Хто ні біў — брала: рэакцыя была — імгненная... Вось і пайшла пагалоска: таму, хто заб'е ёй гол з адзінаццацімятровага, буржуй мільён дасць. Многія білі, і ў ніжнія, і ў верхнія вуглы — брала. Дачуўся і гэты хлопец, рашыў паспрабаваць. Прыехаў... Мільён грошай на штрафной лініі паклалі, гарылу — у вароты, мяч — на адзінаццатку. Разбегся ён на метраў пяць і прабіў... Правай прабіў, забароненай, у верхні левы вугал...

— І што, што дзядзя Сёма? — не выцерпеў Віця.

— А тое, — Сямён Міхайлавіч на хвіліну паравёў дыханне, — што гарыла ўзяла мяч.

— Няўжо ўзяла?

— Узяць-то ўзяла, але з мячом, мёртвая, уляцела ў сетку. Гол! А хлопец мільён бедным раздаў. Вось што значыць удар моцны. Трэніруйся — і ў цябе такі будзе. Ну, мне на завод пара. Бывай!

* * *

З таго часу прайшло сем гадоў. Іван Іванавіч, седзячы на лаўцы запасных, стомлена замружваў вочы і быццам аглядваў няроўны шлях, пройдзены камандай. Перад вачыма паўставалі цяжкія гадзіны трэніровак, пасля якіх хлопцы, разгарачаныя і мокрыя ад поту, весела ўвальваліся ў раздзявалку. Тады з душавой

вылятаў здаровы рогат і туманныя клубы пары прабіваліся ў дзверы праз плёханне вады...

Заўсёды прыгадваўся — мучыла сумленне — фінал кубка краіны. Заставалася тры хвіліны да канца дадатковага часу — нуль — нуль. Тры хвіліны... А там — пенальці... Хто ведае, каму пашанцуе. Тады ён выпусціў апошнюю замену і наказаў: “Упадзі каля варот!” Нападаючы рвануўся, атрымаў мяч у штрафной... Перад ім былі два абаронцы. Прайсці між імі? Не праскочыш, ды і варатар падстрахуе. І тады ён рэзка рынуўся на левага, стукнуўся корпусам з ім, пасля артыстычна, быццам падсечаны нагой саперніка, праляцеў метры два і грымнуўся вобзем, схапіўся за нагу, скурчыўся ад уяўнага болю. “Дасць ці не дасць пенальці?” Суддзя паказаў на адзінаццацімятровы. “Каму біць?” — падбег да трэнера Гракаў. — “Бі ты, колькі сілы маеш”. Іван Іванавіч добра ведаў, што Гракаў — не пенальціст. Праўда, сілу ў нагах мае. Звычайна біў адзінаццацімятровы Валера Рахавец. Біў хоць і не так моцна, але прыцэльна і з падманам. А тут? Ці засталася ў яго сіла? Амаль тры таймы адбегалі...

Гракаў разагнаўся, моцна замахнуўся і прабіў... Калі Іван Іванавіч адняў далоні ад вачэй, мяч каля самага варатара ўляцеў у сетку. Гол! Пасля газеты пісалі пра своечасовую замену, пра яго мудрае трэнерскае рашэнне. Былі віншаванні і тосты...

Запомніўся і мінулы сезон, калі ледзь не вылецелі. Апошняя гульня вырашала ўсё. Перад пачаткам першага тайма ён як адрэзаў: “Ног чужых не шкадаваць!” Жорстка? А як іначай? Усё спартакаўскае нападзенне — бегункі. Спыняюцца тады, калі гол заб’юць. А так — пару раз у косці, — не палезеш вельмі. І чужых ног не шкадавалі. Праўда, самі не забілі, але і не прапусцілі...

Іван Іванавіч, рэзка ўскідваў галаву і, схамянуўшыся, глядзеў на поле. Каманда зноў дацягвала нічыю. Ірваўся без падтрымкі, сіліўся забіць гол Рахавец. Больш пакрыўджана прастойваў, чым бегаў,

Гракаў. Абарона адпульвала мячы, куды трапіць, абы далей ад варот...

"Можа, на нічыіх як выедзем", — супакойваў ён сам сябе. Пасля вінавата ўздымаў вочы на запасных:

— Усё, хлопцы, наступны раз абавязкова выстаўлю!

Іван Іванавіч яшчэ раз кідаў позірк на электрычнае табло, на якім дзевяноста мінут бляклa свяціліся два нулі, браў плашч і цяжка падымаўся: усё — нічыя. Але спакою ў душы не было.

* * *

Пачаўся другі тайм. Вадзік заняў сваё звыклае месца на левым краі нападзення. Следам, як прывязаўся да яго, забегаў высокі чарнявы абаронца гасцей. "У такога не вельмі галавой выйграеш, хіба толькі на апярэджанні", — падумаў Вадзік, ірвануўшыся на вольнае месца. Мяч быў у Красецкага. Можна было паслаць уразрэз, на адрыў. Ды і Красецкі зрабіў падманны замах, зірнуў на Вадзіка, прайшоў управа, і мяч не пасанyў. Ззаду, праехаўшы метры два ў падкаце, яго перахапіў нехта з сапернікаў.

"Можа, не бачыў? — апраўдваў Красецкага Вадзік, адцягваючыся назад. — Ці сам хацеў прайсці? — Але падспудна прабівалася яшчэ адна думка, якую ён стрымліваў і не верыў, што яна можа аказацца праўдай. Для чаго ж тады гуляе каманда? Хто лепшы, а хто горшы ў ёй? Ды і ці можа быць такое? Ёсць вынік і вынік — не ў іх карысць. Ёсць вароты, у якія трэба забіць, забіць адзін, два, тры галы, больш, чым супернік. Няўжо Павел Гракаў? Вадзік бачыў, як перад выхадам Гракаў паляпаў па плячы Красецкага: "Ну, стары, не падвядзі!" "Ці магло што-небудзь хавацца за гэтымі словамі? Не, не можа быць!"

Мяч свечкай узвіўся ўверх, затрымаўся на міг у вышыні і рынуўся ўніз. Чатыры-пяць ігракоў падцягнуліся, каб перахапіць яго. Вадзік скочыў і, апярэдзіўшы даўгавязага абаронцу, скінуў мяч Рахаў-

цу. "Ну, аддай Красецкаму!" — скамандаваў у думках Вадзік і рвануўся на правы край. Левы крайні і паўсярэдні абаронцы не паспелі адцягнуцца назад. Рахавец мякка аддаў пас Красецкаму.

— Юрка, па свайму краю... — задышна прахрыпеў Вадзік.

Трыбуны ўзбуджана загулі, убачыўшы, што можа быць.

Вадзік прытармазіў, баючыся аказацца на адной лініі з цэнтральным абаронцам — у афсайдзе. Нейкае імгненне было ўжо страчана, але зона метры на чатыры яшчэ заставалася вольнай.

Красецкі бачыў — нельга было не ўбачыць — Вадзіка. Зрабіўшы перад штрафной два-тры пустыя фінты, Красецкі нечакана павярнуўся спіной да варот і адкінуў мяч набягаўшаму Дудко. Той прабіў метраў з дваццаці пяці з ходу. Мяч пайшоў далёка ўбок і значна вышэй. На трыбунах засвісталі.

"Валодзя таксама быў на добрай пазіцыі, і ўдар у яго — не тое што мой. Трапіў бы — мог забіць..." — Вадзік зноў адцягнуўся назад, каб памагчы сваім.

Абарона была самай моцнай лініяй у камандзе. Два крайнія — Саша Сакалоўскі і Ваня Сілаў — рэзкія, з добрым скачком, хоць і сярэдняга росту, з выдатнай рэакцыяй. Цэнтральныя — Косця Сіваліхаў і Лёня Арцёмаў — вопытныя, рослыя, два прыгажуны, могуць легчы пад удар, умеюць выбраць пазіцыю. За імі Жэню Макевічу — як за сцяной.

Госці атакавалі. Мяч пераходзіў з краю на край. У цэнтры круга адзінока стаяў Красецкі. Толькі адзін абаронца застаўся ля яго.

Вадзік у нейкім, хутчэй інтуітыўным, чым бачным, рыўку-перахапіў мяч, перавёў на левую нагу і тут жа аддаў пас Красецкаму. Сам ірвануўся за спіну свайго апекуна, ірвануўся так, як некалі са старта на сотку. Адарваўся і ўбачыў: двух — Красецкі і ён — супраць аднаго абаронцы!

Стадыён растрывожана загуў: лік мог зраўняцца.

Вадзік выходзіў з левага краю. Красецкі з мячом ішоў на абаронцу з правага. Адлегласць імкліва скарачалася. Варатар выйшаў на метры тры з варот, убачыўшы, што нехта з гэтых двух у сініх футболках можа аказацца з ім адзін на адзін. Абаронца ішоў на Красецкага. І ніхто з іншых не мог ужо дапамагчы ці перашкодзіць.

Красецкі замахнуўся правай. Абаронца паверыў: выставіў пад удар левую нагу. Можна было качнуць мяч налева, Вадзіку. Красекі пераскочыў праз выцягнутую нагу абаронцы і выйшаў на вугал штрафной. Вадзік бег амаль паралельна, крыху ззаду. Варатар ірвануўся напрамкі, на мяч. Зноў можна было аддаць пас налева. Вароты былі пустыя. Красецкі з сілай замахнуўся...



Стадыён здаваўся Сямёну Міхайлавічу велізарнай чашай, якую да краёў запаўнялі стракатыя ручайкі балельшчыкаў. Яны сцякаліся адусюль, з усіх канцоў горада, каб уліцца ў featureзнагалосае мора людзей. І толькі на дне дзіўнай чашы, на расчэрчаным белымі лініямі прамавугольніку падстрыжанага поля, пакуль што было спакойна. Чакалі, здаецца, сваіх гаспадароў вароты, шэсць чырвоных сцяжкоў — чатыры па вуглах і два па цэнтры — яшчэ не трапяталі ад задышнага бегу футбалістаў, іх лёгка развязваў ветрык. Чорны прамавугольнік табло як анямеў ад нясцерпнага чакання. Але па спешнаму снаванню тых, хто прыйшоў пазней, адчувалася, што хутка пачнецца вялікая футбольная варажба і чараўніцтва, непрадказальная, нечаканая, невыказная магія мяча і людзей. І тысячы вачэй будуць заклінаць мяч, весці яго ў чужыя вароты, тысячы сэрцаў будуць заміраць перад заключным ударам. Гэтая чаша стадыёна пасля перамогі выплёсквалася радасцю і ўздымам, спыняючы плынь імклівых машын, несла пераможнае “ўра”

ў мітуслівую людскую гаману, улівала ў заспакоены горад натхненне і ўзбуджанасць. А пасля паражэння гэтая чаша быццам расколвалася на мноства частак, і з сектараў-трэшчын ціха расцякаліся па вуліцах і праспекце ручаіны людзей, каб загаіць свой боль у чалавечых клопатах.

Стадыён часам нагадваў яму і сланечнік з выразанай сярэдзінай. Балельшчыкі, як семачкі, сядзелі ў ячэйках, а тых, месцы якіх пуставалі, відаць, вылузалі з гэтай "шчоткі" час і паражэнні сваёй каманды.

Калі ён стомлена замружваў вочы, стадыён ператвараўся ў адно жывое цела, у аднаго чалавека-велікана. Не расплюшчваючы вачэй, можна было адчуць, дзе знаходзіцца мяч: па спакойнаму і роўнаму гулу — гульня ішла ў цэнтры; гул нарастаў, пераходзіў у крык — каманда атакавала; гул сцішваўся, стадыён затоена сачыў за мячом — праціўнік блізіўся да нашых варот. Але больш за ўсё ён любіў слухаць гэтага прыдуманага чалавека пасля ўдараў па чужых варотах. Калі магутны крык пераходзіў у адзінае, злітнае "аааа...", калі хлёсткі ўдар ішоў каля варот, голас велікана як абвальваўся з выдыхам шкадавання — "аах!" і рассыпаўся на тысячы дробных галасоў, якія шукалі лепшы працяг атакі, ухвальвалі смеласць нападаючага... Адусюль чулася з веданнем сітуацыі "трэба было... трэба было...". Але для велікана самым вялікім шчасцем, дзеля якога ён перажываў, заміраў, ахаў і свістаў, быў гул любімай каманды. Калі мяч прадзіраўся праз гушчар ног і нарэшце, пасланы ўдарам у сетку, ападаў у варотах, гэты велікан трос тысячамі рук і плашчоў, парасонаў і кепак, хвіліны тры крычаў на зрыве голасу. Горад здагадваўся па гэтаму магутнаму голасу, што свае забілі гол. Але цяжка было глядзець на гэтага волата, калі каманда прапускала мяч. Нібы працяты скразным болем у самае чуйнае месца, ён сцінаўся, як пасля забароненага ўдару, сцішваўся і горка перажываў, але веры не губляў.

Быццам сотнямі вачэй успыхвалі асвятляльныя мачты, і роўнае ярка-зялёнае святло множыла цені іґракоў. На фісполавым пакрыцці, здаецца, ярчэй бялелі абводы бегавых дарожак. Над трыбунамі стаяла ці то пара чалавечага дыхання, ці дым ад цыгарэт.

Што вяло іх, людзей розных па характары і прафесіях, сюды, на стадыён? Што яднала і нават радніла ў падзеннях і ўзлётах каманды? Можа, ім трэба было ў некага верыць і спадзявацца, перажываць і радавацца? Многія пасля перамог раскрываліся, як дзеці, іншыя пасля паражэнняў заракаліся не ісці на другую гульню, кляліся сядзець дома ля тэлевізара, але наступаў дзень футбола і яны зноў прыходзілі сюды, на стадыён. Такія ўжо яны, балельшчыкі.

* * *

Красецкі з сілай замахнуўся... Замахнуўся і прабіў сам, хоць вугал быў востры, ды і варатар засланіў яго. Мяч праляцеў побач са штангай.

На трыбунах засвісталі, зняважліва закрычалі:

— Мазілы! Таўкачы! На мыла!

Многія не вытрымалі, пачалі пакідаць стадыён, хаця да канца гульні заставалася мінут дзесяць.

“Усё, — горка падумаў Вадзік, — трэба прабівацца самому...”

Мяч лёгка снаваў між іґракоў у сініх футболках, то ўпоперак поля, то часам закідваўся каму-небудзь з нападаючых, спрабуючы намацаць слабае месца прарыву, зноў вяртаўся назад... Збоку здавалася, што гуляе тэхнічная, дружная каманда, у якой усё зладжана, адрэгулявана ў разуменні адзін аднаго. Але свежае вока магло заўважыць і другое: мяч часцей за ўсё перапасоўваўся траім: цэнтральнаму і праваму паўабаронцам Красецкаму і Дудко і праваму нападаючаму Толю Яфімаву. Выходзіла, што асноўную нагрузку несла правае крыло. Яно іграла і галоўную ролю. Праўда, калі ў

нападзенні быў Гракаў, усе перадачы праз Красецкага ішлі яму. Тады Яфімаў бегаў больш ухаластую.

Вадзік бачыў, што ў камандзе дзейнічае нейкая невядомая сіла, якая трымае і вядзе гульню. Не, гэта была не трэнерская задума і не тактычны ход. Калі праціўнік прыстасоўваўся да такой гульні, ставіў да Гракава персанальнага апекуна, падцягваў яшчэ аднаго стопера на левы край, атакі глухлі на подступах да штрафной, мяч не даходзіў да Гракава. А дальнія мячы, прабітыя Красецкім ці Дудко, варатар браў або яны ішлі міма варот.

Выбіраючы месца для скачка, — Сакалоўскі прыйшоў падаваць вуглавы, — Вадзік вырашыў сам для сябе, што палезе ў самы гушчар ігракоў, палезе, каб на міг дацягнуцца да плямістага шара, дацягнуцца галавой ці нагамі і прабіць па варотах. Перад ім, аглядаючыся разпораз, мітусіўся чарнявы абаронца: сцярог, каб не зяўнуць рывок Вадзіка, закрываў перед ім прастору.

Мяч, злёгку падкручаны Сакалоўскім, слізгануў па галаве аднаго з абаронцаў, змяніў напрамак і паляцеў на адзінаццацімятровую лінію. Вадзік рэзка рвануўся з-пад рукі чарнявага, адштурхнуўся левай нагой і распластаўся ў палёце. Мяч быў у паўметры ад зямлі. Шырока расстаўленыя ногі, як нажніцы, самкнуліся, быццам пераразалі паветра. На самым зніжэнні корпус цела рвануўся ўлева. Ён дацягнуўся да мяча, прабіў галавой. Мяч чыркнуў над левай “дзевяткай” па перакладзіне, вылецеў за поле.

“А мог бы... Залішне рэзка...” — устаючы, падумаў Вадзік.

Тыя, хто застаўся на трыбунах, апладзіравалі. Але ён смутна глядзеў на чужыя вароты, і ў душы разам з ударамі сэрца ўздымалася прагнае жаданне: “Забіць! Забіць! Забіць, чаго б ні каштавала, забіць на грані злому, толькі б забіць!” Гэтае сляпое жаданне рванула яго, завяло, як у гарачцы, кінула ў новую атаку. Цяпер для яго не існаваў ніхто — ні свае, ні чужыя, ён бачыў толькі мяч, які быццам здзекаваўся з яго, насміхаўся і не даваўся для завяршальнага ўдару.

Заставаліся дзве мінуты. Суддзя паглядаў ужо на секундамер. Балельшчыкі дружней пацягнуліся да выхада. Ніхто з іх не верыў, што можа нешта змяніцца...

Злева, перахапіўшы мяч, іррануўся Валера Рахавец. Вадзік ведаў, што трэба пайсці ў цэнтр ці на правы край. Абаронца пойдзе за ім і адкрые калідор. Вадзік няспешна пабег направа. Валера вёў мяч размашыста, свабодна. Толькі цэнтральны стопер падцягваўся, каб перахапіць, не даць зрабіць перадачу ў цэнтр. Валера не стаў чакаць: левай нагой штосілы прабіў у бок варот, прабіў з надзеяй, што там будзе нехта са сваіх.

Вадзік зрабіў імклівы рывок у штрафную і адразу ж — управа. Прабіць галавой ён не паспяваў: мяч ішоў над ім па ходу рыўка. Адштурхнуўшыся, як акрабат, ён у высокім сальта, зрабіўшы "нажніцы" прабіў па варотах, не бачачы іх, прабіў з метраў сямі... І ў гэты міг адчуў, як нехта знізу падбіў нагу. Згубіўшы пункт апоры, Вадзік стукнуўся спіной аб утаптаную зямлю. Рэзкі боль працяў паясніцу... У вочы быццам хтосьці сыпнуў жменю іскраў, і яны пабеглі ўсё хутчэй і хутчэй, тлумна закружыліся...

* * *

Але спакою ў душы не было. Нейкая падспудная трывога, пакуль што не канкрэтная, як зацяжная аблажная хмара неба, спакваля агортвала сэрца, гняла сваім цяжарам, немаведама чаго ныла тупым болем. Як першы раз бачыў сябе, глядзеўся ў люстэрка і не пазнаваў у стомленым паглядзе, у маршчыністым, прыпухлым падвочны таго ранейшага, хударлявага і жывога юнака, які ўсміхаўся з фотаздымка на сцяне.

"Старэю, — думаў ён вечарамі, адкладваючы кіпу газет, — а са мной — і каманда..." Але калі ўнутраны голас не пярэчыў, што ён старэе, то наконт каманды з'яўляліся не то ганарлівыя, не то апраўдальныя мер-

каванні: “А чым жа старэе каманда?” Можа, тактыкай? Здаецца, не, расстаноўка самая новая: чатыры-тры-тры, як у бразільцаў, як у іншых каманд... І абарона моцная, навалай не возьмеш... Праўда, колькі грызні, звягні і спрэчак прыйшлося вытрымаць яму, Івану Іванавічу, з-за абароны. Яго прынцып “галоўнае — не прапусціць, а пасля — забіць” многія ў федэрацыі сустрэлі ў штыкі, дзе толькі ні крытыкавалі: на лятучках, нарадах, сходах... Але ж супакоіліся, а кубкам ён заткнуў рот самым ярым гарлапанам. Можа, і не заткнуў, але прымусіў хоць публічна змоўкнуць. Падабрэлі, схавалі кіпцікі... Івана Іванавіча не правядзеш, наскрозь бачыць: гавораць адно, а самі, пэўна, у душы кожны з іх меціць на яго месца. Думаюць, што тут — рай... Дзівакі! Колькі начэй недаспана, колькі нерваў і крыві папсавана — паўздароўя ўбухаў! Зверху камандаваць лягчэй, а прыйдзі, ажыві гэтую каманду, дапні да канца яе — пасівееш як лунь, як бачыш адрачэшся!

— Ідзі хоць раз дома павячэрай, — голас жонкі схамянуў, перабіў думкі. Але яны не маглі так адразу ўліцца ў спакойнае рэчышча...

“Абарона ім не падабаецца... Самая моцная...” Ці не ён, Іван Іванавіч, падабраў хлопцаў у адну лінію, вышкаліў і выпесціў гэтых чатырох асілкаў? І зону кожнаму адвёў: хоць разапніся, а зону абарані, не пусці да варот, прабіць не дай! Гэтая зонная абарона многім вочы коле: не яны ж прыдумалі. А вось з нападзеннем — што праўда, то праўда — не пахвалішся. Шукаць, мяняць трэба. Сярэдняя лінія — куды ні йшло: хлопцы цягавітыя, тэхнічныя...

Думкі плылі ўжо больш прыцішана, супакойліва. Але ў свядомасці, як азораныя блікамі маланкі, усплывалі асобныя сітуацыі, вострыя моманты, вырваныя з той ці іншай гульні. Прыгадваліся лепшыя галы, забітыя камандай, паўставалі твары ігракоў — на трэніроўцы, на полі, у раздзявалцы... Многія прайшлі разам з ім гэтыя цяжкія сем гадоў, разам з ім радаваліся перамогам, горка перажывалі пара-

жэнні. Ён ведаў іх слабасці і сілу, вывучаў звычкі і характары, часам патураў, але больш, здаецца, патрабаваў. Праўда, патрабаваў не вельмі жорстка, а як бы ўпрошваючы, угаворваючы, дзе-нідзе падказваючы, каб зразумелі самі. Для яго яны былі, як сыны, і ён аддаваў ім часу больш, чым сабе...

Думкі зусім супакоіліся, быццам ён апраўдаўся перад сабой... Але на душы, на самым яе дне, не затухаў, тлеў вугельчык незразумелай трывогі...

Іван Іванавіч лёг спаць. Чамусьці, як быццам гэта было ўчора, прыгадалася яму адна чэрвеньская навальніца...

* * *

Калі "хуткая дапамога" прымчала Вадзіка ў бальніцу, ён праз боль у спіне прыўзняўся на локцях, убачыў пажылую медсястру:

— Як там? Ці забіў?

— Ляжы-ляжы, няможна табе ўставаць! — а пасля, як вінаватая, паправіла яму падушку. — Я не была на стадыёне, як цябе забіралі... Забіў, не забіў — радуйся, што сам не забіўся...

Вадзік замружыў вочы, уявіў твары хлопцаў: калі забіў — радасныя, калі не — расчараваныя...

Паволі думкі адышлі ад футбола, завіталі туды, у родную вёску, дахаты... "Хутка бульбу капаць, дровы пілаваць на зіму... Хаця б не залегчы тут..." Успомнілася маці, клапатлівая, рупная, як пчала. Калі прыязджаў на выхадныя, рана прачынаўся, а яна ўжо стаяла каля яго, углядалася ў рысы твару: "Схуднеў за гэтым путбалам... Што табе на снеданне, сыночак, зварыць?" — "Абы-што, мама..." — і выскокваў з-пад цёплай коўдры, спехам надзеўшы трыко, бег на двор што-небудзь рабіць замест зарадкі...

Паўсонная дрымота ахінала яго ўяўленне, успаміны плылі ўрыўкамі, як выпадкова выхапленыя кінакадры, прыбліжаліся на міг і тут жа аддаляліся.

І раптам падсвядомасць як азарыла: "Віка! Родная, любая!" — ён спалохана, як засаромеўся, адкрыў вочы: ці не сказаў гэтыя словы ўголас? Медсястры ў палаце не было, адвярнуўшыся да сцяны, спаў сусед...

"Віка... А помніш, як мы з табой пазнаёміліся?"

Вадзік зноў заплюшчыў вочы...

Цёплы красавіцкі дзень высыпаў з дому дзетвару, і яна, галасістая, непаседлівая, шчабятала, лётала па двары, скакала ў "класы". На лаўцы, выбраўшы самы сугрэў, сцераглі ўнукаў і ўнучак бабулі.

Вадзік з Валодзем Малянскім вярталіся з трэніроўкі. Маўчалі. Вадзік стомлена нёс сумку з формай. У Валодзі акрамя сумкі быў плямісты чорнабелы мяч.

— Глянь во! — спыніўся раптам Валодзя.

— Што? — упёрся ў яго спіну Вадзік.

— Ды не туды. Вунь! — Валодзя кіўнуў галавой у бок другога пад'езда.

На асфальце, ля самага тратуара, лоўка скакала стройная дзяўчына ў джынсах.

— Скакалку вось так трымай, пускай лёгка яе... — вучыла яна віхрастага белагаловага падлетка.

Вадзік з Валодзем падышлі бліжэй, селі на лаўку. Дзяўчына не бачыла іх, скакала двума нагамі, на адной, "крыжыкам" і "выпадам".

— Нічога атрымліваецца! — знарок голасна заўважыў Валодзя.

Дзяўчына рэзка перахапіла скакалку, павярнулася:

— Нічога, — нават не зас аромелася, горда страсянула стрыжкай чорных валасоў. — А вы чаго ўтаропіліся? — яна перадала скакалку хлапчуку.

Валодзя, быццам не чуў не то пытання, не то заўвагі, злёгку штурхнуў локцем Вадзіка:

— Бач, ад сціпласці не памрэ, толькі пахвалі.

— Ты — таксама. Мяне паражывеш. — Яна нагнулася, узяла з тратуара сумку і не ім, а малому прыгожа ўсміхнулася: — Ну, бывай, да заўтра! — пайшла лёгка і стройна.

Вадзік маўчаў, заварожана глядзеў услед.

— Ты чаго? Пайшлі! — Валодзя падняўся.
— Хто яна? — Вадзік не адводзіў вачэй, пакуль дзяўчына не знікла ў апошнім пад'ездзе.
— А я адкуль ведаю...
— Трэба ўведаць... — Вадзік падняўся. — Але як?
— Лягчэй лёгкага! — Валодзя падкінуў і злавіў мяч. — Гэй, ідзі сюды!
Хлопчык падышоў, спыніўся крокі за тры.
— Слухай, як гэтую цёцю завуць? — Валодзя стукнуў мячом у асфальт і злавіў яго.
— І ніякая яна не цёця! — пакрыўдзіўся малы і хацеў пайсці.
— Ну-ну, пачакай, не крыўдуй. Гэта я пажартаваў. Як цябе зваць?
— Віця.
— Хочаш, Віця, навучым цябе ў футбол гуляць? Во, глядзі! — Валодзя паставіў сумку, злёгку падкінуў мяч, злавіў правай нагой, перакінуў на левую, пачаў жангліраваць то адной, то другой, падбіў на галаву, патрымаў на лбе, адкінуў мяч назад, пяткай равёў зноў на галаву і скінуў на нагу, прыціснуў наском і, не апускаючы мяч на асфальт, сеў на лаўку:
— Ну, як?
— Здо-о-рава! — у вачах у Віці было захапленне.
— Віця, гэтая чарнявая хто табе?
— Сяброўка. Яна на швейнай фабрыцы працуе. У нашым доме жыве.
Валодзя ўсміхнуўся:
— А як ты завеш яе?
— Віка.
"Віка... Віка..." — некалькі разоў паўтарыў сам сабе Вадзік.
А малога не трэба было ўжо ўгаворваць: мяч зрабіў сваю справу.
— Я і дадому ёй званю — сорак два, семнаццаць і два нулі...
— Запамінай! — Валодзя падштурхнуў Вадзіка і падкінуў мяч у рукі. — Ну, ладна, заўтра мы табе

пакажам, як па варотах біць. Прыходзь вечарам на школьны стадыён.

Праз гадзіны дзве Вадзік набраў тэлефон Вікі...

* * *

Чамусьці, нібы гэта было ўчора, прыгадалася Івану Іванавічу адна чэрвеньская навальніца.

Яго бацька дагарэў у пякельным агні скразной раны ў грудзях, памёр на самым пачатку вясны. Маці, хоць і цяжка было, яшчэ маладзілася ў рабоце, завіхалася і выпіналася, каб пратрымаць апошні год карову. Іван Іванавіч не вельмі частымі наездамі, прыхапкамі дапамагаў як мог. Ён і тады прыехаў, прыехаў без угавораў і роспыту. Ведаў: трэба было скасіць соткі, што выдзеліў лясгас.

Вясна была спорная і цёплая. Начныя залевы прагна ўбіраліся ў зямлю, днём выпарваліся шчодрым сонцам, прабіваліся і буялі густой травой. А ў канцы чэрвеня, каб трава не перастаяла, не згубіла сваёй сакавітасці, пачалі касіць.

Іх дзялянка была паміж узлессем і Нёманам. Канец сотак прыпадаў на прыгорак-астравок, на якім ранняй вясной, як лісты ландыша, выпстрыквала чарамша, або, як называла яе маці, мядзведзева цыбуля. На астраўку горбіліся два стажкі нейчага сена. К Нёману, як чарада гіганцкіх кароў, ішла купа паўвекавых дубоў. Ззаду, трохі зводдаль, каля дальняга стажка, як пастух, узвышаўся разлапісты велікан з выпаленым камлём.

Касіў ён па-мужчынску ўпэўнена, крута, браў пракос шырокі, не пад сілу другому. Трава давалася пругка, але як бы збрывалася за кожным узмахам, купна клалася ў канцы замаху, хутка тупіла касу. Ён разпораз прыпыняўся, мянташыў накляпаную сталь, як некалі бацька, спрабаваў яе вастрыню кіпцем.

Хмара насунулася знянацку, ахапіла паўнеба і цяпер плыла, ціха і важка, быццам велізарная драпеж-

ная птушка на ахвяру. Нясмелыя сполахі маланак спрабавалі сваю сілу часта, але бязгромна, як бы з сярэдзіны выварвалі моц гэтай чорнай кудзельнай навісі. Потым адна з іх вырвалася з нутра хмары, паласнула вогненна і смела, рассыпалася дзесяткам залатых гавослінак. Гром бухнуў, пакаціўся як па прыступках, вострa раскалоўся. За ёй прарвалася другая маланка, вымераўшы хмару ў другі бок, выскалілася трэцяя...

Ён спешна спахапіўся, асушыў рукавом мокры лоб, жменяй травы ацёр касу і подбегам падаўся да бліжэйшага стажка. Дабегшы, агляну ўся, нібы змераў сілу хмары, і з другога боку выскуб у ахапкі тры бярлог.

Дождж пайшоў раптам, без ветру, як занавеска, пасунуўся на дубы, на ацяжэлы Нёман, на пойміст ую лугавіну другога берага. Вада сцёкам хлынула са стажка, цурком засланіла неабдымную розвадзь. Маланкі быццам перакочваліся з краю ў край, запальвалі адна адну. Неба ламалася, крышылася, нібы нябачныя каменныя слаі яго груваздка ападалі, мяняліся месцамі, калоліся на сотні трэшчын. І з іх, гэтых трэшчын, вірылася вада.

Ён развёў мокрыя касмылі сена, каб сцёк не засланяў гэтага магутнага відовішча, утаропіўся ў гурт дубоў.

Нечакана маланкі і гром як захлынуліся, сцішана ачахлі. Лава вады адышла за Нёман, і толькі рэдкія кроплі даганялі аціхлы кіпень хмары. І раптам у гэтай парэрве, як у прадсмяротнай агоніі, зліўшыся з выбухам перуна, паласнула вогненная нябесная шабля, паласнула па вачах і дубах...

Ён міжволі плюснуў вейкамі, адхінуўся назад, а калі выглянуў, зразумеў: трапіла ў веліканa.

Дуб не ўпаў адразу. Лёгка храбуснула недапаленая абалонь, і дуб саскочыў з пня, асеў камлём у дол, нібы аглядаючы ў апошні раз разлогі родных наднёманскіх краявідаў, а пасля рэзка рынуўся долу, упаў у той бок, дзе кожны дзень узыходзіла сонца.

Да стажка даляцела некалькі зялёных, недаспелых жалудоў.

* * *

Праз гадзіны дзве Вадзік набраў тэлефон Вікі.

“А што я скажу ёй? Можа, у кіно запрасіць?” — сэрца замерла, услухоўвалася ў гудкі.

Яна падняла трубку — пазнаў па голасу, — два разы сказала “алё”.

— Віка, вы не крыўдуеце на нас?

— На каго гэта “нас”? — здаецца, іранічна ўсміхнулася яна.

— На мяне і Валодзю, — голас быў як чужы.

— Мяне — гэта вас так завуць? — зноў, відаць, усміхнулася.

— Мяне — Вадзік. — Ён прыкусіў перасохлую губу. “Што цяпер? Што сказаць? Ну, не маўчы толькі!”

Яна першая перабіла паўзу, але не спытала, як думаў Вадзік, адкуль вядома яе імя і хатні тэлефон:

— Можна, я буду называць вас Вадзімам? Бо Вадзік — ласкава вельмі. Вы пакуль што ласкі маёй не заслужылі, — ці не зноў усміхнулася?

— Можна, — згадзіўся ён і як узмаліўся: “Толькі б трубку не палажыла!”

Не, трубку яна не паклала.

— Вы, відаць, хацелі, каб я і вас навучыла са скакалкай гуляць?

— Не, Віка, я кожны дзень столькі з ёй танцую, што часам аж млосна.

— Гэта ваша работа?

— І работа, і гульня, — цяпер ён усміхнуўся, адчуў, што голас стаў сваім.

— Незразумела. Ці не на цацачнай фабрыцы вы працуеце?

— Не. Вы помніце казку пра трох сыноў? Дык вось, калі пра мяне, то — жылі-былі ў бацькі тры сыны: два разумныя, а трэці — футбаліст...

— А-а-а... — расцяжыста вывела яна і нечакана папрасіла: — Згуляйце з Валодзем за нашу фабрыку ў нядзелю. У нас — адны дзяўчаты. Ёсць пару

наладчыкаў і майстроў, ды баімся, каб і тыя сярод нас дзяўчатамі не сталі...

Гэта быў шанц, шанц праявіць сябе, паказаць, на што здатны, а галоўнае — бліжай пазнаёміцца. Хто мог пазнаць іх на нейкай мясцовай спартакіядзе, калі ён і Валодзя толькі прыйшлі ў каманду майстроў і пакуль што таўкуцца ў дублі?

— Вадзім, дзе вы прапалі? — перабіла яна думкі. — Дык як?

— Не, Віка, не магу. Гэта ж — падстава, а ўсюды, дзе на падставах трымаецца, там сумленнасць губляецца.

— Ого, які вы! Хачу бачыць сумленнага рыцара! — Не, голас, здаецца, яе гучаў не здзекліва.

У Вадзіка радасць падхлынула к сэрцу:

— Віка, а давайце цяпер сустрэнемся, праз хвілін дваццаць?

— Можна. — Згадзілася яна. — Дзе толькі?

— Я буду чакаць вас каля той лаўкі, дзе вы скакалі...

Яны сустрэліся і пайшлі па вуліцы, пайшлі куды вочы глядзяць. Яна не пытала, не камандавала, куды ісці, а даверліва ішла, расказвала пра сваю фабрыку, пра дзяўчат, пра валейбольную каманду... Вадзік таксама не маўчаў: дзяліўся трывогай за каманду, расказваў пра завод, на якім працаваў... Неўпрыкмет перайшлі на “ты” і шчыра смяяліся. Насустрач плылі машыны, спяшаліся людзі, як у тумане, блікавалі і аддаляліся агні... Але яны, захопленыя размовай, бачылі толькі адно аднаго... Шчаслівыя і юныя ішлі двое, у якіх усё яшчэ было наперадзе.

* * *

Такія ўжо яны, балельшчыкі. У тыя дні, калі гульняў не было ці каманда выступала на выездзе, сыходзіліся яны сюды, к стадыёну, каб успомніць лепшыя матчы, цікавыя эпізоды ці выказаць свае думкі

пра футбол. З гэтага цеснага кружка, выклаўшы сваё, адступалі і ціха адыходзілі адны, падыходзілі другія, выказвалі свае меркаванні, а трэція таўкліся тут, каб проста паслухаць... У памяці ажывалі — і не прыядалася гаварыць пра іх — тыя гульні, якія выйграла іхняя каманда. О, якія гэта былі гульні! Як не ўспомніць матч са "Спартаком"? Другі тайм. Нашы ціснуць, не адыходзяць ад варот саперніка, а гала — няма. І здалёк б'юць, і навешваюць, і адзін на адзін выходзілі, а мяч не ідзе ў вароты. Тады адцягнуліся нашы, каб з абароны "Спартак" адышоў трохі. І немаведама, ці забілі б яшчэ. Ды варатар наш — а тады яшчэ Алік Дзянісаў стаяў — як выбіў мяч з рук! За ветрам панесла, панесла яго ў штрафную... Варатар выйшаў, не разлічыў... Мяч — цераз яго і — у сетку. От было! Што на трыбунах рабілася! Ці ўзяць шэсцьдзесят восьмы год: ніводнай гульні сталічным камандам не прайгралі! Значыць, умелі забіваць!

Многія помнілі кожную гульню сезона, па гадах, вынікі і аўтараў галоў. Сямён Міхайлавіч не пераставаў здзіўляцца, як памяць некаторых трымае такую інфармацыю, раскладае ўсе гульні па нейкіх невядомых паліцах, і калі трэба, выцягвае іх тут жа...

— А помніце, як нам забілі тады з "Тарпеда"?

Усе помнілі, але не перабівалі: гол быў прыгожы, хоць і забілі ў нашыя вароты.

— Кальцова наш Рымба закрыў. Што ні пас — падкат, і не пройдзеш. Кальцоў стаў, а ля яго — Рымба. Дзесяць мінут да канца, ніхто не пасуе на яго. Надакучыла Рымбу стаяць, адышоў назад на метраў пяць. А тут — перадача, у самыя ногі! Кальцоў — стралой убок і па ходу — у "дзевяціну", у дальнюю... Ніхто не зварухнуўся нават.

Знаходзіліся сярод балельшчыкаў і такія, якія прыносілі дробныя плёткі пра футбалістаў, кляліся, што гэта — праўда, бо нехта, звычайна знаёмы ці блізкі, жыў побач з той ці іншай славутасцю і "падмануць не мог"...

— Кажуць, Гракаў разводзіцца...
— Усё можа быць. Бачылі ж нядаўна ў рэстаране з Красецкім: шампанскае жлукцілі...
— Такая і гульня — больш стаіць, чым бегае.
— Вылецяць гэты год нашы як піць даць!
— Так ужо і вылецяць? Глядзі: хай на выездзе прайграюць, а дзве астатнія дома — унічыю. Жалезна!
— А калі дома адну з дзвюх прадуюць? Што тады?
— Невядома, як "Пахтакор" згуляе. Можа і ён заляцець.

Спрачаліся і спадзяваліся, тасавалі каманды ў турнірнай табліцы, як карты, прадказвалі перамогу адным і паражэнне другім...
— Няма ў нас футбола! Хакей ёсць, а футбола няма!
— Ну-ну, хлопцы, і футбол у нас ёсць, толькі раздурыліся многія, патураюць ім надта: выгналі з адной каманды — на табе! — другая з радасцю бярэ. Многа такіх гастралёраў!
— І суддзі ў нас — таксама: ці не ўмеюць, ці не хочуць? Параспускалі... А міжнародная сустрэча: чуць што — гарчычнік, сказаў пару слоў — з поля!

Падыходзілі новыя балельшчыкі, пачыналася ўсё па-новаму, вярталася гаворка да ранейшага... І праз усе гэтыя згадкі і думкі, меркаванні і выказванні прабівалася адно: перажыванне за сваю родную каманду — вылеціць ці застанецца?

* * *

Ударыўся ён моцна і толькі цяпер адчуў гэта: спіна была не свая, адзервянелая. Быццам сотня іголак, калі спрабаваў павярнуцца на другі бок, упівалася ў скуру, дабіралася да пазваночніка. Здавалася, гэтыя іголкі ажывалі там, у целе, пераскоквалі з месца на месца, збіраліся ў адну плынь і гналі боль у галаву. Вадзік на паўразвароце, як працяты, застываў, паволі, каб зноў не спудзіць гэтых іголак, лажыўся на ранейшае месца. Боль адхлынаў ад га-

лавы, вяртаўся назад, у спіну чахнуў, як дагарэлае вогнішча...

Пасля абходу доктара пачыналіся працэдуры. Прыходзіла масажыстка. Асцярожна, каб не выклікаць боль, расцірала анямелую спіну, быццам пальцамі даставала з яе трохі атупелыя іголкі...

Вадзік супакойваўся, успамінаў што-небудзь далёкае, з дзяцінства. Паўставалі ў белай кіпені груш хата, калодзеж з плоскім каменем каля кадаўба, густыя ліпы на вуліцы... Чатыры ліпы ў мядовым чэрвеньскім цвеце... Цяпер яны звысака аглядаюць усю вуліцу. А некалі, год пятнаццаць назад, дзве з іх, ад брамы, замянялі футбольныя вароты. Калі былі зроблены ўрокі, Вадзік гукаў старэйшага брата на вуліцу. Той станавіўся між ліп за варатара, а Вадзік біў мячом па гэтых жывых варотах. Біў правай, не вельмі моцна, біў увесь час па ніжніх вуглах, бо добра помніў: за плотам былі грады, і маці адразу б убачыла басаногія сляды і змяты кроп ці вялае пер'е цыбулі. Праўда, можна было зрэдку нечакана стрэліць у левую "дзевятку": мяч, калі і праб'е зелень ліпы, то спыніцца ў навісі калін грушы, якая, як шапка-кучомка, навісла над брамай. І гэтае адчуванне заваротнага агарода падспудна жыло ў кожным удары. І тады, калі брат выцягваў цяжкія ніжнія мячы, а Вадзік разыходзіўся — забіць, забіць гол старэйшаму! — і біў хвостка пад'ёмам, чуць падразаючы. Брат адчайна выскокваў, лавіў верхні мяч і строга глядзеў на Вадзіка: "Ты што! Забыў?" Вадзік зноў прыцішваў удары, адхіляўся целам у адзін бок, а біў у другі... Чорны, з літай гумы мяч пёк ногі, да сінякоў збіваў пад'ём і "шчочку", а кіпці чарнелі і пасля памалу злазілі. Але ў футболе жыла імклівасць хлапечай натуры, лоўкасць, прыродная хітрасць і ўменне, прага забіць гол хаця б у гэтыя, ліпавыя вароты, таму Вадзік не шкадаваў ног.

Мяч, калі трапляў у ліпу, пругка адскокваў і звінеў. Мяч, падобны на школьнае ядро... Адзін раз яны лёталі па школьнай пляцоўцы, заганялі мяч у праём

баскетбольных слупоў. Калі прыцемак пачаў зліваць мяч з зямлёй, гульню закончылі. Старэйшы год на восем лепшы вясковы абаронца Міша Лосеў, або, як заўсёды звалі яго, Салавей, выцер футболкай пот і, задаволены, што выйграў, даў пстрычку ў бялявы Вадзікаў віхор?

— Фірма венікі не вяжа, фірма кошыкі пляце!

Гэтую фразу ведала ўся вёска, і часта хто-небудзь, калі ўдавалася якая справа, паўтараў яе, падбіраючы голас Салаўя.

Вадзік не пакрыўдзіўся — Салавей гуляў сапраўды моцна, — падняў світэр і закінуў за плячо. Салавей раптам разбегся — "Вучыся, як гуляць трэба!" — штосілы замахнуўся і босай нагой стукнуў. Стукнуў у нешта чорнае, падобнае на Вадзікаў мяч, і тут жа сеў, рукамі абхапіўшы нагу. Хлопцы здзіўлена падбеглі. На зямлі ляжала забытае школьнае ядро, а крыху далей — мяч...

Калі брат позна прыходзіў са школы, Вадзік выходзіў на вуліцу адзін і цаляў мячом у камель ліпы. З пяці разоў або з дзесяці. Потым, як гэта надакучвала, развучваў фінты і біў пад лаўку.

Бацька не любіў футбола. Вечарам, калі Вадзік адмочваў у тазіку з цёплай вадой пабітыя ногі, змываў [redacted] ікраў чорныя пісягі гразі, бацька, збіраючыся на вячоркі, папракаў:

— Пачакай, даносішся!

Але сына любіў. Можа, нават больш за старэйшага, Колю. Ехаў касіць — браў з сабой, ішоў дровы секчы — клікаў, збіраўся ў грыбы — падгаворваў ісці да раніцы, калі яшчэ не ўстала сонца. Большы сын быў нейкі ціхмяны, сарамяжлівы, часам зацяты, [redacted] Вадзік — не, як кажуць, — вырвіс!

За ўвесь час бацька толькі тры разы пачаставаў яго папругай. Ды і было за што. Першы раз, калі Вадзіку было год шэсць. Наглядзеўшыся, як круцяць і кураць папяросы большыя дзецюкі, Вадзік схаваўся за хлеў, згарнуў доўгую дудку з газеты і падпаліў. Тут яго і застаў бацька. Папруга апякла плечы, па-

2 Зак. 3733

ласнула ніжай. “Я табе накуру, я табе пакажу! Хлеў спаліць? Ах ты паганец!” — бацька яшчэ разоў дзесяць аперазаў яго дзягай і адышоўся на дрывотнік. Толькі потым Вадзік зразумеў, што мог падпаліць хлеў, бо тады сухмень так выжарыла ўсё, што аж ламалася салома, калі яны з братам выцягвалі яе для мыльных пузыроў.

Другі раз бацька адлупіў яго папругай зусім нечакана, за любімы футбол.

Неяк ён выйшаў з мячом на вуліцу, пачаў біць у ліпу. Біў, пакуль не з’ахвоціўся, затым пачаў жангліраваць мячом. “Семдзесят... сто дванаццаць... сто трыццаць пяць... А ці пападу з развароту ў весніцы?.. Сто пяцьдзесят...” Ён не бачыў, як бацька выкруціў у калодзежы два вядры вады, ледзь не расплюхваючы, нёс у хату. Вадзік развярнуўся і прабіў. Мяч гупнуў у бацьку між лапатак. Ад нечаканасці ён выпусціў ■ рук вёдры ■ вадой. Тыя, бразнуўшы восілкамі, перавярнуліся, вада ручайком выбегла з весніц на вулічную сцежку. Вадзік ірвануў у агарод, а бацька рынуўся ўслед: “Ну, я ж табе!” І калі бацькава ўчэпістая рука гатова была згрэбці за каршэль, Вадзік кулём бухнуў пад ногі. Бацька паляцеў у картаплянік... Вечарам трэба было ісці дадому, але ён баяўся, ведаў: бацька не даруе. Маці адкрыла акно, і Вадзік, абабегшы цішком хату, слізгануў пад фіранку, раздзеўся і прыкінуўся, што спіць. І як ні прасіла маці, бацька выцягнуў яго, цёпленькага, з-пад коўдры і добра адшалёстаў... Але тады горка было не ад папругі, а ад таго, што бацька пасек на калодцы мячык...

...Боль адступіў ад спіны, знік, растварыўся. Вадзік заснуў.

* * *

Ісці ў спорткамітэт не хацелся. Лепш бы з’ехаць на базу за горад, выбрацца ў восеньскі лес, пахадзіць па верасоўі, пахадзіць нават не ў пошу-

каx грыбоў, а проста так, бяздумна, вольна, каб хоць трохі адлегла на душы... Але і не пайсці нельга: сам Бутакоў выклікае.

Іван Іванавіч схамянуўся, адклаў турнірную таблі-цу. Заставалася адна гульня. Нічыя — і каманда не вылеціць. Пройгрыш — першая ліга. Адтуль не вельмі выберашся. І яго тады абвінавацяць як старшага трэне-ра: давёў каманду! І, пэўна ж, здымуць. Тыя, што за-моўклі пасля кубка, абавязкова супраць прагаласуюць. А можа, усё і абыдзецца? Выцягвалі ж нічые, ці ж не зробім і тут? А можа, кінуць усё гэта ды з'ехаць куды ці рабылкай заняцца? Спакойней і без нерваў...

Ён доўга сядзеў, падпёршы галаву рукамі, потым цяжка ўздыхнуў, дастаў з шуфляды ручку: "Эх, Іван Іванавіч, прайграў ты, калі нават — ні нічыя! — узяў чысты ліст паперы. — Прайграў у асноўным у так-тыцы. Сам вінаваты, сам на нічыйкі настройваў. А трэба было... Позна мне папраўляць..."

Ручка не пісала, быццам супраціўлялася рабіць тое, што ён задумаў. Крамзануў некалькі разоў па ка-лендары — чарніла пайшло.

"На камітэт ці на імя Бутакова пісаць? Лепш на камі-тэт, хай парадуюцца тыя, хто галасаваць будзе. Не ўсе, вядома", — буйным почыркам вывеў "шапку" заявы. Падумаў і напісаў: "Прашу вызваліць ад абавязкаў стар-шага трэнера ў сувязі з пагаршэннем здароўя".

Падманваў ён ці не? Здароўе... Праўда, яно пагор-шылася. Пад падушку, калі клаўся спаць, падпіхваў валідол. Але мог жа падаць раней такую заяву... Тады што — спалохаўся? Не, не спалохаўся, хоць трывога вярэдзіць душу. Тады чаго? Проста ўцякаў, уцякаў як з карабля, які тоне? Не, не ўцякаў. Але карабель тоне... І патрэбны новы капітан, які зможа падняць яго, калі ён і затоне. Так, новы капітан.

У прыёмнай Бутакова, акрамя сакратаркі, нікога не было. Іван Іванавіч зайшоў у кабінет без стуку. Бутакоў, відаць, збіраўся некуды званіць, але, не даб-раўшы нумар, палажыў трубку, падаў руку, усміх-нуўся — цяжка было зразумець, фальшыва ці не:

— А, інсайд! Можа, сам у нядзелю на поле выйдзеш?

— А што, выйшаў бы, каб кілаграм сорак скінуць! Ды і годзікаў трыццаць...

Бутакоў змахнуў са шкла на стале нябачную пылінку, раптам неяк пасур'ёзнеў:

— Ты ведаеш, Іван Іванавіч, што робяць з рулём у машыне, калі ён не туды кіруе?

Іван Іванавіч ведаў, каго мае на ўвазе Бутакоў, але адказаў жартам:

— Відаць, шафёр слабы, калі руль не туды кіруе, — Іван Іванавіч убачыў па тым, як зрэагаваў Бутакоў, што трапіў у цэль. І падумаў: "Ты ж не святы таксама. І ты вінаваты, што каманда можа вылецець. А на трэніроўках ты быў хоць раз? А перад камандай выступіў?"

Але Бутакоў зрабіў выгляд, што не заўважыў намёку:

— Дык вось, Іван Іванавіч, калі руль не туды кіруе, яго замяняюць новым, — ён прывольна кашлянуў, дастаў чысты ліст паперы.

— Не трэба, я ўжо напісаў, — Іван Іванавіч дастаў з папкі заяву і падаў яе Бутакову.

— Ну, што ж, заўтра вырашым, раз па здароўі хочаш... — сказаў Бутакоў і ўзяўся за трубку тэлефона. Іван Іванавіч падняўся: размова была закончана. Ён кіўнуў галавой, развітаўся і выйшаў.

* * *

На трэці дзень раніцай Вадзіку палегчала. Доктар на абходзе сказаў, што пухліна сышла, так што ў пятніцу, калі зноў не разбаліцца спіна, можна будзе і выпісаць. Але з футболам раіў пачакаць, хаця б з месяц. "Ну, што ж, апошнюю гульню тады ўбачу", — падумаў Вадзік, разгортваючы кнігу. Але пачытаць не давялося: у белым унакід халаце ўваліўся Валодзя Малянскі:

— Як ты тут, “юноша бледный со взором горящим?” — ён пачаў даставаць са спартыўнай сумкі пачастункі.

— Нічога, лепш. — Вадзік сеў, падклаўшы пад спіну падушку. — Валодзя, толькі нашто гэта ўсё? Тут хапае...

— Анічога, запас бяды не чыніць. — Валодзя высыпаў у тумбачку апельсіны, паклаў карамелькі. — Твае, доўгаіграючыя! — выняў тры банкі соку манга, пачаў перакладаць яблыкі. — Ты помніш, як Гракаў гаворыць: “Пивка для рывка, самогонки для разгонки, коньячка для толчка, водочки для обводочки...” А табе — апельсіны, каб прыбывалі сілы, сок — будзеш стройны і высок, і іншыя прывітанні, каб заглядаліся Тані...

Вадзік усміхнуўся, успомніўшы Валодзевы словы: “Са мной не прападзеш, але й гора хапанеш”. З ім сапраўды не прападзеш, не засумуеш. Развяселіць каго хочаш. Яшчэ і цяпер на заводзе ўспамінаюць пра экскурсію да слана...

Іх цэх збіраўся выехаць на два выхадныя дні кудынебудзь на прыроду. Адны раілі на Свіцязь, другія — на Беразіну... Але вырашыў усё Валодзя: “Хы, яшчэ думаюць! Вядома, на Нёман, ка мне на радзіму! Рыбу рукамі лавіць можна, грыбоў — касою касі, ды і слана ўбачыце...” — “Якога слана?” — здзівілася Валякамсорг. “Індыйскага, — і вокам не міргнуў Валодзя. — У Індыі калгас яго за тры тысячы купіў, каб паром праз Нёман цягаў. У нас луг канавамі перакапаны, мосцікаў не наробішся, ды і разводдзе вясною пазносіць іх. А сена з лугу звозіць трэба. Вось і купілі слана. Яму што, Нёман — па калена. Паром з сенам цягае, ваду фантамі праз хобат пускае...” — “А зімой як?” — было відаць, што Валя паверыла. “А зімой на ферме стаіць. Вароты вялікія зрабілі, каб на прагулку выводзіць. Адзін год з воўны чатыры валёнкі яму зрабілі, каб ногі не мерзлі. Кожны валёнак як цэбар...” — “А есць што зімой?” — паверылі і другія. Валодзя адказваў так, быццам сам карміў слана: “Тое,

што і каровы — буракі, бульбу, моркву, сена... Пояць, праўда, малаком: пад'язджае малакавоз, шланг — у хобат і перакачвае малако... Ды хіба адзін слон! У нас там многа чаго... Куры, скажам, тры разы ў дзень нясуцца...” — “Ну, гэта не можа быць!” — не паверыў Міша Сакалок, сам хлопец вясковы. “А што? — на поўным сур'ёзе працягваў Валодзя. — Знеслася раз — карытам яе накрылі. Пасядзела час у цемры — падумала, што пераначавала, і яшчэ раз знеслася. Праз час зноў накрылі, а выпусцілі — зноў знеслася. У вас жа так не робяць?” — “Не, не робяць...” — збянтэжыўся Міша. “Едзем!” — цвёрда рашыла Валя-камсорг. А вярнуліся назад, доўга рагаталі з розыгрышу Валодзі, але другім расказвалі, што бачылі слана, нават апісвалі, як ён сена перавозіць і як яго кормяць. Толькі Валя-камсорг пакрыўдзілася: “Не па-камсамольску гэта!”

— Ну, што, Віку, відаць, успомніў? — запытаў Валодзя, закрыўшы тумбачку.

— Не, проста іншае прыгадаў...

— Хочаш, я пазваню ёй?

— Не трэба, у пятніцу мо выпішуць.

— Я ўсё-такі пазваню. Хвалюецца яна.

— Ну, глядзі сам... — Вадзік зачырванеўся.

Ой, як хацеў ён, каб прыйшла Віка! Проста прыйшла, села на край ложка, узяла за руку. Ён бы замружыў тады вочы і ляжаў бы, самы шчаслівы на свеце...

— А ведаеш, Вадзік, Ван Ваныч з намі завязаў.

— Як завязаў? — Вадзік аж прыўзняўся, паправіў за спіной падушку.

— А так — падаў заяву, каб знялі. Здароўе, напісаў, падводзіць.

Вадзік маўчаў. У вачах паўстала магутная постаць Івана Іванавіча. Праз гул стадыёна, здаецца, як з узмацняльнікаў, прарваўся голас: “Ясінскі, выйдзеш замiж Гракава, на левы край...” Відаць, заўсёды цяжка камандзе, калі яе пакідае трэнер. Нешта не склалася, нешта парушылася, нешта не збылося... Прыйдзе нехта новы, і ўсё пачнецца амаль з нуля.

— Добры быў дзядзька... — непрытворна пашкадаваў Валодзя.

— Таму і вылецець можам, што добры...

— Можа, і таму... — згадзіўся Валодзя. — Шкада як чалавека...

Вадзік прамаўчаў.

— Ну, я пайду, крыяй, отрак! Як выпішуць, у нядзелю на стадыёне ўбачымся.

— Дзякую табе...

— Калі Валодзя пайшоў, Вадзік ляжаў і доўга думаў пра Івана Іванавіча.

* * *

Сёння ля стадыёна было людна. Балельшчыкі збіраліся купкамі, спрачаліся, гаварылі пра нядзельны матч. Білетаў у касах не было ўжо на другі дзень, як іх пачалі прадаваць: як-ніяк, а гульня прынцыповая, за права застацца ў вышэйшай лізе. Хадзілі чуткі, што траўміраваны Сіваліхаў, цэнтральны абаронца. А калі гэта так, то, ведалі, будзе нялёгка стрымаць атакі гасцей: Сіваліхаў амаль не прайграваў верхавыя мячы. Нехта прачуў, што падаў у адстаўку трэнер. Але гэтаму не паверылі: з чаго раптам? Засталася адна гульня. Прайгралі б — тады хіба.

Сямён Міхайлавіч пастаяў у адным крузе балельшчыкаў, паслухаў прадказанні выніку матча і перайшоў да другога гурту, пасля не ўтрымаўся, рушыў да трыбун, каб зверху зірнуць на футбольнае поле.

Восень шчодра выслала золатам ліпавага і кляновага лісця стадыённы сквер. Як вестуны блізкай зімы, нізка плылі чорныя бухматыя хмары. Здавалася, чыркне каторая па верхавіне асвятляльнай мачты, і з яе разарванага прадоння заімжыць халодны дождж ці сыпнуць дробныя снежныя крупы. І ўсё ж, нягледзячы на познюю восень, газон футбольнага поля цешыў вока зялянінай травы. Ці яго палівалі, ці знізу ўключалі падагрэў — Сямён Міхайлавіч не ведаў, але

бачыў, што покрыва добрае, без жоўтых вытаптаных прагалаў. Толькі ў адных і другіх варотах чарнелі лапікі зямлі.

— А-а-а, і ты тут? — басісты голас прымусіў сцепануцца. — Не вынесла душа паэта...

— Здароў, здароў, Максім! Не вытрымаў, зайшоў... Хвалююся нешта. Колькі хаджу на гульні, а так ні разу не хваляваўся, як перад гэтай, апошняй...

— Ды плюнь ты, беражы здароўе. Нічога з іх не будзе. А нічыю — выцягнуць як-небудзь.

— Крыўдна ўсё ж: адна каманда ў вышэйшай лізе, і тая — ні рыба, ні мяса...

— Часцей на завод іх ганяць трэба. Хай бы паўкалвалі, як усе, пазналі смак хлеба... А то прыйдзе вясна — як канулі: трэніроўкі, бачыш... Перад Новым годам прывалэндаюцца толькі, ды і то, каб паацірацца каля станкоў нейкі месяц-два...

— Ну, не кажы, Максім, без трэніроўкі не вельмі па мячы трапіш... Ты колькі вучыўся, каб за станком аднаму працаваць?

— Месяцаў восем. Але ж я цяпер — вочы завяжы — вытачу дэталь да міліметра. А то кожны дзень гойсаюць за гэтым мячыкам, здаецца, на трэніроўках так калоцяць у вароты — ахнеш! А ў гульні з пяці метраў трапіць не могуць. Таўкачы!

— І на гэта, брат, талент мець трэба.

— Ну, ліха з імі! Пайшлі лепш піва вып'ем.

— Не, не хачу.

— Тады — будзь! — Максім пайшоў да гурту балельшчыкаў.

Сямён Міхайлавіч ішоў па набярэжнай і думаў пра тое, што сказаў Максім. "Можа, і не ва ўсім, але ў нечым ён праў. Сапраўды, калі ты майстар, то і справу рабі па-майстэрску..." А яшчэ ўспомніліся трэніроўкі, на якія Сямён Міхайлавіч выпадкова трапляў, заходзячы на стадыён. Кідалася ў вочы, што палавіна ігракоў проста адбывала час, ляніва бегала за мячом, не выпінаючыся і не выжыльваючыся. Сёй-той упустую жангліраваў мячом, абаронцы гулялі ў "квад-

рат"... А калі трэніроўка закончылася, усе, як здало-ся яму тады, даволі бадзёрым крокам спяшаліся ў раздзявалку...

Ён ішоў і думаў, што ўсё пакажа нядзельны матч.



І яшчэ раз па яго спіне пахадзіла бацькава пап-руга...

Вадзіку прыпомнілася іхняя пярэстая карова.

Адзін раз у два тыдні, калі прыходзіла радоўка, маці звечара ўкладвала ежу ў торбу і прасіла яго, меншага, раней лажыцца спаць, бо заўтра трэба было выганяць раніцу. Вадзік слухаўся. А раніцай, калі яшчэ су-тонне кароткай начы ледзь-ледзь акрэслівала вуліцу, маці будзіла яго. Ён хуценька адзяваўся, абуваў гума-выя боты — яны былі лягчэйшыя за керзачы, браў пугу і шыбаваў у канец вуліцы выганяць кароў.

Калі чарада выплывала на Залессе, Вадзік любіў глядзець на свае сляды, што заставаліся на аброша-най траве, любіў гэты ранішні туман, які лёгка і пры-відна плыў між кустоўя рэдкага алешніку і ядлоўцу, то хаваючы, то адкрываючы постаці кароў. А сонца, пакуль нябачнае, блізілася недзе да небакраю і ўсё шырэй і шырэй займала ружовым водсветам выс-ветленую прастору, падпальвала сваім жарам рэд-кія хмаркі. Нарэшце пунсовае свяціла ўздымалася з-за гарызонту і, як расплаўлены дыск, пакуль што без промняў, плыло ўверх. Калі яно адыходзіла — выцягні руку — на пядзю зямлі, шчодрыя промні залатымі снапамі рассыпаліся па лузе, блікавалі ў лужынах вады, гарэлі і пераліваліся агеньчыкамі-самацветамі ў кропельках расы...

Хораша і цёпла пачынаўся і той летні дзень. Ка-ровы дружна скублі сакавітую дзяцеліну, напоўні-цу жавалі ў лагчынах зялёны сівец. Вадзік паволі ішоў збоку, час ад часу страляў канцом пугі па дзьмухаўцах.

— Эге-е-ей, пайшлі па ваду! — даляцеў голас Толі Капляра, які недалёка таксама адбываў радоўку.

Вадзік зірнуў на статак, прыкінуў, ці дойдуць каровы да лесу, пакуль ён нап'ецца вады, скінуў боты і торбу, уткнуў у купіну пугу...

Ісці піць ваду на цагельню далекавата. Таму пайшлі на Шумскі хутар.

Цыбаты асвер калодзежнага жураўля натужна рыпеў, цягнучы поўнае вядро. Вада расплюхвалася, з плёскатам лілася назад, і гэтае вадзяное рэха, падымаючыся ўверх ад споду калодзежа, хораша адзывалася ў вінтах кадаўбоў.

Вадзік засмягла напіўся ледзяной, як з крыніцы, — аж зводзіла зубы, — вады, а Толя нейкай паплецінай ужо спорваў з вяршка яблыні наліўныя малінаўкі.

— Ты што, яшчэ ўбачаць! — перасцярог Вадзік.

— Бачыш, замок на дзвярах вісіць, значыць, няма нікога.

Толя паклаў паплеціну.

— Глядзі! Гэта смачней за яблыкі! Ды не туды, а на гарышча!

Вадзік зірнуў у праём падстрэшных дзверцаў: падвязаны за крокву, вісеў доўгі, плецены з лазы, як венцер, кош.

— Гад буду, калі не каўбасы! — замітусіўся Толік. Ён падвалок таўставатае бервяно, падпёр яго пад сцяну хаты: — Прысядзь!

Вадзік прысеў, Толя стаў яму на плечы, а калі Вадзік выпраміўся, Толя з плячэй ускараскаўся на край бервяна, хапіўся за дошку і лоўка сігануў на гарышча. Было відаць, як ён адвязваў ад кроквы кош, потым апусціў яго пад ногі...

Вадзік добра помніў смак сялянскіх каўбас, пальцам пханых, як гаварыла маці. Калі дні праз тры пасля свежыны яна ўносіла ў хату ночвы і пачынала дробненька крышыць мяса, ён аціраўся тут жа, падаваў соль і прыправы, прыносіў з пограба свіныя кішкі ў гаршку. Маці перасыпала здробленае мяса пахучай каляндрай і перцам, соллю і сухім, як пыл, кро-

пам, старанна перамешвала, спрабавала мяса на смак. Потым брала кішку, доўга вымывала яе, скрэбла нажом і нацягвала на трубку, што была ўстаўлена ў мясарубку. Нажы з яе яна даставала. Вадзік браўся за корбу машынкі, клаў у яе гарлавіну жменю пахучага мяса і круціў... Першая каўбаса адкладвалася на скавараду: бацьку і ўсім астатнім на пробу. Калі пухлыя чырвоныя кругі былі гатовы, перавязаныя ніткамі, маці здымала з печы шасток і нанізвала на яго каўбасы. Шасток асцярожна падвешвалі над чарэнню печы, каб каўбасы трохі падсохлі. Цяпер клопат лажыўся на Вадзіка: упільнаваць ката, які неўпрыкмет мог слізгануць на печ.

— А я што казаў! Трымай! — Толя падаў зверху палку з каўбасамі, скочыў на граду і адвалок назад бервяно. — Збягаем!

Спыніліся толькі ў алешніку каля Янаўскай балаціны. Дзве чарады кароў, відаць, напіўшыся вады, ляжалі. Сонца не вельмі смаліла, аваднёў не было відаць. Вадзік злётаў і прынёс свае і Толевы боты, пугі і торбы.

— Ну, што? Садзіся, абедаць будзем, — запрасіў Толя, расසцілаючы свой вылінялы плашч.

На палцы было дванаццаць каўбас.

— Бяры смялей. Смаку не абабрацца! — Толя разламаў усохлую каўбасу папалам, напоўніцу ўкусіў.

“Ліха з ім, выхварае! Каб у каго другога — не браў бы, а то... Куркуль, жмінда! Сваіх упрогаладзь трымае. Нябось на хоча ў вёску з хутара перабірацца. Бацька казаў, што ён тут і сена ўварве, і дроў сцягне... Скнара!” — падумаў Вадзік і таксама пераламаў каўбасу.

З’елі па пяць каўбас. “Лопну, але дабро не прападзе! — сказаў Толя, ікнуўшы. — Давай яшчэ па адной!” Вадзік праз сілу дажаваў, як ужо здалося, ёлкае мяса. Парэзанае сала з торбы палажылі ля мурашніка, хлеб развесілі на алешынах для птушак.

Не паспеў Вадзік прыгнаць каровы, як нехта данёс: у Шумскага ўкралі каўбасы. На вуліцы, калі

чарада разбрыдалася па сваіх дварах, кабетыківалі на Вадзіка: "Твая, відаць, работа..." А цётка Сарафіна сказала, што прыбягала ў вёску Шумская, гаварыла на яго, Вадзіка: "Гэта ён, басяк, там шлындаў, ён абабраў!"

Вадзік сцяўся, прадчуваў: за разбой пападзе. Ля ганка пачуў, як бацька, заганяючы ў хлеў карову, вучыў маці: "Налі макароны, забялі... Як будзе есці — не ён, а не будзе есці — ён!"

Макароны ў горла не палезлі. І Вадзік не стаў чакаць расправы, шуснуў у расчыненае акно, залёг у бульбоўніку пад грушай. Чуў, як гукала яго маці, кляла Шумскіх і іх каўбасы: "Мо дзе тапіцца ад страху пабег". Тады Вадзік выйшаў з-пад грушы...

* * *

Бутакоў зайшоў самы апошні. Расклаў на стале паперы, адставіў далей графін з вадой і толькі тады агледзеў тых, хто сабраўся на бюро спорткамітэта. Усе ведалі, што Іван Іванавіч падаў заяву, час ад часу кідалі на яго позіркі, адны — сяброўскія: маўляў, трымайся, стары, гэта — не самае горшае, другія — прытоена-злавесныя: ага, нарэшце дакаціўся! Іван Іванавіч быў надзіва спакойны, здавалася, нават іранічная ўсмешка плавала ў яго шэрых вачах і куточках губ.

— Ну што, будзем пачынаць? — не так спытаў, як навёў цішыню Бутакоў. — Таварышы, гэты год быў багатым для нас не толькі на рэкорды, але ў нашых радах вырасла шмат выдатных майстроў спорту...

Іван Іванавіч ведаў манеру Бутакова. Калі трэба было каго-небудзь разбіць, раскрытыкаваць, ён заўсёды пачынаў гаварыць пра поспехі і дасягненні, спачатку ў агульным маштабе, прыводзіў рады лічбаў, пасля канкрэтна называў імёны і таварыствы. І пасля ўсіх гэтых дыфірамбаў — так і прасілася: "Ведаеце, хто вамі кіруе!" — Бутакоў рабіў паўзу і цяжка ўздыхаў: "Але, на вялікі жаль..." І сапраўды, на фоне

ўсяго добрага так бедна і яўна выпіраў той недахоп, які ў канцы свайго выступлення называў Бутакоў, што большасць членаў бюро міжволі падпадала пад настрой старшыні.

Іван Іванавіч паслухаў, як зачытаў Бутакоў яго заяву, як голасам — здалося, з насмешкай — падкрэсліў "у сувязі з пагаршэннем здароўя". Раптам зала недзе адступіла, галасы пачалі даносіцца, як праз вату. І ён ужо не слухаў, як выступаў загадчык кафедры футбола інстытута фізкультуры, як нешта даказваў сакратар спартыўна-тэхнічнай камісіі, як абараняў яго начальнік упраўлення Федэрацыі футбола, як разышоўся суддзя ўсесаюзнай катэгорыі... Перад ім паўстаў лес, выносныя сосны якога на сваіх вяршалінах калыхалі бухматыя аблокі. У той дзень ён нарваўся на неруш іназбіраў поўную карзіну баравікоў, аж пад самую ручку. Ногі стомлена гулі: як-ніяк, а кіламетраў пятнаццаць адмахаў. Ён дайшоў да крынічкі, прагна прыпаў і напіўся вады. Адышоўся трохі ўбок, туды, дзе вілася сцежка, прылёг на мурагу тварам да неба. Высвіствалі птушкі, над крынічкай бесклапотна снавалі матылькі ў бясхмарнай сіняве кружыў бусел.

Іван Іванавіч перавярнуўся, зірнуў на сцежку: па ёй упіраўся, валок саломіну мураш.

Раптам — Іван Іванавіч падсунуўся бліжай — саломіна ўчапілася за каліва падарожніку, і мураш напяўся, перабіраючы на месцы тонкімі ножкамі, і, адарваўшыся ад сваёй ношы, паляцеў у ямку пяску. "Як жа ён выберацца адсюль?" — падумаў Іван Іванавіч і навіс над самым мурашом. Той спачатку застыў на месцы, пасля павёў вусікамі па баках і рынуўся па сыпучай паверхні. Але пясок слізгаўся, асыпаўся, цягнуў назад. Некалькі разоў мураш абрываўся і ляцеў на дно пясчанай чашы. Няўцямна, што зноў аб'едзе назад з патокам, ён кідаўся на другую сцяну гэтага рухомага затачэння і зноў аказваўся ўнізе. Некалькі разоў яго засыпала пяском, але ён разварушваў яго лапкамі, выкараскваўся і зноў ірваўся на прыступ. Сцяна аб'язджала, апаўзала, няўмоль-

на вяртала мураша на дно. "Хай жыве!" — падумаў Іван Іванавіч, не вытрымаўшы, і глыбока грабянуў пясок з аднаго боку ямкі. Мураш выбег па нечаканай канаўцы наверх, апоўз свой нядаўні астрог і зноў учапіўся за саломіну...

Іван Іванавіч схамянуўся, адняў далонь ад вачэй.

— ...просьбу старшага трэнера задаволіць. — Бутакоў нешта напісаў на ражку заявы і адклаў яе ўбок. — Іван Іванавіч, каго рэкамендаваў бы на сваё месца?

— Вам відней... А калі б я — Лёню Рахаўца! — Іван Іванавіч аблегчана ўздыхнуў і выйшаў.

* * *

— Віка, ты? — здзіўлена прыўстаў Вадзік.

— Я... — Віка нерашуча прыпынілася ў дзвярах. Белы халацік стройна аблягаў яе цела.

— Ідзі-ідзі, толькі ненадоўга, — маладая медсястра ўсміхнулася і зачыніла дзверы.

Суседзяў па палаце не было: да іх прыйшлі жонкі з дзецьмі і — пускалі толькі па адным — лепш было пагаварыць дзе-небудзь у двары на лаўцы.

— Валодзя, мусіць, пазваніў? — Вадзік лёг на падушку. — Праходзь сюды, садзіся...

Віка нясмела прайшла, села на край ложка:

— Хоць бы запіску кінуў ці медсястру папрасіў, каб пазваніла... А то чатыры дні, як у ваду кануў.

— Віка, не крыўдуй на мяне, заўтра ўжо выпішуць...

Абое маўчалі: Вадзік — збянтэжаны і радасны, Віка — як здалося — пакрыўджаная.

— Віка, я пра цябе думаў... — блакітныя вочы Вадзіка былі сур'ёзнымі.

— І што ж ты думаў? — усміхнулася Віка.

— Проста ўспамінаў... Успамінаў, як мы пазнаёміліся, як ішлі тады вечарам...

— А ты не пераблытаў, можа, гэта была не я?

Вадзік зірнуў на Віку: яе вочы ўсміхаліся.

— Ты, толькі ты!

— А помніш, як ты мяне запрасіў на стадыён?..

Так, гэта была тая Віка, ранейшая — добрая і ласкавая, справядлівая і гордая. Вадзік слухаў яе і любаваўся ёю, лавіў адценні яе голасу і інтанацыі, убіраў вачыма кожную рысачку яе твару... За нейкія два тыдні яна стала для яго дарагой і блізкай. "Дзіўна, — думаў Вадзік, — не бачыў, не ведаў чалавека, а сустрэў — і радней няма".

Віка расказала пра дзяўчат, асудзіла злога начальніка цэха, які не даў адгул двум яе сяброўкам, пасля павяла гаворку пра нейкі фільм...

Вадзік, шчаслівы, слухаў, не перабіваў, а пасля яго нешта як кальнула:

— Віка, а ці забіў я тады?

— Не, варатар узяў, — Віка дакранулася да яго рукі, быццам супакойваючы.

— Значыць, прайгралі?

— Прайгралі...

Вадзік маўчаў.

— Ды кінь ты! Ну, падумаеш, не забіў, прайгралі... Сам хоць жывы.

— Падумаеш... З-за аднаго ачка ў нядзелю вылецець можам, — чырвань кранула шчокі Вадзіка.

— Ну супакойся, ты ж невінаваты...

— І я вінаваты, што не забіў... — Вадзік, падлажыўшы рукі пад галаў, заплюшчыў вочы, быццам ва ўяўленні паўтараў той ігравы эпізод, калі ў адчайным пераварoце прабіў па варотах...

У палату заглянула медсястра:

— Пара, даражэнькая, пара, а то будзе мне ад галоўнага.

Віка паднялася:

— Пайду... А ты каб не знікаў, — яна нагнулася і жартам уз'ярушыла валасы на галаве.

— Віка, прыходзь на стадыён у нядзелю, у пяць, як і тады: апошняя гульня ўсё-такі...

— Можа, і прыйду, — Віка захінула халацік. У дзвярах павярнулася. — А хутчэй за ўсё — не: ты ж не будзеш гуляць. — Усміхнулася і выйшла.

"Каб не знікаў... — падумаў Вадзік, калі за Вікай закрыліся дзверы. — Што яна мела на ўвазе? Не падаў духам ці каб не прападаў?"

З вуліцы з пакункамі і кулькамі вярнуліся суседзі: праз мінут дзесяць пачынаўся абход дзяжурнага ўрача.

* * *

— Ералаш! Банк! — абвясціў Гракаў.

— Шанцуе табе сёння, як ніколі! — пазайздросціў Дудко.

— А ты, Валодзя, рызыкуй больш, а не за кішэню трымайся. — Гракаў прытушыў цыгарэту і ўзяў карты. — Хадзі, Юрка!

Красецкі зірнуў у карты, лоўка перакінуў акурак з аднаго кутка губ у другі, прыжмурыўся:

— Лажа! Хоць бы туз адзін! Зноў прайграў...

Гракаў выйграў і на гэты раз. Згроб рублі і капейкі з газеты, упіхнуў у кішэню:

— Навар! Рублёў семдзесят!

— Усё, завязаў! Не гуляю больш, — Красецкі ўстаў.

— Табе не ў кінга і храпа гуляць, а ў ведзьму ці мокрую курыцу... — Устаў і Гракаў. — Эх, пабалдзець бы!

— А гульня праз дзень? — здзіўлена ўскінуў вочы Дудко.

— Што, першы раз замужам? — Красецкі надзеў плашч. — Што робім, Валодзя?

— Ідзі "матор" лаві, а я перафранчуся.

Калі выйшлі на вуліцу, Дудко нерашуча спытаў:

— Слухай, Юра, а мо не паедзем? Апошняя гульня ўсё-такі...

— Кінь ты, стары! Па сто грам "шампуні" на нос — ні ў галаву, ні ў ногі, — Красецкі галаснуў зялёнаму агеньчыку таксі.

Машына з другога рада рэзка вывернула к тратуару, вікнула тармазамі.

— Пастой мінуту на прыколе, чувак зараз скоцінца, — кінуў Красецкі таксісту і сеў на задняе сядзенне, адкінуўся на мяккую падушку дэрмаціну. — Валодзя, завальвай!

Дудко сеў побач.

Праз мінуты дзве выбег з дому Гракаў.

— Давай, вадзіла, у “Павуціну”! — выдыхнуў ён, закрываючы за сабой пярэднюю дзверцу машыны.

Шафёр маўчаў: ці думаў, ці то не ведаў, куды ехаць, пасля зірнуў на Гракава.

— У “Рэчаньку”, — з усмешкай расшыфраваў той.

“Рэчанька” шумела і кружылася ў святломузыцы. Танцоры — дзесяткі два дзяўчат і некалькі патлатых хлопцаў, — як адарваныя адзін ад аднаго, лавілі рытм і вывіхвалі целы, хто як мог. Бармэн глядзеў каляровы тэлевізар з выключаным гукам. Тры маладыя афіцыянткі пра нешта сплетнічалі каля дзвярэй кухні.

— Хіпачкі фартовыя! — кіўнуў Гракаў на танцуючых і сеў за крайні столік.

— Ага, клёвыя, — згадзіўся Красецкі.

Дудко прымасціўся за сталом у самым кутку:

— Паша, я — пас, піць не буду.

— Адзін “Марціні” стары, і я маўчу, — Гракаў раскрыў меню.

Падышла афіцыянтка.

— Лапачка, “Марціні” і зашамаць што-небудзь — на свой выбар...

Танец закончыўся. Дзяўчаты садзіліся за столікі, хлопцы пабрылі на калідорную лесвіцу пакурыць.

Афіцыянтка прынесла кактэйлі і закуску. Гракаў лыжачкай дастаў са сваёй шклянкі два кавалачкі лёду, адклаў на талерку жоўтую пластмасавую саломінку і залпам да дна заглынуў пітво, задаволена хакнуў:

— Нішцяк!

Красецкі, не спяшаючыся, размешваў напітак і памалу цягнуў праз саломінку.

"Дарэмна прыйшоў", — думаў Дудко і трубачкай тапіў лёд у кактэйль.

Зноў аглушальна рванула музыка, кінула дзяўчат у танец.

— Ого! Я на белую вока палажыў. Ведзьма! — Гракаў узяўся за другую шклянку з кактэйлем.

— Кінь, Паша, — не пратык: бачыш, чарнявы на хвост сеў, — Красецкі дасмактаў кактэйль.

Танец закончыўся. Гракаў устаў, пераняў чарнявага ля стала, паляпаў па плячы:

— Хліпак, адвалі, я закадрыў белую! — зноў сеў за столік.

Чарнявы нічога не сказаў, толькі нядобра бліснуў цыганскімі вачыма, выйшаў за дзверы.

На наступны, ціхі танец Гракаў запрасіў тую, бялявую, абняў за стан, пачаў нешта гаварыць ёй. Бялявая ненатуральна моцна смяялася, закідваючы галаву назад...

Дудко ўсё яшчэ мяшаў у шклянцы, ні разу не пацягнуўшы чырванаватае пітво...

Бар закрывалі: тры разы гасла і загаралася святло. Бармэн выключыў тэлевізар, пачаў пералічваць касу.

— Усё, валім! — Гракаў устаў, кінуў на столік дваццацьпятку і пайшоў да выхада. Красецкі і Дудко пайшлі следам.

Ля выхада тоўпіліся дзяўчаты, чакаючы сваіх кавалераў. На вуліцы стаяла некалькі пустых таксі: вадзіцелі шукалі ў дальні раён "залётных". Начны горад перад сном прыжмурыў агні.

— Пастой, пагаворым! — чарнявы паклаў руку на плячо Гракаву.

— Я ж сказаў, адвалі! — Гракаў хіснуўся і ўдарыў кулаком чарняваму ў падбародак. Чарнявы паляцеў па лесвіцы. Тыя, што шапталіся з ім мінуту назад, раптам прапалі, канулі ў цемру. Моцныя рукі з двух бакоў трымалі Гракава. Ён павярнуўся: побач сталі два міліцыянеры.

* * *

Тады Вадзік выйшаў з-пад грушы...

Бацька зірнуў, як кінуў дзве маланкі з вачэй: "Ідзі маці пакажыся!" — і пайшоў, нічога не сказаўшы, у хату.

Маці пра каўбасы таксама маўчала. Пасля супакаення, што нарэшце "басяк" знайшоўся, выцерла ражком хусткі вочы, узяла кош з бульбай:

— Брыгадзір быў нядаўна... Сёння наша чарга дзядзьку Сёмку памагаць гнаць коней у начное... Колю галава баліць...

— Мама, я паганю! — узрадаваўся Вадзік. Тады не трэба было ісці ў хату і вінавата апускаць вочы перад бацькам, не трэба было апраўдвацца.

Пытанне было вырашана. Ды і бацька з маці, відаць, пагаварылі пра гэта раней.

Вадзік выпіў конаўку вады, кінуў у сенцы плашч, зняў з цвіка ватоўку і памчаўся на калгасную канюшню.

Дзед Сёмка распрагаў з воза каня, пакульгваў, адносячы вупраж.

— А-а, явіўся каўбаснік! Ну-ну, займай Каштана, гані ў Сенькаў брод на той бок. Я на Пярэстым даганю.

"І да дзеда дайшло", — Вадзік зняў з жэрдкі пута, нокнуў на Каштана і пагнаў яго ў бок Нёмана. Трохі адагнаўшы ад канюшні, спыніў Каштана, узабраўся на яго спіну, учапіўшыся за грыву. Каб не было мулка, пад сябе падапхнуў ватоўку, пута падпусціў каню пад шыю. Каштан храпнуў, сам лёгка пайшоў у галоп. Вадзік нагамі абшчапіў жывот каня...

Валодзя Малянскі і Міша Цырык заканчвалі путаць коней.

— Вадзік, — гукнуў Валодзя, — мы самі справімся, а ты агонь кладзі ля алешніку!

Вадзік споўз з Каштана, спутаў яму пярэднія ногі, ляпнуў па спіне: "Ідзі пасіся!"

Чаго-чаго, а начнога падлеткі чакалі больш, чым свята. Радоўка — як-ніяк вёска ў пяцьсот хат — ішла

паволі, уключала па загаду калгаснага конюха дзеда Сёмкі самых баявых, адчайных, як называў брыгадзір, "пустадомкаў", мінала адзінокіх і тых, у каго была адна — любімае слова дзеда Сёмкі — бабская хеўра. Цэлая ноч са сваімі прыгодамі і страхамі, з начной рамантыкай, таямнічая і дрыготкая! Яна прыцягвала і звала гэтых "сарвігалоў", зачароўвала нейкай сваёй, першабытнай загадкавасцю...

Язык агню лізнуў сухую траву і лісце, прагна ахапіў храбусткія рагачы сухога алешніку, з лёгкім дымам заікрыў уверх. Вадзік зірнуў у неба, і здалося, што гэта не зоры выясніліся ў вышыні, а іскры кастра рассыпаліся мігатлівым светлячковым мроівам...

На кані пад'ехаў Міша Цырык:

— Пагналі ў яблыкі! Валодзя за бульбай паехаў. Хутчэй, бо дзед Сёмка зараз з дому прыедзе!

Вадзік распутаў Каштана, ускочыў на спіну, учапіўся ў грыву:

— Но, Каштанчык, но!

Па вуліцы цёмнай вёскі ехалі ціха, коней не паганялі.

— Да каго лезем? — Вадзік азіраў прывіды садоў, што вырысоўваліся на фоне неба.

— К Ламанісе, у яе — "цыганы".

Коней прывязалі на вуліцы за хаты тры ад Ламанішынага саду, ціха пакраліся ля плота. Ля саду сцішыліся, затаіліся, услухаліся: не, нікога не было. Лёгка адолелі плот, угнуўшыся, пабрылі па картапляніку да крайняй яблыні. Вадзік ведаў смак яркачырвоных "цыганоў": аднойчы цётка сама частавала ападкамі.

Разгарнуўшы навісь галін, Вадзік палез на верх яблыні: там яблыкі большыя і спялейшыя. Міша рваў "цыганы" знізу. Яблыкі важна клаліся за пазуху рубашкі, дрыготка халадзілі цела. Раптам грукнула засаўка, бразнулі дзверы. Вадзік так і застыў на яблыні, а Міша шаснуў пад плот, распластаўся на зямлі. Цётка Ламаніха выйшла з хаты з

тазікам у руках, нічога не западозрыўшы, бухнула памыі за плот і пайшла назад. Зноў грукнула засаўка.

Міша, увесь абліты памыямі, устаў, трохі атросся, зашаптаў Вадзіку:

— Усяго акаціла! Паехалі ў Нёман...

Ля кастра, загортваючы бульбу ў прысак, кружыў дзед Сёмка. З цемрадзі вынырнуў Валодзя, кінуў ля кастра бярэмя дроў.

— Што гэта ты, галапупец, загараў? — выскаліўся дзед Сёмка, убачыўшы Мішу, і ражном падсунуў у полымя галавешку.

— Не, з Лысага ў Нёман зляцеў... — схаваў вочы Міша. — Во, сушыцца трэба.

Вадзік высыпаў ля разасланай ватоўкі яблыкі.

— Каб мяне пярун забіў, як недзе налаташылі ўжо! — паўшчуваў дзед. — Ці смачныя хоць? — ён абцёр адзін яблык аб крысо залубянелага плашча, укусіў. — Ой, каб пугі заўтра нам ад каго не перапала!

Вадзік сядзеў на ватоўцы і глядзеў, як памалу тлеў сыры бярозавы пень, як накаляліся малінавай чырванню вуглі. “Што такое агонь? Якая сіла цягне да агню людзей?” — мроіліся ў галаве думкі...

— ...Дык от некалі на тым хутары жылі стары са старою, — дзед Сёмка ўзяў распалены з канца ражон, прыкурыў папяросу, — жылі заможна, але скупавата...

Вось яно, пачынаецца! Дзед Сёмка ведаў дзесяткі гісторый і ўмеў так іх расказаць, быццам бачыў сваімі вачыма. Заміралі сэрцы ў падпаскаў, калі дзед вырачваў вочы, выпісваў для большай важнасці і страху то левай, то правай рукой замысловатыя фінціклюшкі і апавядаў пра ведзьмароў, чарцей і ваўкалакаў...

Дзед пыхнуў папяросай, ткнуў канец ражна ў агонь:

— У яго правай нагі не было, пратэзам зямлю тоўк. І ці здагадалася яго баба, ці падказаў хто, але падгледзела, што ў пратэзе ён золата хавае. А як пад-

гледзела, дык мужык сохнуць, сінець пачаў і праз паўмесяца памёр. Вымылі нябожчыка, адзелі, у труну палажылі. Баба ціхенька пратэз адвязала, золата перасыпала. Назаўтра пахавалі, бедалагу. А на другую ноч, калі баба адна ў хаце засталася, у самую поўнач нехта глуха грукнуў у сцяну і голасам яе мужыка загаварыў: "Аддай залатую нагу, аддай залатую нагу..." Ведама, спалохалася баба. Як заспяваў першы певень, глас сышоў...

Хлопцы, як зачараваныя, прыціхлі, лавілі кожнае слова. Касцёр ціха і роўна гарэў, выхопліваючы з цемры бліжнія алешыны....

Дзед Сёмка апошні раз зацягнуўся дымам, кінуў акурак у касцёр і панізіў голас да шэпту:

— Назаўтра баба сваяка з вёскі паклікала, каб смялей было. А ў поўнач — зноў стук у сцяну... Ціха кругом, толькі нешта ў коміне часам завые... Тады — стук у другую сцяну: "Аддай залатую нагу..." — дзед зусім паціху зашаптаў і раптам схапіў рукой голую Мішаву нагу, раўнуў:

— Аддай залатую нагу!

— А-а-а! — спалохана рвануўся Міша, збялеў як палатно.

Вадзік спуджана здрыгануўся, быццам халодны ток прабег па целе, пасля стала горача. Адхіснуўся перапалоханы Валодзя.

— Цьфу, дзед! — сплюнуў Міша. — Сэрца ледзь не выскачыла...

А дзед Сёмка, задаволены перапалохам, рагатаў, адкінуўшыся на плашч. Пасля ён крэкнуў, устаў з плашчом у руцэ:

— Ну, жэўжыкі, я пайду драмну мінут дзвесце, а вы глядзіце, каб коні ў жыта не ўбіліся ці ў Воўчую прорву не забрылі.

Паўночы хлопцы глядзелі коней, адварочвалі ад калгаснага поля. Стомленыя, зноў збіраліся ля кастра, падкідалі на жар сушняку, і агонь, як бы нехаць лізнуўшы галлё, браўся іскрыста, пераходзіў у полымя...

Пачало святлець. Зоры на небе пабляклі, толькі сярпок месяца ясна вісеў над абрысамі цёмнага хвойніку.

— Глядзі, — прыўстаў Міша, — нехта ідзе!

Вадзік зірнуў у той бок, куды паказваў Міша. На фоне шэрага неба проста на касцёр ішло ...дрэва. "Не можа быць!" — працёр вочы, угледзеўся лепш. Дрэва бліжэла...

Валодзя падняў з зямлі сукаватую альховую палку...

Дрэва раптам рынулася на хлопцаў, на касцёр...

— Ратуйся!

Міша сігануў убок, Валодзя так і застыў з палкай, а Вадзік у апошні міг убачыў у водсвеце кастра боты дзеда Сёмкі...

Бярозка шаматнула сухім лісцем, бухнула на агонь. Як вядзьмар, стаяў дзед Сёмка і рагатаў:

— Ну, што, жэўжыкі, абамлелі?

— Цьфу, дзед! Так і язык адняцца можа... — Міша вярнуўся да кастра.

— А хто коней займаць будзе? Пара гнаць на канюшню. Вадзік, забірай "цыганы"... Чаго дабру прападаць? Касцёр засып, а вы — зірнуў на хлопцаў — заварочвайце коней, — дзед выхапіў галавешку, прыкурыў, кінуў яе назад, ботам падгроб у касцёр дробныя галінкі.

Назаўтра бацька, зайшоўшы ў гумно, убачыў на сенавале каля соннага Вадзіка кучу чырвоных "цыганоў". І не дараваў: свенцячы голае Вадзікава цела папругай, успомніў усе яго грахі — і курэнне, і крадзеныя каўбасы і "цыганы"...

* * *

Мінула дзесяць гадоў, як Леанід Мікалаевіч пакінуў вялікі футбол. Але часта ён успамінаў асобныя моманты гульняў, асабліва тыя, якія вырашалі лёс матча, а можа, і каманды, забітыя галы... Недзе пад-

спудна жыло спадзяванне зноў вярнуцца да магічнага плямістага мяча, вярнуцца не гуляць, а каб перадаць тое, што накапілася ў гады выступленняў за каманду і за зборную, што прадумана і выпакутавана ў апошні час. Свае, падрахаваныя высновы патрабавалі нейкага практычнага ўвасаблення і пацвярджэння. Тое, што некалі разлілося ў футбольным азарце, у парыве пачуццяў і страсці, акрэслілася відавочнымі берагамі, адстаялася і набыло сэнс у свядомасці. Цяпер ужо ён меў свае погляды на гульню, праўда, амаль усе цікавыя сітуацыі ацэньваліся ім з пазіцыі футбаліста: як бы тут згуляў ён? З вышыні трыбуны маляваў ва ўяўленні сваю, пакуль што прыдуманую каманду, у думках пракрэсліваў ёй шляхі да варот, закручваў ігракоў у каруселі складаных камбінацый. І гэтая шчымлівая цяга вяртання большала, шырылася, парыўна ахоплівала ўсяго, зноў нясцерпна звала ў вялікі футбол. Акрамя сваёй асноўнай работы ўзяўся трэніраваць заводскую каманду, вывеў праз год у чэмпіёны рэспублікі. Але гэтага было мала. І раптам... Як абухом па галаве, яго ашаламілі, хоць, здаецца, і думаў часам, засталі знянацку: быць галоўным трэнерам каманды майстроў. Прыняць каманду ў такі час, калі адна гульня вырашала лёс цэлага года, а то і больш? Што мог зрабіць ён, каб змяніць ход машыны, якая па інерцыі кацілася з гары? Нічога. Толькі мог назваць імёны ігракоў на гульню і пасіўна чакаць выніку. Не позна было яшчэ адмовіцца. Але ён згадзіўся.

Рэзкі тэлефонны званок адарваў яго ад турнірнай табліцы.

— Так, стадыён. Я. Слухаю вас... Так... так... Вельмі п'яныя? — Леанід Мікалаевіч паклаў аловак. — Ну, што ж, дзякую. Усяго добрага!

Званілі з міліцыі, сказалі, што пад слова гонару адпусцілі трох яго "бэйбусаў": некаму ж трэба гуляць у нядзелю!

"Вось і пачалося... Трымайся, трэнер! Яшчэ не тое будзе..." — падумаў Леанід Мікалаевіч і зноў узяўся за табліцу. Лесвіца заштрыхаваных клетак узносіла

адны каманды ўверх і гняла, апускала ўніз другія. Трэцяй знізу была яго каманда. Адна клетка насупраць яе была чыстай.

Леанід Мікалаевіч прыкінуў варыянты: "Згуляем унічыю — трыццаць ачкоў. "Пахтакор" выйграе — дагоніць, але ў нас больш перамог і між сабой аднолькава згулялі. Выйграем — застаёмся ў вышэйшай... А калі мы прайграем "Тарпеда", а "Пахтакор" выйграе? Пра гэта не хацелася думаць, і ён стаў прыкідваць склад каманды, што выйдзе заўтра на гульню.

* * *

Вадзіка выпісалі ў нядзелю. Пераадзеўшыся, ён узяў сумку і памалу пайшоў па вуліцы. Да гульні заставалася яшчэ дзве гадзіны, і можна было няспешна прайсціся па асеннім горадзе.

Ён прывык ужо да высозных гмахаў і гаманкога людскога патоку на праспекце, прывык да шумлівага снавання машын. І часта, калі падоўгу затрымліваўся ў вёсцы, сумаваў, зноў ірваўся ў гэтыя задышныя сцены і людскі вір. Толькі летам, калі ад спякотнага сонца плавіліся падцёкі смалы на асфальце, стараўся хутчэй збегчы ў вёску, у цяністыя аблогі лесу і млявую прахалоду Нёмана.

За квартал да стадыёна ўжо адчувалася футбольная ліхаманка: балельшчыкі спяшаліся, таўкліся ля прадуктовых кіёскаў, пілі напітак, мінералку, гадалі, хто выйдзе на поле. Насустрач людскому патоку ішлі тыя, каму не пашанцавала, шукалі лішні білет.

На дамоўленае месца Віка не прыйшла. Вадзік пачакаў яшчэ мінут пяць, зірнуў у адзін, другі бок вуліцы і падаўся на стадыён.

У раздзявалцы ўсе былі ў зборы. Вадзік прывітаўся, сеў з краю каля Валодзі Малянскага.

— Чакаюць... Ніхто не ведае, хто будзе гуляць... — Валодзя дастаў з сумкі праграмку на сённяшні матч. —

Ведаеш, каго заміж Ван Ваньгча? Брата Валеры Рахаўца, Леаніда Мікалаевіча...

— Ідзе! Ідзе! — шушукнулі хлопцы і сціхлі.

Леанід Мікалаевіч зайшоў, прывітаўся, паклаў на стол два лісты спісанай паперы:

— Ну, што? Пераадзявайцеся! Выйдуць...

Многія апусцілі галовы, чакалі, чые прозвішчы назаве трэнер.

— Макевіч... У варотах. Арцёмаў... Сілаў... Сакалоўскі... Халецкі... Абарона.

Вадзік зірнуў і заўважыў, што Косця Сівааліхаў без сумкі: значыць, траўма. Без яго ўжо будзе цяжка. Халецкі — першы раз.

— Яфімаў... Рахавец... Малянскі... Сярэдняя лінія.

"Цікава... — падумаў Вадзік. — А куды ж Дудко і Красецкага, а Гракава? Нават Яфімава з нападзення ў абарону адцягнуў".

Голас Леаніда Мікалаевіча загучаў цвёрда, як пачаў адсякаць цвёрдыя кавалкі жалеза:

— Нападзенне: Міткевіч, Белы, Насевіч.

Трое нападаючых здзіўлена ўскінулі вочы: — іх у нападзенне? Іх — у асноўны склад? Але Леанід Мікалаевіч як не бачыў:

— Запасныя...

Яшчэ чатыры ігракі дубля! Гракава, Дудко і Красецкага нават не было ў запасе!

Усе маўчалі: ці то ашаломленыя нечаканым складам каманды, ці то прыгнечаныя адчуваннем таго, што на поле выйдуць пяць дублёраў.

— А як без іх, Гракава, Дудко, Красецкага, гуляць будзем? — пакрыўджана зірнуў на трэнера Яфімаў.

— Як гуляць? — здаецца, задумаўся Леанід Мікалаевіч, а пасля невялікай паўзы як адрэзаў. — Перш за ўсё розумам, а тады — нагамі.

* * *

Гулі перапоўненыя трыбуны. Былі заняты не толькі рады лавак, але і сектарныя праходы. Дзе-

нідзе віўся дымок: нехта не вытрымліваў, цішком з рукава зацягваўся разы тры-чатыры і тушыў папяросу ў газетным кульку.

Голас дыктара прыцішыў трыбуны:

— Сёння ў апошнім матчы на першынство краіны сустракаюцца...

— Глядзі, выбягаюць! — Сямён Міхайлавіч штурхнуў Максіма. — Іхнія...

Белыя футболкі супернікаў паказаліся з падземнага праходу раздзявалкі, рассыпаліся на адной палавіне поля.

Сям-там свіснулі, рэдка зааплядзіравалі.

Праз мінуту з'явіліся сінія футболкі, ігракі разбегліся за мячамі па другой палавіне.

Трыбуны напружана ўглядаліся, пазнавалі асноўных ігракоў.

— Слухай, Сямён, палавіны не ведаю... Ці вочы падводзяць?

— І я не ведаю... Дублёры, відаць.

Над прыцішаным стадыёнам зноў прагучаў голас дыктара:

— Сёння за каманду гуляюць...

— Пяць дублёраў! Яны што, з глузду з'ехалі? — Максім нервова захінуў плашч, зашпіліў на верхні гузік.

Сямён Міхайлавіч маўчаў.

Пасля паўзы дыктарскі голас аб'явіў:

— Старшы трэнер каманды — заслужаны майстар спорту Леанід Рахавец.

Трыбуны анямелі.

* * *

Дзесяткі разоў Вадзік чуў гэтую музыку, і кожны раз, калі яна гучала, выходзіў на поле ці не, яго бралі дрыжыкі. У футбольным маршы ён, здаецца, бачыў імклівыя рыўкі ігракоў, акрабатычныя скачкі варатароў, пругкі лёт мяча... А яшчэ ў гэтых акордах яму

чулася радасць перамогі і светлая надзея. Не раз у шумлівай кампаніі ён бачыў, як сціхалі, пачуўшы з рэпрадуктара гукі марша, здаровыя дзецюкі і важныя мужы, супакойвалі другіх: "Ціха! Дайце паслухаць!"

Марш запоўніў чашу стадыёна, ацішыў гул балельшчыкаў. Каманды выбягалі ў цэнтр, выстройваліся з двух бакоў суддзяў. Апошнія акорды марша, здавалася, заклікалі да барацьбы, барацьбы сумленнай і цяжкай, барацьбы да апошніх сіл...

Вадзік зірнуў на поле: ігракі прывітальна памахалі балельшчыкам, разышліся на свае палавіны. Суддзя паставіў мяч на цэнтр, зірнуў на секундамер, кінуў погляд на аднаго капітана каманды, затым на другога — тыя паднялі правыя рукі ўверх: усё гатова, можна пачынаць.

Над ціхім стадыёнам рэзка прагучаў судзейскі свісток.

"Вытрымалі б маладыя", — Леанід Мікалаевіч раскрыў блакнот, дастаў ручку.

Мяч адразу ж перайшоў на палавіну гасцей, лавіруючы ад аднаго нападаючага гаспадароў поля да другога. Тарпедаўцы адцягнуліся, перакрылі подступы да штрафной. Некалькі падач у штрафную перахапілі абаронцы...

— Глядзі ты! Населі як! — Максім расшпіліў верхні гузік плашча. — Мо й будзе толк...

— Не суроч. — Сямён Міхайлавіч абапёрся локцямі на калені, уважліва сачыў за кожнай перадачай, за кожным рыўком іграка. — Шкада, таго маладога няма ў нападзенні... Як яго? Ясінскі... Смелы хлопец!

— Бі, бі! — не вытрымаў Максім.

Валера Рахавец не прабіў. Прайшоўшы метраў пяць уперад, зрабіў падманны замах, зірнуў на вароты: хоць бы хто адкрыўся, зрабіў рывок! І ўбачыўшы, як ірвануўся з краю Міткевіч, прастрэліў на правы

край, на самы вугал варатарскай пляцоўкі. Коля, відаць, ледзь дацягнуўшыся, прабіў галавой. Мяч прайшоў над верхнім вуглом бліжняй штангі.

Стадыён выбухнуў, расчаравана ахнуў, што мяч не ўляцеў у вароты, дружна заапладзіраваў.

“Малайцы! Маглі б забіць... — Вадзік перасмыкнуў нагамі, быццам толькі што сам прабіў па варотах. Ён бачыў, што паўабарона поўнасцю кантралюе цэнтр поля, гуляе праз Валеру Рахаўца, а той закідвае ўразрэз то направа, то налева. — Бліжэй падцягніцеся, памажыце!” Абарона не падцягвалася, баялася, відаць, прапусціць контратаку...

“Сценку адшліфаваць! Як забыліся... Проста і надзейна. — Леанід Мікалаевіч зрабіў паметку ў блакноце. — Не стойце, не чакайце мяча, пакуль прыйдзе ў ногі, — сустракайце!” — падумаў, а мо і сказаў уголас.

— О даюць, як жывыя! — Максім расшпіліў яшчэ адзін гузік.

Сямён Міхайлавіч маўчаў, не адводзіў вачэй ад поля. Ён быў там, з футбалістамі, нават у гэтым мячы. Каб, здаецца, мог увасобіцца ў мяч, затаіцца ў яго круглай камеры, ён змяніў бы траекторыю і палёт, уляцеў бы ў самы вугал чужых варот. Каб толькі стадыён выбухнуў сілай радасці, шчасцем перамогі...

І раптам...

Леанід Мікалаевіч унутрана сцяўся...

Саша Сакалоўскі рэзка пайшоў на адбойны мяч, паслізнуўся... Мяч падхапіў левы нападаючы “Тарпеда”, агледзеўся — ён не чакаў такога падарунка, — рынуўся да штрафной. Наперарэз яму пайшоў Арцёмаў.

“Заб’е!” — падумаў Вадзік.

Нападаючы замахнуўся, штосілы прабіў...

“Стой, стой, не выходзь з варот! Арцёмаў закрые. Вугал востры. Стой! — Леанід Мікалаевіч бачыў, як

Макевіч ірвануўся насустрач, высока скочыў і, не дастаўшы мяч, упаў. Мяч трапіў у перакладзіну, адскочыў назад у поле, проста ў рукі Макевічу. — Нічога перакінуў!" — Леанід Мікалаевіч выцер хусцінкай успацелыя далоні.

— А маглі б забіць, — Максім адхінуў крысо плашча, закурыў. — Пранесла...

Сямён Міхайлавіч не заўважыў, як пальцамі скамячыў газету, уздыхнуў, быццам скінуў з сэрца цяжкі камень...

Макевіч выбіў далёка. Валодзя Белы ўзвіўся ўверх, скінуў мяч назад Рахаўцу. Валера ўбачыў, што адкрыўся Малянскі, а Насевіч перамясціўся ў цэнтр, адцягнуўшы свайго абаронцу. Ён прыпыніўся і зрабіў навес налева. Малянскі з развароту, злавіўшы мяч на пад'ём нагі ў паўметры ад зямлі, прабіў у дальні левы вугал. Варатар адчайна скокнуў, распластаўся ў палёце...

— Го-о-о-л! — на зрыве голасу радаваўся стадыён.

На электрычным табло ўспыхнулі набраныя літары: "Галы забілі..." Але прозвішча аўтара гола не з'яўлялася. Відаць, аператар чакаў, пакуль аб'явіць па радыё дыктар. Нарэшце дынамікі, прарваўшы аднагалосы крык стадыёна, абвясцілі: "Гол забіў Уладзімір Малянскі".

— Го-о-о-л! — не сціхалі балельшчыкі, махаючы ўзнятымі транспарантамі і сцягамі.

"Малайчына Валодзя! Свой, каронны! Як некалі на кубак..."

Вадзік зірнуў на табло: ішла сорак чацвёртая мінута першага тайма. Ён падняўся, узяў сумку і пайшоў у раздзявалку.

Леанід Мікалаевіч бачыў радасныя твары сваіх ігракоў. Калі ішлі ў раздзявалку, зірнуў на спіны, мокрыя ад поту, задаволена падумаў: "Тайм выбегалі..."

Хлопцы селі, адкінуліся на мяккія спінкі глыбокіх крэслаў. Некаторыя апусцілі гетры, каб у стомленыя ногі свабодна даходзіла кроў...

— Хлопцы, толькі атакаваць! — Леанід Мікалаевіч перакінуў мяч з рукі на руку. — Спынімся — нам заб'юць.

— Нашто атакаваць? Утрымаць бы! — Яфімаў пачаў перашнуроўваць буцы.

У раздзявалку зайшоў Гракаў:

— "Пахтакор" нічыйку зрабіў!

— Ну і што? Можа, і нам нічыю цягнуць? — Леанід Мікалаевіч ужо ведаў пра нічыю "Пахтакора": у канцы тайма яму сказаў масажыст.

— І хопіць, — усміхнуўся Гракаў.

— Ніякіх нічыіх! Атака і яшчэ раз атака! — Леанід Мікалаевіч адкінуў мяч, пачаў даваць заўвагі кожнаму...

— Даўно такіх не забівалі! — Сямён Міхайлавіч разгарнуў скамечаную газету.

— Метраў з трыццаці і — мёртвы! — Максім дастаў апошнюю цыгарэту, скамячыў пусты пачак і запіхнуў яго ў кішэню плашча.

Музыка над стадыёнам раптам перарвалася, дынамікі шчоўкнулі, нешта як віскнула ў іх, і голас дыктара аб'явіў: "Дарагія таварышы, толькі што закончылася гульня ў Ташкенце, дзе мясцовы "Пахтакор" прымаў маскоўскае "Дынама". Гульня закончылася ўнічыю: адзін — адзін. Над стадыёнам загрымела магутнае "ўра"! перайшло ў апладысменты...

— Ну, брат, застаёмся! Калі нават і ў нас нічыя, — Максім закурыў.

— Не кажы "гоп", пакуль не пераскочыш! Яшчэ сорак пяць мінут, — але на сэрцы ў Сямёна Міхайлавіча паспакайнела.

Другі тайм пачаўся атакамі тарпедаўцаў. Мяч то навешваўся ў штрафную з левага краю, то навісаў з правага. Абаронцы без мітусні адбівалі яго далей ад варот. На перахватах надзейна гуляў Макевіч. Нава-

ла тарпедаўцаў глухла ў штрафной, мяч не даходзіў да нападаючых. Але нешта ў гульні змянілася. Адбітыя мячы перахоплівала абарона гасцей, падцягвалася ў цэнтр, зноў упарта навешвала ў штрафную...

"Трэба адысці ад сваіх варот, няхай лезуць у афсайд... І пас... Пас не ўпоперак поля, а за спіны стопераў, на рывок... Ну, Валера! — Леанід Мікалаевіч бачыў, як брат аддаў пас Яфімаву. Той стаў, няспешна агледзеў поле, вярнуў мяч назад Валеру. — Ну, закінь жа!"

Мяч у Валеры перахапілі. Доўгі рыжы хаўбек прайшоў па цэнтры, прабіў у бок варот. Сілай хацеў адбіць, пасля перадумаў, пусціў варатару. Макевіч не чакаў, што той прапусціць, стаяў на месцы. Толькі ў апошні міг ірвануўся, упаў. Але было позна: мяч слізгануў ля штангі, заблытаўся ў сетцы...

Стадыён, як стукнуты, маўчаў. З яго зацятага нутра вырваўся рэдкі свіст...

— От так! — ляснуў рукой па калене Максім. — Разявакі!

— Крыўдны гол, — згадзіўся Сямён Міхайлавіч і зірнуў на табло: заставалася пятнаццаць мінут.

Вадзік бачыў, як Леанід Мікалаевіч падняў з лаўкі двух запасных. Тыя скінулі курткі, трыко, пачалі разміначца. Пабегаўшы па заваротным лапіку травы, падышлі к трэнеру. Леанід Мікалаевіч нешта ім гаварыў, паказваў рукой у бок варот. Калі мяч выйшаў з гульні, суддзя дазволіў зрабіць замены: Яфімава і Насевіча — паўабаронцу і нападаючага — замянілі два нападаючыя.

Гульня памалу перайшла на палавіну "Тарпеда". Замены ажывілі каманду, унеслі нейкі, хоць і невялікі, пералом. Абарона "Тарпеда" адцягнулся назад, як відаць, збаялася, што "свежакі" могуць нарабіць бяды. Зноў упэўнена загулялі паўабаронцы. Валера Рахавец не толькі стаў пасаваць у прарыў, але разы тры прабіў

сам. Прабіў хвостка і прыцэльна. Варатар з цяжкасцю перавёў мячы на вуглавыя...

"Не ўмеюць пазіцыю выбіраць пры вуглавых..." — міжволі адзначыў Леанід Мікалаевіч і чыркнуў у блакноце трохкутнік, намаляваў вароты і ля іх веерам паставіў пяць кропак. Да канца гульні заставалася пяць мінут.

Вадзік злавіў сябе на тым, што міжволі імітуе ў думках кожны ўдар па варотах саперніка. Здаецца, ён забіў бы. Уклаў бы ўсю сілу, але забіў. "Хоць бы вытрымалі", — падумаў Вадзік, праводзячы мяч ад варот "Тарпеда".

Мяч апусціўся за метраў дзесяць ад штрафной у ногі Арцёмаву. Лёня, не ўбачыўшы, што паралельна стаіць адзінокі нападаючы саперніка, пасануў Халецкаму. Мяч да Халецкага не дайшоў: падстаўленая нага тарпедаўца спыніла яго. Арцёмаў зразумеў: нападаючы можа зрабіць рывок і выйсці адзін на адзін з варатаром. Ён з размаху праехаў у доўгім падкаце, завальваючы тарпедаўца, выбіў мяч. Прагучаў свісток, суддзя тут жа падбег да месца парушэння. Выцягнутая рука няўмольна паказвала: штрафны!

"Метраў за дзесяць ад штрафной... — прыкінуў Леанід Мікалаевіч. — Сценку правільна выстраіць... Толькі не даць прабіць! Прамы не пойдзе".

Валера Рахавец наступіў на мяч, чакаў пакуль выстраіцца сценка. Жэня Макевіч прыкінуў, ці закрыты вугал: "Лявей! Яшчэ лявей!" Ён заняў месца ў другім вугле варот. Валера стаў з краю сценкі.

— О будзе, як укалоцяць! — Максім апусціў руку ў кішэню, выняў скамечаны пачак з-пад папярос, запхнуў назад.

— Ціха, не накаркай, — пачуўся зверху нечы знаёмы голас.

Збіраўся біць рыжы, той, што забіў першы гол. Ён акуратна паставіў мяч, адышоўся на крок, пасля вяр-

нуўся і перакруціў мяч другім бокам. Адышоўшыся на метраў пяць, прыкінуў, куды прабіць. Рашыў біць у дальні вугал варот, закрыты сценкай, біць над сценкай. Разбегся і прабіў...

Жэня Макевіч, закрыты ігракамі, убачыў мяч у апошні міг. Зрабіў крокі два і скочыў. Кончыкі пальцаў ледзь дацягнуліся да мяча, не змяніўшы яго палёту... Мяч уляцеў у сетку.

— Дзірка! — сплюнуў Красецкі.

— Атрымай, дзярэўня, трактар! — крыва ўсміхнуўся Гракаў. Не зразумець было: ці ён перажываў, ці радаваўся.

"Усё!" — уздыхнуў Вадзік і закінуў за плячо спартыўную сумку.

Ішла восемдзесят дзевятая мінута гульні. Каманда вылятала з вышэйшай лігі.

* * *

Пахаладала раптоўна. Сіверны вецер усчаўся надвячоркам, каляна рынуўся на вуліцы і дамы, абложыў неба снегавымі хмарамі, і спачатку нясмела, быццам спрабуючы трываласць зямлі, сяўнуў белы рой сняжынак, дробных і шорсткіх, узвіхрыў іх і панёс па дарозе, як белы вэлюм, віхляста і шырока. Пасля сыпануў спаўна, буйнымі пер'ямі, і паваліў снег густа, сляпуча і спорна. Рэдкія прахожыя тулiліся ў каўняры плашчоў і куртак, фарсістыя дзецюкі, прыкрываючы газетамі валасатыя галовы, спяшаліся дадому. Ля пад'ездаў мітусілася вясёлая дзятва, лавіла сняжынкі, нагамі і рукамі грэбла снег, войкала і залівалася звонкім смехам.

Апоўначы вецер угаманіўся. Сплылі бухматыя хмары, і адкрылася на ўсю шыр неба, халоднае, як возера, у дрыготкіх ліліях зор. Здавалася, што тое, вечаровае, снежнае неба раптам апусцілася на зям-

лю, пакрыла ўсё — расхлябістую каламуць і дамы, выпетраныя папары і аблогі, грахі і боль... — першароднай беллю, чысцюткай наміткай, на якой трэба рабіць новыя сцежкі, на якой можна пачынаць новае жыццё. І, відаць, кожны ўвачавідкі адчуў, як зрабіў крок у час, крок праз ноч з таго, ачарсцвелага і счарнелага, у гэты, чысты і здаровы дзень.

* * *

— А як жа кубак? — Красецкі прымружыў вейкі, зірнуў на трэнера.

Леанід Мікалаевіч, здаецца, глянуў у вочы не аднаму Красецкаму, а ўсёй камандзе:

— А вось так: гуляць на кубак не будзем, а будзем трэніравацца.

— Мы ж два гады назад... — Красецкі не закончыў.

— Правільна, мы скаціліся на два гады назад. — Леанід Мікалаевіч цвёрда, як прыпячатаў, палажыў на стол руку. — І не менш, чым два гады, трэба, каб выйсці зноў у вышэйшую лігу. Заўтра пачынаем трэніроўкі.

— Як заўтра? — да гэтага Гракаў сядзеў угнуўшыся, няўцямна ўтаропіўшы вочы ўніз, а тут рэзка выпраміўся, раскрыўся, як складаны нож. — Мы некалі два месяцы...

Леанід Мікалевіч зноў перабіў:

— Забудзьце, што было некалі. Трэба жыць будучым.

Не, з ім не вельмі паспрачаешся. Адразу адчуваецца, што на ўсё ў яго, старшага трэнера, ёсць свая думка, свой погляд.

Вадзік зірнуў на стол, на руку, што ляжала цвёрда, упэўнена, і ўявіў, як яна бярэ сыпучы снег, моцна сціскае яго, камечыць, лепячы снежку, згладжвае гэты камяк. І снежка, яшчэ нядаўна рыхлая, ператвараецца ў лядзяш, набывае сілу каменя, які гатовы прабіць важка і моцна...

— Я не трымаю нікога. Хто не хоча гуляць, гуляць па-сапраўднаму, хай падасць заяву.

— Не трэба нас палохаць! — Красецкі ведаў: не адваюе ён цяпер будучую волю, хаця б маленькую, не агародзіць сябе частаколам недатыкальнасці і -—усё: гэты, “наваспечаны”, патолі і спуску не дасць. Таму трэба было прабіваць трэнерскую аблогу зараз. — Шчупака вадой не напалохаеш! Але ж мы — не коні. Так і заездзіць можна. Хаця б месяц перадыху...

Леанід Мікалаевіч падняў руку са стала, падпёр падбародак, з паўмінуты насмешліва глядзеў на Красецкага, быццам вывучаў яго з нейкага другога ракурсу:

— Нешта я не бачу, што ты — заезджаны. Хоць у заработкі адпраўляй. А перадых у цябе, Красецкі, у кожнай гульні на полі быў. Не выжыльваўся вельмі...

— Не выжыльваўся, не выкладваўся... — Красецкі выціснуў з сябе крывую ўхмылку. — З нашымі... заработкамі... выкладзешся...

* * *

— Ясінскі, к табе прыйшлі! — гукнуў высокі хлопец на ўсю аўдыторыю.

“Можа, Віка? — падумаў Вадзік, дапісаў у канспекце сказ, загарнуў кнігу. — А мо хто з хлопцаў?”

На калідоры стаяў сярэдняга росту мужчына. Прыгожы касцюм, модны гальштук, лысаваты, астатняя сівізна гладка зачэсана... Відаць адразу, за сабой глядзіць... Вочы хоць і ўсміхаюцца, але з прытоенай хітрасцю...

— Добры дзень...

— Прывет вам племя маладое! Ну-ну, смялей, смялей ідзі! Я цябе паўдня шукаю. На кватэры быў, у федэрацыі быў, на заводзе быў... І вось — ты перада мной, як ліст перад травой! — пухлая рука з пярсцёнкам далікатна ўзяла Вадзіка пад локаць. — А ты харо-о-шы... Я цябе тады ў гульні з “Шахцёрам” прык-

меціў. Але чаго мы стаім? Пайшлі, даражэнькі, пайшлі вунь туды, у канец калідора...

— У мяне лекцыя, не магу я... — Вадзік разгубіўся ад гэтай, як здалося, фальшывай пахвальбы, — ды і нашто я вам?

— За лекцыю ты не перажывай, я цябе ў дэкана на гадзіну выпрасіў. Пасядзім, пагаворым... О, ды я ж не прадставіўся! — Валерый Нікадзімавіч Пушкоў. Чуў, відаць?

Чуў ці не Вадзік гэта прозвішча? Недзе чуў. Але дзе? Калі? У сувязі з чым? Цяжка адразу ўспомніць. "Пушкоў, Пушкоў... Ці не з Масквы?"

— Ведаю, ведаю, што праляцелі вы з вышэйшай лігай. Спачуваю, ад душы спачуваю... Але не канец жа свету. Не вы першыя, не вы апошнія... Так што не перажывай вельмі. Ты — малады, унь вымахаў які! Кроў з малаком! — Пушкоў паляпаў Вадзіка па плячы, адступіў на крок, зноў агледзеў яго. — Харо-о-шы...

Вадзік яшчэ больш зніякавеў. Ён не прывык, каб так бесцырымонна яго аглядалі і ацэньвалі. Тым больш чужыя людзі. Як на кірмашы, калі выбіраюць жарабца: аглядаюць зубы, мацаюць мускулы, гладзяць загрывак, вывучаюць капыты... Нешта падобнае мільганула ў яго галаве, але прыродная сарамлівасць прымусіла адкінуць гэтую думку: "Можа, ён так сабе? Як балельшчык..."

Пушкоў сеў на стул з аднаго краю стала, Вадзік — з другога.

— Ну, расказвай, расказвай, як ты жывеш, — рука Пушкова з пярсцёнкам бязгучна, падушачкамі пальцаў забарабаніла па другой руцэ. На грані брыльянта бліснула сонца, адбілася зіхоткім зайчыкам...

Мяккія пульхныя рукі, пэўна ж, без мазалёў... Японскі гадзіннік... Дарагі — цяжка адразу і казаць які — камень на іголачцы, заколатай у гальштук... — усё гэта кінулася ў вочы Вадзіку.

— Жыву, як усе. Працую, вучуся, трэніруюся...

— Ну, гэта само сабою. А вось "жыву, як усе" — ці ж гэтым варта хваліцца?

— Пляваць таксама не трэба. Галоўнае — жыць сумленна, каб ноччу спаць спакойна... — Вадзік глядзеў на пальцы з бялёсымі валасінкамі, якія то рухомелі, то хітра прытанцоўвалі на запясці другой рукі. Ён нутром адчуў, што з гэтага "жыву як усе" зараз Пушкоў пачне віць вяроўку... Толькі для чаго?

— А можна жыць і лепш... Чалавек заўсёды да гэтага імкнецца. Я некалі таксама малады, дурны быў... Ірваўся, выпінаўся, на ражон лез... І што? У сіняках ды з парванымі кішэнямі хадзіў: каб і быў грош — не затрымаўся б. А потым плюнуў на ўсё і рашыў — баста, хопіць! Жыву адзін раз на зямлі, а ў той завоблачны рай хай іншыя вераць!..

— Што ж па-вашаму рай? — перабіў на прыдыху Пушкова Вадзік.

— Рай... — вочы Пушкова расплыліся ў мройным летуценні, — гэта свабода...

— А мы што, зняволеныя? — крыху іранічна ўсміхнуўся Вадзік.

— Паслухай, паслухай, мой даражэнькі... — рука з пярсцёнкам пачала пагладжваць другую руку, быццам заварожвала, загаворвала, як рука тэлепата ці ілюзіяніста ў час прадстаўлення, каб супакоіць гледача, перадаць свае думкі, навязаць сваю волю... — Ты не так мяне зразумеў. Свабода — гэта незалежнасць, незалежнасць ад іншых. А каб быць незалежным — трэба мець тугі кашалёк. Ну, і яшчэ тое-сёе: кватэру, машыну, дачу, загранпаездкі... О, уяві сабе, з гэтага пачынаецца рай!

"Пушкоў... Валерый Нікадзімавіч... Адкуль мне знаёма гэта прозвішча? Адкуль? — думаў Вадзік. — Ці не ён прыязджаў мінулай восенню, у канцы сезона?"

— Які ў цябе аклад? — пальцы застылі, прыслухаліся.

— Дзвесце дваццаць.

— Малавата... Далёка не разгонішся.

— Наадварот, хапае. Паўсотні бацькам яшчэ адсылаю...

— Праґрэс, трынаццатая?

— І гэта ёсць. Нават за што — не ведаю.

— Ну-ну, не будзь ты такі сціплы! Маладосць павінна жыць шырока! — Пушкоў зноў растапіў масліны вачэй ва ўсмешцы, пасля нечакана як апусціў іх у халодную ваду... — Як з прапіскай?

— Нармальна, — не зразумеў Вадзік, — а што?

— Змяніць не хочаш?

— Навошта? Мне і тут — родны кут.

Пальцы зноў забарабанілі па запясці, але не ў тым рытме, як раней, а, як здалося Вадзіку, нервова, хутчэй. Воблака, відаць, закрыла сонца, і брыльянт на пярсцёнку не адсвечваў сонечнымі іскрынкамі.

— "Спартаку" патрэбны моцныя ногі, разумныя галовы...

Вадзік зразумеў фразу:

— Ну, і няхай сваіх гадуе. У такім горадзе — мора талентаў!

"Вось ты хто, Пушкоў! Селекцыянер футбольны, а калі дакладней — скупшчык, маніла... Так-так, гэта ж ён і ля Валеры Рахаўца ў мінулым годзе віўся..."

— Таленту трэба прастор, бо ён — як рэдкае дрэва... Яго песціць трэба, аберагаць, паліваць у свой час...

"Не падмажаш — не паедзеш", — успомніліся Вадзіку словы Красецкага.

— ...а то завяне, засохне... Быў шык — застанецца пшык!

— Не, Валерый Нікадзімавіч! Таленту жорсткасць трэба, талент працаваць павінен да дзесятага поту, да крыві на нагах. Калі ён хлюпік — зломіцца, а сапраўдны талент заўсёды праб'ецца, яшчэ больш загартуецца ад нягод... — Вадзік сабраўся ўстаць.

— Вадзім, ты прыкінь, перш чым адмаўляцца. Кватэра двухпакаёвая — трыццаць шэсць метраў... Ордэр адразу ж! На працягу года — "Жыгулі". А трэнер? Трэнер які! Клас! Прамы шлях у зборную... Кожны месяц — за рубеж! Мала? — Пушкоў, як сліва, чырванеў, тужыўся. — К двайному акладу — камандзіровачныя, талоны, форма, чэкі... Можна жыць.

— Не, дзякуй вялікі. Не магу я кінуць каманду, калі карабель тоне. Хто ж падыме яго тады? — Вадзік устаў з-за стала.

— А шкада. Вось табе мой тэлефон, передумаеш — пазвані.

— Не, не перадумаю, — Вадзік пайшоў у аўдыторыю.

Візітка з прозвішчам на рускай і англійскай мовах, з тэлефонамі засталася на стале.



Месяц трэніровак не прайшоў марна. Вадзік адчуў, як ногі сталі пругкімі, наліліся сілай. Цяпер тое, што ён рабіў на першай трэніроўцы, здавалася дзіцячай гульнёй. Цела прасіла большых нагрузак і Леанід Мікалаевіч, быццам адчуваючы гэта, ганяў хлопцаў да сёмага поту. Яны, як ашалелыя, насіліся за баскетбольным мячом, адмервалі кіламетры на лыжных кросах, ставілі свае рэкорды, вырываючы штангу, падоўгу круцілі станочныя веласіпеды... Толькі, як здавалася Вадзіку, рэдка гулялі ў футбол. Праўда, кожнае заданне з мячом было ігравым, вялося на хуткасці і магло пасля спатрэбіцца ў гульні. Неяк непрыкметна адпрацавалі сценку з выхадам на вароты, прайшлі рэзкія эстафетныя спурты з прымяненнем фінтоў... І дзіўным было тое, што старшы трэнер не ўціскаў іх індывідуальную фантазію абводкі ў рамкі нейкіх стандартаў — трэба так, а тут — так! — не, ён падтрымліваў нечаканы элемент абходу саперніка, патрабаваў адпрацаваць яго да аўтаматызму. Вадзіку падабалася пракідаць мяч з аднаго боку ігрaка і абягаць яго з другога, пакідаючы за спіной. Леанід Мікалаевіч уважліва сачыў за яго рыўкамі, падказваў: "Навучыся з той і другой нагі, адпрацуй з двух бакоў". Вадзік заўсёды ўспамінаў, як абводзіў бразілец Гарынча. Адхіляючыся направа, яўна паказваючы, што ён пойдзе іменна ў гэты бок, Гарынча

рэзка пераносіў цяжар цела на другую нагу і абводзіў з левага боку. Усе абаронцы ведалі гэты нескладаны фінт і ўсе паддаваліся на яго. Але помніў малады форвард і другое: не трэба слепа капіраваць каго-небудзь, а шукаць сваё, нечаканае для іншых.

У другім месяцы пасля сілавых нагрузак пачаліся двухбаковыя гульні. Леанід Мікалаевіч судзіў і па ходу падказваў. Было відаць, як стараўся Дудко, выкладваўся Валера Рахавец, снаваў сюды-туды без мяча, адкрываючыся, Малянскі...

— Аддай, Сілаў, аддай! Мяч хутчэй ляціць, чым ногі... Думай, Ясінскі: перш чым атрымаць мяч, прадумай два-тры хады наперад... Ды ідзі ж, ідзі на апярэджанне! Міг выйграеш і — гол! А калі чакаць будзеш, што сапернік памыліцца сам, не заб'еш. Трэба яго прымусіць памыліцца... — старшы трэнер падказваў мякка, па-сяброўску, але ў той жа час у яго словах адчувалася патрабавальнасць.

Праходзіла мінут сорак гульні, і Леанід Мікалаевіч не вытрымліваў, скідаў шарсцяное трыко, выходзіў гуляць сам. Хлопцы яшчэ больш заводзіліся.

* * *

Пакінуць спорт трэба ўмець. І не толькі ўмець, а і знайсці ў сабе сілу волі, каб пакінуць яго.

Цяжка вырваць свае карані з таго, чаму аддаў лепшыя гады маладосці, дзе ў крывавых трэніроўках перавярнуў горы металу, не раз па адлегласці абабег зямны шар сцяўшы зубы, вытрымаў сябе на ўдар, на разрыў, на сілу і, ацёршы даланёй салёны пот, адчуў салодкі міг перамогі. Міг, да якога ішоў гадамі, тысячы разоў адпрацоўваючы і паўтараючы адны і тыя ж рухі, прадумваючы начамі будучую схватку, тактыку, гульню... Той міг, які прынёс перамогу і славу, падарыў вядомасць і гонар. І раптам у славе сысці з гэтай дарогі, пакінуць усё тое, што стала большаю часткай жыцця? Як гэта цяжка!

Сямён Міхайлавіч на сваім вяку бачыў многіх, да якіх раней ці пазней прыходзіла развітанне са спортам. Прыходзіла па-рознаму.

Адны, заваяваўшы ўсе тытулы і званні, і не раз, пакідалі спорт непераможнымі, у самым зеніце славы, у кіпучым росквіце сіл, калі, здавалася, яшчэ стома і слабасць не закраліся ні ў адзін мускул, калі сапернікаў кідала ў дрыжыкі толькі адно імя, агучанае дыктарам. Пакідалі, каб назаўсёды застацца ў памяці балельшчыкаў залатымі, славутымі кумірамі.

Другія, таксама дасягнуўшы, здаецца, усяго, не развіталіся са спортам, яшчэ выступалі, спадзеючыся на багаты вопыт, але потым ламаліся пад націскам маладых, бляклі, адыходзілі ў цень... І толькі пасля, адчуўшы, што славу не вярнуць, пакідалі спорт. Але гэтае развітанне было не такім ужо трыумфальным, хутчэй — сумным, з балельшчыцкім шкадаваннем.

Трэція, заваяваўшы славу, свядома сыходзілі на ранг-два ніжэй, выступалі на спаборніцтвах за абласныя ці нават раённыя каманды, выдзяляючыся тэхнікай і набытай практыкай, выступалі стабільна і надзейна. Выступалі, як казалі футбалісты, за "неблагі навар". Можа, гэта і было часткай праўды. Але Сямёну Міхайлавічу здавалася, што некаторыя вось так адцягвалі час развітання са спортам, не хочучы пасля гучнай славы быць на другіх ролях. Яны, відаць, і прытрымліваліся той жартаўлівай, а можа, і правільнай прымаўкі: "Лепей першым быць у вёсцы, чым у горадзе апошнім..."

Першыя звычайна вярталіся назад у спорт. Вярталіся суддзямі або трэнерамі, зноў услаўлялі сваё імя на міжнародных арэнах тонкім веданнем і трактоўкай правіл, услаўлялі выступленнямі сваіх вучняў.

Другія таксама вярталіся. Сцяўшы зубы, яны трэніравалі віхрастых жэўжыкаў, трэніравалі ўпарта, настойліва, хіба каб так вярнуць былую славу.

Трэція назад у спорт не прыходзілі. Аднойчы даўшы сабе палёгку, перайшоўшы на ранг ніжэй, яны

пасля асядалі ў цёплых месцах, шчасліва ажаніўшыся, знаходзілі зацішную пасаду.

Была яшчэ адна катэгорыя спартсменаў, якія пакідалі спорт. Іх губіла слава. Слава кружыла ім галовы, прыносіла сотні фальшывых сяброў і паклоннікаў, заводзіла кампаніі і пеніла шыкоўныя застоллі... Потым гэтая слава аказвалася горкай. Колькі маладых, здольных, перспектыўных і таленавітых загубіла яна, гэтая "вінна-сяброўская" слава!

Пакінуць спорт трэба ўмець.

* * *

Віка крыўдзілася. Ёй здавалася, што Вадзік забывае яе, паступова аддаляецца. Заняты трэніроўкамі, ён гады ў рады забягаў к ёй у інтэрнат, стомлены, задышны, з нейкім бляскам у вачах. Пасядзеўшы якую гадзіну, паслухаўшы яе навіны, вінавата сыходзіў. Віка ведала, што многа часу ў яго забірае вучоба: як-ніяк, а чацвёрты курс у інстытуце фізкультуры. І кантрольныя, і будучыя залікі, экзамены... Але дзявочая рэўнасць не давала спакою, уяўляла іншую дзяўчыну, чамусьці з доўгімі светлымі валасамі... Можа, таму Вадзік так рэдка званіў па тэлефоне, скупа расказваў аб трэніроўках і сваіх справах? А калі забягаў, то ненадоўга... Ці не спяшаўся, каб сустрэцца з другой?

Калі выпадала вольная ад трэніровак субота або нядзеля, Вадзік ехаў у вёску да бацькоў. Казаў, што летам не будзе калі за футболам. І Віка сумавала адна. Нават адмаўлялася ад прапаноў сяброван схадзіць у кіно ці тэатр. Чытанне не лезла ў галаву, расплывалася ў вачах, літары танулі, адыходзілі недзе далёка, і Віка, сцепануўшыся, лавіла сябе на тым, што не чытае, а зноў думае пра яго, Вадзіка...

Соня, лепшая сяброўка, вострая на язык, цыбатая, з кароткай стрыжкай дзяўчына, пасміхалася: "Ды кінь ты яго! Што ён табе, косткай у горле сеў? Знай-

дзем мы маладога, залатога, не яму раўня. Вышай нос, Віка!"

Калі-калі, а ў гэтую суботу Віка не чакала Вадзіка. Сядзела і вязала. Імклівыя спіцы бліскалі ў пальцах, лавілі шарсцяныя "вочкі", нанізвалі іх адно к аднаму. Клубок, як жывы, каціўся па лагчынцы пакрывала і падаваў нітку ў лоўкія пальцы Вікі.

Соня чытала нейкі тоўсты раман, час ад часу адкідвалася з падушкі, не то дзівілася, не то захаплялася: "Во любоў была!"

Стук у дзверы хутчэй напалохаў Віку, чым узрадаваў. Перарваныя думкі, што да гэтага плылі плаўна і спакойна, быццам доўгая шарсцяная нітка, пераравярнуліся ў вачах пытаннем.

Соня села на край ложка, абцягнула халацік:

— Можна.

— Добры вечар! — Вадзік зайшоў нясмела, як вінаваты, бы некалі, у классе пятым, у настаўніцкую, пасля пабітай шыбы.

— Каму — добры, каму — у рэбры! — Соня загарнула кнігу, палажыла яе пад падушку. — Ну, бывайце! Я на тэлевізар схаджу.

— Слухай, Віка, можа, мы на вуліцу пойдзем?

— Тады пачакай унізе...

Зіма была на зыходзе. Днём сонца плавіла рыхлую снежную крупу, цінькала на сугрэвах дахаў тонкімі капяжамі, а вечарам, схаладнелае ад яшчэ чэпкага марозу, хавалася за небакрай, як думаў у маленстве Вадзік, на чарэнь гарачай печы, каб заўтра, адагрэўшыся, выбліснуць ярка і пераможна. Пакінуты нанач, снежналедзяны палац зімы стаяў пад навіссю неба, адбіваючы ледзяным люстрам пералівы і блікі гарадскіх агнёў. Але па ўсім было відаць, што вось-вось рынецца веснавой вадой у лагчыны і сцёкі, папаўзе набрынялымі снягамі з дахаў, адступаючы перад цяплом. Скручаныя ад холаду, дрэвы гатовы былі выпрастаць зацёклыя мускулы галін, выбухнуць маладой зелянінай...

— Ведаеш, неба здаецца мне велізарнай ёлкай, з цацкамі, агнямі, серпанцінам... А пад ёй — мы, людзі,

маленькія, як казачныя гномікі... Віка, як заварожаная, глядзела ў вечаровае неба, і яно, гэтае неба, адбівалася ў яе глыбокіх вачах, высвечваючы злёгку заінелыя веі... Не, гэта была не Віка, гэта была тая Снягурачка, якая сышла з санак каляровай навагодняй паштоўкі, лёгкая і трапяткая, даверлівая і безабаронная. Губы яе, быццам нячутную замову, нешта шапталі...

Вадзік пахіснуўся і, перахапіўшы дыханне, прыпаў к яе губам... У заплюшчаных вачах закружылася, як ёлка, неба, бязгучна пачало аддаляцца... Ля скроні пругка цікаў гадзіннік, але і ён пачаў знікаць, пераходзячы ў стук сэрца... Цёплыя рукі Вікі абвілі шыю...

Над светам плыла першая вясновая ноч, ахопліваючы лёгкімі крыламі прыціхлы край, несучы ў сваім дыханні ласку і цяпло...

* * *

Пры Ван Ванычу такога не было. Звычайна балельшчыкі ішлі да іх. А тут...

Хлопцы хваляваліся. Праз два дні стартуе чэмпіянат першай лігі, і лягчэй было выбегчы на поле пад абвал, свіст, гаману трыбун, чым выйсці сюды, на клубную сцэну роднага завода, на вочы тых, каго ведаеш і часта бачыш... Гэтая сустрэча з балельшчыкамі, можа, і не трэба была, але захацеў трэнер Леанід Мікалаевіч: “Як гэта перад сваімі не паспавядацца? Людзі ж вераць у нас, ходзяць балець за нас... Давайце раскажам, на што гатовы”. І хлопцы мусілі згадзіцца.

Яны сядзелі на прыгожай сцэне, ніякавата саромеючыся рук сваіх, хаваючы позіркі за шыкоўныя букеты кветак з заводскай цяпліцы.

Зала была запоўнена бітком. Пажылыя, выкурыўшы на калідоры па колькі папярос, праціскаліся наперад, дзе ім трымалі месцы. Маладзейшыя стаялі радамі ля сцен. Сям-там сядзелі дзяўчаты і сталейшыя кабеты.

— Таварышы! — Бутакоў агледзеў залу, чакаючы цішыні.

Зала супакоілася, прыціхла.

— Таварышы! Сёння мы праводзім...

— У гэтым жа годзе з вышэйшай лігі правялі... — перабіў Бутакова нечы голас з галёркі.

Па зале прайшоў лёгкі смех.

— Сёння мы сустракаемся з нашай камандай. Праз два дні пачнецца чэмпіянат СССР па футболу. Федэрацыя рэспублікі паставіла перад дынамаўцамі адну задачу: вярнуцца ў вышэйшую лігу. Другіх задач няма. — Бутакоў зрабіў паўзу, зірнуў на футбалістаў. — А зараз я перадам слова старшаму трэнеру каманды Леаніду Мікалаевічу Рахаўцу.

Зала маўчала.

— Я даўно хацеў, каб такая сустрэча паміж балельшчыкамі і футбалістамі адбылася. Хай глянуць мае хлопцы ў вочы вам, праслаўленым завадчанам, і задумаюцца: не, не толькі гонар завода за іх варотамі ўзвышаецца. Гонар усёй рэспублікі стаіць за камандай!

Тры месяцы мы рабілі ўсё, каб выйсці на поле фізічна моцнымі. Ні адна каманда проста так ачкі нам не аддасць. Іх трэба будзе заваёўваць, заваёўваць у барацьбе цяжкай, напружанай, спартыўнай. Згубіць лягчэй, чым знайсці. І гэта трэба помніць.

Мы вучылі сваіх хлопцаў гуляць у адкрыты футбол, імклівы, шчыры, без грубасці, у той футбол, які падабаецца гледачам. Як атрымаецца — вам судзіць.

Змен у камандзе амаль няма. Перайшлі ў ташкенцкі “Пахтакор” Красецкі і Гракаў. Збоку мы нікога не бралі. Усе свае.

Выйсці ў вышэйшую лігу — другой задачы для нас няма. Будзем рады, калі апраўдаем вашы надзеі, — закончыў Леанід Мікалаевіч.

Зала маўчала.

— Гэтыя двое за доўгім рублём паперліся! — шапнуў Максім Сямёну Міхайлавічу.

Пасля выступалі хлопцы. Расказвалі пра трэніроўкі, пра каманду... Прайшлі тры доўгія, цяжкія і

ўпартыя месяцы, дзень у дзень, з дзвюма штодзённымі трэніроўкамі, з ручаямі поту, з пякучымі ўдарамі мячоў... А здавалася, няма пра што расказваць...

Выступіў дырэктар завода, за ім — некалькі балельшчыкаў. І ў канцы, калі ўжо, здавалася, сустрэча ідзе на спад і пара яе закругляць, на трыбуну выйшла прыбіральшчыца, бабка Насця. З гладка зачэсанай стрыжкай сівізны, у чорным касцюме, з дзесяткам баявых медалёў, яна ніякавата зірнула на залу, быццам першы раз узышла на такую высокую трыбуну...

Узбуджаныя слухачы заціхлі: ну што скажа яна, бабка Насця, далёкая ад футбола і ад ліхаманкі турнірнай табліцы?

— Сыночкі вы мае! Родныя... Калі вы гуляеце ў футбол па тэлевізары, я ўсё кідаю, сяджу як укопаная. Дзед кпіны строіць, а я перажываю...

Не мне, старой, вучыць вас гуляць, галы забіваць. А выйшла я сюды, каб расказаць пра адну кветачку — незабудку...

Хлопцы добра ведалі бабку Насцю. Яны прывыклі да яе бурклівай гаворкі, калі ў заводскай раздзявалцы, задоўга да гульні, яе ўвішны венік гнаў у металічны савок кінутую некім паперку. Яе швабра на калідоры пад стадыёнам, здаецца, ніколі не давала прасохнуць лінолеуму... І вось сёння... Ці яна гэта? Столькі ўзнагарод!

Бабка Насця зірнула не ў залу, а недзе туды, у веснавую цемень акна:

— У сорак чацвёртым шалелі фашысты. Чула погань, што мала па нашай зямлі хадзіць засталося. А нашы, як на крылах, у бой ірваліся. Як цяпер помню, акапаліся немцы на горцы адной, за балотцам. Кулямёты ўсе лапікі зямлі папрашывалі — не падысці. Але неяк трэба выганяць іх адтуль. Нашы ўсю ноч абстрэльвалі гэты ўзлобак, а раніцай, калі сонца навыкат выйшла, рынуліся ў атаку. І я, медсястра, за імі... Аднаго, другога перавязала. Трэцяга назад да палаткі дацягнула і зноў пад агонь. А тут

самалёты іхнія запікіравалі, бамбіць пачалі. Залеглі нашы. Мне асколкам па левай руцэ чыркнула. Закасала я рукаво, сяк-так рану перацягнула, зубамі і правай рукой вузел завязала. Далей паўзу. І раптам перада мной як бабахнула. Бомба з самалёта. Мінут колькі нічога не помніла. Ачомалася, бачу: на краі варонкі ляжу, а ў ёй, унізе, наш сяржант ранены... З'ехала-скацілася на дно, а ў самой у скронях стукае, рука левая нямее, сіл няма... Учапілася я ў мокры шынель, на спіну, бедалагу, перавярнула. А ён стогне без памяці, кроў з надброўя сочыцца. Цягнула я, цягнула — рады не дам! Выбрацца з праклятай варонкі не магу. Усё, думаю, і яго не ўратую, і сама тут дайду. Зірнула я наверх, на край яміны, і раптам бачу: на саменькім краёчку незабудка расце. Сіненькая, далікатная ўся, сюды, у варонку, заглядвае... Ну, думаю, калі дацягнуся да цябе, то жыць буду. Паднатужылася я і па сантыметру пачала ўверх караскацца. Сама цераблюся і раненага валаку. Разы два прытомнасць губляла. Але адыду, зірну на край варонкі і зноў паўзу. Так і выцягнула сяржанта. Дай, думаю, сарву незабудку на памяць. Але рука не зрабіла гэтага. А калі яшчэ хто-небудзь ранены сюды трапіць? Можа, і яму незабудка паможа выбрацца...

Унукі вы мае дарагія! Калі цяжка вам стане, крывавым потам вочы засціць, ногі ад стомы анямеюць, успомніце тую сіненькую незабудку і схамяніцеся!

Гром апладысментаў правёў бабку Насцю ў залу, а хлопцы ад сораму не маглі падняць вочы...

* * *

Турнірная табліца — як лесвіца на шаснаццаты паверх: доўгая, крутая, і з кожнай прыступкай далей — усё цяжэйшая. Дабрацца туды, на верхнія паверхі прасторы, пад цёплае сонца футбольнай Феміды, — ой як няпроста! Чорныя квадраты стыкавых гульняў, дзелячы лічбы першага і другога круга, паволі ўзнімаюцца

ўверх, завяршаюць апошнім кубікам зрэз уяўнай піраміды. Яна, гэтая піраміда, дзесяткамі варыянтаў і суровасцю разлікаў гняце і гне тыя каманды, што па гульні аказаліся ўнізе, пад прэсам вылету ў ніжэйшую лігу. Колькі сілы, колькі вытрымкі і ўмення трэба ім, каб вытрымаць гэты цяжар, мужна выстаяць і, адолеўшы горыч паражэнняў, згуляць натхнёна, акрылена, узняцца на колькі приступак вышэй, пакінуўшы "мёртвую" зону.

Яна, гэтая піраміда, займае дух і ў тых каманд, якія замахнуліся на золата. Нялёгка было ім, узляцеўшы на крылах перамог, выстаяць, утрымацца ў кагорце лепшых. Так і кружыцца галава ад вышыні, ад славы, ад газетнай хвальбы, ад уяўлення таго, што ты — вышэй за іншых, мацнейшы сярод мацнейшых у майстэрстве, у тактыцы, ва ўменні забіць мяч і не прапусціць яго ў свае вароты... Але ж гэта яшчэ не ўсё. Засталося зрабіць яшчэ некалькі крокаў да апошняй, залатой прыступкі. Крокаў самых цяжкіх, самых напружаных, на грані пераадолення сябе, на зыходзе сіл і сабранай за сезон стомы... Вось тут важна не расслабіцца, не размагніціцца, каб, выйшаўшы самаўпэўненым на гульню, не прайграць, не страціць надзею і ўпэўненасць...

Яна, гэтая піраміда, — як гісторыя аднаго футбольнага года. У яе сотах-ячэйках захаваны вынікі гарачых сустрэч, лік салодкіх перамог і горкіх паражэнняў, холад бляклых нічыіх, бязлітасная статыстыка забітых і прапушчаных мячоў... Яна, гэтая піраміда, — як шырокае люстэрка дзіўных лічбаў, якія доўга яшчэ будуць расшыфроўваць, вар'іраваць і тасаваць па-свойму футбольныя каментатары і аглядальнікі, балельшчыкі і фанатыкі футбола...

* * *

Футбольны сезон, як калейдаскоп, раскрываў перад вачыма, разгортваў вабную зелень стадыёнаў.

Гарады паўставалі як прывіды, не паспяваючы добра адбіцца ў памяці, трывала засесці ў кругаверці ўспамінаў, а каляндар прыспешваў далей — зноў мільгалі ў шыбах "Ікаруса" новыя плошчы і вуліцы.

Вадзік, прыязджаючы ў новы горад, адсопваўся пасля ранішняй трэніроўкі, пераадзяваўся і спяшаўся пахадзіць па музеях, зазірнуць у славутыя паркі, пастаяць перад помнікамі. Толькі так, пяшком, можна было ўвабраць у сябе тое адметнае, чым розніўся гэты горад ад другога.

Але часцей вольнага часу не было. Кожнай гульні прыходзілася аддаваць усё, на што здатны, выкладвацца да астатку, да знямогі, да сутаргі ў мышцах. Пасля апошняга свістка, калі здавалася, усё, сіл няма і няма адкуль ім брацца, хлопцы, як загнаныя, брылі ў парылку, стагналі пад дужымі рукамі масажыста, адлежваліся на верхніх прыступках, падлівалі ў засмяглы зеў пячуркі кіпень, гонячы ртуць да вяршка градусніка, і, як захмялелыя, ішлі да басейна, з плёскатам кідаліся ў блакітна-зялёныя хвалі вады. Пасля басейна зноў памалу ажывалі, крыялі, быццам растрачаная сіла зноў уваходзіла ў ногі, у рукі, запальвала жывыя агеньчыкі ў вачах. Тады ўжо зачыналася гаворка, несліся жарты, выбухваў смех. І ўсё ж тыя сілы, згубленыя ў матчы, каб вярнуцца да канца ў кожную тканку цела, вымушалі да спакою і перадыху. Трэба было проста адляжацца, расслабіцца, час ад часу масажыруючы анямелыя ікры і бёдры ног, уцерці для разагрэву ў прыпухлыя кровападцёкі фіналгон. А яшчэ павінна была адысці ад схваткі душа, узбуджаная напружаным саперніцтвам і вострымі адзінаборствамі, супакоіцца ад уяўлення небяспечных момантаў і паўтарэння ў памяці незабітых галоў...

Дарогі, гарады, стадыёны... Яны будуць успамінацца пазней, у пярэрвах паміж трэніроўкамі і гульнямі, тады, калі закончыцца чэмпіянат і схлыне людская мітусня ля стадыёна, утаймуюцца эмоцыі і страсці.

Вось тады памяць пачне пракручваць, як каляровыя слайды, гэтыя блізкія і такія далёкія ўспаміны.



Першая з дзвюх гульняў, якія павінны былі вырашыць усё, назначана федэрацыяй на суботу. А да гэтага...

Вадзік, лежачы на спіне, круціць нагамі трэнажор — уверх-уніз, уверх-уніз... Як наліты свінцом веласіпед... Ікры ног то расслабляюцца, то зноў спружыніста камянеюць, адольваючы цяжар металу і натугу ланцугоў. Сэрца б'ецца недзе там, каля спіны, быццам штурхаючы левай лапаткай паралонавы мат. Дыханне роўнае і глыбокае. Кончыкі пальцаў, учапіўшыся ў пластмасавыя поручні, аж пабялелі. Вадзік не расплюшчвае вочы, толькі зрэдку міргне вейкамі, каб убачыць мінутную стрэлку насценнага гадзінніка...

А да гэтага былі два цяжкія кругі футбольнага чэмпіянату.

Дынамаўцы пачалі яго ўпэўнена, быццам ні мінуты не сумняваліся ў сваёй сіле. Форварды проста затузвалі абарону саперніка, пастаянна перамяшчаючыся, выходзячы на вольнае месца, наносячы самыя нечаканыя ўдары з розных пазіцый. Сярэдняя лінія раз за разам закідвала мяч нападаючым: то за спіны стоперам, то ўразрэз паміж ігракамі або пасля імклівых флангавых праходаў — прастрэлы і навесы ў штрафную. Любой камандзе цяжка было стрымаць добра наладжаную, накіраваную разумнай рукой дынамаўскую машыну. І першыя тры каманды не выстаялі. А гэта ж былі першыя гульні на выездзе, калі красавіцкае сонца над Беларуссю не надта ўгрэўнае, калі газон футбольнага поля пад плёнкай толькі-толькі зачынае рунець, роўна зяленячы вытаптаныя лапікі ў варотах і прастору цэнтральнага круга. Яны, гэтыя

тры гульні, лёгка выйграныя, бідаць, крыху і размагніцілі каманду. Падалося, што тут, у першай лізе, усіх шапкамі можна закідаць. А тым больш дзве наступныя гульні — дома. І быццам удар пад дых — два паражэнні на сваім стадыёне. Як ні настройваў Леанід Мікалаевіч, не ўбераглікя, аслабілі гульню...

Вадзік тады зразумеў, што лёгкіх матчаў не будзе. Ды і хто аддасць за так два ачкі? Трэба гуляць, гуляць да канца, выкладаючыся, не пераводзячы дыханне. Бо інакш — цябе пакараюць. І хоць гэта былі паражэнні з невялікім лікам, усяго прапусцілі па аднаму мячу, але горыч засталася. Застаўся і той зняважлівы свіст, якім праводзілі іх трыбуны.

Дынамаўцы зноў схамянуліся, зноў пачалі гуляць размашыста і прыгожа, плетучы сеткі прадуманых камбінацый, выводзячы на завяршальны ўдар сваіх імклівых форвардаў. Зноў замільгалі ўверсе прыступкі турнірнай табліцы, накапліваючы насупраць назвы роднай каманды перамогі і ачкі.

Былі і тры бляклыя нічые. Яны выпалі на канец першага круга, калі каманда, ірвучыся на першае месца, крыху стамілася ды і пяць асноўных ігракоў прапусцілі па дзве-тры гульні, залечвалі вывіхі і расцяжэнні. Пра іх, гэтыя нічые, не хацелася ўспамінаць.

А потым быў яшчэ адзін круг, круг на другім дыханні, свежым і ўпэўненым. Праявіліся тыя камбінацыі, якія развучвалі на трэніроўках, наладзіліся сувязі між лініямі, ясна вырысаваліся варыянты падстраховак пры падключэнні абаронцаў у нападзенне, з'явілася ўпэўненасць — а яна была далёка ад самаўпэўненасці — у правільнасці сваёй тактыкі, свайго выбару гульні. Каманда больш не пакаўзнулася, упэўнена выйграла малыя залатыя медалі. Але гэта было не ўсё. Наперадзе трывожна блізіліся дзве гульні пераходнага турніру. З "Пахтакорам" і "Лакаматы-

вам". Адна каманда застанецца ў вышэйшай лізе, дзве апусцяцца ў першую...

Рэзкі свісток Леаніда Мікалаевіча перабіў думкі. Вадзік устаў з паралона, страсянуў анямелымі рукамі.

— Перайшлі на жангліраванне!

Правай, левай, правай, левай, насок, насок, пятка, бядро... Мяч, як заварожаны, слухаўся ног...

Яскрава, як у запаволеных кіназдымках, паўставаў кожны забіты гол. З іх, дваццаці трох, прыгожых і нечаканых, прадуманых і спантаных, часам непадуладных ніякім сілам і законам логікі, Вадзік асабліва любіў узнаўляць у памяці тры галы. І хаця, здаецца, кожны забіты мяч быў радасным і патрэбным для каманды, але гэтыя тры стаялі асобна. Можа, таму, што забіты былі яны на самым парыве натхнення, на ўзлёце майстэрства і фантазіі, забіты камандам, якія ўмелі абараняцца і за сезон не так многа прапускалі.

Той мяч, які ўляцеў у вароты "Металурга", быў вылучаны на конкурс лепшага гола месяца. Вадзік, што называецца, "пасвіўся" ля чужых варот, мяняючы пазіцыі, робячы нечаканыя рыўкі на адкрытае месца, смела ішоў у барацьбу за верхавыя мячы. Але забіць ніяк не мог: абарона была напагатове, у самы апошні міг перакрывала шлях мячу. Два рослыя апекуны задышна сцераглі яго рыўкі, часам выбіваючы мяч не так тэхнічна, як жорстка. Да канца другога тайма заставалася мінут дзесяць, а на табло гарэлі два велізарныя нязрушныя нулі. І тут, калі Вадзік быў спіной да варот, шчыльна прыкрыты, Валера Рахавец зрабіў на яго перадачу. Мяч ішоў у паўметры ад зямлі, на меніск правага калена. Развярнуўшыся, Вадзік пяткай перакінуў мяч цераз сябе і двух абаронцаў, ірвануў улева і адразу ж — управа, за іх спіны, і, не даўшы мячу прызямліцца, прабіў левай у верхні левы вугал. Варатар, як маланка, зрэагаваў на ўдар, але выцягнуць мяч з самай "дзявяткі" не змог.

Другі гол-прыгажун Вадзік забіў дома ў гульні з "Карпатамі". Валодзя Малянскі прайшоў па правым

краі і нізам стральнуў у варатарскую пляцоўку. Прабіць з развароту было немагчыма: блізка ды і бліжні вугал быў закрыты. Варатар, чакаючы, што нападаючы адкіне мяч каму-небудзь пад удар, не пайшоў на перахват. Вадзік жа, прапусціўшы яго між ног, у апошні міг пяткай правай нагі, не адрываючы апорную левую, пад сабой прабіў у правы ніжні вугал. Гэта таксама быў адзіны гол перамогі.

А трэці гол быў забіты на выездзе, у Хабараўску. Дынамаўцы ніяк не маглі прабіцца праз густы і ўмелы заслон армейцаў. Удары здалёк, хоць і за моцным ветрам, браў варатар. Браў упэўнена і прыгожа. І вось тады... Вадзік і цяпер не знойдзе прычыны, чаму ён тады пайшоў падаваць вуглавы — ці не дваццаты па ліку? Былі штатныя спецы, як казалі хлопцы, умельцы падкрутак і навесаў, злева і справа, а тут... “Дай я!” — выдыхнуў тады Вадзік. Яфімаў і не пярэчыў. Аддаў мяч і пабег у штрафную. Вадзік счакаў, пакуль хлопцы занялі пазіцыі для рыўка, глянуў на трапяткую чырвань флажка і прабіў. Не падаў, а іменна прабіў, прабіў у дальні левы вугал, разлічыўшы сілу ветру. Варатар — адзін раз за ўсю гульню — празяваў выхад, а мо, засланіўшы, яму перашкодзілі. Мяч дугой чыста ўвайшоў у вароты.

І ўсё ж дарагімі яму былі ўсе галы, забітыя ў жорсткім змаганні, у напружаным супраціўленні саперніка, калі цябе б’юць, трымаюць, а то і калечаць, а ты лезеш, ірвешся, выскокваеш, ляціш, здаецца, на злом галавы і — забіваеш. У гэтым была і ёсць вабнасць футбола, мужнасць і стойкасць сапраўдных мужчын, магнітная сіла непаўторнага відовішча.

* * *

— У варотах — Макевіч. У абароне — Арцёмаў, Сілаў, Сіваліхаў, злева — Сакалоўскі. Сярэдняя

лінія — Дудко, Рахавец, Малянскі. Нападзенне — Белы, Насевіч, Ясінскі, — Леанід Мікалаевіч загарнуў блакнот. — Усё, гуляем, як гулялі. Пераадзявайцеся...

Вадзік, здаецца, прывык да шуму трыбун, нават палюбіў яго. Ён не мог уявіць, каб раптам недзе зніклі балельшчыкі, прапалі свіст, апладысменты, рознагалосіца і выкрыкі. Як бы тады яны гулялі, на пустым стадыёне? І для каго?

— Трымайся, форвард! Сёння цябе персанальна будуць берагчы, — Валодзя Малянскі паляпаў па плячы. — Не бойся толькі, часцей бі.

Вадзік, цокаючы шыпамі па кафельных плітках, паправіў футболку:

— Хай яны баяцца... А нам што? Мы прывыклі.

Стадыён узарваўся апладысментамі.

— Ого, сёння — бітком, яблыку няма дзе ўпасці. — Валера Рахавец кінуў перад сабой мяч і ступіў на аксамітны мурог поля.

— Нашы ўсе... А хто ў іх выйдзе? — Максім пачаў адкрываць пачак папярос, але — ці то перадумаў, ці рашыў закурыць пасля — схаваў яго назад у плашч. — Глядзі, глядзі, Сямён! І Гракаў, і Красецкі... Ну, варагі! Не пабаяліся, што дома, супраць сваіх.

Сямён Міхайлавіч разгарнуў праграмку:

— Вось табе і псіхалагічная атака...

— Дзядзя Сёма, а вунь той хто, пад дзевятым? — Віця трымаўся за руку Сямёна Міхайлавіча, быццам баяўся згубіць яе і згубіцца сам у гэтым стракатым, крыклівым прыбоі трыбун.

— Дзевяты? Наш ці іхні?

— Наш, наш.

— Валодзя Белы — нападаючы.

— Відаць, першы тайм крыху ззаду будзе гуляць, у цэнтры... — Максім зноў палез па цыгарэты, але, нешта ўспомніўшы, не выняў іх, а дастаў з другой кішэні кулёк з "Барбарысам". — Бяры, Віця, смачны...

Рэзкі пранізлівы свісток суддзі перарваў размінку. Запасныя іграні сабралі ў сетку мячы, пакінулі поле.

Вадзік узяў у масажыста тэрмас, прапаласкаў рот. Не, ён не хваляваўся. Але ўсё ж унутраныя нервовыя дрыжыкі ішлі ў ногі, пакуль што расхалоджвалі іх. Каб не выдаць сябе, нагнуўся, падцягнуў гетры, некалькі разоў падскочыў, быццам спрабуючы спружыністасць буц.

Футбольны марш развёў каманды па крузе. Капітаны прывіталіся, паспрабавалі рукамі мяч.

Судзіў сёння Федаркоў, той самы Федаркоў, якога ніколі федэрацыя не пасылала на дагаварныя гульні тады, калі трэба было "зрабіць" лік, патрэбны адной ці другой камандзе. Федаркоў заставаўся цвёрдым: судзіць — дык па правілах, па гульні.

— Папярэджваю: без матаў, без грубасці, — манета бліснула ўгары і, перавярнуўшыся разоў колькі, упала рэшкай на траву. — Што?

— Вароты, — капітан "Пахтакора" Руслан Салімаў перайшоў на другі бок.

— Ваш мяч, — Федаркоў кіўнуў на дынамаўцаў, паставіў мяч на цэнтр, зірнуў на секундамер, пагля-дзеў на адну палавіну поля, на другую. — Гатовы?

Валера Рахавец падняў руку. Салімаў агледзеў сваіх — таксама падняў руку.

Федаркоў даў свісток, націснуў на галоўку секундамера.

Віка глядзела на поле, але нікога не заўважала. Усю прастору вачэй заняў Вадзік, быццам адзін ён з дваццаці двух прымагніціў яе позірк, павёў за сабой, з мячом і без мяча. Ёй здавалася, што Вадзік сёння заб'е, абавязкова заб'е гол. Не можа не забіць. Бо яна — тут, з ім. Ён павінен адчуваць гэта.

Віка бачыла, як за Вадзікам адразу ж пабег рослы ігрок "Пахтакора". І захвалявалася: а што, як падаб'е, пакалечыць? Як тады, у той гульні...

Было адразу відаць, што "Пахтакор" на гульню настроіўся. Абарона пільна сачыла за перамяшчэн-

нямі Ясінскага і Насевіча. Валодзя Белы адышоў бліжэй да цэнтра, каб не было правалаў у паўабароне. Гракаў змагаўся за кожны мяч, пластаючыся ў падкатах, выскокваючы з-за спін дынамаўцаў. Салімаў умела трымаў ніткі гульні ў сваіх руках. Невысокі, смуглы, ён умела ператрымліваў мяч, чакаючы рыўкоў нападаючых, і тут жа закідваў мяч на выхад, закідваў умела і тонка, разлічваючы адразу некалькі варыянтаў атакі. Красецкі заставаўся сабой: як заўсёды пасвіўся на подступах да штрафной, не надта выжыльваючыся, не вельмі памагаючы сваім у цэнтры і абароне.

З першага погляду нават дзіўна было, што "Пахтакор" дакаціўся да апошняга месца і трапіў у пераходны турнір. Здаецца, усё збалансавана, усё выверана, усе на сваіх месцах. А дакаціўся ж!

Леанід Мікалаевіч заёрзаў, зірнуў на табло. Ішла адзінаццатая мінута першага тайма.

— Вадзік, па сваім краі! — Малянскі даў пас уразрэз, на ход. Вадзік лёгка пайшоў па краі, абвёў раз, абвёў другі раз свайго апекуна, пачаў рэзаць вугал да штрафной. Справа зрабіў рывок Насевіч. Вадзік прастрэліў. Варатар не дацягнуўся да мяча. Не дацягнуўся да яго і Ігар.

— Ідзі сам, урывайся ў штрафную. Ці заб'еш, ці саб'юць.

Валера Рахавец ацёр рукавом мокры лоб. На грудзях яго футболку прабіў пот, і мокрая пляма патроху расла, шырылася, як агонь, займаючыся памалу, а пасля ўсё больш, вырастаючы ў гарачы пажар.

Вадзік вярнуўся назад, каб перакрыць Салімава ля вуглавога. Капітан "Пахтакора" разбегся, высока падаў. Сіваліхаў, апярэдзіўшы Красецкага, выбіў мяч за бакавую.

Нехта штурхнуў Вадзіка ў плячо:

— Ну, што, стары? Пара плаціць...

Вадзік азірнуўся — нахабная ўсмешка Красецкага, вочы злыя, з прыжмурам, быццам — на табе, чытай: "Пападзіся толькі мне пад нагу!"

Вадзік вытрымаў позірк, прабег побач:

— Заплачу, чым змагу...

— Ну, ну, паглядзім... — як прытоеная пагроза, прагучала ўслед.

"Шырай, шырай... І чаго яны ў цэнтры валэндаюцца? Па краях, расцягнуць, прастрэліць... Ну, ідзі ж, ідзі, Ясінскі! — Леанід Мікалаевіч нервова перабіраў вострыя зубчыкі расчоскі. — Аддай, аддай назад, пад удар! Эх, молада-зелена!"

Яму, старшаму трэнеру, было б крыўдна прайграць сёння. Хаця ўсё магло быць. Проста шкада было хлопцаў. Паўгода, лічы, аддалі, каб знайсці сваю гульню, адчуць сябе... І раптам — вылецець з самага парога вышэйшай? Ён-то вытрымае. А хлопцы? Ці вытрымаюць яны? Ці не зломяцца пасля паражэння?

І усё ж рана думаць аб пройгрышы. Дваццаць трэцяя мінута. Пакуль — два нулі.

Салімаў абвёў Дудко, пайшоў сам на абарону, пайшоў, як здавалася збоку, па-заліхвацку, гатовы раскідаць усіх на сваім шляху. Сіваліхаў зірнуў налева — Красецкага трымаў Сакалоўскі, справа Гракава сцераглі Сілаў з Арцёмавым. Гэтай імгненнай замінкі хапіла, каб Салімаў прабіў...

Мяч урэзаўся ў перакладзіну, адскочыў на зямлю, зрыкашэціў у правую штангу...

Макевіч зяўнуў удар. Ды і Салімаў сёння яшчэ не біў. То падаваў, то выводзіў другіх, а тут... І ўсё ж рэакцыя кінула яго ўправа. Ён у падзенні злавіў мяч, злавіў за лініяй варот і тут жа, выцясніўшы яго за лінію, накрыў целам — а гэта ўжо было поле! Галоўны суддзя быў далекавата, бакавы не паспеў ды і наўрад ці бачыў траекторыю адскоку...

Салімаў і сам не бачыў, ці пабываў мяч за лініяй варот. Ды і дынамаўцы не ўгледзелі, стаялі як укопаныя, чакаючы рашэння суддзі.

Федаркоў падбег да Макевіча:

— Быў ці не?

Варта было сказаць "не", і Федаркоў махне рукой — выбівай, гульня працягваецца. Мяч у сетку не ўляцеў. Нават відэазапіс наўрад ці выхапіў гэты эпізод.

— Быў ці не? — Федаркоў нагнуўся, дакрануўся да пляча.

— Быў... — Жэня Макевіч устаў, аддаў мяч у рукі суддзі.

Федаркоў даў свісток, паказаў на цэнтр — гол залічаны.

Да варатара падбег Дудко:

— Ты што, во! — фінтануўся?

— Быў гол, вось табе і во... — ледзь вымавіў Макевіч.

Ішла трыццаць шостая мінута першага тайма.

— Вось табе і на! — Максім дастаў пачак, адслаіў цэлафанавую абгортку, але не выняў цыгарэту, схаваў назад у кішэню.

— Удар — што трэба. — Сямён Міхайлавіч зірнуў у праграмку. — Трынаццаты гол Салімава — чортаў тузін. А кажуць — нешчаслівы...

— Дзядзя Сёма, — Віця так і не адпусціў руку, — а нашы ім заб'юць?

— Заб'юць, Віця. Толькі верыць трэба моцна, што заб'юць.

— Вер — не вер, а гол — напавер! — Максім выняў карамелькі, пачаставаў Віцю і Сямёна Міхайлавіча, разгарнуў адну сам. — Хто думаў? Хто думаў...

"Хаця б да перапынку зраўняць. Там лягчэй будзе", — падумаў Вадзік.

Дынамаўцы пачалі з цэнтра.

"Пахтакор", забіўшы гол, заасцярожнічаў, адразу ж адцягнуў аднаго паўабаронцу назад і перавёў аднаго нападаючага ў сярэднюю лінію. Па ўсім было відаць, што ташкенцы пастараюцца ўтрымаць гэтую зыбкую перавагу, так нечакана здабытую. Але гэта

была ўжо сініца ў руцэ, хаця і журавель у небе апусціўся ніжэй.

Вадзік злаваўся. Злаваўся на самога сябе. Другім забіваў, забіваў тады, калі лішні гол ужо нічога не вырашаў, а тут... Вось дзе пакажы!

Сэрца рыўкамі выбівала дыханне, аж гаркавы ком пераціяў гарляк, і здавалася, не ком, а само сэрца падкацілася к гарляку, каб перакрыць доступ кіслароду, доступ новым сілам. Ды і адкуль узяцца ім?

"Пара плаціць"... — успомнілася крывая ўхмылка Красецкага...

Вадзік і сам не заўважыў, як вымавіў уголас:

— Пара...

"Вадзік, міленькі, ну забі, забі! Прашу цябе!" — Віка скамячыла ў руках каляровую праграмку. Міжволі, чакаючы ўдару па варотах, яна нахілілася ўперад. Калі ён не пачуў яе шэпт, то павінен адчуць... Абавязкова павінен!

Вадзік атрымаў пас ад Валеры Рахаўца, фінтом улажыў свайго стаража і, паказаўшы корпусам, што пойдзе ўлева, раптам праскочыў між двух стопераў, падправіў мяч пад левую нагу...

Варатар прыкрыў бліжні вугал.

"Бі, Вадзік! Бі!.."

Трэба было біць. Пазіцыя была не лепшая, а са сваіх — нікога. Левай — у верхні левы!

Вадзік прабіў і, падкошаны нечымі шыпамі, упаў тут жа, у левым вуглу штрафной плошчы...

Выбух стадыёна падхапіў Віку ў радасным парыве...

Вакол бушавала людская радасць, рукі трэслі плашчамі і парасонамі. Незнаёмыя людзі цалаваліся, паціскалі адзін аднаму рукі. Табло патушыла нуль і высвеціла такую ж адзінку, якая свяцілася пад "Пахтакорам".

Ішла сорак пятая мінута першага тайма.

* * *

Вадзік расшнураваў буцу на правай назе, скінуў шарсцяную шкарпэтку. Два чырвоныя пісягі акрэслілі стапу ад костачкі да вялікага пальца. Гракаў бачыў, куды біць. І біў свядома, біў быццам у падкаце, але не ў левую, якая біла па мячы, а ў правую, апорную. Добра, што шыпы слізганулі па версе.

Паўлежачы, Вадзік заплюшчыў вочы, і прыгадалася яму пара бескляпотнага маленства.

Яны, малыя, дзе толькі не шасталі ў пошуках прыгод і схованак, аблюбоўваючы свае непратаптаныя сцежкі. Колькі разоў у дзень шалёная беганіна вадзіла іх, басаногіх, па цагельніцкіх кар'ерах, апякаючы ступні ног гарачым прысакам прыхаванага жару. Яго вывозілі з печы завода, падбіраючы ўслед за агнём, ссыпалі ля вады невысокімі капцамі. Попел падманна чах, святлеў, але ўсярэдзіне яшэ доўга ірдзела бяздымнае пекла гарачага шлаку: паспрабуй ступі ў гэты пульхны астравок! Тры дні пасля будуць смылець далікатныя пухіры, цэлы тыдзень будзе шчыраваць маці, мажучы апёкі гусіным шмальцам. А калі скура загойвалася, зноў няўтрымна звалі тыя ж сцежкі, гарачыя, нязведаныя да канца.

І добра запомніўся адзін з летніх дзён, калі ён ушчарэпіўся на шула, дрыготка, балансуючы рукамі, пайшоў па жэрдцы частаколу. Бацька, выйшаўшы на пругмень з гумна, мацюкнуўся: "Злезь, акаянны!" Але як толькі бацька знік у праёме дзвярэй, Вадзік зноў ускараскаўся на жэрдку, зноў захістаў высокае прасла. Бацька выйшаў нечакана. Вадзік скочыў у бульбоўнік і — сеў, не могучы падняцца. Востры зуб перавернутых грабель увайшоў у мякаць нагі. Але не так ад болю, як ад страху перад бацькам, пабялеў, сцяўся, як перад яшчэ большым ударам. Бацька глянуў зверху і ўсё зразумеў. "Сядзі!" — абышоўшы плот праз вес-

ніцы ён асцярожна вырваў бліпічасты зуб з нагі, падняў Вадзіка на рукі і данёс да вядра з вадой. Прамыўшы рану, нарваў ля плота чыстацелу і жоўтай ёдзістай вадкасцю змазаў рану, перавязаў нагу белай тканінай.

Вадзік адляжаў тады два тыдні. Бацька ніколі не ўспамінаў пра тое здарэнне.

Хлопцы маўчалі. Нічога не гаварыў і Леанід Мікалаевіч. Ды і што было гаварыць? Кожны рабіў, што мог. Усе гулялі ў сваю сілу, і вінаваціць каго-небудзь за прапушчаны гол Леанід Мікалаевіч не мог.

Нага балела. Вадзік узяў са століка шкляную ампулу хлорэтылу, надламаў дзюбку, і халодная струя замарозкі з шыпеннем ударыла ў пад'ём ступні, ахалоджваючы яго, аддаляючы боль, раствараючы яго ў шыпучых пузырах прыемнага амярцвення. Мінут дваццаць ён не адчуе адранцвелай паверхні нагі, пакуль замарозка не адтае, не закіпіць ад разгарачанай крыві. Тады боль зноў пачне падступаць, здрадліва дапякаць суставы.

— Усё, на выхад! — Леанід Мікалаевіч падняўся. — Пастарайцеся шырэй, расцягніце абарону. І не збаўляць тэмп.

Хлопцы пачалі ўставаць.

* * *

Іван Іванавіч глядзеў на футбольнае поле і радаваўся. Дынамаўцы закруцілі кругаверць ля варот "Пахтакора", шукаючы акно для прарыву ці ўдару. Абарона ледзь-ледзь стрымлівала рыўкі Ясінскага і Насевіча, варатар з цяжкасцю парыраваў магутныя ўдары Рахаўца і Малянскага. З глыбіні пачаў падключацца Лёня Арцёмаў, нанёсшы некалькі прыцэльных удараў здалёк.

Не ў крыўду сабе, Іван Іванавіч адзначыў, што дынамаўская каманда стала камандай. З'явіўся свой

почырк, нават элегантнасць. Тое, чаго некалі не зрабіў ён, дабіўся Лёня Рахавец.

Але і "Пахтакор" не губляў свайго шансу. Стрымаўшы некалькі вострых атак "Дынама", ташкентцы ад проста адбойных удараў перайшлі да нацэленых перадач. Наступны забіты гол мог быць і апошнім.

На рад ніжэй ад Вікі высокі мажны мужчына ўключыў маленькі радыёпрыёмнік. Голас каментатара клаўся на хвалю музыкі, потым, прыглушаны нейкай станцыяй, як аддаляўся і праз хвіліну зноў праясняўся ў эфіры.

Віка нагнулася, каб пачуць прозвішча, з-за якога яна прыйшла сюды, на стадыён.

"...Адзін — адзін. Контратака "Пахтакора". Мяч у Красецкага. Можна аддаць Салімаву: ён выйшаў нечакана на правы край. Але не, Красецкі ператрымлівае мяч, ідзе сам да штрафной. Сіваліхаў перакрывае зону і ў падкаце спрабуе выбіць мяч. Удар Красецкага! Але куды? У нагу абаронцы? Сіваліхаў не ўстае. Мяч у цэнтры поля... Суддзя свістка не дае, хаця мне здалося, што ўдар быў наўмысным — не па мячы, а ў нагу. Нарэшце гульня спынена, мяч пакінуў поле. Бяжыць урач, бяжыць масажыст... Калі Сіваліхаў не зможа прадоўжыць гульню, "Дынама" страціць цэнтральнага абаронцу, і не проста абаронцу, а чысцільшчыка. Так і ёсць — траўма. Масажыст паказвае рукамі — патрэбна замена. Я думаю, суддзя прыбавіць мінуту за вымушаную затрымку. А Сіваліхаў, кульгаючы, пакідае поле. Хто ж выходзіць? Сяргей Петрушэня. Ён — пад трынаццатым нумарам. Ігрок сярэдняй лініі. Ну, што ж, відаць, трэнер адцягне некага ў абарону. Валерый Рахавец падбягае к Дудко. Так, я не памыліўся: Уладзімір Дудко адыходзіць назад, на месца цэнтральнага абаронцы. Свісток — гульня працягваецца. Ідзе сямідзесятая мінута..."

Віка адхінулася, зірнула на застадыённую далеч. Недзе там, з-за небакраю, уздымалася чорная хмара.

— Пусці разок, стары... Зрабі выгляд, што не паспеў... — Красецкі плячо ў плячо ішоў з Дудко.

Збоку здавалася, што два футбалісты, сябры ў мінулым, перакідваюцца нязначнымі фразамі, хутчэй за ўсё — насмешкамі.

— Адзін раз, стары, і — "Жыгуль"! — Красецкі крыва ўсміхнуўся.

Дудко маўчаў, уважліва сачыў за гульнёй каля чужых варот.

— Што табе тут — маслам мажуць? Павел — на "Волзе", я — на "Волзе", а ты? Што табе каштуе...

— Я... А ты... А каманда? Што скажа каманда? Не, не магу я...

— Што табе каманда! К нам пераляціш. Адвалім трыста калоў, кватэру...

Дудко не паспеў адказаць. Справа ішоў навес у штрафную. Апярэдзіўшы Сілава, ён галавой адбіў мяч на Рахаўца.

— Ну, што, кера? — Красецкі не адступаў.

— Я ж сказаў: не магу! І не прасі.

— Ну і балда! Будзеш шкадаваць, — Красецкі злосна сплюнуў, адышоў на левы бок поля.

Насевіч ірвануўся па сваім правым краі. Левы і цэнтральны абаронцы ташкенцаў падцягнуліся, перакрылі зону. Трэба было падаваць. Вадзік ішоў паралельна, чакаючы прастрэлу, не выходзячы на адну лінію — у афсайд — з апошнім іграком "Пахтакора". Ігар падаў. Мяч ішоў не дугой, а паралельна зямлі, метры на два ад яе. Вадзік, апярэдзіўшы Салімава, выслізгнуў з-за спіны і ў скачку галавой прабіў у правы вугал. Варатар акрабатычна адбіў мяч на вуглавы. Трыбуны ахнулі. Прыгожы быў удар — прыгожы і кідок варатара.

— Вадзік, глядзі, на цябе Красецкі палюе, — Валодзя Малянскі паляпаў па плячы і пабег падаваць вуглавы.

У азарце, у парыве нялёгкага змагання, у напружаным саперніцтве ўсё магло быць. Але Вадзік не прызнаваў грубай гульні, не мог цярпець подласці, удараў з-за спіны, "выпадковых" тырчкоў пад лыжачку, пад дых. А самымі страшнымі сярод гэтых варварскіх прыёмаў былі два. Першы — удар у меніск. З-за іх, меніскаў, часцей за ўсё развіталіся маладыя здаравякі з футболам, развіталіся тады, калі наступаў самы росквіт таленту, кіпелі сілы, прыходзіла футбольная мудрасць. Многія ўсё жыццё мучыліся, адкачваючы вадкасць з калена, а то і кладліся пад аперацыйны нож. Калецтва гэтае вярэдзіла нагу, выклікала горкія ўспаміны футбольнай маладосці.

Але другі прыём быў страшнейшы. Калі ў натхнёным, імклівым рыўку футбаліст ірваўся да чужых варот, нехта, быццам незнарок, перабягаючы ззаду яго з аднаго боку ў другі, шыпамі буцы наступаў на пятку. Ахілесава сухажылле ў самым напружанні не вытрымлівала, ірвалася, як напятая струна. Футбольны сезон вылятаў упустую, на маруднае лячэнне.

Вадзік ведаў гэта.

— Няўжо так і закончыцца? — Максім у каторы раз выняў пачак цыгарэт і, схамянуўшыся, зноў схаваў.

Сямён Міхайлавіч зірнуў на табло: восемдзесят пятая мінута. Пяць мінут да канца. Адну, магчыма, прыбавіць суддзя. За гэтыя шэсць мінут усё можа быць. Балельшчыкі, нават самыя нецярплівыя, не пакідалі трыбун.

— Дзядзя Сёма, а як зваць таго, хто збіў вашу адзінаццатку? — Віця з цікавасцю сачыў за гульнёй.

— Красецкі. Юрый Красецкі.

— А за што яму жоўтую картачку суддзя паказаў?

— За гэта і паказаў. Недазволены прыём. — Сямён Міхайлавіч не заўважыў, як ад хвалявання скруціў у трубачку праграмку, змяў яе пабялелымі пальцамі і зараз, на апошніх мінутах, скамячыўшы, заціснуў, як папяровую гранату, у кулаку.

Вадзік атрымаў мяч ля цэнтральнага круга. Адчайна рвануўся сам. Абвёў Салімава, па ходу, нават не пазнаў каго, абышоў яшчэ аднаго. Справа адкрываўся Насевіч. Па левым краі спяшаліся Рахавец і Малянскі. "Сам, сам!" — не то тахкала сэрца, не то выстуквала ў скроні жылка. Два цэнтральныя абаронцы пайшлі на яго. Паказаўшы корпусам управа, імгненна зрабіў падманны рух улева... Двое паддаліся, зрэагавалі амаль сінхронна, быццам на долю секунды разышліся дзве скалы, каб потым зноў самкнуцца, раздушыць мускулістымі целамі яго, смельчака-форварда, толькі б не прапусціць мяч. Вадзік праляцеў між імі. За спіной спрацавала "каробачка", але ўпустую. І цяпер ён імчаў на вароты адзін. Ніхто не мог перашкодзіць яму прабіць па варотах.

Краем вока ўбачыў, як сцяўся варатар, пачаў лавіць міг, каб пайсці насустрач, зменшыць вугал удару па варотах... Вырашыў біць у левы ніжні, не вельмі моцна, правай нагой. За метры два пасля штрафной лініі адхіліўся ўлева і замахнуўся... Варатар пайшоў на яго... Вадзік, здаецца, адчуў тое месца буцы, якім нанясе ўдар. Рэзка замахнуўшыся правай: забіць, забіць у той вугал, у які задумаў. Але нага да мяча не дайшла. Падсечаны ў самае апошняе імгненне касым ударам саперніка збоку, Вадзік страціў раўнавагу, балюча ўпаў на бядро. "Хто, хто?" Убачыў, як перад Федарковым апраўдваўся Красецкі, але рука з чырвонай картачкай была няўмольнай: "З поля!"

"І калі ён паспеў?" — Вадзік павarушыў правай. Не, нічога страшнага. Проста грубы ўдар, без траўмы.

Красецкі пад свіст пакідаў поле.

Суддзя паставіў мяч на адзінаццацімятровы лапік, пазначаны мелам.

— Я праб'ю, — Вадзік узяўся за руку Валеры, устаў.

— Бі, — згадзіўся капітан каманды, хоць часцей прабіваў пенальці сам.

Вадзік паправіў мяч. Гульня закончылася. Секундамер абабег дзевяноста першы круг. Але па правілах пенальці прабівалася.

Стадыён замёр, затаіўся, быццам баяўся дыханнем перашкодзіць палёту мяча, збіць яго з задуманай лініі.

Вадзік разбегся і, як на трэніроўцы, прабіў у левы верхні вугал. Імгненна, з ударам, дзіка выбухнуў стадыён:

— Г-о-о-о-л! Г-о-о-л...

Гэта быў дваццаць пяты гол Вадзіка ў сезоне. Гэта была перамога.

* * *

Віка чакала на дамоўленым месцы.

Вадзік, убачыўшы яе, здалёк памахаў рукой, перабег трамвайную лінію.

— Ну, малайцы! Віншую з перамогай, — Віка ўзяла яго пад руку. — А ты...

— Толькі не хвалі, а то нос задзяру...

— Тады не буду, а то і праўда — задзярэш. — Віка ўсміхнулася. — Стаміўся?

— Трошкі...

Вадзік толькі цяпер адчуў, што лёгкая стомленасць запаволіла яго рухі, разлілася па целе нейкай заспакоенасцю, і таму, хоць і ныла крыху нага, хацелася проста прайсціся па вуліцы, прайсціся, як тады, калі яны пазнаёміліся...

— Яшчэ адна гульня засталася, апошняя?

— З "Лакаматывам", праз пяць дзён...

— Вадзік, выйграеце? — Віка прыхінула галаў да яго пляча.

— Не ведаю... Мяч — круглы... Але хлопцы настроены на перамогу.

— А ты?

— Усё ад цябе залежыць... — Вадзік усміхнуўся.

— Тады зноў прыйду на стадыён... Абавязкова.

Яны, як некалі, ішлі па вуліцы, нікога не заўважаючы, не звяртаючы ўвагі на мігатлівыя агні рэкламы, на машыны і трамваі, якія па схіле вуліцы каціліся насустрач ім, праплывалі міма...

Над паркам неба выкаціла месяц, і ён, чысты, ясны, здаецца, нябачна ліў у гэты вечар мяккае сіняе святло...

— Глядзі, Вадзік: поўня — як мяч...

— Ды гэта і ёсць мяч, заварожаны мяч!

Яны засмяяліся і пайшлі далей, пайшлі ў лёгкую музыку вечара... Ён і яна...

# ПЕНАЛЬЦІ

*аповесць*

Мяч з сілай урэзаўся ў крыжавіну варот, падскочыў пару разоў уверх-уніз і паволі пакаціўся насустрач, а потым, як заварожаны, спыніўся на белай адмеціне — пенальці! Варатар, не дацягнуўшыся да мяча ў адчаянным кідку, бяссільна ляжаў ля штангі. Абаронцы застылі, бо ведалі, што гэты не прамахнецца, такі момант не выпусціць. Суддзя паднёс свісток да губ: пасля ўдару рука ўпэўнена пакажа на цэнтр.

Такі мяч можна было забіць па-рознаму. Тры думкі імгненна мільганулі ў галаве... Можна было падхапіць мяч і рыўком уварвацца з ім у сетку, не баючыся, што варатар падымецца і перашкодзіць. Можна было шчочкай нагі лёгка качануць мяч у пустыя вароты, пусціць яго нават па цэнтру — і ніхто не перагародзіць яму дарогу. Гэтыя два шляхі — самыя лёгкія і надзейныя. Але Вадзіку хацелася забіць з шыкам, з сілай прыклаўшыся да мяча, укалаціць эфектна, магутна, каб наструненая сетка спружынна адкінула стракатае ядро назад, у поле. Такіх udараў і чакае стадыён, дзеля іх балельшчыкі з ранку займаюць чаргу ў касы або запознена перакупліваюць білеты. Ён добра ведаў гэта. І таму дзве першыя думкі імгненна зніклі. Вадзік паскорыў бег і з сілай замахнуўся правай нагой...

* * *

Яшчэ і цяпер у яго вобліку было нешта юнацкае, маладое. Густы чуб, перавіты сівізной, прыгожа навісаў над разлётам броў. Вочы — глыбокія, удумныя, як быццам у іх вірах прытомлены клад вопыту і мудрасці, які — не-не, дый выблісне ў зрэнках гарачымі іскрынкамі... Роўны, з ледзь прыкметнай гарбінкай нос збераглі сотні падзенняў і паветраных дуэляў. Хаця рэдка хто з футбалістаў — о, колькі такіх

выпадкаў ён мог успомніць! — заканчваў футбольную кар'еру, не пазнаўшы смаку крыві, тупы боль пераломаў, цягучых, вярэдлівых вывіхаў і расцяжэнняў. Губы — як ад прыкусу, налітыя, вычарчаныя... Упарты, злёгку раздвоены падбародак...

Гэта ён такі, калі глядзець збоку, з левага пляча. А калі з правага... Адразу ж успомніцца заліхвацкі казак, адважны і суровы, з шабляй, у парыве лёту на ўдалым кані. Глыбокі шрам, што рвана пралёг ад кутка губ да самага вока, яшчэ больш падкрэслівае гэтае падабенства. Роўныя сцяжкі сіне-белых швоў на шраме, як лесвіца, вядуць у памяць, у той далёкі красавіцкі матч з палякамі...

— Брыйся хутчэй, а то бульба астыне! — паклікала з кухні жонка.

Леанід Мікалаевіч апошні раз правёў лязом па шчацэ, падставіў станок пад струмень вады...

І тады цякла вада... Па шчоках, губах, скронях... Але гэта было пасля, як яго вынеслі за поле... А перад гэтым... Што ж было перад гэтым?

Тры хвіліны заставалася да канца гульні. Тры хвіліны і — па нулях... Атакі глухлі на подступах да штрафной палякаў. Амаль уся каманда адцягнулася на сваю палавіну поля, выстраіла трайны заслон, які пераадолець было не так лёгка. Высокія абаронцы гасцей усе верхавыя мячы ўмела адбівалі, а тыя, што навешваліся на вароты, спакойна лавіў варатар. І вось тут Слава Паронін, левы крайні нападзення, прастрэліў нізам у штрафную. Мяч ішоў не напрамую, а ад падрэзкі рабіў дугу ў бок адзінаццаціметровай адзнакі, ад варатара. Таму варатар і не пайшоў на гэты нізкі, падкручаны мяч. Абаронцы звыкліся, што ўсе мячы ішлі толькі ў бок варот...

Ён рвануўся на гэтую перадачу на апошнім выдыху сіл. Імгненна ацаніў момант: прамы ўдар не пойдзе — стопер закрыў шлях і варатара; прабіць левай або правай ён не паспее — не дацягнецца; левы вугал варот на метр—паўтара адкрыты... Адштурхнуўся і нырнуў уніз, укладаючы ўсё ва ўдар галавой. Прабіў і не бачыў, як нечая буца запазнілася адбіць

мяч і па інерцыі дайшла да віска... Не бачыў, як мяч слізгануў у ніжні вугал варот упрыцірку са штангай... Не чуў, як хутка прагучаў судзейскі свісток...

Па шчоках, губах, вісках цякла вада... А, можа, і кроў...

Але гэта было даўно, ой, як даўно...

* * *

Колькі разоў бачыў Сямён Міхайлавіч, як хітра і тонка пляце свае цянёты павук-крыжавік. Між дрэў ці галін ён сваю першую нітку замацоўвае адразу ўверсе, пасля спускаецца з ёй і пачынае раскалыхвацца, пакуль не захопіць бакавы ствол. Але самае цяжкае для яго — нацягнуць папярочку, нацягнуць туга, каб сетка пасля адчувальна вібрыравала ад лёгкага дотыку ахвяры. Нарэшце, калі аснова рамкі гатова, крыжавік пачынае пускаць радыяльныя павуціны-промнікі, а пасля лёгка злучае ўсе радыусы канцэнтрычнымі кругамі. Не ўсе ніткі, з якіх сплецена сетка, аднолькавыя: пасярэдзіне, дзе сядзіць павук, яны гладкія, сухія і шаўкавістыя, а вось далей ад цэнтра — клейкія, з мноствам вузялкоў.

Нешта падобнае на павучыныя цянёты пляце на футбольным полі і трэнер. Нябачныя задумы і хады хітра пераніtoўваюцца ў яго галаве і вачах, а пасля ажываюць у імклівым росчырку ног і ўдараў. Ён — хітры павук, а каманда — тонкая крыжаванка камбінацый і задум, распрацаваная загадзя, добра прадуманая, з нечаканай імправізацыяй для саперніка.

Сямён Міхайлавіч сядзеў пад казырком прэсаўскай ложы, пустой і ціхай, глядзеў на белыя лініі стадыёна і думаў пра ўчарашняе пісьмо, што прыйшло з тэлерадыёкамітэта. Што таілася за некалькімі радкамі, набранымі на камп'ютэры: "Просім Вас з'явіцца да старшыні камітэта для аказання пасільнай дапамогі"? Якой дапамогі? Для чаго? Ды і чым мог дапамагчы ён, сталы мужчына, магутнаму тэлебачанню і радыё краіны? Гадаць марна — тое, што плаваць на

беразе, і Сямён Міхайлавіч лёгка прыўзняўся і пайшоў да гурта прыстадыённых балельшчыкаў, што з самай раніцы да вечара таўкліся пад навіссю ліп, да хрыпаты спрачаліся аб футболе, успаміналі розныя эпізоды і здарэнні даўнішніх матчаў, меркавалі аб нялёгкім лёсе роднага "Дынама" ў вышэйшай лізе...

— Во ім, а не машыны і кватэры! — каржакаваты чорны лахмач з шызым носам тыцнуў дулю недзе ўверх. — Адразу трэба гульню паказаць. А то пачнуць зараз залятаць усім... Як разваліўся СССР, то і футбол разваліўся!

— Ну не скажы... — тонкі бландзін расхінуў куртку, разволіў на шыі тонкі шалік. — Вось толькі цяпер і пачынаецца футбол. У раённых гарадах ён падцягнецца да ўзроўню сталічнага. Бо цяпер — не першынство нейкай вобласці ці сельскага таварыства, а краіны. Гучыць! Ды і фундатары аб'явяцца, спонсары знойдуцца. От убачыце! Ці ж не прэстыж якомунебудзь Мазыру ці Бабруйску ў чэмпіёны выбіцца? А далей — Еўропа, кубкі... Хочаш — не хочаш, а падцягвацца трэба, каб не пляснуцца тварам у гразь.

— Э, браток, — мужчына нападпітку ўскулдэшыў грыву рыжых валасоў, — футбол то будзе, і я не сумняваюся, але ж расцягнуць лепшых, як піць даць, расцягнуць. Там, у Расіі, рубель даўжэйшы, чым у нас. А за мяжой і далярамі трасянуць, мерсамі-шмерсамі пераманяць.

— Нічога, маладыя падрастуць. Беларусь на таленты ніколі не была бедная.

Сямён Міхайлавіч у душы парадаваўся адкрытай балельшчыцкай трывозе і перажываннямі, хацеў бы яшчэ паслухаць, але стрэлкі гадзінніка беглі імкліва і трэба было ісці дахаты.

* * *

У кожнага футбаліста былі свае прымхі і забабоны. Многія верылі, што перад гульнёй нельга брыц-

ца. Амаль кожны футбаліст пачынаў абуваць буцы з левай нагі, а пасля ёй жа ступаў на зялёны газон футбольнага поля. Было яшчэ многа тонкасцей і нюансаў, у якія верылі маладыя душы. Усё гэта, відаць, пайшло ад перамог і паражэнняў, калі самай нязначнай звычцы ці дэталі надавалася асаблівае значэнне, пераходзіла нават у культ. Ад старэйшых гэтыя манеры перабіралі маладзейшыя, вакол мяча і футбалістаў віталі тайны, пасля перарасталі ў легенды.

У Вадзіка Ясінскага забабонаў не было. Ён не верыў, што не выгалены пушок на шчацэ, завязаны шнурок на левай буцы маглі аказацца прычынай перамогі. Перад пачаткам сезона ён папрасіў Леаніда Мікалаевіча даць яму футболку з трынаццатым нумарам, ад якога так адгароджваліся хлопцы. І ці то жартам, ці сур'ёзна, "чортаў тузін" быццам аберагаў яго ў гульнях: меніскі і ахілы пакуль не сустракаліся з шыпамі, а цела яго, мускулістае і наструненае, у гэтым сезоне не зведала яшчэ вярэдлівых сінякоў і балючых пісягоў. Праўда, без штуршкоў і сутыкненняў не абыходзілася, як і ў кожнай гульні, але ўсё гэта праходзіла чыста, без траўмаў. І Вадзік верыў, што своечасовая рэакцыя, тонкая інтуіцыя, нейкае падспуднае прадбачанне, што з гадамі выпрацоўваюцца ў кожнага футбаліста, значаць куды больш, чым старыя прымхі. Імклівы бег, высокі скачок, дрыблінг і трапны ўдар — вось што павінна быць у сапраўднага інсайда. І тонкае прадбачанне... Прадбачанне развіцця атакі, прадбачанне двух-трох хадоў наперад, прадчуванне адскоку мяча...

Чэмпіянат рэспублікі ішоў вяла і нецікава. Дынамаўцы лёгка гramілі раённыя каманды, у якіх не было надзейнай трэніровачнай базы, вялікіх спонсараў і нават добрых футбольных палёў. Быццам смеючыся, яны на выездах забівалі ў вароты саперніка па пяць-шэсць галоў, забівалі на любы густ, часам з выдурненнем, на спрэчку: у левы ці правы верхні вугал. А дамашнія матчы праходзілі амаль пры паўпустых трыбунах: балельшчык зараней ведаў, каго

чакае разгром. Праўда, у тых гарадках, дзе раскінуліся магутныя заводы і камбінаты, дзе мясцовыя бажкі і магнаты кідаліся ў амбіцыю — маўляў, і мы тут не лыкам шытыя! — закуплялі ў Расіі ці на Украіне футбольных "варагаў", там супраціўленне было больш адчайным, там перамога давалася з натугай і цяжкасцю. Але такіх гарадкоў было два-тры. І вось гэтая лёгкасць выйграшаў магла размагніціць, аслабіць каманду. Ды і нашто выжыльвацца і выпінацца, калі тры ачкі можна ўзяць малой крывёю? Вось аб чым перад кожнай сустрэчай напамінаў галоўны трэнер. Леанід Мікалаевіч прайшоў такую футбольную школу, што вельмі тонка адчуваў настрой каманды. А хваляванні гэтыя забягалі наперад, у будучую майскую сустрэчу на Кубак чэмпіёнаў з галандскім "Аяксам". Вось дзе будзе праверка каманды, вось дзе сутыкнуцца два погляды на футбол. І перамагчы дома і ў гасцях будзе ой як нялёгка.

Ведаў гэта і Вадзік. Ведаў і ўкладаў у трэніроўкі ўсю сілу, выкладваўся да сутаргі ў нагах, калі стомленае цела прасіла адпачынку і цёплага ліўня душа, прахалоды басейна...

Віка плакала. Плакала ад крыўды, што так даўно не бачыла Вадзіка.

"Хаця б пазваніў... Ці забег бы... Можна падумаць, што ў яго і хвіліны вольнай няма. Лепшы бамбардзір, лепшы забівала... — слёзы цяклі яшчэ больш, рэдкія ўсхліпванні скаланалі цела. — А чаго я плачу? Ці ж ён мой муж? Дурніца! Хто я яму: жонка, любоўніца? Рассіропілася на першай сустрэчы, захапілася... Такі прыгожы, такі славуты! А дзе тая слава дзенецца, як закончыць гуляць ці нагу зломіць? Цьфу-цьфу, не трэба! Што я яму зла жадаю, так яшчэ і нагаворыш... Ды і я добранькая. Чаму сама яго не наведала, на футбол не схадзіла? Нябось фанаткі праходу не даюць... Не, трэба нешта рабіць!"

Віка рашуча ўстала, страсянула грывай валасоў, зірнула ў люстэрка: прыпухлае падвочча, размазаныя цені вейкаў, вочы злосныя і пустыя... Адвярну-

лася, каб не бачыць сябе такую, пайшла ў ванны пакой, уключыла душ...

Праз гадзіну ў падземны пераход метро ўбегла прыгожая ўсмешлівая дзяўчына. Блакітныя джынсы вабна аблягалі яе стан, пад колер джынсаў — світэр, тонкая куртачка і сумка цераз плячо. Хто сказаў бы, што нядаўна яна, зарумзаная і растроеная, адкінула ручнік, мокры ад слёз? Юнакі, убачыўшы яе, раскрыленую і натхнёную, аглядаліся, быццам бачылі шчаслівую птушку ў вольным палёце. Аглядаліся і мужчыны. Ды і як было не аглянуцца, калі побач ішла незямная прыгажосць!

Віка вынырнула з метро і праз хвілін дзесяць была ля стадыёна. Ля ўваходу ў раздзявалкі сядзеў пасівелы мужчына. Магутная постаць яго, ацяжараная гадамі, скалыхнулася, зірнула на дзяўчо. Быццам каржакаваты дуб заўважыў матылька:

— Хутка прыедуць... Сёння тут трэніроўка. Зайшоў вось паглядзець... Усе ж мае, былыя... Сядай во побач.

Віка ведала (Вадзік успамінаў аднойчы), што гэта — былы трэнер Ван Ваныч. Не паспела яна прымасціцца на лаўцы, як у расчыненыя вароты пад'ехаў "Ікарус". Пярэднія дзверы расчыніліся, першым без сумкі выйшаў галоўны трэнер:

— А, Сан Саныч... Дзень добры! Не сядзіцца ў хаце...

— Не сядзіцца, Лёня. Прыйшоў глянуць на сваіх арлоў. Хутка ж з галандцамі бойня будзе.

— Вось і паглядзім, якія яны арлы.

Віка ўстала. Хлопцы ў спартыўных касцюмах з велізарнымі сумкамі выскаквалі з аўтобуса і знікалі ў падтрыбунным калідоры. Вадзік выйшаў апошнім. Прывітаўшыся з Сан Санычам, хацеў нырнуць у дзверы, але нешта спыніла яго ў апошні міг, прымусіла азірнуцца:

— Віка, ты?

— Як бачыш. Прыйшла зірнуць на форварда, асепленага славай...

— Ну, слава славай, а я сапраўды не мог зазірнуць к табе: двухразавыя трэніроўкі, а хутка і сесія...

— І ўсё ж... — Віка закінула сумачку на плячо.

— Віка, мілая, я прыйду да цябе ў суботу. З'ездзім куды-небудзь на прыроду. — Вадзік перахапіў сумку другой рукой. — Чакай мяне. І не думай нічога кепскага.

Блакітнае неба прарэзаў белы след рэактыўнага самалёта. А над стадыёнам голас Эдзіты П'ехі выводзіў радок паўзабытай песні: "На тебе сошёлся клином белый след..."

Старшыня Камітэта бліснуў шкельцамі акуляраў на Сямёна Міхайлавіча, адклаў кіпу папераў на край стала:

— Я чуў, Сямён Міхайлавіч, вы некалі ў футбол гулялі?

— Гуляў, але даўно. За данецкі "Шахцёр". Паехаў туды на заробкі, як кажуць, за доўгім рублём. У адзін з выхадных загаралі мы з сябрам на пляжы. А побач з намі два прафесіяналы раскручвалі звычайных аматараў на маленькіх варотах. Гулялі на піва. Не выцерпелі мы з Максімам і выйшлі супраць іх. За дваццаць хвілін хто больш каму заб'е. Я за сябе не баяўся: абводка, бег, удар... А вось Максім слабейшы крыху быў. Адным словам, мы ім пяць забілі, а яны нам два. Яшчык піва мы выйгралі. Ды не ў піве справа. Запрасілі яны мяне на трэніроўку "Шахцёра". Я з'ездзіў. Трэнер адразу ж мяне за дубль паставіў. У першай жа гульні ■ масквічам забіў. Пасля і другім калаціў. У аснову пачалі ставіць...

— Ну, дык вы ведаеце футбол не па чутках, але і самі прайшлі праз яго тонкасці.

— Прыйшлося прайсці, можа, і далей бы пайшоў. Але ў гульні з грузінамі, калі я ў падзенні біў галавой па варотах, абаронца двума нагамі скочыў на маё прадплечча. Пахавыя кольцы паляцелі, а руку ледзь прышылі. Вось і закончылася мая кар'ера ў футболе.

— А цяпер?

— А цяпер:

Я здоров, потому что я болен,
Но лечиться не стоит труда.
Первый раз заболел на футболе
И болельщиком стал навсегда.

— Адным словам, любоў — вечная?

— Выходзіць, так.

Старшыня камітэта ўзяў прыгожую самапіску з залатым пяром, ліст паперы, чыркануў на ім тры лініі, падобныя на вароты, выкругліў перад імі футбольны мяч:

— А калі я прапаную вам весці на тэлебачанні рэпартажы?

— Так, адразу? А на якой мове?

— На роднай, беларускай. А да сапраўднага рэпартажу разоў колькі праведзяце на магнітафон. Запішаце, праслухаеце, зробіце аналіз памылак... Ну і, вядома, статыстыкай валодаць трэба...

— За гэта я не баюся. Мы [illegible] Максімам па чарзе кожны тур распісваем: галы, папярэджанні, пропускі. Рабіць няма чаго, вось і падлічваем. Толькі...

— Што толькі?

— Генадзь Мікалаевіч, мяне бянтэжыць яшчэ і тое, як хлопцы са спартыўнай гэта ўспрымуць? Скажуць: уварваўся, наш хлеб забраў... У іх жа — адпрацоўка, ганарар...

— Сямён Міхайлавіч, хай вас гэта не бянтэжыць. Ёсць іншыя віды — гандбол, тэніс, хакей. Ім працы хопіць. А наконт ганарару... Не такія ўжо там шалёныя грошы, каб за іх крыўда была. Ды вы і футбол ведаеце, і мову. А яны няхай вучацца. Выспеюць — выйдуць у эфір і яны.

— Калі так, згодны.

— Вось і добра. Вам пазвоняць, выпішуць пропуск на футбол, пазнаёмяць з апаратурай. Пастарайцеся не хваляваццa. Успомніце рэпартажы Сіняўскага, Озерава. Не ўсё адразу робіцца. Было б жаданне, а вопыт з часам прыйдзе.

* * *

Да міжнароднага судзейства яго так і не дапусцілі. А цяпер было позна: пераваліла за сорак. Гады ляцяць, як птушкі. Праўда, і іх крыло рознае. Бывае, хвасяне па вачах так, аж іскры пойдуць, а іншы раз пагладзіць ласкава, шыкоўна... І ўсё ж... Ён — старшыня федэрацыі, камандзір усяго футбола. Ці ж хто запярэчыць яму, калі выбера для судзейства тройку-пяцёрку гульняў? Заслужыў жа за столькі гадоў. Маладыя за вочы крычаць: чаму ён, а не яны? Эх, даражэнькія! Пра вопыт забываць не трэба. За плячыма — сотні адсужаных матчаў. Колькі свісткоў злізаў, колькі мячоў сувенірных сабраў! А хто яны? Смаркачы! Выскачкі! З лайсменаў на поле ўчора толькі выйшлі, а ўжо сваё гнуць. Фігу ім! Выстрэнчваць ім не буду. Бач чаго захацелі: дай ім Бабруйск, Мазыр, Барысаў... Гарады магутныя, прамысловыя, ■ значыць — і багатыя. Маладыя хай у галыцьбу едуць, а я набегаўся за свае гады.

Так думаў Бутакоў, пад'язджаючы на электрычцы да барысаўскага вакзала. Спецыяльна пакінуў у Мінску свой "мерс", паехаў, як усе, у таўкатні і духаце. Паехаў, каб не думалі, што з-за сваёй выгоды паліць дзяржаўны бензін. Паехаў, бо ведаў, што назад прывязуць на легкавушцы. І не проста прывязуць, ■ захмеляць і падарункамі абложаць. Але трэба было яшчэ адсудзіць, "стварыць", як той казаў, перамогу.

Калі людская мітусня трохі схлынула, да яго падбеглі два ўвішныя незнаёмцы, падхапілі сумку:

— Як даехалі, Іван Аўдзеевіч? У крыўдзе мы, у крыўдзе. Маглі б і пазваніць, машыну прыслалі б. Ад пад'езда да пад'езда давезлі б. Але што мы стаім? Нас жа чакаюць, пайшлі...

— А дзе ж сам, Громаў?

— Прыехаў, Іван Аўдзеевіч, сам. У машыне чакае.

— Ну, тады іншая справа. А то, я думаў, загана-рыўся, на простых смяротных і глянуць не хоча.

“Таёта”, новенькая і серабрыстая, стаяла на другім баку прывакзальнай плошчы. За крокаў дзесяць заднія дзверцы яе адкрыліся, з сядзення ледзь вышчалілася фігура пад кілаграмаў сто пяцьдзесят, пайшла насустрач:

— Рады, рады бачыць на нашай гасціннай зямлі...

— А я думаў: мэр ад славы “памэр”...

— Жывы, жывы пакуль... А слава — як мёд: спачатку салодкі, а пасля — гарчэй за палын. Ды і хвіліны вольнай няма, за гарадскімі клопатамі.

— І ў мяне іх не менш.

— Але — усе ў машыну!

“Таёта” ліха рванула з месца, лёгка панеслася па гарадскіх вуліцах, абганяючы запыленыя аўто, быццам гэта былі не легкавушкі, а рознакаляровыя каларадскія жукі. Праз хвілін дзесяць выехала за стары горад, паімчала па гладкай шашы, мінула ўзлесак, шмыганула праз парэнчаты масток і ўзляцела на горку. Атулены з усіх бакоў выноснымі соснамі, пасярод паляны стаяў каляровы церам. Прыгожыя аканіцы, выкрунтасныя балкончыкі, пералівістыя вітражы...

— Іван Аўдзеевіч, сюды, сюды праходце. Парылачка нас чакае. — Громаў па-сяброўску паляпаў па плячы, узяў пад локаць. Ну і яшчэ сёе-тое, вядома...

У прадбанніку пахла паранай ліствой бярозы, аднекуль цягнула водарам завараных зёлак. Іван Аўдзеевіч хутка раздзеўся, мітуслiва закрыў прасцінай схільнае да атлусцення цела.

— Смялей-смялей, спачатку вунь у той кабінцы прыляжце... — Громаў паказаў на зялёныя дзверы.

Іван Аўдзеевіч зайшоў, лёг на белае палатно канапы спінай. Матавае святло паўзмрочна асвятляла кабінку. Праз хвіліну дзверы адкрыліся і з падносам у руках зайшла даўганогая красуня. Самыя вабныя часціны цела закрываў белы купальнік.

— Ляжце на жывот, калі ласка, рукі апусціце і расслабцеся.

Чуў, як яна адкрыла адну баначку, відаць, пальцам чарпанула нейкую мазь, расцерла ў руках. Паль-

цы лёгка дакрануліся да шыі, быццам па клавішах піяніна, пабеглі ніжай, ніжай, потым вярнуліся на лапаткі... Яе далоні гладзілі рукі, паясніцу, дробнымі шчыпкамі гналі кроў уніз. Пах, здаецца, абляпіхі прыемна супакойваў, здымаў напружанне і стому. А пальцы рабіліся ўсё смялейшымі і мацнейшымі, ішлі па ягадзіцах, бёдрах, закончвалі свой шлях на ступнях, зноў вярталіся назад. Пах абляпіхі змяніла лаванда. Яму ўспомніліся сінія кветачкі на градзе нечай дачы. Потым пах ружы казытнуў яго нос. А рукі ігралі, зачароўвалі і гаілі пунсовае цела, рукі напаўнялі яго нутро абуджальнай сілай, ускалыхвалі мроі і ўяўленне. Іван Аўдзеевіч з-пад рукі зірнуў на прыгожыя выявы яе ног і раптам паплыў, як у ружовым тумане, правальваючыся ў бязважкі палёт...

* * *

Леанід Мікалаевіч ведаў, як цяжка пазбавіцца ад эйфарыі. Лёгкія перамогі супакойвалі каманду, нараджалі настрой высакамернай перавагі, калі на любую каманду можна глядзець пагардліва, быццам у любой гульні саперніка можна шапкамі закідаць. Галоўны трэнер бачыў, як нялёгка далася хлопцам лучнасць усіх ліній, падстрахоўка і замена ў час правалаў, зонная абарона і імгненныя контратакі. Самы хуткі ігрок на полі — мяч, любіў паўтараць ён. Бачыш, што напарнік адкрываецца, выходзіць на лепшую пазіцыю — зрабі пас яму. У двухбаковых трэніроўках каманда старалася праводзіць усе камбінацыі на высокай хуткасці, вырываючы імгненне, каб дацягнуцца да мяча, прабіць нагой ці галавой. Так яно і павінна быць. Добрага стопера трэба апярэдзіць на долю секунды, апярэдзіць рыўком, скачком або падзеннем. Ад гэтага часцей за ўсё рашаецца лёс большасці гульняў. Помнілася яму, імкліваму інсайду, адна з кубкавых сустрэч. Абарона саперніка, як сцяна, адбівала ўсе іх спробы скалыхнуць сетку. Ні пра-

ходы па цэнтру, ні навясныя падачы з флангаў не давалі выніку. Бездакорна гуляў чысцільшчык, усе верхавыя мячы гасілі абаронцы, а тыя рэдкія ўдары, што ішлі ў вароты, браў варатар. Так бы і дайшла справа да пасляматчавых пенальці, каб не адзін эпізод напрыканцы гульні. Леанід Мікалаевіч помніў, як ён рвануўся з нечых чэпкіх рук і памчаў насустрач прастрэлу з правага фланга. Вочы міжволі адзначылі, як варатар тузануўся на выхадзе, пасля, прыпыніўшыся, усё-такі пайшоў на мяч. Чуць запознена рынуўся на мяч і цэнтральны абаронца. Але нейкі міг у апошніх дваіх быў згублены. Усе трое ўзмылі ўверх. Ён тады апярэдзіў усіх і прабіў. Чужая галава стукнула б яму ў вісок, але кулак варатара баксёрскім ударам трапіў у сківіцу свайго абаронцы і адхіліў галаву ад скроні. Мяч ляжаў у варотах, стопер у непрытомнасці ляжаў на траве. З вугалка яго губ сачылася кроў...

Каманда працавала да сёмага поту. Як змей, кідаўся на мяч у варотах Жэня Макевіч. Быццам аралі поле, пласталіся ў падкатах абаронцы — Арцёмаў і Сілаў, Сівапіхаў і Сакалоўскі. Як чаўначкі, снавалі між нападаючых, стараючыся перахапіць мяч, паўабаронцы — Дудко, Рахавец, Малянскі. Адкрываючыся, у адзін дотык пасавалі мяч нападаючыя — Белы, Насевіч і Ясінскі. Стараліся запасныя.

Гэта была ўжо другая трэніроўка. На першай, ранішняй, Леанід Мікалаевіч паганяў іх у зале на трэнажорах, са штангай, а пасля, як расслабленне, правёў між імі баскетбольную двухбакоўку. Цяпер жа ішла адпрацоўка першага паса на хуткасці, удараў па варотах без падрыхтоўкі. Не зніжаючы тэмпу, ён па ходу падказваў, патрабаваў, нават часам пакрыкваў. Пакрыкваў не злосна, а так, па-бацькоўску, бо ведаў, што гэта падхлісне, змусіць старацца і выкладвацца да канца. У будучай гульні з галандцамі будзе нялёгка, у гасцях і дома. Эх, здаецца, выйшаў бы і ён зараз на поле, падхапіў бы мяч, сваім фірменным дрыблінгам абвёў аднаго, другога, трэцяга, развярнуў-

ся б і ўкалаціў бы мяч у левы ці правы верхні вугал! Вось гэта быў бы клас! Так яно і было некалі, у маладосці. А цяпер... Цяпер хуткасць не тая, сілы паменшала, хаця тэхніка засталася. Паспрачаўся ж аднойчы з Макевічам, хто заб'е больш з дзесяці пенальці. Не так ён хацеў гэтага, як варатар. Падначваць пачаў: маўляў, слабавата. Ох і ўзгарэўся ён тады! На пяць пляшак каньяку перабіў руку. Варатар мандражнуў, пачаў аднеквацца. Але хлопцы настаялі: сам жа хацеў! Папрасіў буцы ў Валеры Рахаўца, свайго малодшага брата, бо ведаў: яны аднаго памеру. Пераабуўся. Каб цікавей было, рашылі біць пенальці не ўсе адразу, а па адным, па чарзе. Каманда стала з бакоў. Ёй што? Пасля пасмяецца з аднаго ці другога.

Леанід Мікалаевіч ведаў слабасці свайго варатара, таму два першыя ўдары пусціў пад левую руку ў ніжні вугал. І прапусціў два ад Макевіча. Але адчуў, што спалохаўся ён: а што, калі не заб'е? Ды і ўдары ішлі на сілу, а не па вуглах. Трэці пенальці Леанід Мікалаевіч прабіў у правы верхні вугал. Прабіў, як некалі на чэмпіянаце СССР. Нага і буца не падвялі. Мяч дакладна пацягнуў сетку ў "дзевятцы". І сам прапусціў трэці, але ўбачыў, як адкрыта ідзе нага варатара пры ўдары, не мяняючы ступню ў апошні міг. Чацвёрты і пяты таксама леглі ў сетку. І яго, і варатара. А вось забіўшы шосты, рашыў, што пара браць. З замахам нагі Макевіча ступіў управа, упаў і выцягнутай рукой адбіў мяч ля ніжняга вугла. Хлопцы зараўлі: гэта ж трэба, як запраўскі варатар! Макевіч яшчэ больш захваляваўся. Прапусціўшы сёмы пенальці, рашыў біць у другі вугал. Ведаў гэта і галоўны трэнер. У адчаянным кідку зноў дацягнуўся да мяча і адбіў. Хлопцы заіржалі. А лік стаў сем-пяць на карысць галоўнага. Восьмы і дзевяты забілі абое. Заклад быў выйграны. Але заставаўся яшчэ адзін удар. І Леанід Мікалаевіч рашыў, калі ўдасца, дабіць хвалюна. А дакладней — апазорыць. Разбегся і штосілы прабіў нізам проста Макевічу ў ногі. Варатар такога падвоху не чакаў, ступіў управа і ў

апошні міг стрымаўся, не ўпаў, але вярнуць правую нагу назад было не ў яго сілах. Мяч праляцеў між ног. "Ну і дзірка!" — рагаталі хлопцы. Але за насмешкамі і рогатам зусім іначай зірнулі на трэнера. І запаважалі яшчэ больш.

* * *

Вадзік не падвёў, забег у інтэрнат да Вікі вечарам. Дамовіліся, што раніцай паедуць у вёску да яго дзеда.

У шэсць гадзін сустрэліся пад электрычным табло чыгуначнага вакзала, узялі білеты да Стоўбцаў і назад, а праз паўгадзіны электрычка імчала іх сярод зялёных палёў, каля дачных пасёлкаў. На адкосах буяў шматфарбны дыван кветак. У адкрытыя акенцы цёпла ўрываўся трапяткі вецер, гулліва кулдэшыў і віхрыў чубы і пасмы людскіх прычосак. Было вяснова і хораша, калі хочацца спяваць і жыць, ляцець у разліў асмужанага небакраю.

Паўтары гадзіны праляцелі хутка. А хвілін праз дваццаць сіні ЛАЗ імчаў іх у прынёманскую вёску.

Дзед Міхась, убачыўшы іх, паклаў сякеру на калоду, пайшоў насустрач:

— А-а-а, унучак завітаў. Год не быў, насіла цябе недзе нялёгкая... — Вадзіка абнялі моцныя жылістыя рукі, прытулілі да грудзей. — А дзе ж ты такую чараўніцу адшукаў?

— Віка я... — сказала дзяўчына нясмела і засаромелася.

— Ну-ну, не чырванёй. Бачу я: у дружбе вы добрай, як іголка з ніткай. Так яно і павінна быць. А ты, дачушка, сумку во распакуй, я свайго чаго прынясу, перакусім.

— Дзед Міхась, у нас усё ёсць: курыцу купілі, каўбасу, хлеб і фрукты, — Вадзік разволіў замок сумкі, пачаў вымаць прадукты.

— О, дык у вас тут цэлае багацце! А ці елі вы калінебудзь курыцу, запечаную ў гліне?

Вадзік з Вікай пераглянуліся:

— Не, ніколі.

— То я вас навучу, як рабіць гэта. Віка, памый яе пад кранам. А ты, Вадзік, збегай у хату, прынясі маянэз з халадзільніка.

Дзед Міхась схадзіў у варывеньку і вярнуўся з часнаком і нейкімі прыправамі ў шклянцы. З веранды прынёс міску і соль, пачаў саліць прамытую курыцу. Ачышчаныя долькі часнака дробна парэзаў і пачаў церці імі па тулаву курыцы. Праз хвілін пяць памыў рукі пад кранам і схадзіў на граду, нарваў маладога кропу, спаласнуў яго і запхнуў на месца курыных вантробаў.

— Пайшлі ў агарод, там і кулінарыць будзем.

На кастравішчы стыў жалезны вобад ад машыны. Побач заміж лаўкі на двух бярозавых калодах ляжаў дубовы брус. Дзед Міхась узяў з-пад страхі шырокую фанеру, капануў з карыта дзве лапаты прыгатаванай гліны, паліў яе вадой:

— Віка, вазьмі лыжку, абмаж мяса маянэзам, а я з гліны замяшу цеста, — лоўкія рукі расціскалі кавалкі гліны, і, калі яно размякчэла, палажылі на фанеру, распляскалі ў вялікую аладку. — Кладзі птушку сюды, на гліну.

Дзед Міхась загарнуў тушку глінай, прыдаў ёй форму калабка і апусціў на дно вобада:

— Цяпер кладзіце касцёр.

Сухія трэскі заняліся адразу, сівы дымок паплыў уверх. Вадзік з Вікай сядзелі на дубовай лаўцы, усміхаліся адзін аднаму, падкладвалі ў кола сухія ражны і пасечаныя бацурбэлкі. Праз паўгадзіны гліняны калабок перавярнулі, зноў акружылі агнём. А дзед Міхась прынёс самаробны столік і зэдлік. На засланай сурвэтцы з'явіліся тры кубкі малака, лусты нарэзанага хлеба, паляндвіца і самаробная каўбаса, тры талеркі з відэльцамі.

Агонь дагарэў. Дзед Міхась надзеў на рукі рабочыя рукавіцы, выцягнуў з прыску на фанеру зацвярдзелы мурзаты калабок.

— Ну, дзеці, смаку будзе не абабрацца! — размахнуўся і, як па вялікім грэцкім арэсе, стукнуў вялікім рашпілем. Гліна раскалолася на дзве часткі. Мяса яшчэ шыпела і пыхкала такім смачным пахам, што ў маладых аж слінка пацякла.

— Ну і дзед, ну і кулінар! — Вадзік нажом пачаў дзяліць утушанае мяса.

— Мне толькі крылле, бо я нядаўна паснедаў.

— І мне многа не кладзі.

Сочнае мяса раставала ў роце. Такога смаку Віка не адчувала ніколі. Ела яна куры, паджараныя ў духоўцы на бутэльцы і на блясе, ела такое ж мяса на шампурах, але ўсё гэта і блізка не стаяла ў параўнанні з сённяшнім прысмакам. Ела і шчасліва ўсміхалася.

* * *

Яму пазванілі, калі была чарговая гульня на першынство рэспублікі, далі пропуск, правялі ў вольны каментатарскі пакой. Да гульні заставалася гадзіна. За трыццаць хвілін да пачатку гульні ў судзейскім памяшканні трэнеры запішуць асноўныя саставы каманд, запасных. Сямён Міхайлавіч узяў блакнот, ручку і пайшоў па лесвіцы ў бок пад'язных варот. Там — раздзявалкі і судзейскі пакой.

Праз хвілін пятнаццаць галоўныя трэнеры запоўнілі судзейскі пратакол. Сямён Міхайлавіч і яшчэ журналістаў пяць хуценька перапісалі прозвішчы ігракоў. Назад ён пайшоў па рэкартанавай дарожцы стадыёна, мінуў міліцэйскае ачапленне, па лесвіцы між сектараў падняўся ў каментатарскую. Здаецца, усё проста, нічога лішняга: стол з пультам, навушнікі — мікрафон, збоку на падстаўцы — манітор. Са свістком суддзі сеў на стул, уключыў магнітафон:

— Добры вечар, дарагія сябры! Мы запрашаем вас на мінскі стадыён "Дынама", дзе ў чарговым туры першынства Беларусі па футболу сустракаюцца каманды "Дынама" Мінск — "Шахцёр" Салігорск, —

хваляванне адступіла з першым ударам мяча, як некалі ў гульні. — Хто ж выйшаў сёння на футбольнае поле? Нашы госці выступаюць у чырвоных футболках і белых трусах. На варотах...

Голас Сямёна Міхайлавіча ліўся роўна і спакойна, пераходзіў на хутчэйшы тэмп пры небяспечных сітуацыях ля варот. Але гола пакуль не было. Гарнякі абараняліся ўсёй камандай, гулялі на адбой. Блакітна-белыя памалу нагняталі ціск, шукаючы шчасце на флангах, з прастрэламі ў штрафную. Ішлі наперад абаронцы, білі здалёк. Але мяч не ішоў у вароты або яго адбіваў варатар. Сямён Міхайлавіч ведаў, што гульня зменіцца, зменіцца рэзка пасля першага забітага мяча. У невялікіх пярэрвах, калі мяч вылятаў за бакавую лінію, ён даваў статыстыку: выйгрышы, забітыя галы... — усё тое, што хвалявала простага балельшчыка ля блакітнага экрана. Нарэшце дынамаўцы размачылі вароты "Шахцёра". Ішла дваццаць адтрэцяя мінута. Валера Рахавец па цэнтру абвёў аднаго, другога, замахнуўся, а пасля нечакана аддаў пас направа Валодзю Малянскаму, и той нізам прабіў уздоўж варот. З-за абаронцаў выскачыў Ясінскі і без падрыхтоўкі левай укалаціў мяч у верхні левы вугал. Такія ўдары не бяруцца. Гол быў эфектны. Стадыён бурліў ад радасці. А Сямён Міхайлавіч злавіў сябе на думцы: "Якія Валера, Валодзя? Добра, што не прамы эфір, а толькі магнітафон. Такога панібрацтва балельшчык не пацерпіць, скажа: "А ты што, разам з імі ў футбол гуляў?" Трэба быць уважлівым.

У перапынку Сямён Міхайлавіч успомніў, як некалі Озераў не заўважыў, што мяч уляцеў у сетку з другога боку штангі і залічыў гол, а пасля, убачыўшы сваю памылку, збянтэжана апраўдаўся, загнуўшы мат: "..., не было". Відаць, яму пасля гэтага перапала ад начальства, бо наступныя гульні каменціравалі другі. Успомнілася і першая памылка Левітана на тэлебачанні, пра якую ён успомніў на адной з сустрэч. Славутаму дыктару, голас якога наводзіў жах на фашыстаў у час вайны, трэба было расказаць, як у

возеры танула жанчына і яе выратаваў міліцыянер. А Левітан страшна любіў коней: іпадром, скачкі, любога каня мог па клічцы назваць. І вось садзіцца за мікрафон, пачынае: "В озере тонула лошадь..." І замоўк. Божухна, думае, што ён заляпіў у эфір? Трэба заўважыць, што ў каментатара, дыктара, вядучага павінна быць імгненная рэакцыя. І ў Левітана яна была выдатная. Схамянуўшыся, пасля секунднай паўзы ён прадоўжыў: "А рядом тонула женщина..." І расказаў, як міліцыянер сігануў у ваду і выратаваў яе. Выйшаў Левітан са студыі і пахваліўся: гэта ж трэба, заляпіў у эфір такую памылку, але выкруціўся. І ўсё было б, як кажуць шыта-крыта. Ды праз тры-чатыры дні прыйшлі сотні пісьмаў: "женщину спасли, а что стало с лошадью?" Прыйшлося Левітану выступіць яшчэ раз і сказаць, што "лошадь выплыла сама".

Другі тайм пачаўся атакамі салігорцаў. Ім не было чаго губляць, а перамогу трэба шукаць каля чужых варот. Дынамаўцы гэтага толькі і чакалі, раз за разам урываючыся ў штрафную пляцоўку праз аголеныя тылы. У выніку — яшчэ тры забітыя галы. Два — на рахунку Ясінскага, адзін забіў Уладзімір Малянскі.

Пасля свістка ён выключыў апаратуру і магнітафон. Дома сёння ж пераматае стужку і некалькі разоў праслухае запісаны рэпартаж.

* * *

Ён раптам паплыў, як у ружовым тумане, праваьваючыся ў бязважкі палёт...

— Ці не заснуў ты тут? — магутная рука пляснула па спіне. Іван Аўдзеевіч ад нечаканасці аж падскочыў. Громаў, голы і расчырванелы, узвышаўся над ім. — Пара, даражэнькі, у парылку, венікі чакаюць.

У парылцы два дзябёлыя мужыкі паклалі яго на фанерны шчыт, лінулі ў пячурку конаўку вады і га-

рачая пара напоўнілася пахам зёлак. У два венікі, дубовы і бярозавы, пачалі адпрацоўваць яго плечы і ногі. Венікі то ўзляталі пад самую столь і з размаху хвасталі па гарачым целе, то атрасалі на скуру ліпкае лісце, то моцна прыціскаліся да галёнак і сярэдзіны, быццам у гэтым прыпары хавалася нейкая магія ці чарадзейства. Ён ад задавальнення крахтаў і стагнаў, а венікі нястомна пякелілі рукі і азадак, быццам не было ім супынку. Потым дужыя мускулы падхапілі яго, знеслі на рашотку падлогі. Як з туману, выйшаў у адкрытыя дзверы, ступіў колькі крокаў па слізкіх плітках і, як мяшок з пяском, бухнуўся ў прахалоду басейна. Плаваў з асалодай, адчуваючы, як сіла напаўняе адлупцаванае цела. Калі выйшаў з вады, нехта накінуў прасціну, завязаў, як рымскаму патрыцыю, на плячы. Громаў чакаў яго ля філянговых дзвярэй. Убачыў, пазваў рукой: маўляў, ідзі за мной.

У невялікім зальчыку стаяў накрыты стол з каньякамі, гарэлкамі, рознымі прыкускамі.

— Ну, міласціва прашу! А то выгаладаліся з дарогі, — па-гаспадарску сеў за стол Громаў.

Акрамя Івана Аўдзеевіча, селі на шырокія лавы яшчэ трое. Нікога з іх ён не ведаў. Ды і нашто гэта? Сёння вып'юць яны, а заўтра адсудзіць ён і з'едзе на год, а то і назаўсёды.

Громаў наліў у чаркі маскоўскай "Гжэлкі", падняў сваю:

— Дарагія мае, харошыя! Давайце вып'ем за дружбу, за тую дружбу, якая ў кожнай нагодзе памагала б і падтрымлівала б.

Гарэлка пайшла лёгка. Запітая таматным сокам, нават не запяршыла ў гарачым горле. Відэлец паімкнуўся падчапіць што-небудзь для прыкускі, але, нерашуча спыніўся: ад застольнага багацця разбягаліся вочы. На двух шырокіх талерках чырванела асятрына, ружавелі скрылі паляндвіцы, тоўстымі чорнымі каўбасамі дымілася крывянка, у глыбокіх чашках стаяла ікра чорная і чырвоная...

— Бяры-бяры, смялей... — Громаў падчапіў кавалак балыка і цалкам закінуў у шырокую пашчу. — Яшчэ юшка будзе і шашлыкі.

— Дзякуй, Мікалай Антонавіч. Я вазьму.

Трое маўчалі, толькі спраўна ўплятaлі застольныя прысмакі.

Громаў зноў наліў:

— Ну, Іван Аўдзеевіч, другі кілішак давай за тваю восеньскую пуцёўку на Канары. Крыштальны завод памог выдзеліць.

Іван Аўдзеевіч аж не паверыў вушам, але адбіў звон падстаўленай чары:

— Дзякуй вялікі, Мікалай Антонавіч... Я ўсё зраблю...

Трэцюю паднялі за дзяўчат, як сказаў Громаў, за чмяліх, за любоў. Потым чары згубілі лік і ён цьмяна помніў, як піў юшку і еў шашлык, п'яна паўтараў адно і тое ж:

— Ды я іх заўтра... Заўтра я іх... Падай мне хоць зборную Бразіліі, я сплаўлю і яе.

Потым, захмялелы, з некім цалаваўся, і не помніў, як вялі яго наверх, асцярожна палажылі ў пасцель. Пасля да яго зайшла голая незнаёмка, горача выцалоўвала ўсе часцінкі цела, нешта шаптала і катурхала, але ён заснуў.

Назаўтра пасля перамогі гаспадароў поля шыкоўная "Волга" звезла Івана Аўдзеевіча, абкладзенага пакункамі і падарункамі, у Мінск.

* * *

Дзед Міхась вымыў рукі, выцер іх ручніком:

— Касцёр сам датлее, ачахне, а я вам сваё багацце хачу паказаць.

Віка з Вадзікам таксама падняліся, спаласнулі рукі.

Дзед адкрыў шырокую прыбудоўку за хатай, запрасіў маладых:

— Я — цясляр і сталяр, а пра лепшае не мар. Песню пра сябе такую склаў. Гэтым і жыву. Давесак да маёй пенсіі. Раблю людзям судзіны, бочкі, а хто і дзяжу ці ражку закажа. Бывае, і кубел папросяць зрабіць, сала ж трэба недзе пакласці. А жанкі фаскі і кадоўбчыкі любяць заказваць. У іх добра грыбы саліць. Нядаўна ў Вераб'я бура ліпу заваліла, то я выкупіў яе. Хлопцы бензапілой парэзалі. З яе кадоўбчыкі выйдуць — закачайся! Праўда, марокі многа: усю сэрцавіну трэба выдзеўбці, каб толькі абалонь засталася, ды і дно падагнаць — справа не лёгкая. Ды і што яно лёгка. Бочку дубовую зрабіць — намучышся колькі: клёпкі падагнаць так трэба, каб нідзе шчылінкі не было, дно паставіць і абручы нацягнуць. Каб пасля ні адна гаспадыня не зганіла. А гэта вось — на сцяне і на паліцах — мае памочнікі.

Дзед Міхась расказваў, і Віка дзівілася, колькі трэба ўсякага інструменту для сталярнага рамяства. На варштаце ляжалі розныя сякеры, малыя і вялікія. Тут жа мясціліся калун і склюд для расколвання калодак і вычэсвання брусоў. На сцяне віселі пілы лучковыя, піла-нажоўка і піла-белачка. На паліцы ляжалі фуганак і рубанак, шархебель, паўкруглая калёўка і баран з двума ручкамі. На другой сцяне ад акна віселі скобля і струг, розныя свярдзёлкі, вугольнікі і лінейкі. А дзед паказваў, браў у рукі той ці іншы інструмент, быццам па-сапраўднаму рабіў работу.

— Бачыце, колькі загатовак у мяне нарыхтавана, — дзед Максім паказаў на прыслоненыя да сцяны розных памераў драўляныя кавалкі. — Кожнае дрэва сваю душу і характар мае. Адно — мяккае, другое — цвёрдае. Запалкі, напрыклад, з асіны і топаля робяць. Яны добра колюцца. А вось добры паркет з дуба і ясеня атрымліваецца. Гэты вось аловак, якім я лініі адзначаю, робяць з кедра ці ядлоўца. Сасна смаловая на палубы караблёў ішла. А хаты з яе — як званы. Каб лазню зрабіць, лепшага за асіну матэрыялу не знойдзеш. Бяроза і бук для прыкладаў зброі

ідуць: яны цвёрдыя і не трэскаюцца. Мая баба некалі галаўны боль пад бярозай лячыла: пастаіць паўгадзіны пад ёй, ствол пагладзіць — лёгка адразу стане. Ды і я, калі моташна, нездаровіцца, іду пад крону дуба, шурпаты ствол рукамі пешчу. Як бачыш праходзіць слабасць. Дуб сілу дае.

Вадзік слухаў і дзівіўся, адкуль дзед столькі ведае. Жыццё, відаць, навучыла, мноства тайнаў прыроды адкрыла. Ды з пакалення ў пакаленне, ад майстра да майстра перадаваліся гэтыя тонкасці, беражліва захоўваліся ў народных умельцаў, каб ад паўзабытага зноў адрадзіцца ў сучаснасці. Быў ён сяды-тады на дачах сваіх сяброў, бацькі якіх усярэдзіне ўсё з дрэва зрабілі. А на адной бачыў нават свяцільнік у форме кола з воза.

Дзед Максім браў у рукі брускі, гладзіў заскарузлымі далонямі, паказваў спілы розных дрэў, гадавыя кольцы на іх, зноў расказваў пра кадкі і кубельцы... А Вадзіку чамусьці ўяўлялася іхняя каманда, ігракі, падагнатыя адзін да аднаго, як клёпкі ў дзедавай бочцы, надзейна і гожа...

Вечарам Віка з Вадзікам з'ехалі з вёскі апошнім аўтобусам.

* * *

Ля стадыёна гулі і спрачаліся балельшчыкі. Кожны даказваў сваё, але ўсе сыходзіліся на адным: у першай гульні на выездзе будзе цяжка. Галандскі "Аякс" дома будзе рваць і кідаць, але перамогу не выпусціць.

— Гэта — не жартачкі, — гарачыўся высокі бландзін. — У нашых міжнароднага вопыту няма, адзін імпэт. У галандцаў — тэхніка і ігракі, як на падбор. А варатар? Чэмпіён свету і Еўропы! Паспрабуй забі такому.

— А ты помніш, як Францыя Бразілію раскалаціла? Хаця ўсе зараней ёй чэмпіёнства аддавалі, —

невысокі таўсцячок расхінуў куртку. — І тут можа быць тое ж.

— Ну ты і загнуў! У нас жа такога, як Зідан, няма пакуль. Не веру я, што нашы ў наступны круг выйдуць. Не дараслі яшчэ.

— Хлопцы, хлопцы, супакойцеся. Мяч круглы і ўсякае можа быць. Вядома, "Аякс" гуляе класна. Але і нашы ім нервы папсуюць, — чырванашчокі кірпаты мужчына паправіў гальштук, газетай паказаў у бок футбольнага поля. — Я трэніроўку іх учора глядзеў. Хлопцы — закачайся! Рыўкі, удары, абводка... Сярэдняя лінія, як заведзеная працуе. Ды і абарона па росту іхнім не ўступае. Нападзенне, праўда, слабейшае. Адзін Ясінскі не выцягне: зажмуць, закрыюць ці пакалечаць. Але — пачакаем. Не трэба адчайвацца.

Гаворка з Кубка чэмпіёнаў пераскоквала на свой чэмпіянат, плыла ў даўнія ўспаміны, зноў вярталася назад.

— Ну, адгуляюць там, у Галандыі, нават няхай пару мячоў прайграюць. А што дома? Перад адказнай сустрэчай — фінал свайго кубка. Куды федэрацыя глядзіць? Можна было б і перанесці. Ці ж сляпыя яны? Хто ж перад такой гульнёй за тры дні кубак прызначае? Здурнелі...

— Што праўда, то праўда. Ці ж паспеюць яны сілы аднавіць. Кажуць, федэрацыя ўперлася, не хоча пераносіць: кажуць, дата нашага кубка была раней вядомая...

— А што важней — наш ці еўрапейскі? Тут і гаварыць няма чаго. Хіба што грошы не апошняе слова маюць: у нас — меншыя, там — вялікія. А, можа, хлопцы самі згадзіліся? Хто яго ведае.

— Можа, і так. Тут — выйграюць. На наступны год у Кубку кубкаў згуляюць. А там праляцяць. Дык чаго і ўпірацца?

Невысокі таўсцячок павярнуў гаворку на іншую тэму:

— Многае, хлопцы, ад судзейства залежыць. Там судзіць немец, а тут — італьянец. Калі не купілі іх, то ўсё справядліва павінна быць.

— А колькі іх купляюць! Кінулі мільён зялёных — і засудзіць. Пляваць яму, што дыскваліфікацыя свеціць. Да канца жыцця, як сыр у масле, жыць будзе.

— І гэта бывае, — высокі чарначубы мужчына гадоў пад сорак праціснуўся наперад. — Цяпер не толькі суддзю можна купіць, але і ўсю каманду. Гадоў пяць назад і я гуляў на першынство рэспублікі. У нападзенні, за мінскую "Арбіту". Апошняя гульня нам заставалася ў Барысаве. Мы і так бронзу заваявалі, нічога больш не свяціла. Барысаўчане, калі выйгравалі ў нас, на адно ачко Бабруйск абыходзілі і станавіліся чэмпіёнамі. Трэнеры, відаць, перагаварылі і дамовіліся: калі мы здадзім гульню, шаснаццаць крыштальных ваз нам падораць. Ну, пускаем у першым тайме адзін. У другім асабліва не ўпіраемся. А я тады ў нападзенні гуляў па левым краі. За мінут дзесяць да канца нехта мне ўразрэз закінуў. Выходжу я к варотам і думаю: "Трэба ж як-небудзь прамазаць". Размахваюся, а мяч у апошні міг ад нейкай купіны падскочыў і ў мяне з нагі зрэзаўся. Я абамлеў: у самую "дзевятку" ляціць! Варатар застыў, як укапаны. Слава Богу, мяч па перакладзіне чыркнуў і за вароты вылецеў. Хлопцы на віскі пальцамі паказваюць: ты што, дурны? Трэба ж яшчэ адзін тады прапускаць. Адыйшоў я бліжэй да абароны і там да свістка дагуляў. А пасля ад'ехаліся мы ад стадыёна — іхні ПАЗік нас дагнаў. У стружках і апілках нам перадалі шаснаццаць велізарных ваз. Не падманулі.

— Такое і цяпер бывае. Толькі стаўкі большыя. Асабліва ў канцы чэмпіянату. Аддаюць ачкі камандам знізу табліцы, каб не вылецелі з вышэйшай лігі. І не дакажаш. На маёй памяці такога не было.

Балельшчыцкія спрэчкі і ўспаміны спыняў толькі прыцемак.

* * *

Леанід Мікалаевіч напісаў у федэрацыю заяўку аб пераносе фіналу кубка паміж мінскім "Дынама"

і барысаўскім БАТЭ на пазнейшы час. Праз тры дні каманда самалётам вылятае ў Амстэрдам, а ніякай інфармацыі няма. Разоў дзесяць галоўны трэнер набіраў тэлефон федэрацыі, але трубку ніхто не падымаў. Нарэшце дазваніўся да галоўнага суддзі, але той адфутболіў яго да Бутакова: ён кіруе, рашае і ўсё ведае. "Ну і ліха з ім! Прыляцім, тады і дазванюся".

За дзень да адлёту Леанід Мікалаевіч сабраў каманду на трэніровачнай базе. Былі тут другі трэнер, масажыст і ўрач. Як заўсёды, перад адказнымі гульнямі ён праводзіў тэарэтычныя заняткі, выбіраў тактыку на гульню, настройваў каманду. Не толькі настройваў, а і супакойваў сябе. Бо часта пасля напружаных паядынкаў, калі прыязджаў дадому, гадзіны дзве-тры не мог есці і піць. Лягчэй было некалі гуляць на полі, чым перажываць за каманду...

— Абарона будзе зонная. Сіваліхаў чуць ззаду, у ролі чысцільшчыка. Белага з нападзення адцягнем назад, чацвёртым паўабаронцам. Бліжай к цэнтру адыдзе і Насевіч. Ясінскі — блукаючы форвард. Нікога не баяцца, яны такія ж, як і мы. Нават ёсць маладзейшыя — ван дэр Гун і ван дэр Ваарт. Першаму — дваццаць адзін, а другому ўсяго семнаццаць. Каманда ў іх вопытная, зладжаная. Таму пастарайцеся не даваць спакойна прымаць мяч. Хай адчуваюць ваша дыханне. Без патрэбы не фаліць, асабліва на іхняй палавіне. Жэня Макевіч, на выхадах адбівай не па цэнтру, а к бакавым. Калі пайшоў на мяч, ідзі да канца, не тузайся. Першы тайм гуляем толькі ад абароны. Дарэчы, Сакалоўскі, як нага?

— Нічога, цярпіма. Грэю ў баракамеры, масаж і расціраю фіналгонам.

— Калі пагоршае — гавары.

— Пакуль нармальна.

— Абароне быць уважлівай, асабліва пры навесах. У росце мы ім не прайграем. У сярэдзіне мяч аддаваць толькі адкрытаму іграку або ісці на абводку. Яны ўмеюць абараняцца. Вось давайце паглядзім відэазапіс гульні "Аякса" з НЕКам.

Леанід Мікалаевіч паставіў касету, шчоўкнуў пультам. Хлопцы ўважліва сачылі за гульнёй. Амстэрдамцы з першых мінут пайшлі ў наступленне. Падключаліся абаронцы, стараліся хаўбекі, закідаючы ў прарыў мячы. І ў першым тайме два галы забілі самыя маладыя, пра якіх гаварыў галоўны.

— Ну што? Уражвае?

— Каманда як каманда, — пацепнуў плячыма Малянскі.

— А Махлас?

— Класны ігрок! Выдзяляецца.

— Вось за ім вока ды вока трэба.

— Валера, — галоўны зірнуў на малодшага брата, — калі мяч будзе ў іх, бяры яго персанальна. Сёння закончым. За тры дні да ґульні гарачы душ не прымаць, з дзяўчатамі не спаць. Трэніроўка заўтра, як звычайна.

* * *

Перад залікамі ўспомнілася Вадзіку яго паступленне на філфак. Першы экзамен — сачыненне — ён напісаў на вольную тэму і атрымаў пяцёрку. Літаратуру прымаў доктар навук, паэт Сяргей Бойка. Далікатны і памяркоўны, ён сваім мякка-пявучым галаском заварожваў студэнтаў на лекцыях, прыдумваючы часам самыя неверагодныя версіі гісторыі напісання твораў. На экзамене мог задаць такое пытанне, якога і блізка яны не праходзілі. Асабліва любіў смакаваць тое, па чым пісаў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Таму студэнты штудзіравалі яго навуковыя працы, перагортвалі яго зборнікі паэзіі.

Першае пытанне ён адказаў выдатна, бо вельмі любіў ананімную паэму “Тарас на Парнасе”. Сяргей Антонавіч уважліва выслухаў і амаль праспяваў: “Нуну, выдатна! Пераходзім к другому пытанню”. Творчасць свайго земляка, народнага паэта Якуба Коласа

ён ведаў, як свае пяць пальцаў. Ды і брыдка было не ведаць, калі заслужаная настаўніца з класа ў клас паўтарала: “Каго-каго, а творчасць Канстанціна Міхайлавіча, нашага, роднага, трэба ведаць”. І ведалі, ведалі яго жыццёвы шлях, доўга маглі расказваць яго вершы і ўрыўкі з паэм напамяць. Таму Вадзік адказваў, як рэпу сек. А ў канцы зусім ашарашыў выкладчыка, сказаўшы, што калі б не было турэмнага зняволення песняра, то не было б яго лепшых твораў — “Новай зямлі”, “Сымона-музыкі” і трылогіі “На ростанях”. Доктар навук аж падняў рукой акуляры на лоб, уважліва ўгледзеўся ў белабрысага абітурыента, але не запярэчыў. Не ведаў тады Вадзік, што экзаменатар сваю кандыдацкую па першай паэме пісаў. Калі шок яго крыху прайшоў, ён папрасіў назваць сучасных паэтаў, якія найбольш падабаюцца. Вадзік пералічваў іх упэўнена, але экзаменатар маўчаў. І тады ён выпаліў: “Сяргей Бойка...” — “Не-не, мяне не трэба, — пачырванеў Сяргей Антонавіч. — Вам — пяцёрка”.

Гісторыю прымаў высокі суровы загадчык кафедры. Гусарскія вусы, густая чупрына з зацярушанай сівізной, пільны позірк... — усё гэта кідала бедных абітурыентаў у дрыжыкі. Пра яго хадзілі легенды. Расказвалі, што ён часам пакідаў студэнта аднаго ў аўдыторыі, выходзіў перакурыць, а пасля вяртаўся, вымаў з-пад стала магнітафон, адкручваў стужку назад і ўважліва слухаў адказ.

Вадзіка тады ён не збіў ■ панталыку: “Будзеш рыхтавацца ці адказваць адразу?” — “Магу і адразу”. — “Цікава. Адкуль ты родам?” — “Са Стаўбцоўскага раёна”. — “Чаму Стоўбцы Стоўбцамі называюцца?” Хлопец расказваў пра тое, што вычытаў некалі ў легендзе: пры ўездзе ў горад стаялі тры стаўбы, адсюль і пайшла назва. “А вось ты едзеш у сталіцу, пасярэдзіне дарогі — Койданава. Адкуль яго чорт прынёс?” Прыйшлося ўспомніць, што ў тысяча дзвесце сорак першым годзе, калі Батый заваёўваў Русь, Койдан са сваімі нукерамі і цьмою, а дакладней

5 Зак. 3733

— войскам, рынуўся на Белую Русь. Ля Крутагор'я ён быў разбіты. "А вось ты прыехаў у Мінск. Адкуль такая назва з'явілася?" Расказваў пра тое, што чытаў: рака Менка, па якой прыплывалі купцы і мянялі тавары. Адсюль і пайшло: Менеск — Менск — Мінск. "Чаго ты прэшся на гэты філфак? Ідзі на гістфак", — сказаў напаследак "гусарскі вус" і паставіў "выдатна".

Залікі Вадзік здаў за два дні, а экзамены здасць пасля гульні з "Аяксам". Не першай, а другой, дома.



Гульня з галандцамі была цяжкай. За дзень да яе марскі цыклон прынёс пранізлівы вецер. Бухматыя хмары плылі над стадыёнам, высейваючы дакучлівае мроіва дажджу. І ўсё ж на гульню прыйшло тысяч дваццаць. Не змаўкалі трашчоткі, раўлі трубы, іскрылі бенгальскія агні. Усе чакалі магутнага разгрому нейкіх там задрыпаных беларусаў. Перадматчавыя спецвыпускі газет давалі шматлікія інтэрв'ю футбалістаў, трэнераў, былых галеадораў, і ва ўсіх сцвярджалася: заб'юць, толькі адзінае пытанне — колькі? Толькі вопытны Махлас адмахнуўся ад рэпарцёраў: каманда саперніка непрадказальная, гульня пакажа.

Першы тайм, як і чакалі, пачаўся рашучымі атакамі гаспадароў. Тактыка была простая: як мага хутчэй забіць, ашаламіць. Пакуль не ачомаюцца, правесці яшчэ два-тры мячы, а ў другім тайме давесці разгром да канца. Вёрткія нападаючыя галандцаў прарываліся па краях і, не раздумваючы, падавалі ў штрафную. Сакалоўскі, Сілаў, Арцёмаў выйгравалі паветраныя дуэлі. Пару разоў, баючыся лавіць слізкі мяч, адбіў яго Макевіч. Зноў і зноў "Аякс" ішоў наперад, дынамаўцы ўмела перакрывалі подступы да штрафной, гулялі на апярэджанне, не даючы саперніку прайсці па цэнтру. Флангавыя навесы і прастрэлы пакуль нічога не давалі. Хіба толькі адзін раз,

калі мяч слізгануў па галаве Сакалоўскага і апаў на лініі варатарскай пляцоўкі, ван дэр Гун мог прабіць па варотах. Але і ён не чакаў такога падарунка, а Косця Сіваліхаў тут жа адправіў мяч на левы край Малянскаму. Уладзімір адкінуў яго Рахаўцу. Вадзік, адчуваючы, што будзе падача, рвануўся на правы край. Валера не прамарудзіў, адразу ж падаў на вугал штрафной. Ясінскі выскачыў з-за абаронцы, і не дачакаючы апусціцца мячу, прабіў. Стадыён анямеў і ахнуў. Чорна-белае ядро чыркнула па бакавіне штангі і вылецела за лінію поля. Сотні грудзей аблегчана выдыхнулі. Пакаціліся рэдкія апладысменты. Ішла трыццатая хвіліна. На табло свяціліся нулі. Так і закончыўся першы тайм.

У другой палавіне сустрэчы "Аякс" памяняў гульню. Убачыўшы, што падачы з левага і правага краю нічога не прыносяць, галандцы пачалі нагнятаць ціск па цэнтры. Цяпер уся гульня ішла праз Махласа. Ён, як вопытны дыспетчар, умела дырыжыраваў мячом, разыгрываючы "сценкі", імкліва адкрываўся, тут жа атрымліваючы мяч, смела ішоў на абводку. Але і да гэтага дынамаўцы былі гатовыя: Леанід Мікалаевіч прадказваў такі варыянт. У цэнтры паўабароны здвоіліся Рахавец з Насевічам. Падцягнуўся да іх у адну лінію і Дудко. Па краях выкладваліся Белы з Малянскім. Паўабарона з пяці футбалістаў павінна была вытрымаць. Толькі адзін Ясінскі снаваў між галандскіх паўабаронцаў, чакаючы зручнага моманту. Раней ці пазней ён павінен з'явіцца. Прыціснутая да варот дынамаўская спружына калі-небудзь ды выпраміцца, пашле сваё вастрыё нападзення — Вадзіка Ясінскага — да амстэрдамскіх варот. І ён дачакаўся. Галандскія абаронцы падцягнуліся да цэнтра поля, забыўшы той, першы момант ля сваіх варот. Адбіўшы чарговую атаку, мяч падхапіў Малянскі і, пачуўшы слова "Кінь!", паслаў мяч верхам за цэнтральны круг. Пярэдні абаронца ў скачку не дацягнуўся да яго. Вадзік рвануўся за спіну праз падстаўленую нагу чысцільшчыка, пераскочыў, вырваў зна-

рок прыхопленую футболку з рукі апошняга і панёсся насустрач варатару. Бартэз не рушыў наперад, чакаў зручнага моманту, каб выйсці і скараціць вугал удару. Да штрафной заставалася метраў пяць. Варатар рвануўся насустрач. Вадзік прабіў — Бартэз сходу нырнуў уніз улева і кончыкамі пальцаў дацягнуўся да мяча. Гэтага хапіла, каб той не ўляцеў у сетку, прайшоў побач са штангай. Стадыён апладзіраваў — і Бартэзу, і Ясінскаму. А Вадзік сплюнуў ад роспачы: "Таўкач! Такога моманту можа і не быць. Трэба было біць мацней, мяч цяжкі". Праўда, ніхто з партнёраў не папракнуў.

Галандскія футбалісты раптам зноў змянілі тактыку: пры першым жа нязначным сутыкненні пачалі прытворна падаць. Але нямецкі суддзя гульню не спыняў, паказваючы, што парушэнняў не было. Надзея атрымаць такім чынам штрафны паблізу варот ці вымучыць пенальці знікла. Гульня перайшла ў спакойнае русла. Фінальны свісток арбітра зафіксаваў нулявую нічыю. Футбалісты "Аякса" пакідалі стадыён, панурыўшы галовы. Гледачы свісталі. А дынамаўцы ішлі ў раздзявалку гордыя, у вачах свяцілася радасць. Яны сёння выстаялі. Дома будзе лягчэй.

* * *

Адвячорак за акном спусціўся непрыкметна. У прыцемку растварыліся абрысы дамоў, зліліся з цемрай кроны дрэў...

Вадзік чуў, як Віка прымала душ, пасля сушыла валасы фенам. Не хацелася ўставаць, каб уключыць святло. З магнітафона лілася лёгкая музыка. На сэрцы было суцішна і хораша.

Яна прайшла ў канец пакоя, уключыла таршэр, вярнулася і села побач:

— Мае з'ехалі ў вёску. Заўтра вернуцца. Я крыху пабойваюся адна.

— Наймі вартаўніка, — усміхнуўся Вадзік і лёгка абняў за плячо.

— А ты? — яна не адхінулася, а, здаецца, нават прытулілася да яго грудзей. Чорныя пасмы валасоў пахлі ландышам, прыемна казыталі Вадзікаву шчаку.

— Я з радасцю застаўся б, але заўтра гульня, фінал кубка, і мне трэба выспацца.

Яна нічога не сказала, але, як здалося Вадзіку, крыху адкаснулася ад яго шчакі.

— Віка, ты не крыўдуй. Я пасля бяссоннай ночы ног не пацягну. А хлопцы што скажуць? Нам жа за кубак, калі выйграем, званні майстроў спорту свецяць.

— Вадзік, я ўсё разумею, але...

— Што "але", што? Мілая ты мая... — Вадзік прытуліў яе, пачаў цалаваць.

Яе губы, спачатку халодныя, нясмела адказалі, пасля пацяплелі, сталі гарачымі, пачалі страсна шукаць яго зубы, язык... Вадзік, хмялеючы, цалаваў шчокі, вочы, шыю. Рукі міжволі пайшлі ніжай, адчуваючы пад шаўковым халацікам яе цела, распусцілі завязкі... Віка выдыхнула і абвіла яго шыю рукамі, пальцамі цярэбячы валасы, пагладжваючы шчокі. А ён, забыўшыся на якім свеце, расхінуў халацік, пачаў цалаваць саскі грудзей, упадзінку між імі...

Віка застагнала і раптам спружынна рванулася з яго рук:

— Не, Вадзік, не! Толькі не цяпер... — быццам ашаломленая, захінула крысо шоўку, узяла завязкі на банцік.

— Выходзь за мяне замуж, Віка, — Вадзік хацеў прытуліць яе зноў, але яна далікатна адвяла яго руку.

— Табе ж часу не будзе жаніцца. Вунь паклонніцы адбою не даюць: аўтографы, фатаграфіі. Кожны дзень — дзве трэніроўкі. А пасля — зборы, раз'езды. За мячом свету не бачыш, — Віка ўстала, уключыла агульнае святло.

— Што праўда, то праўда: трэніроўкі, раз'езды, зборы... Такое жыццё ў футбалістаў. І іх жонкам не

пазайздросціш: чакай, што заўтра прыедзе, каб ранічай зноў адправіць у дарогу. А вось "свету за мячом не відаць"... Я не сказаў бы... Можа, дзякуючы яму, я свет і ўбачыў. Нават з табой праз мяч пазнаёміўся. Помніш?

— Помню, — Віка рукамі страсянула пасмы валасоў, хітнула галавой, роўна рассыпаючы іх па плячах. — Пайшлі на кухню, я цябе чаем пачастую.

Вада ў чайніку закіпела. Віка кінула шчопаць змельчаных лістоў і кветак у пузаты збаночак, да верху заліла кіпенем:

— Ведаеш, колькі ў заварцы лекаў? Лічы: лісты парэчкі, маліны, суніц, кветкі чабору, мята, ліпавы цвет, трава-зуброўка і мацярдушкі. О, колькі ўсяго — восем! Сястра яшчэ зверабой кідае.

— Смачна, — Вадзік прыхлёбваў духмяны гарачы напой упрыкуску з пячэннем. — А ведаеш, Віка, я не жартую: выходзь за мяне замуж.

— А жыць дзе будзем? Ты падумаў...

— Калі выйграем у "Аякса", нам абяцалі кватэры даць. Спачатку хаця б аднапакаёўку. А там — відаць будзе. Так што згаджайся, я два разы не прапаноўваю, — Вадзік усміхнуўся.

— За сённяшні вечар ты два разы і прапанаваў, — Віка пальцам дакранулася да кончыка яго носа.

— І праўда. Значыць, Бог троіцу любіць. Чакай...

Была палова дванаццатай, калі ён ішоў на метро.

* * *

Леанід Мікалаевіч Вадзіка Ясінскага ў асноўны састаў не паставіў: "Адпачні перад гульнёй з галандцамі. Мы сёння і без цябе павінны выйграць. Пабудзь у запасе, хай маладыя сябе пакажуць".

Вадзік не пярэчыў, але не мог уседзець на лаўцы запасных. Няма нічога больш цяжкага, чым бачыць, як каманда атакуе саперніка, надзейна авалодаўшы цэнтрам поля, і не можа забіць. Выжыльваецца ся-

рэдняя лінія, носяцца ў прарывы два нападаючыя, а мяч, як закляты, не ідзе ў вароты. Барысаўскія нападаючыя, адышоўшы назад, адбіваюцца разам з абаронай, не думаючы пакуль што аб нападзенні. Ціха, заняўшы амаль сектар, сядзяць балельшчыкі, што на дзесятку аўтобусаў прыехалі з раённага гарадка. Стыне ў варотах Жэня Макевіч, дынамаўскі варатар. Яму сёння па-сапраўднаму нават і не білі. Хіба што разы два, ды і то далёка ўбок. Эх, выйсці б зараз на поле яму, Вадзіку, падхапіць мяч, абвесці на хуткасці аднаго, другога і штосілы гахнуць па чужых варотах, каб аж сетка затрапятала ў якім-небудзь вугле! Але не, Леанід Мікалаевіч і не думае рабіць замену, спакойна назірае за гульнёй.

Два нулі на табло, як здзіўленыя вочы, праводзяць ігракоў у падземны пераход пасля першага тайма.

У перапынку галоўны трэнер падказвае памылкі, просіць больш біць па варотах здалёк, рабіць перастаноўкі ў лініях. Замен — ніякіх. Хлопцы, апусціўшы гетры на нагах, расслаблена слухаюць, адпачываюць, палошчуць горла мінералкай.

У другім тайме дынамаўцы зноў атакуюць. Некалькі разоў з метраў трыццаці б'е Валера Рахавец. Адзін раз мяч пралятае над перакладзінай, другі раз варатар з цяжкасцю пераводзіць яго на вуглавы. Б'юць здалёк Валодзя Малянскі і Валодзя Белы — варатар адбівае. Барысаўская каманда амаль не пераходзіць цэнтр поля, трымае абарону. А часу да канца тайма застаецца ўсё менш і менш. Зноў дынамаўцы наносяць некалькі ўдараў па варотах — міма! Калі на табло застануцца нулі, будуць яшчэ два дадатковыя таймы па пятнаццаць хвілін. Свісток галоўнага суддзі сведчыць аб гэтым.

Два маленькія таймы таксама праходзяць безвынікова. За хвіліну да канца Леанід Мікалаевіч дае сігнал Вадзіку: "Раздзявайся!" Хуценька скінута трыко: ён гатовы выйсці. Нехта са сваіх запускае мяч на цэнтральную трыбуну. Аўт! Ясінскі замяняе Насевіча, замяняе, бо і сам ведае, што пенальці — гэта гульня нерваў. Колькі разоў на трэніроўках ён

адточваў, вывяраў удары ў ніжнія і верхнія вуглы, біў, як аўтамат, але па-свойму, з хітрасцю і падрэзкай. Таму і стаў, як кажуць, штатным пенальцістам. Свісток не даў нават разагрэцца. Цяпер — па пяць пенальці. Хто каго, чыя возьме?

Ажывіліся балельшчыкі Барысава, убачыўшы, што з'явіўся шанс выйграць, узнялі лозунг "Кубак — наш!"

Леанід Мікалаевіч назваў прозвішчы ігракоў, якія павінны біць пенальці: Белы, Міцкевіч, Рахавец, Малянскі, Ясінскі.

Першымі білі барысаўчане. Жэня Макевіч не ўгадаў напрамак удару. Забіў гол і Белы. Шэсць наступных удараў дынамаўцаў і іх апернікаў таксама былі трапныя. Праўда, адзін мяч дынамаўскі варатар мог узяць, але той, слізгануўшы па далоні, усё ж уляцеў у ніжні вугал. Пяты пенальці біў Іван Занкавец, цэнтральны абаронца БАТЭ. "Ну, гэты заб'е, — падумаў Вадзік. — Удар — як з гарматы!" Занкавец разбегся і штосілы ўлупіў па мячу. Удар пайшоў амаль па цэнтру верхам. Макевіч выкінуў руку ўверх, кулаком падбіў мяч. Той стукнуўся ў перакладзіну і адляцеў у поле. Стадыён замёр: адзін удар вырашыць усё!

Вадзік акуратна паставіў мяч на белую паметку і рашыў, што будзе біць з падрэзкай. Разбегся, моцна замахнуўся... Ступня правай нагі пайшла ўправа, а з ёй рвануўся ўлева варатар. У апошні міг "шчочка" нагі падрэзала мяч улева і той лёгка чыркануў у правы ніжні вугал ад галкіпера: як кажуць, развёў па розных вуглах.

Стомленая каманда падхапіла дынамаўскага варатара, пачала падкідаць уверх. Вадзіка паляпвалі па плячах: "Малайчына!"

Табло высвечвала цяжкую перамогу: 5—4.

* * *

На другі дзень да стадыённых касаў нельга было прабіцца. Людзі чакалі па некалькі гадзін з надзе-

яй, што выкінуць астаткі білетаў, але на акенцах няўмольна бялелі вывескі: “Білеты прададзены”. Бессаромныя перакупшчыкі шнырылі між натоўпу, ціха прапаноўваючы білеты па двайной цане. Многія балельшчыкі, баючыся застацца за агарожай стадыёна, куплялі.

Сямён Міхайлавіч з Максімам пастаялі крыху ля стадыёна і павoлі пайшлі па алеі бліжняй вуліцы.

— Заўтра стадыён будзе поўны. Білетаў няма.

— Значыць, будзе падтрымка нашым.

— Я хвалююся трохі: весці рэпартаж між нашымі камандамі — адно, а вось на міжнародным узроўні — другое. Мала вопыту яшчэ.

— Дарэчы, я глядзеў па тэліку апошнюю гульню на кубак. Знарок не пайшоў, каб цябе паслухаць. Скажу табе, няблага... Асабліва з інфармацыяй.

— Я і да “Аякса” быццам падрыхтаваўся... Толькі лепшыя каментатарскія аддаюць галандцам. А ■ нават і не ведаю, адкуль буду весці...

— Так і павінна быць: усё лепшае — гасцям. Ды я не пра гэта. Хочаш, некалькі заўваг табе зраблю? Не пакрыўдзішся?

— Наадварот, буду ўдзячны.

— Дык вось, у пачатку другога тайма абавязкова паўтары саставы па лініях і пазіцыях. Коратка раскажы пра небяспечныя моманты ў першым тайме. Можа, хто спазніўся да экрана, пачаў глядзець гульню пасля перапынку. Лічы вуглавыя ля тых і другіх варот. Стаў кропкі ці палачкі на паперцы, тады не памылішся. І яшчэ. Паўтарай час ад часу, якая хвіліна гульні ідзе.

— Згодны, дарагі, згодны. Заўтра ўсё гэта ўлічу.

— Яшчэ паслухай. Не бойся ранейшых слоў: стопер, хаўбек, інсайд, афсайд. Ды і сённяшняе “плеймейкер” не забывай. Ты ж помніш, калі сустракаліся “Мілан” і “Ювентус”, якая бойня ішла між Бобанам і Зіданам. Іменна яны ўсё вырашалі.

— Магчыма, ты і праў. Але каб не перабаршчыць... Дарэчы, сёння я быў у Камітэце. Мне водгукі на рэпартаж аддалі. Пісьмаў трыста. Я прачытаў сотню, астатнія не паспеў. У асноўным хваляць, пішуць: малайцы беларусы, што пачалі весці футбол на роднай мове, так, як гэта робяць украінцы, літоўцы, грузіны. Некалькі пісьмаў з падзякай маці: паслухаў сын рэпартаж і ўзяўся вучыць беларускую мову.

— А ваенныя?

— Ёсць некалькі пісьмаў. Просяць вярнуцца да рускай: не ўсе словы разумеюць.

— Нічога, прывыкнуць і вывучаць. Усё ж на полі відаць.

— Ёсць адно пісьмо ад маладых студэнтаў-журналістаў. Я яго з сабой захапіў. О, слухай: "Таварыш каментатар! Увядзіце ў свой рэпартаж такія словы, як брама, а не вароты; не варатар, а брамнік; замест штрафной пляцоўкі — карная пляцоўка; не прамазаць, а спудлаваць; не вуглавы ўдар, а кутавы ляп".

— Ну-ну, Сямён, увядзі. Тады ўся Беларусь ад такіх ляпаў ляжа ад смеху.

Яны ішлі не спяшаючыся, гаварылі пра тое, што нашым будзе цяжка, бо не паспеюць добра адпачыць, набрацца сіл. Але вера ў родную каманду жыла, як і вера ў заўтрашнюю перамогу.

* * *

Леанід Мікалаевіч аб'явіў асноўны састаў, назваў запасных. Пачыналі гульню тыя ж, што і ў Амстэрдаме.

— Галандцам губляць няма чаго і, я думаю, яны пойдуць наперад. Першыя пятнаццаць мінут гуляем ад абароны. Пры адборы мяча ззаду не касіць. Асабліва на іх палавіне. Не бойцеся ісці ў барацьбу, гуляйце на апярэджанне. І падстрахоўка адзін аднаго — не забывайце пра гэта. Не сцягвацца ў цэнтр, флангі не агаляць...

* * *

Віка прыйшла да гульні за хвілін дваццаць, збегла па лесвіцы між сектараў, праціснулася па запоўненым радзе, села на сваё крэсла. Гучала музыка, у праходах беглі з марожаным балельшчыкі. Табло, настрачыўшы прозвішчы брыгады суддзяў з Італіі, застыла ў чаканні супрацьстаяння двух магутных краін.

* * *

Сямён Міхайлавіч узяў у рэжысёра спецпропуск і правёў у каментатарскую Максіма:

— Толькі матам не загні. Мікрафон адчувальны, любы гук паляціць у эфір.

Маленькі звужаны пакойчык каментатарскай, пульт, манітор, два стулы... Акно было не па цэнтру поля, а насупраць левай штрафной. Цяжка будзе ўлавіць палёт мяча, калі будуць біць па гэтых варотах.

* * *

Ван Ваныч сядзеў у шыкоўнай ложы з журналістамі і былымі футбалістамі. Навісь казырка стадыёна надзейна закрывала ад нечаканага дажджу. Ён не пайшоў бы сёння на стадыён, але даўнія ўспаміны аб сваёй маладосці і боль суперажывання перамаглі, адарвалі яго ад каляровага экрана тэлевізара. Ды і як не пайсці, калі сёння выйдзе на поле яго каманда, хай нават і былая.

* * *

Як і гаварыў галоўны трэнер, галандцы адразу ж павялі шырокія атакі на вароты "Дынама", стараючыся змяць рады абароны, нанесці галявы ўдар.

Хлопцы гулялі спакойна, падстрахоўваючы адзін аднаго. Упэўнена, без памылак узмываў у паветра на выхадах Макевіч. Яго варатарскі настрой і кураж заўсёды перадаюцца камандзе.

* * *

Вадзік адыйшоў назад, у паўабарону. Але тады, калі мяч аказваўся ў сваіх, тут жа рваў на свабоднае месца, чакаючы паса. І некалькі разоў Валера Рахавец закідаў яму мяч на выхад, але рослыя абаронцы не далі апярэдзіць сябе, адзін раз затрымаўшы рукамі, а другі раз груба збіўшы з ног недазволеным прыёмам. Суддзя тут жа справядліва паказаў аднаму з іх жоўтую картачку.

* * *

У голасе каментатара не знікае трывога:

— Атакуюць галандцы. Навес у штрафную — Сівааліхаў у высокім скачку выйграе ў Махласа, але атака працягваецца, ван дэр Луер б’е — мяч ідзе вышэй варот. Адчуваецца, што каманда яшчэ не адыйшла ад кубкавай сустрэчы, што была тры дні назад. Як шкада, што тая сустрэча не была перанесена на больш позні час. Тут, я думаю, трэба кінуць папрок у адрас федэрацыі футбола рэспублікі.

* * *

Па стадыёну пайшла “хваля”. Балельшчыкі ўставалі і тут жа садзіліся. За імі ўставалі і садзіліся наступныя. Праз колькі секунд усё пачыналася спачатку: зноў уставалі і садзіліся першыя. Здалёк цэнтральная трыбуна нагадвала стракатае возера з трохбальным штормам, гатовае выплеснуцца, выліцца праз цагляны бар’ер і затапіць зялёны востраў з ігракамі. Хвалі

ішлі адна за другой, не змаўкала нечая труба, раз-пораз вырываліся з рук яркія шары, узмывалі ў глыбіню неба.

* * *

Валодзя Малянскі перахапіў мяч, сам пайшоў па левым краі. Вадзік пачаў адцягвацца ў цэнтр, два абаронцы рушылі за ім, агаляючы фланг. Аддаць мяч пакуль не было каму і Валодзя размашыста вёў яго па зялёнай стрыжцы травы. Варатар нешта крычаў, махаў рукой. Не цяжка было здагадацца, што ён падганяў свайго абаронцу сустракаць Малянскага, а не адцягвацца назад. І той рвануў, бо мог быць не закрыты ўдар з вугла штрафной. Рвануўся ўправа і Вадзік. Валодзя, ведаючы гэта, тут жа навесіў мяч на дальні вугал штрафной. Ясінскі развярнуўся і ў падзенні цераз сябе моцна прабіў. Прызямляючыся на рукі, адчуў, што не забіў. Варатар быў на месцы.

* * *

Віка цiснула ад хвалявання сумачку і ціха шаптала: “Вадзік, міленькі, забі! Ты ж умееш”. Але Вадзік не забіў. Яна разгарнула паперку “Сцімарола”, кінула адну жвачку за шчаку. Прыемны мятны смак пачаў ахалоджваць і супакойваць хваляванне. Успацелыя далоні перасталі церабіць сумачку, спакойна леглі на калені джынсаў. Яна пачынала разумець, чаму гэтыя людзі не сядзяць ля тэлевізараў, а ідуць сюды, на стадыён. Ідуць, каб даць разрадку свайму целу, выплеснуць у крыку і галасе свае эмоцыі.

* * *

Галоўны трэнер адчуваў, што ў каманды няма той свежасці і лёгкасці, якія былі раней. Папярэдняя

гульня, упартая і зацяжная, зрабіла сваё, прынёсшы стомленасць; забраўшы імпэт гракоў. Але не апраўдаешся гэтым, калі за табой стаіць гонар краіны. Разапніся, выкладзіся і выйграй! Вось чаго прагне стадыён і чакаюць тыя, хто сядзіць ля тэлевізара. І трэба выкласціся, трэба выйграць!

* * *

Першы тайм закончыўся. На поле выбеглі падлеткі ў сініх і белых футболках. Кожнаму з іх было не больш дзесяці гадоў. Лоўка перапасоўваючы мяч, яны весялілі публіку, паказваючы неблагую абводку і трапныя ўдары па варотах. Хто ведае, можа гадоў праз сем-восем хто-небудзь з іх выйдзе на поле ў аснове "Дынама", каб магутнымі ўдарамі прымушаць здавацца варатароў і даводзіць да шаленства балельшчыкаў.

* * *

— Усё нармальна, — Леанід Мікалаевіч адклаў мяч убок. — Беражыце сілы, хаця б мінут дваццаць. Як і гулялі ад абароны, так і гуляйце. У другой палове тайма [redacted] папрашу вас паказаць усё, што можаце. Выкладзіцеся да канца, вы ж — мужчыны! Давайце пакажам сваю гульню, хуткую, імклівую, без зацяжкі часу. На вас сёння глядзіць уся Беларусь.

* * *

Другі тайм зноў пачаўся атакамі "Аякса". Вопытны Махлас рваўся па цэнтру, але Сівáліхаў з Рахаўцом не давалі яму разгарнуцца, выйсці на ўдарную пазіцыю. Кіпяціўся і злаваўся, губляючы мяч, семнаццацігадовы ван дэр Ваарт. У той

жа сітуацыі аказаўся і старэйшы на чатыры гады ван дэр Гун: яго надзейна закрыў Арцёмаў. Галандцы ішлі і ішлі наперад, добра помнячы: не забіваеш ты, забіваюць табе.

* * *

Ван Ваныч цёр левую грудзіну, масажыраваў вялікі палец левай рукі: ныла сэрца. Пасля не выцярпеў і дастаў з кішэні валідол, палажыў пад язык. Бачыў, як гуляюць і стараюцца хлопцы. Няма слоў, Леанід Рахавец зрабіў класную каманду: адточаныя пасы, ґульня ў абароне, адкідкі мяча дакладна, без аглядкі. У рэспубліцы, безумоўна, ёй роўных няма. А выхад на Еўропу пакуль, можа, і заранаваты. У іх там — грошы, могуць любую зорку закупіць. А ў нас усе свае, дамарошчаныя. З часам і да гэтых хлопцаў прыйдуць вопыт, практыка, адшліфуецца тэхніка.

На сэрцы трохі палягчала, адпусціла. Ван Ваныч выцер хусцінкай узмакрэлы лоб, зноў засяродзіўся на гульні.

* * *

Валера Рахавец, капітан каманды, за пятнаццаць хвілін да заканчэння гульні перадаў як па ланцужку: "Пара!" Адкуль узяліся сілы ў партнёраў? Быццам з'явілася другое дыханне, быццам і не было напружанага змагання больш за паўтара тайма. Каманда, прыціснутая да сваёй штрафной, раптам выпрамілася, актывізавалася, у адзін дотык перадаючы між сабой мяч. Загулялі, як на трэніроўцы ў квадрат. Пачалі ўзнікаць вострыя моманты ля галандскіх варот. Бартэз мітусіўся між штангаў, пакрыкваў на абаронцаў, але зрабіць нічога не мог. Дынамаўцы нахрапіста лезлі ў гушчу штрафной, прадзіраліся праз частакол ног, білі без падрыхтоўкі...

* * *

Сямён Міхайлавіч за дзесяць хвілін да канца гульні адключыў пульт, скінуў пінжак, ціха шапнуў Максіму:

— Адкрый акно...

Максім крутнуў дзве ручкі зажымаў і фрамуга на стрыжнях на пядзю адыйшла ад падаконніка. Свежае паветра хлынула ў пакой, шкло з боку трыбуны імгненна запацела. Засталіся толькі чыстымі два вугалкі зверху. Сямён Міхайлавіч разгубіўся, а пасля ўключыў пульт, залез на стол і, гледзячы ў чысты вугалок, стаў прадаўжаць рэпартаж. Калі мяч перайшоў на другую плавіну поля, перамясціўся ў другі вугалок акна. А Максім больш нічога не бачыў, толькі слухаў сяброўскі голас:

— Удар Малянскага — мяч трапляе ў варатара. Паўторны ўдар Вадзіма Ясінскага...

* * *

Мяч з сілай урэзаўся ў крыжавіну варот, падскочыў пару разоў уверх-уніз і паволі пакаціўся насустрач, а потым, як завараджаны, спыніўся на белай адмеціне. Пенальці! Вадзік паскорыў бег і з сілай замахнуўся правай нагой, уклаўшы ва ўдар злосць і напружанне штодзённых трэніровак. Мяч увінціўся ў сетку варот.

# АХІЛЕСАВА ПЯТА

*аповесць*

Усё, гэта была перамога! Апошні сапернік нават не паспрабаваў скочыць праз такую вышыню: зрабіўшы імклівы разбег, раптам, як перад нябачнай высоразнай сцяной, спалохаўся ў апошні міг перад штуршком, прабег ля правай стойкі, запаволіў аслабленае цела — відаць, скарыўся паражэнню — і, не азірнуўшыся, пайшоў пад свой парусінавы грыбок забіраць трыко. А хто з гледачоў чатыры гадзіны назад мог сказаць, што ён, Рэй Крокас, чэмпіён свету, рэкардсмен, прайграе? І прайграе каму? Гэтаму даўганогаму, як пісала адна газета, "загадкаваму хлопцу з далёкай Беларусі..."

Так, гэта была перамога і — залаты медаль. Аляксей адчуў гэта, адчуў нават раней, калі глянуў на амерыканца: рукі быццам маліліся, прыкушаная ніжняя губа... "Не, не возьме..."

Суддзя дакрануўся рукой да пляча, паказаў на планку — колькі ставіць? Аляксей схамянуўся. Гэты дотык спыніў хвалю млявасці, якая пасля апошняй спробы Крокаса пачала здрадліва і прыемна разлівацца па целе. Як быццам нехта нашэптваў: "Усё, ты выйграў, золата — тваё... Расслабся... Ты — алімпійскі чэмпіён... Нашто табе рваць жылы?"

Суддзя чакаў. Аляксей думаў — колькі ж? Два сорак пяць? На пяць сантыметраў больш, чым сённяшні алімпійскі рэкорд... Але не сусветны... Падняць яшчэ на сем? Паўтарэнне рэкорду свету... Але ўсяго толькі паўтарэнне.

Аляксей паказаў суддзі далонь з пяццю растапыранымі пальцамі, і той кіўнуў галавой: так, усё зразумеў.

Планку паднялі, яшчэ разоў шэсць перамералі. Аляксей зірнуў на светлавое табло — два сорак пяць. Не, гэта не тое, што ён хоча. Падышоў да столікаў і паказаў дзесяць пальцаў — два пяцьдзесят. Перак-

ладчыца перапытала па-руску — ён кіўнуў: так, два з паловай метры, рубеж, які не браў ніхто ў свеце. Пакуль ніхто...

Стадыён, убачыўшы змену электрычных лічбаў ля сектара, заапладзіраваў: спачатку цэнтральная трыбуна, пасля — па меры павароту табло — апладысменты пабеглі далей, па бакавых сектарах, быццам нехта нябачны прыадкрываў занавеску перад гледачамі, і яны, убачыўшы заказаную вышыню, ахалі, дзівіліся смеласці гэтага русявага юнака...

Быццам адламаны кавалак сонечнага промня, ляжала фібергласавая планка. У водсвеце вечаровага святла яна блікавала, і толькі там, на самым подступе, за крокаў пяць, яна раптам гасла, як бы цяжэла на вачах, палохаючы высотнікаў сваёй непрыступнасцю. А яшчэ яна нагадвала прамы вострыя меч, халодная сталь якога магла парэзаць тую частку цела, што збівала яе...

Страху перад вышынёй не было. Аляксей на трэніроўках даўно прымерваўся да гэтых сантыметраў, сотні разоў ішоў на пругкае нацяжэнне рызінкі, часта зрываў яе, але часам і браў. Праўда, Сяргей Панасавіч не дазваляў мераць трэніровачныя скачкі, але па ўзнятых заціжымах Аляксей адчуваў, што гэта — у межах рэкорду...

Стадыён затаіўся, быццам дыханнем баяўся здзьмухнуць гэтую лёгкую, кідкую ад першага дотыку, планку.

Алясей зняў трыко, акуратна паклаў яго на лаўку, лёгка далонямі масажнуў бёдры... "Усё нармальна... Сёння або ніколі!" Заплюшчыў вочы, да дробязей пракручваючы ў думках усе фазы разбегу і скачка: пружыністая ступня, тры апошнія нарастаючыя крокі, штуршок з махам бядра, пераход планкі з глыбокім закідам галавы, пераход не ўсляпую, а відушча, і — паспець выкінуць ногі ўверх!

Трыбун як не было. Чорная злітая маса стадыёна замерла. Высвечаны сектар для скачкоў, як у фокусе, звёў да сябе ўсё электрычнае святло. Нават судзейскія столікі, здаецца, адступілі ў паўпрыцемак, затое-

на глядзелі зводдаль. Усё чакала гэтага скачка: трыбуны і суддзі, каментатары і эфір... Чакала гарыспалавае пакрыццё сектара — наструненага, упэўненага разбегу красовак, магутнага штуршка левай нагі... Чакала планка...

Аляксей страсянуў кісцямі рук, як бы скідаючы з іх нябачныя пылінкі, пачаў разбег... Пачаў імкліва, быццам яму трэба было пераскочыць не планку, а ўсю заходнюю трыбуну стадыёна...

Батальён — дзевяноста змарнелых, знясіленых непагаддзю салдат — выйшаў на пясчаную касу знянацку. Праўда, пасля двух апошніх наступленняў гэта быў ужо нават не батальён (калі лічыць пагалоўна), а звычайная рота. Засталіся толькі наміналы: камбат і тры камандзіры рот.

Здавалася, канца не будзе гэтым праклятым Ведзьмаковым балотам з нечаканымі абрывамі і раптоўнымі праваламі, з дрыготкімі пераходамі ад аднаго чэзлага дрэўца да другога, з гідкімі ямамі застаялай вады, пацягнутай рудой раскай; з кшакамі і бульканнем, дзе ў твані быццам нешта варушылася і чвякала; з падманнымі астраўкамі журавін, пад якімі таіліся засмяглыя прорвы... Тры дні па пояс, а то і па пахі ў вадзе яны прадзіраліся праз чэпкія патырчакі і слізкае карчэўе, зняможаныя да страты памяці ад нявер'я, што калі-небудзь выйдуць, вырвуцца з гэтай балаціны, узаб'юцца на тупкае.

На кожнай спіне на падцягнутым рамяні тырчэў аўтамат. Толькі трое, надрываючыся, моўчкі неслі ручныя кулямёты. Патроны і гранаты, падвязаныя, віселі на шыях. З такім грузам, чабултыхнуўшы ў чортава акно, амаль не вырвацца: бы з каменем на шыі, зацягне, усмокча, сляпуча атуліць здрадлівая багна. Наперавес, у двух руках перад сабой, як адзіны ратунак, кожны нёс даволі ёмкую альховую паўжардзіну. Толькі яна і магла ўратаваць: гнутка вісла на краях прорвы, не даючы праваліцца глыбей, пакуль нечая рука не падавала тапельцу канец сваёй

лясіны. А там, дзе трэба было ўперціся і перабрацца да новай купіны, яна зноў жа надзейна пасабляла. Некаторыя, цярэбячы свае алешыны, прадбачліва пакінулі ніжнюю на паўтары пядзі галіну. Праваліўшыся, ёю можна было ўчапіцца за блізкі корч ці дрэўца і самога сябе выцягнуць.

Уперадзе, лоўка ступаючы сплеценымі з лазы шырокімі ступакамі, прывязанымі к пад'ёмам кірзавых ботаў, у ватоўцы, у зімовай шапцы-аблавушцы ішоў вясковы праваднік. Наўрад ці сказаў бы хто зараз, як яго завуць. От сабе, ішла ўперадзе, як здань, як прывід, шэрая постаць, раз-пораз спыняючыся, чакаючы, калі расцягнуты ланцуг патрохў зблізіцца, сціснецца ў адлегласці. Ён, чалавек вясковы, узгадаваны і пракормлены гэтымі балотамі, ведаў, як страшна разарвацца жывому ланцугу, калі з нечаканай бяды можа выбавіць толькі блізкая рука. Таму і не спе́шыў, спагадліва ўзіраўся ў змучаныя, учарнелыя ад шчаціння і гразі твары вайскоўцаў. Тры дні назад і ў іх на нагах былі такія ж лазовыя ступакі, але ад няўмення хадзіць па хісткім дыване, — калі праваліўшыся, ног не выцягнуць, — не засталося ні ў кога. Ды і з непрывычкі хадзіць у іх уроскідку вельмі ж балелі ногі.

Апошнім ішоў камбат. Невысокі, каржакаваты і жылісты, ён на левым плячы нёс кулямёт. На расхістанай грудзіне, злева ад скаткі, вісеў кабур з трафейным парабелумам. У правай руцэ, трохі карацейшая, чым у іншых, торкалася абсечаная алешына. Спружыніста кідаючы моцнае цела па разбітай вадзяністай каламуці, камбат трывожна ўглядаўся ў млявы гарызонт трыснягу, не ведаючы, калі ж закончыцца гэтае пекла. Блізіўся адвячорак, а Ведзьмаковым балотам не было канца. Па ўсіх падліках — праваднік так і запэўніў — на сконе трэцяга дня яны павінны выйсці да Мёртвай касы.

Спераду, ля зарасніку чарота, нешта застапарылася. Салдаты, выбраўшыся на трохі тупкі ўзлобак, бясcільна падалі, чакаючы іншых. Тыя ж, хлюпаючы

вадой у ботах, выкарасквaліся са смярдзючай твані і таксама падалі ніцма. Сёй-той з пярэдніх сцягваў разбухлыя кірзачы, выліваў глейкую ваду, выкручваў чорныя анучы.

Камбат пялёхнуў палкай па мутнай вадзе і, не вылазячы на сухое, узрушана зірнуў на праваднікa:

— Што?

Дзядзька тыцнуў пальцам вышэй чароту.

Камбат зразумеў: нарэшце яны выйшлі. Там, за прысохлым чаротам, — Мёртвая каса. І хоць ён чакаў гэтага, усё ж нутро неяк сцялася: канец нечага — пачатак новага, можа, больш цяжкага. Атупела брыдучы па гразі, упарта выцягваючы ногі з дрыгвы, ён згубіў лік гадзінам, страціў адчуванне канца балоцістай розвадзі. Таму і здаўся выхад з балота раптоўным.

— Ну, то я назад... — Мужык нагнуўся, каб мацней зацiснуць завязку на правай назе.

— Дзякуй табе. Дасць Бог — сустрэнемся...

Праваднік выпраміўся, зірнуў у затуманены абсяг балота, лоўка слізгануў з цвердзі ў вадзяную каламуць, паскакаў па рудых купінах, зліўся з шэранню багны...

Камбат павярнуўся к салдатам: трэба было рушыць далей.

Дровы былі нялёгкія: кручаныя бярозавыя камлюкі пры ўдары калуна пускалі сок ці набрынялую ваду, але калоцца не хацелі. Аляксей біў штосілы, біў спачатку па краях, потым — па цэнтру, клаў цурбэлак на бок і роўна гахаў па адной лініі ўздоўж, жыўцом рвучы белыя пакручастыя валокны. Трэба было патраціць удараў дзесяць, каб расчапіць напалам такі выкруцень. Дубовыя грапякі разбіваліся і то лягчэй. Пасля магутных двух-трох удараў яны трэскалі знячэўку, як быццам лопала нябачная повязь, што трымала аснову дубовага здаравяка. Альховыя калодкі разляталіся пры першым удары. Чырвоная абалонь паддавалася лязу калуна лёгка,

калолася без усякага супраціву, сыплючы пад ногі трухлявую гніль асяродка...

— Ты б электрычны калун зрабіў, — дзядзька Вінцэсь па-цыганску хітра ўсміхнуўся, — тады і махаць рукамі не трэба: падстаўляй толькі калодкі...

— А куды мне спяшацца? — Аляксей разагнуўся, рукавом ацёр на лбе пот. — Ды і размінка — аж рукі гудуць.

Дзядзька Вінцэсь скурыў самакрутку, паспачуваў, што не прыехаў старэйшы брат, схадзіў дадому і прынёс молат і жалезны клін:

— Вазьмі, бяроза лягчэй паддасца.

І праўда: клін развальваў бярозавыя камлюкі за тры-чатыры ўдары. Праца пайшла спарней.

Аляксей любіў секчы дровы. Тут, у вёсцы, не трэба было рабіць зарадку, бо праца заўсёды знаходзілася. А калун і важкія калодкі давалі такую нагрузку, якой не атрымаеш і за дзве гадзіны самай напружанай трэніроўкі. Смалісты пах сасны будзіў у душы далёкі ўспамін...

Ён, жаўтароты "салага", не дабраўшы адзін бал пры паступленні, адгукнуўся на пісьмо дзядзькі Колі з Петразаводска: "...а не паступіць, хай прыязджае да мяне, мужчынскай работы тут поўна". І як не адгаварвалі маці з бацькам — "свая ж цагельня ёсць", "заб'юць шчэ дзе", — упарта не паслухаў, купіў білет на самалёт і праз двое сутак апынуўся ў сталіцы Карэліі. Раскашаваць у гасцях асабліва не давялося. На трэці ж дзень скалочаная наспех брыгада выязджала на лесапавал.

Аляксей трапіў у брыгаду Івана Маклаша, унука гродзенскага хутараніна, сасланага ў гэты лясны край у саракавых гадах. Брыгадзір, гадоў на сем старэйшы за Аляксея, вылучаўся ў брыгадзе нейкай ранняй самавітасцю, сталай няспешнасцю. У руках яго, упэўненых і лоўкіх, відаць была бацькоўская практыка і звычка, перададзеная або выпакутаваная сялянская мудрасць і разважлівасць. Рана пазнаўшы цану нялёгкага хлеба, ён ведаў і любіў тайгу. У развароце яго плячэй драмала прытоеная сіла, якой, ад-

чувалася, пабойваўся нават Мішка Пшык, былы зэк, каржакавата-пануры, вечна не задаволены буркун.

Тыдзень Аляксей церабіў паваленыя сосны. І калі сякера трохі прывыкла да яго намазоленых рук, а ён да яе, Маклаш паставіў ля сябе вучыцца правіць бензапілой.

Восень выдалася шчодрай на сонца. Рэдкія хмурыны паволі калыхаліся над кронамі, няспешна сплываючы за Анегу. Пад нагамі цвіў верас, сям-там чырванела марошка. А грыбы так і прасіліся ў рукі...

— Ды не туды, а сюды глядзі! — перабіваў светлую плынь думак Іван. — Выкруціцца ствол — не ўспееш і ахнуць, як накрые.

Піла роўна ўядалася ў шырокі смалісты камель, без рыўкоў уваходзіла ў сэрцавіну. Пыркі апілак асыпалі гумовыя боты.

— Глядзі, як правільна лажыць, — ледзь прыглушаючы матор, гукаў у вуха брыгадзір, затым, націскаючы левым плячом на ствол, даразаў абалонь. Яна трэскала. Сасна, роўна пушчаная з пня, бухала на такія ж сосны, ламаючы свае і чужыя галіны. — На, паспрабуй сам.

Аляксей з асцярогай браў за ручкі бензапілу, даваў газу і з сілай уразаўся ў дрэва. Матор роў, ланцуг закліняла, а Іван зноў крычаў у вуха:

— Не рві! Спакойна, спакойна, пускай лёгка... З наскоку яе не возьмеш, яна ласку любіць. І глядзі, куды валіш, падпілоўвай роўна з двух бакоў.

Нарэшце, хіснуўшыся, сасна ляцела на лесасеку, але не прама, а трохі наўскасяк.

— Зірні, як ты рэзаў, — Іван паказваў на пень.

Быццам няўдалыя прыступкі, танцавалі на сэрцавінных кругах няроўныя зрэзы пілы.

— Нічога, не бядуй, — паляпваў па плячы Іван, — навучышся.

І сапраўды, праз тыдні два піла паслухмяна, без выкрунтасаў, запрацавала ў чэпкіх Аляксеевых руках, робячы зрэз роўна, як бы за адзін раз. Нават вяршалінай сасны ён навучыўся біць у месца, якое задумваў.

— Во-во, на такім пяньку і пасядзець прыемна, — задаволена ўсміхнуўся брыгадзір. — Цяпер будзеш адзін на павале.

Лесасека, прамая, як страла, была падзелена на дзялянкі. Выпілаваная, вывезеная, выпаленая кастравішчамі, яна некалі стане дарогай. А пакуль... Пакуль што сосны калыхалі пакінутыя гнёзды і веснавыя надзеі, тулячыся адна да адной ад пахаладалага ветру, атрасаючы залубянелуюігліцу. Многія, высмактаныя падсочкай, як лагерныя вязні з рабрыстымі двухбаковымі проразямі, чакалі пілы як збавення. Ствалы іх, абяскроўленыя і чэзлыя, не маглі ўжо легчы ў вянкі новай хаты. Шчасце, калі лесасека ішла праз іх, ратуючы ад маруднага скону і заўчаснага атрухлення.

І вельмі добра помніў Аляксей той пераломны дзень.

Трэба было рушыць далей. Камбат адчуваў гэта. Але што там, на Мёртвай касе? Можа, нямецкі заслон, а мо мінная паласа? Пакладзеш і тых, што ўратаваліся, выйшлі з халодных зеўраў Ведзьмаковых балот. Не, без разведкі не абыдзешся.

— Красовіча ка мне! — упаўголаса загадаў бліжэйшаму ад сябе.

— Красовіча к камбату! Красовіча... Красовіча... — загад пайшоў ад аднаго да другога на дальні край узлобка.

Праз хвіліну шэрая постаць, угнуўшыся, пераступаючы праз разамлелыя ногі і целы, узнікла перад камбатам.

— Пойдзеш са мной... — Камбат зноў зірнуў на бліжняга. — А тут каб было ціха. — Ён ведаў: людзі, уратаваўшыся ад смерці, не пададуць голасу, не распаляць касцёр, бо асцярога — іх памочніца. Ды і сіл не было, каб што-небудзь рабіць. Лепш паляжаць на зямлі вось так — ніцма, без напругі, адчуць як паволі вяртаюцца сілы, адыходзяць здранцвелыя ногі, крыяюць зацёкшыя рукі...

Асцярожна, адхінаючы чарот, яны падпаўзлі да краю балота. Мёртвая каса пясчаным языком цягнулася сярод багны, а там, далей, метраў праз сто, ішла ўгару, стварыўшы даволі ладную вышыню, зарослую лазняком. Зусім блізка, перад вачыма, бухта калючага дроту густымі віткамі перакрывала голы пясок, уразаючыся ў рудую ваду з аднаго і другога боку касы.

— Во гады! Голымі рукамі не возьмеш... — выдыхнуў на вуха камбат і ўзняў бінокль.

За калючым валам, крыху далей, блішчалі густа напятыя правады. "А гэта яшчэ што за ліха? — бінокль паволі ішоў па сцяжынках бліскучага дроту. — Відаць, нейкая сігналізацыя..." Дзве апоры стаялі ў балоце, а адтуль напятыя струны ішлі на адзін і другі бок вышыні.

— Ох ты! — ні то сам сабе, ні то Красовічу выдыхнуў камбат. — Дзот... На, зірні.

Красовіч асцярожна ўзяў бінокль, напружана ўглядзеўся ў схіл вышыні. Калыхаліся пад ветрам гнуткія дубцы лазняку, пад імі чарнелі выпетраныя калівы быльніку.

— Не бачу...

— Глядзі па цэнтру, пад карані...

Так, пад лазняком, старанна замаскіраваны, смерцю прытаіўся дзот. Як невялікая засланка ў печы, ледзь прыкметна чарнела яго амбразура. Вытыркніся толькі, ступі на плыткі пясок і нябачнае вока кулямёта касяне рэзка і пякельна, уцісне ў сыпкі пясок... І тады не знойдзеш збавення ад куль на гэтым пустэльным языку касы. Не, тут ратунку няма. Перціся нават ноччу пад вогненнае нёба кулямёта — рызыка пустая. Высвецяць зямлю ракетамі і пакладуць усіх, хто бяздумна ткнецца прайсці да вышыні...

— Мне здаецца, за гэтымі правадамі — міны, — Красовіч вярнуў бінокль камбату.

— Можа быць... Дый выгарадка драцяная не падабаецца мне... — Камбат зноў пільна ўглядзеўся ў акуляры бінокля, быццам натужна шукаючы выйс-

це. Яшчэ малады твар, зарослы шчаціннем, відаць, хваляваў бы не адну маладзіцу ў бяссонных мроях. Хіба толькі лёгкі шрам наперакос ілба рабіў яго больш сталым, а мо і суровым. — У нас ёсць дзве ночы і дзень. А там — наступленне.

Красовіч маўчаў. Схінуўшы голаў на падстаўленую далонь, ён ці то спаў, ці то проста замружыў сонныя вейкі, выкарыстоўваючы міг перадыху.

— Аляксей, ты што, заснуў? — камбат далікатна крануў за локаць.

Красовіч ссунуў каску на патыліцу:

— Думаю...

Камбат яшчэ раз угледзеўся ў калючы вал дроту, ад пачатку да канца, як бы размагнічваючы, прайшоўся па напятых струнах неразгаданай загарадкі, зрокава прыкінуў адлегласць ад бліскучага дроту да амбразуры:

— Метраў сорак... Не больш.

Красовіч прыўзняў галаву.

— Толькі тудой, левым бокам балота... Там — вышай. І зручней правай гранату кінуць.

— А дрот, дрот як ты адолееш?

— Калючы па дрыгве аппаўзу, а той — ліха яго ведае... Там відаць будзе.

Камбат схамянуўся: яшчэ толькі разведка, першая прыкідка, а быццам вырашыў ужо, што папаўзе ён, Красовіч:

— Каго ж пасланы?

Аляксей здзіўлена ўскінуў бровы:

— Я! А хто ж іншы? Ды і бацькі, жонкі, дзеці ў іх. Я, толькі я.

Камбат моцна пацісну́ў яго локаць, як бы перадаючы падзяку, што не прыйдзецца весці сюды некага другога, паказваць, зноў уталкоўваць... Ды і хто, як не Красовіч, мог пераадолець і калючку, і хітры заслон; мог віжам, зліўшыся з балотнай травой, неўпрыкмет дапаўзці да пэўнага рубяжа, з якога можна было шыбануць гранату ў жарало дзота?

— Ідзі, Аляксей, паспі. Я цябе разбуджу.

Красовіч адпоўз, дабраўся да ўзлобка, разаслаў шынель. Заснуў імгненна, як праваліўся ў чортава вока, не паспеўшы ні ўсхрапнуць, ні ўскрыкнуць.

Камбат яшчэ доўга ўглядаўся ў прыцемак Мёртвай касы.

І вельмі добра помніў Аляксей той пераломны дзень.

Уся брыгада к абеду збіралася ў прасторнай бытоўцы. Тут было цёпла і ўтульна. Разгарачаныя хлопцы скідалі прасмоленыя робы, ватоўкі, са смехам мылі рукі. У гадзіну дня прыязджала машына з абедам. Усе высыпалі на паляну, каб дапамагчы маладзенькай сімпатычнай Тані прынесці бачкі, каструлі, хлеб і посуд. Таня, румяная, з бялёсай стрыжкай, здавалася, яшчэ больш прыгажэла пад нахабнымі позіркамі лясных, як яна казала, ваўкалакаў.

— Ну-ну, не лапай, а то чарпаком трэсну! — яна порстка налівала ў міску суп, дабаўляла мяса. — Хлеба — колькі каму трэба, самі возьмеце.

Аляксей глядзеў на Таню і ўспамінаў выпускны вечар і цёплы дотык рукі аднакласніцы, якую так кахаў яго лепшы сябра: "Пайшлі куды-небудзь..." Яны ішлі па вуліцы, гаварылі, пасля селі на лаўку пад гронкамі навісі язміну. Аляксей маўчаў, а яна шчасліва нешта шчабятала... Захмялелыя губы яе чакалі пацалунка, манілі, неадольна вабілі к сабе... Язмін пахам спелых суніц кружыў галаву... І ён мог прыпасці, зацалаваць яе, захлынуцца ў абдымках, бо ведаў — падабаецца ёй, але ў апошні момант адкаснуўся, прыўстаў, адламаў важкую галінку язміну: "Пайшлі назад, нас, відаць, шукаюць... Вазьмі на шчасце..." Яна ўзяла язмін, адламала ля злому сухі сучок, кінула яго пад лаўку: "Пайшлі..."

— Аляксей, давай яшчэ дальюю, — Таня паднесла напоўнены чарпак.

— Бач ты! Як Аляксею — дык налью, — здзекаваліся разморaныя галасы, — а нам?

— Сораму на вас няма. Гляньце — тонкі які, худзенькі. — Не саромячыся, адбівалася Таня. — Адны костачкі...

— Ля касцей — і мяса смачнейшае!

— Добры певень — заўсёды худы!

Брыгада рагатала. Нават брыгадзір не пярэчыў, з усмешкай дахлёбваў суп. Аляксей чырванеў, але не злаваў, смяяўся разам з усімі. Толькі Мішка Пшык з кожным жартам хмурнеў, набычваўся, з-пад ілба глядзеў на Таню, бы распранаў яе вачыма, соп, моўчкі жуючы мяса.

— Аляксей, гушчы паўчарпака... — Таня зноў павярнулася да яго.

— ...каб лыжка стаяла... — дабавіў нечы голас.

— І не толькі лыжка... — прадоўжыў другі.

Новы выбух смеху яшчэ ніжэй прыгнуў Пшыка.

— Мужыкі, канчай трэп! — брыгадзір устаў, даючы знаць, што абед закончаны.

Лёгкія сняжынкі закружылі паляну, паплылі ў кругаверці разлапістыя сосны, як бы радуючыся зімовай пярыне.

— Салага, адвалі ад Тані, — Мішка Пшык насуплена глядзеў не на Аляксея, а недзе туды далей, — а то прышыю як піць даць.

— Ты што, аб'еўся? Я тут прычым?.. — Аляксей ускінуў бензапілу на правае плячо. — Дурань ты!

Спакою на душы не было, быццам туды кінулі брудны камень, і кругі трывогі ніяк не маглі пагасnuць. "І што гэта яму стрэльнула? Каб я да яе заляцаўся, а то..."

Сосны падалі цяжка, выбухамі ўскідаючы з зямлі супакоеныя сняжынкі. "І чалавек, відаць, падаў некалі так, як сасна, прабіты кап'ём..."

Аляксей нутром, а хутчэй спінай адчуў, што ён не адзін. Нечыя вочы праціналі яго. Рэзка рвануўшы пілу, павярнуўся. Крокі за два з паўузмахам фінкі стаяў Пшык. Аляксей міжволі націснуў на рычажок газу. Піла раўнула, кінуўшы пад ногі клубок смярдзючага дыму. Зэк баязліва адступіў.

— За што? — Аляксей пабялеў ад уяўлення таго, што магло здарыцца, ступіў яшчэ крок наперад, не збаўляючы газ.

— Я... я нічога, — апусціў руку Пшык.

— А фінка?

— Магу табе падарыць...

— Кінь пад ногі мне... — Аляксей прыўзняў разак пілы. Ланцуг роўна накручваў кругі.

Фінка шмякнулася ля бота.

Аляксей збавіў газ, апусціў разак, але пілу не адводзіў:

— Дурань ты! У мяне дзяўчына ёсць у Беларусі. Бачыў, колькі мне пісьмаў прыходзіць?

Пшык маўчаў, цярэбячы рукавіцу.

— Ты думаеш, яна сур'ёзна ка мне? Яна ж, як і ўсе мы, жартуе... А любіць шафёра, відаць...

— Ну не скажы... — Пшык аж змяніўся з твару, быццам дайшло да яго нешта.

— І я ж мог папалам цябе перарэзаць, — Аляксей паставіў пілу на мох.

— Дурань я, ты праўду сказаў.

— Ладна, ідзі...

У той жа дзень Аляксей закінуў фінку ў таёжнае возера. А праз два тыдні Таня распісалася з шафёрам, які развозіў з ёй абеды.

Камбат яшчэ доўга ўглядаўся ў прыцэмак Мёртвай касы. Заціхла далёкая кананада. Толькі зрэдку двух-трохпатронным тахканнем агрызаўся кулямёт. У поўнач з-за вышыні пачалі ўзлятаць ракеты, аддаляючы на колькі секунд прыцэмак, быццам фатограф разводзіў і зводзіў чорныя завесы аб'ектыва. Яны ўзляталі роўна, праз пяць хвілін, як бы нябачная стрэлка гадзінніка, дайшоўшы да патрэбнага дзялення, тузала спуск катапульты.

— Драмануў трохі?

— Выспаўся...

— Гранаты ўзяў?

— Дзве супрацьтанкавыя.

— Пярэрва між ракетамі — пяць хвілін. Як адгарэць — перакідай боты і адзенне. Кідай у траву. Не паспееш абагнуць калючку — замры, пачакай другой ракеты. Гранаты — з сабою.

— Добра...

— Перапаўзеш — адзенься-абуйся. Знайдзі сушэйшае месца. Замаскіруйся, затаіся. Думай, як прайсці бліпчасты дрот.

— Мне б што цвёрдае для апоры...

— На ліха?

— Ёсць адна задума...

— Пусты дыск з-пад кулямёта — пойдзе?

— Пойдзе.

— Я думаю — лішняе. Цягнуць толькі.

— Потым пакіну яго за калючкай.

— Ну, табе відней...

— Хай будзе...

— Вазьмі мой парабелум. І гадзіннік — Сяргей трафейны перадаў.

— Нашто парабелум?

— А раптам што?..

— Што?

— Ну, скажам, кінеш — прамахнешся...

— Яны не прамахнуцца.

— І ўсё ж хай будзе.

— Хай...

— Гадзіннік вечарам накруці: спыніцца — згубіш час.

— Накручу...

— Днём — не варухніся. Чорт іх ведае, колькі ў іх там вачэй. І не засні... Заснеш — гэта навечна.

— Ведаю...

— Тры кулямёты будуць напагатове. Калі што — падстрахуем.

— У колькі наступленне?

— У шэсць. Як пачне развідняцца...

Яны памаўчалі. Кожны думаў аб сваім.

— Схаджу, вазьму пусты дыск...

— Схадзі...

Красовіч нырнуў у сляпіцу, праз мінут пяць быў поруч.

— Узяў?

— Узяў.

— І нашто ён табе?

— Там відаць будзе...

— Што яшчэ...

— Вось дакументы мае. Калі што — ясна куды...

— Ведаю...

— Або Сяргею Гораву перадай.

— Мо вернешся шчэ...

Красовіч змаўчаў.

Ракеты ўзмывалі ўверх, віслі на колькі секунд у сполахах неба, ахопліваючы святлом шэра-сіні пясок Мёртвай касы, уздыбленыя грывы чаротаў, і, гаснучы, падалі ў морак. Вецер, нагойсаўшыся за дзень, сцішыўся, недзе злёг. Было золка. Ці, можа, ад напругі і ўяўлення нялёгкага шляху цела прабіралі дрыжыкі. “Сто метраў за паўтара сутак... Лягчэй бы сто кіламетраў за гэты ж час...”

— На пясок не вытыркайся... Больш чым упэўнены — там міны.

— Не палезу. Хіба што дзе з краю...

— І з краю не лезь.

— А драцяныя гуслі?

— Мо падныпнеш...

— А як зачэпіш? Яны ж не проста так...

— Відаць, не проста...

Яшчэ колькі мінут памаўчалі.

— Ну, Аляксей, пара...

— Пара...

Камбат левай рукой абняў за плечы:

— З Богам!

Хвост ракеты захлынуўся ў дыме, нырнуў у цемру. Красовіч слізгануў з чароту, зліўся з сажай начы. Сэрца камбата адлічвала секунды. Нарэшце новая ракета завісла ў бяздонні неба. Але як не ўглядаўся ён у той бок, куды папоўз Красовіч, нічога не ўбачыў. “Як праваліўся... Малайчына”. Пачакаў, пакуль яшчэ

адзін водбліск рассунуў цемру, да колікаў у вачах утаропіўся ў балаціну, шукаючы хоць што прыкметнае, але зноў зрок не зачапіўся за тое адметнае, што цьмяна акрэсліла б затоеную постаць.

Перад чэмпіянатам Еўропы нагрузкі ўзраслі. Аляксей адчуваў, што пара б спыніцца, даць перадых навярэджанаму целу, але трэнер зноў і зноў прымушаў яго пракручваць фазы скачка. Аляксей разбягаўся — які, ці не соты раз? — і бяздумна ўзлятаў над планкай.

— Цярпі, цярпі, казак, атаманам будзеш! — трэнер паляпаў па плячы. — Давай яшчэ разоў дзесяць.

Аляксей зноў ішоў на планку, як галавой у сцяну — падаў на мяккі паралон.

— Усё... Больш не магу... — хацелася правалiцца праз мякаць матаў, правалiцца ў гаючую прахалоду басейна і ніцма ляжаць датуль, пакуль вада не адцягне стому і млявасць.

— Ну-ну, стары! Расслабіўся, разлёгся, як сасіска... Нас жа Еўропа чакае. Майфарт, Вшола, Крупек... Ты іх павінен пабіць!

Аляксей ляжаў, шырока раскінуўшы ногі. Што яму гэтыя маральныя бязбольныя цвікі, якія заганяў у спіну трэнер? “Чым перамагчы? Аднаго жадання мала...”

— Ды ты падумай: Рым, Пантэон, амфітэатр, Ватыкан... Можа, і не выйграеш... Але ж пабудзеш... І сёе-тое купіш — відэамагнітафон, шмоткі... Шык! Можа, і мне перападзе...

“Толькі і чуеш: шмоткі, відэа... Гары яны гарам! Я не дарос яшчэ да Еўропы”.

— Давай, стары, яшчэ два разы. Штуршок мацней, магутней! Выкладзіся.

Аляксей нехаця ўстаў, выйшаў на адметку разбегу, зірнуў на планку. Прыўзняўшыся колькі разоў на насках, пачаў разбег пругка, быццам укладаў у кожны ціск ступні нарастаючую злосць. Апошнія тры шырокія і — штуршок! Боль працяў нагу страшна,

быццам у бядро ўсадзілі вострае кап'ё, і яно, прабіўшы правы бок, вылезла аж у перадплеччы. Збітая цэлам планка адляцела за стойку. Аляксей упаў на бок, ухапіўся за бядро і, каб хоць трохі адагнаць боль, пачаў масажыраваць вялікую мышцу. Сутарга прайшла, але бядро гарэла, быццам з яго выцягвалі гарачыя жылы.

— Што, што з табой? — замітусіўся трэнер.

— Нага... — ледзь выдыхнуў Аляксей, скрыгітнуўшы зубамі.

— Дзе?

— У бядры...

— Сядзь... Ну сядзь, супакойся.

Аляксей прыўзняўся, сеў на левы бок, апёршыся на руку, расслабіў правую нагу. Боль памалу, як пажар, пачаў распаўзацца па ўсёй назе — у сцягно, у калена, у ікру...

Інін быў старэйшы за Аляксея гадоў на дзесяць. Белая густая канадка — у ёй і сівізна не відаць — прыгожа адкрывала аскетычныя лініі шчок, прамы нос, прыпухлыя губы. Сіняя адзідасаўская масцерка з чырвона-белымі палоскамі на рукавах яшчэ больш падкрэслівала яго эфект. Такое ж трыко, белыя красоўкі... І нават рухі яго ішлі прыгожа і грацыёзна, быццам разлічаны былі не на вучня, а на таго, хто падглядаў, любаваўся ім. Такіх любілі.

Так здавалася Аляксею. Не раз у падтрыбунным буфеце, п'ючы апельсінавы сок, чуў Аляксей, як нафуфыраныя прадаўшчыцы змоўліва шапталіся, адорвалі трэнера вабнымі ўсмешкамі, ківалі адна адной: "Красаве́ц!" Гадоў пятнаццаць назад ён быў чэмпіёнам рэспублікі, выступаў на Еўропе, але больш двух дваццаці ні разу не ўзяў. Завочна закончыў інстытут фізкультуры, стаў трэнерам "Дынама". Да яго прыходзілі недаспелыя высотнікі, якіх трэба было, як ён казаў, даводзіць да міжнародных вышынь. Малодшыя групы ён не вёў.

У арку стадыёна заехалі белыя "Жыгулі". Той, што быў за рулём, вылез, памахаў рукой, зноў сеў у

машыну. Інін, паказаўшы, што бачыць, прывітальна павёў даланёй у адказ.

— Ну што, Лёша, сёння закончым, — трэнер зірнуў на электронны гадзіннік. — Ты зайдзі ў медпункт, пакажыся Зоі. Хай паглядзіць... А заўтра раніцай пазвані.

"Жыгулі" прасігналілі.

— Ну, бывай! Я пабег.

Аляксей асцярожна ўстаў, дакульгаў да лаўкі, забраў спартыўны касцюм і, не адзеючыся, пачыкільгаў да трыбуны. Кожны крок аддаваўся болем. "Хоць бы не пераломы..."

Спрытная і ўвішная Зоя ўважліва агледзела нагу, некалькі разоў націснула на бядро:

— Скінь шыпоўку, выпраміся. Не-не, не ўставай!

Аляксей, перасільваючы боль, нагнуўся, сцянуў з запятка шыпоўку, скінуў мокрую ад поту гетру.

— Цяпер сагні нагу і выпрамі.

Аляксей сагнуў нагу і выпраміў. Трохі атупелы боль зноў выпырснуў з бядра, як ток, разбегся па ўсіх мышцах.

— Дзе?

— Тут, — паказаў Аляксей і зірнуў на бядро: сіні падцёк даўжынёй з пядзю пухлінай расплыўся на верхнебакавым схіле вялікай мышцы.

— Я думаю, пералому няма. Парыў звязак ці расцяжэнне. Але ты прайдзі рэнтген. На ўсякі выпадак... Зоя туга перабінтавала бядро. Аляксей адзеў трыко, абуў красоўку, узяў сумку:

— Усяго добрага!

Над стадыёнам у блакіце неба купаліся галубы. Па дарожцы адмервалі кругі два юныя бегуны.

Да калючай спіралі дроту ён дапоўз за два заходы. Калі ўзляцела трэцяя ракета, Красовіч пільна ўглядзеўся ў балота па той бок, вызіраючы месца, куды лепей можна было кінуць адзенне і боты. Метры за тры ад калючкі чарнела як выскубеная ўпадзінка, прыкрытая з боку дзота сухім травастоем. "Сюды,

толькі сюды... Яно і відаць не будзе". Лежма, калі апошні блік святла патануў у сутонні, скінуў маскіровачны халат, сцягнуў гімнасцёрку, разам са світэрам зняў кашулю. Па целу ад начной прахалоды пабеглі дрыжыкі, скура пайшла гусінай шорсткасцю. "Ахалодае трохі — пройдзе..." Павярнуўшыся на спіну, левым наском нагі ўпёрся ў заднік правага бота. Набрынялая халява не паддавалася, але калі натужыўся мацней — з рыпам памалу пайшла на пятку. Аляксей накінуў гімнасцёрку паверх голага цела, не паспеўшы сцягнуць бот, — новы зніч ракеты ўзмыў у бездань. "Нехта ж там ёсць, за ўзгоркам, не спіць, пускае, як заведзены..." Тут, за валам дроту, ён не баяўся, што ўбачаць. Днём будзе цяжэй, калі магутныя цэйсаўскія лінзы бінокля пачнуць абмацваць кожную купіну, недаверліва ўглядацца ў пудлівыя ківанні травы, весці зірк па кожным метры багны.

Ракета пагасла. Аляксей прыўзняўся, сцягнуў правы бот. Левы сышоў лягчэй. Хуценька разматаў анучы, накруціў іх на боты: чорныя ад гразі — ён гэта ведаў, — яны змекчаць падзенне на зямлю. Скінуўшы штаны, запрыкрыў ногі... Сполах ракеты застаў яго на спіне. "Засталося перакінуць і апаўзці... — нешта калючае ўперлася ў хрыбет. Ён перасмыкнуў лапаткамі. — Трэба хутчэй, а то пачне развідняцца".

Доўга, ой як доўга — ці яму здалося — зырка палала ракета. Нарэшце нехаця счаднела ў дыме. Аляксей похапкам згарнуў халат і гімнасцёрку, стаў на калені і кінуў іх на той бок, у нябачную ўпадзіну. Туды ж паляцеў світэр з кашуляй. Штаны накруціў паверх анучы, каб мягчэй было, кінуў у цемру. Шпурнуў услед другі бот. Правай рукой намацаў пару звязаных гранат, левая — між падушачкай вялікага пальца і астатнімі — заціснула ствол парабелума і кулямётны дыск...

"Та-та... Та-та-та..." — вопытны кулямётчык удалечыні вытрымліваў рытм.

Аляксей спехам папоўз па слізкім куп'і. Каб не ўкалоцца якім старчаком, заплюшчыў вочы, бо ўсё

адно нічога не бачыў. Пад левай рукой хлюпнула вада і ён падаўся бліжэй да дроту. Рэскруць калючак уразалася ў балота метраў на дзесяць, але ці ляжала на хісткім покрыве, ці прытопленая ў вадзе, ён не ведаў. Адтуль, калі назіраў з камбатам, ды і тут, побач, нельга было вызначыць.

Выплеск ракеты прыціснуў к траве. І ўсё ж скошанымі вачыма за метр ад сябе ўбачыў канец калючкі. Ля яе, пацягнутая раскай, блікавала вада. "Апаўзу далей вунь па тым куп'і..." Здаецца, гэтая ракета гарэла яшчэ даўжэй за папярэднюю.

Прыцемак зноў расслабіў плечы. Аляксей узяў трохі лявей, асцярожна, як яшчарка, перабіраючы рукамі, цягнучы ногі, падаўся ўперад. Праз метры чатыры павярнуў управа, метры праз два, агнуўшы па яго разліках калючую рэскруць, павярнуў зноў направа, папоўз, як здавалася яму, у цемры, па другі бок паралельна дроту. Каб не збіцца, рашыў праверыць свае разлікі: паклаўшы гранаты, асцярожна пацягнуўся правай рукой убок, трохі пасунуўся яшчэ і, як некалі перад вожыкам, хіба што цяпер у прыцемку, далікатна паварушыў пальцамі, быццам хацеў казытнуць калючы роскід дроту... Як не сцярогся, усё ж дотык быў нечаканым і балючым. Але ў думках парадаваўся: "Усё нармальна". Папоўз далей.

Ракета высвеціла ўпадзіну, скамечанае адзенне, боты... — усё ляжала кучна. "Трэба спяшацца... Хутка пачне развідняцца". Аляксею здавалася, што кожны ўсплёск ракеты разаграе неба, няўмольна набліжае раніцу, і яна, разагнаўшы шэрань, вось-вось зачэпіцца на захадзе зыркім полымем. Аляксей заплюшчыў вочы, каб адкрыць іх, калі пагасне пушчаны россып святла. Так з цемры лягчэй было разгледзець цемру. Калі зірнуў — супакоіўся: паспее адзецца і адпаўзці. Як і былі, так і нацягнуў кашулю са світэрам, а пасля, не сціраючы ліпкую гразь з каленяў і бёдраў, адзеў штаны. Вільготныя парцянкі лезлі ў боты гэтак жа цяжка, як і вылазілі. Але, намогшыся, усё ж на-

цягнуў халявы, амаль імгненна ўлез у маскхалат. Падцягнуўшы пад сябе дыск і парабелум, акуратна прытуліў гранаты, затаіўся тут жа, ва ўпадзіне, за чубам кусцістага сіўцу. І ў час: ракета пырхнула — мо ад спеху падалося — крыху раней, палюбавалася сваімі яркімі блёсткамі і, не праляцеўшы ўніз трэцяй часткі свайго шляху, сканала.

Аляксей спахапіўся, слізгануў за жарству ўпадзіны, папоўз трохі лявей па ўзбалотку, туды, дзе за метраў сорак напята блішчалі ў водблісках асвятлення таямнічыя струны загароды. Тры разы, пакуль дапоўз, расцвіталі і вялі ў небе кветкі ракет. "Трэба далей у балота зашыцца, дзень праляжаць, а там — відаць будзе..." Ён, апіраючыся на дыск, а правай — на локаць, пакараскаўся ўлева, у балаціну. Тое, што парабелум мог замокнуць, яго не хвалявала. Наўрад ці ён спатрэбіцца. А вось гранаты трэба берагчы. У іх — усё. Пры святле чарговай ракеты ўбачыў учарнелы, перасохлы метры на тры раўчук, з аерам вакол, запоўз у яго адтуль, з боку балота, каб не прымяць спаўбуцвелую травяную заслону.

Калі да шасці гадзін засталося хвілін дзесяць, ракеты перасталі бударажыць морак. Пачало развідняцца.

Па дарожцы адмервалі кругі два юныя бегуны. У сектары для скачкоў, правёўшы размінку, выдурняліся падлеткі: з разбегу падалі спінай на маты з пераваротам на ногі.

Аляксей, накульгваючы, зайшоў сёння ў медпункт, сказаў, што пераломy няма, а толькі расцяжэнне звязак. "І гэта не падарунак, — паспачувала Зоя. — У цябе ж правая — штуршковая?" — "Штуршковая". — "Глядзі, калі-небудзь ад перанагрузкі можаш і звязкі парваць..."

"Магу і парваць... — ён прысеў на лаўку пад казырком цэнтральнай трыбуны. — Адны скачкі — ці ж гэта трэніроўкі?"

Аляксей зразумеў, што ў яго няма яшчэ той асновы, якая магла б выкінуць і ўзнесці яго вышэй двух дваццаці. Прыродныя даныя? Іх малавата. Вунь колькі цыбатых хлопцаў, можа, нават і магутнейшых, ходзяць на стадыён, але... На спаборніцтвах ён апярэджвае іх. У чым жа тады загваздка?

"Можа, зусім кінуць? — Аляксей нагнуўся, перавязаў шнурок левай красоўкі. — А што скажа Сяргей Панасавіч?" "Слабак! Здрэйфіў! Я табе, як сыну, верыў... Першая траўма, а ты зламаўся, раскіс, сябе шкадаваць пачаў. У спорце трэба ўмець цярпець... Цярпець і ўкалваць. Да сёмага поту. Эх, ты..."

Аляксей усміхнуўся, успомніўшы, што Сяргей Панасавіч таксама злёгку накульгвае на правую нагу: вайна ўсё-ткі пакінула яму асколачную адмеціну. А тут — "пад мірным ясным небам..."

Міжволі ўспомнілася родная школа ў надрэчнай, атуленай лесам, вёсцы. Там яны, басаногія бэйбусы, як казала маці, з абеду да вечара насіліся за гумовым літым мячом, збіваючы да крыві пальцы. Аляксей не адставаў ад сваіх аднагодкаў. У шостым класе, вясной, калі май зманлівым цяплом зводзіў некалькі гуртоў хлапчукоў на прырэчны поплаў, Аляксей запусціў вучобу, схапіў некалькі двоек па нямецкай мове. Уладзімір Іванавіч, худы, з прысіплым голасам настаўнік, прыехаў на веласіпедзе к яму дадому, нагаварыў пра яго вучобу. "Як, — завойкала маці, — ніводнай двойкі не бачыла я... Адны чацвёркі і пяцёркі". "І я ж дзённік падпісваю..." — здзівіўся бацька. Уладзімір Іванавіч доўга разглядаў дзённік, пасля вярнуў яго бацьку: "А вы добра пашукайце, павінен яшчэ адзін быць..." Другі дзённік знайшоўся пад сурвэткай на этажэрцы. У ім выкручаста сінелі двойкі, і не толькі па нямецкай. "Ах, злыдзень! — шкуматнуў бацька дзённік, разгадаўшы падлог. — Хай толькі з'явіцца!" "Во-во, мала вы яго б'яце", — падтрымліваў бацьку Уладзімір Іванавіч, сядаючы на веласіпед. Вечарам Аляксею перапала. Забіўшыся ў куток на печы, ён пакрыўджана шморгаў носам. Баба Юля гладзіла па

галаве, але маўчала, тым самым не апраўдваючы яго двойкі. На другі дзень ён адпомсціў "немцу": заняў з сябруком чараду чужых гусей і загнаў у яго гумно. Раніцай, калі гусінае гергатанне прывяло росшук цёткі Адэлі да настаўніцкага гумна, жаночы лямант і праклёны ўспалашылі ўсю вуліцу. А праз дзень Аляксей запісаўся ў лёгкаатлетычную секцыю, бо яго — помнілася, як школьны фізрук з'едліва ўсміхаўся, — "абстаўлялі дзяўчаты". І вучобу падцягнуў па ўсіх прадметах.

З Сяргеем Панасавічам спаткаліся яны на абласной спартакіядзе, калі Аляксей, порсткі дзевяцікласнік, выйграў стометроўку. Пажылы мужчына з кучомкай сівых аж да белізны валасоў утаропіўся, як Аляксей далікатна скідаў шыпоўкі, пасля падышоў, сеў побач.

— Пераязджай к нам, у спартыўную школу-інтэрнат.

— Мяне бацькі не пусцяць...

— Я ўсё ўладжу, была б твая згода.

— Я не супраць.

Праз два тыдні Аляксей прыехаў у школу алімпійскага рэзерву.

Двухразавыя трэніроўкі, заняткі са штангай, здачы розных нарматываў, залікаў — усё гэта, як у віры, закруціла Аляксея, прыціснула строгім рэжымам, навучыла ашчадна цаніць час. Вечарамі, зрабіўшы ўрокі, ён адольваў млявае жаданне сну, уключаў настольную лямпу і падоўгу чытаў.

Тры месяцы праляцелі для яго незаўважна. Хіба што трэнер успалашыўся: Аляксей пахудзеў да шасцідзесяці кілаграмаў. І так не малы, ён яшчэ больш выцягнуўся, быццам у арганізме драмалі нейкія нябачныя, падспудныя сілы, якія пры павышаных нагрузках ажылі, штурхнулі цела ўверх аж на пятнаццаць сантыметраў. Для спрынтэра, якому не шкодзіла маса і сярэдняя прыземленасць, гэта было смерці падобна. Баскетбаліст, валейбаліст, гандбаліст... — гэта было нармальным, трэнеры такіх шукалі. А вось бя-

гун на сто-дзвесце метраў павінен валодаць выбуховай сілай і, вядома ж, не ўзвышацца на дарожцы пад два метры. Кантрольныя вынікі на дыстанцыях не раслі, і трэнеры, паспачуваўшы, прызналі яго для спрынту бесперспектыўным. Сяргей Панасавіч і тут не пакінуў, перавёў яго ў сваю групу — групу высотнікаў.

Спакваля, пазнаючы азы адолення вышыні, Аляксей асвоіў "нажніцы". Ад паветранага пераступання планкі перайшоў да "хвалі", затым — да "перакату". Сяргей Панасавіч не гнаў вынікі, даючы хлопцу адчуць смак вышыні, уменне ўзяць яе па-рознаму. І толькі тады, калі Аляксей даволі тонка авалодаў гэтымі трыма спосабамі скачка, трэнер даў магчымасць яму перайсці на "перакідны". Сантыметры пайшлі ўверх, уздымаючы планку ўсё вышай і вышай, нарэшце дабраліся да той рыскі, за якой, праз дзесяць сантыметраў уверх, чырванеў жаданы рубеж многіх — два метры.

Аляксей пацёр скроні, быццам разганяючы ўспаміны, сціснуў правае бядро. Боль, трохі ўціхаміраны павязкай, глуха азваўся, перайшоў у тупое паколванне... "Тыдні два, не меней, пакуль аціхне..."

На новым табло то загараліся, то гаслі кропкі, літары, лічбы, беглі і знікалі яркія радкі квадратаў... — ішла наладка ці апрабаванне гэтай складанай электроннай сістэмы.

Раптам нечая рука легла на плячо. Аляксей, быццам заспеты на нечым саромным, уздрыгнуў, зірнуў праз плячо...

Пачало развідняцца. Неба, як велізарнае сіта, павolі прасейвала прыцемак, і наваколле стала раз'ясняцца: размытыя лініі вышыні сышліся ў акрэсленыя берагі абрысаў. Сталі відаць дубцы лазняку. Хмары адсунуліся ад небакраю, быццам вызваляючы прастору сонцу. І яно прачнулася, раздзьмухала прысак хмурай навісі. Барвяныя падпалы пачалі шырыцца, ахопліваючы кудзелістыя пасмы прасвят-

лелых аблок, пагражаючы вось-вось успыхнуць малінавым полымем. Нарэшце сонца вызірнула з-за небакраю, пекна выкацілася на відавок, не зыркае і пасенняму не рассыпістае.

І як не было вайны, як не было калецтваў, ран і смерці, быццам ахалодалі бязлітасныя баі, дзе ў кожны міг траса твайго жыцця магла сысціся з трасай кулі ці асколка і рэзка абарвацца... Аляксей як забыў усё, правалїўся ў тое, такое ж вераснёўскае ранне, калі яго бацька, узараўшы ладны кавалак поля, прывязваў каня ля частаколу, браў саламяны кораб, веялкай насыпаў у яго жыта і падвешваў на шыю. Як у вялікае свята, зачынаў сеяць, ступаючы роўна і важка, як на касьбе, адводзячы руку для замаху. Зярняты веерам ляцелі з далані, пырскалі ад неразбітых грудак. Аляксей жа ўпотайкі вымаў з-за пазухі ўкрадзены акраец хлеба, працягваў на руцэ каню. Той, адарваўшыся ад вядра з аўсом, з недаверам касіў вокам на пачастунак, цягнуўся вільготнай храпай і, каб не прыхапіць дзіцячую руку, далікатна браў хлеб.

Конь у іх быў свой. Дзед Нупрэй, выжыльваючыся на вясковым руме, ад ранняй вясны да прымаразкаў цягаў цяжкія бярвенні са шліхтаў, скочваў іх з гары ў халодную нёманскую ваду, вязаў плыты, а пасля гнаў іх аж у Балтыю. Сяк-так і наскроб ён трохі грошай. А калі застудзіў навярэджаныя ногі, кінуў рум, тупаў ля дому. Гектар жаўтапёсу, што застаўся яму з малодшым сынам пасля жаніцьбы старэйшых сыноў, змушваў да цяжкай падзённай працы. І без каня немагчыма было ўрабіць гэтыя, палітыя потам, соткі. Вось тады і купіў дзед Нупрэй на Зырчанскім хутары гнядога Фірку. Чаму так назваў каня дзед, Аляксей не ведаў. Мо ад таго, што конь, часта ўпінаючыся за плугам або цягнучы воз, выскальваў храпу і гучна фыркаў, а мо ў гэтым слове, трохі нязвычным для мужыцкага вуха, дзед чуў нейкую, толькі яму зразумелую, музыку аб лепшай долі і багацці. Як бы там не было, але конь спраўна падсабляў ва ўсёй працы па гаспадарцы.

Да прыцемкаў адсеяліся і ўсё забаранавалі. А раніцай дзед збіраўся ехаць на кірмаш у Нясвіж, каб прадаць з дзесятак выдубленых аўчын, пару сувояў палатна, купіць парася, дзве касы-літоўкі, ды яшчэ сякой-такой драбязы ў хату. Аляксей завіхаўся каля дзеда, падлабуньваўся да яго, памагаючы збірацца, каб заўтра — захапіў з сабой.

"Ідзі, ідзі, Лёксачка, спаць. Вазьму я цябе з сабой", — гаварыў дзед Нупрэй, перабіраючы вупраж.

Выехалі на кірмаш рана. Да Нясвіжа было вёрст дваццаць пяць — дарога няблізкая. Фірка жвава і цупка перабіраў нагамі, цягнуў не асабліва цяжкі вазок пад гару, лёгка бег па ўезджанай дарозе, мінаючы сям-там купы хутарскіх прысаддзяў. Колы, добра змазаныя дзёгцем, круціліся без віску, толькі рыпелі настрuненыя пастронкі ды час ад часу магутны "фыр-р-рк" даваў знаць Аляксею, што ўсё ідзе па дзедавам плану. Скруціўшыся клубочкам на ахапцы сена, накрыты дзедавым кажухом, ён дамройваў недагледжаныя сны, спуджана прыўзнімаў галаву, калі кола трапляла ў выбоіну ці на ўляжалую камянюку.

Калі пачало світаць, мінулі хваісты засценак. Дзед выцягнуў люльку, разгарнуў капшук з табаком, выняў з кішэні крэсіва і трут, пачаў прыкурваць. Нарэшце злавіў іскру, падпаліў табак. Уедлівы дым запяршыў у дзедавым горле, выбіў з грудзіны зляжалы кашаль. Конь, адчуўшы па кашлі гаспадарскі настрой, апярэдзіў падганятае "но пся крэў!" і рвануў хутчэй. "Чуе воўчае мяса, што пуга пад рукой..." — дзед Нупрэй азірнуўся. Аляксей прыўзняўся, сеў, накінуў на плечы кажух: "Дзед, нешта смярдзіць..." — "От сядзі сабе каменем, покуль сядзіш. А то апераджу пугай ды пешшу дадому адпраўлю".

Аляксей маўчаў, бо ведаў дзедаў нораў. Але праз якога паўкіламетра, адчуўшы ў смуродным дыме не пах табака, не выцерпеў: "Дзед, надта ж смярдзіць нешта..." — "Сядзі, табе сказаў, а то даскачашся", — дзед махнуў пугай ля крыжа Фіркі, але не сцебануў: от, так сабе, для большага страху для каня і ўнука.

Метраў праз дзвесце дзед Нупрэй раптам падскочыў, з мацюкамі і лаянкай пачаў пляскаць па зашмальцаваных ватовых штанах, якія пасля прастуды былі яго нязменнай формай ва ўсе поры года. "Фуфу, цьфу-цьфу!" — дзед круціўся як апечаны, развязваў на поясе паскі. Са штаноў ішоў дым. Нарэшце паскі паддаліся, штаны з'ехалі на валёнкі, агаліўшы дзедавы палавінкі.

Аляксей рагатаў, аж заходзіўся, паваліўшыся на сена.

Дзед нарэшце патушыў тлелую вату, падцягнуў штаны. Дзірка, велічынёй з кулак, агаляла бядро. Чорныя касмылі ваты тырчалі з абпаліны. Дзед змаўчаў колькі хвілін, а пасля павярнуўся і балюча сцебануў канчуком пугі па Аляксеевай спіне: "А чаго не гаварыў, паршывец, чаго ж маўчаў? О табе, о!"

Слёзы смеху пераліліся ў слёзы крыўды і нявіннай горычы...

Аляксей помніў, як дзед Нупрэй перавязаў бядро жаночай касынкай, каб — барані Божа! — кабеты на кірмашы не выглядзелі мужчынскі грэх, сутуліў плечы і моўчкі ехаў аж да Нясвіжа. Люльку больш не вымаў. Тады яны прадалі і купілі ўсё, што наважыліся, і пасля палудня былі ўжо дома.

Раптам нечая рука легла на плячо. Аляксей, быццам заспеты на чымсьці саромным, уздрыгнуў, зірнуў праз плячо...

— Ну, што нос павесіў? — Інін шмякнуў на лаўку побач з Аляксеем адзідасаўскую сумку, прысеў з другога боку.

— Не так нос, як нагу...

Аляксей чуў, што не так даўно з маладым трэнерам развялася жонка. Можа, і не ведаў бы, але насмешлівыя плёткі стадыённых работнікаў дайшлі і да яго вушэй. Як звычайна, інфармацыя трапляла ад нечых знаёмых таго, каго абгаворвалі, пераходзіла ад прыбіральшчыц да трэнераў, пасля трапляла на язык спартсменаў. І міжволі ў хвіліны перадыху Аляксею хто-небудзь са знаёмых спрынтэраў ці высотнікаў

выкладаў тыя тонкасці і падрабязнасці. Нехта, быццам бачыў сам, расказваў, што Барыс Інін кожную раніцу бегаў на зарадку. Не так на зарадку, як у суседскі дом да палюбоўніцы. І вось аднойчы сабраўся ён быццам бы ў камандзіроўку дні на тры. Касцюм прыгожы адзеў, гальштук павязаў, сумку са спартыўнай формай захапіў. Усё, як кажуць, чын-чынам. Але не ў камандзіроўку паехаў ён, а ціха лёг на дно ў каханкі. Піў, еў, гуляў... А вечарам перад апошняй ноччу маладзіца тая рашыла даць яму развітальны бэнц. Нарабіла салаты рознай, прысмакаў мучных напякла, напоі замежныя на стале выстраіла. А ў духоўку на бутылку з півам курыцу запякацца пасставіла. Пакуль пякла, варыла-парыла, поўнае вядро з верхам розных ачыстак назбіралася. Папрасіла Барыса вынесці ў кантэйнер, бо сама ад пліты адвінуцца не магла. Ды і хто мог бачыць яго каля дванаццаці гадзін ночы? Барыс у трыко хуценька пасігаў з вядром у двор. Дабег да кантэйнера і нос у нос сутыкнуўся з жонкай, якая таксама вынесла выкідваць ачысткі, бо гэтак жа жарыла і варыла, каб заўтра сустрэць мужа з камандзіроўкі. Жонка ўбачыла яго ў трыко з вядром і анямела: як, адкуль, з чым вядром? Адправіла яна яго туды, адкуль прыйшоў, а сама назаўтра падала заяву ў суд на развод.

Аляксея не асабліва хвалявалі перапетыі чужога жыцця, бо і сваіх клопатаў хапала. Але апошнім часам ён пачаў заўважаць, як да Ініна на стадыён заязджалі машыны замежных марак. Выглянцаваныя хлопцы, відаць, далёкія ад спорту, падоўгу шапталіся з трэнерам, нешта прапаноўвалі, клікалі з сабой. Час ад часу з машыны выпырхвалі расфуфыраныя, як райскія птушкі, фасоністыя маладзічкі, гучна смяяліся, бессаромна абдымалі Ініна... Потым з'язджалі. Хто ведае, можа, трэнеру прапаноўвалі які-небудзь камерцыйны зговар ці бізнес. Але бачыў Аляксей, як вяртаўся Барыс Іванавіч, вяртаўся не з іскрынкамі ў вачах, а нейкі спустошаны, здавалася, нават пастарэлы. А яшчэ ранкам, калі пачыналася

першая трэніроўка, да стадыёна ліха падлятаў новенькі "мерседэс", прывозіў аднекуль трэнера. Аляксею здавалася, што Інін прыехаў хутчэй за ўсё з якога-небудзь банкета ці гуляння. Прыкметныя мяшкі пад вачыма, асалавелыя вочы паказвалі на тое, што трэнеру не шкодзіла б гадзіны тры-чатыры драмануць...

— Дык што будзем рабіць? — Інін крутнуў на пальцы брэлок з ключамі.

— Перш адляжацца, а там — відаць будзе.

— А Еўропа?

— Пачакае год. Ды і не гатовы я да яе яшчэ.

— Чакаць якраз і няма калі. Мне хутка — трыццаць пяць. Няблага б заслужанага к гэтаму часу мець.

— А я прычым? — іранічна зірнуў Аляксей.

— Ты — мая падпора.

— А калі я не хачу быць ёй?

— Знойдуцца іншыя.

— Ну і шукайце! — Аляксей рэзка ўстаў і, кульгаючы, пайшоў між лавак да бліжэйшага выхаду.

— Пастой, пастой, стары! — Інін падхапіў сумку і рынуўся ўслед. — Не кіпяціся ты.

Аляксей павярнуўся і, можа, нават шкадуючы трэнера ў душы, цвёрда выгаварыў:

— Барыс Іванавіч! Я да вас больш ніколі не вярнуся.

Інін, відаць, не чакаў ад гэтага ціхмянага "салагі" такога павароту, але, каўтануўшы слюну, злосна кінуў:

— Ну і прападай! Чорт з табой! Вольнаму — воля...

На электронным табло беглі вогненныя пункціры.

Красовіч адмружыў вейкі, са страхам падумаў, што ад тых цёплых дзіцячых успамінаў мог заснуць. І ўсё ж падспуднае адчуванне блізкага ворага, трывога за тых, хто застаўся за трыснягом, не давалі сну перарэзаць свядомую нітку кантролю і зрынуць цела ў мройную бездань. Ды і тры гадзіны бяспамятнага перадыху на ўзлобку балаціны трохі падмацавалі сілы, акрыяла адвярэдзілі сонныя магніты вачэй. І цяпер, пакуль зрылася сонца, трэба было вывучаць

кожную пядзю зямлі, прыкінуць усё ў думках, зрокава прачарціць будучую сцежку да дзота. Калі дурэскруць калючкі засталася ззаду, трэба было думаць, як адолець меднае нацяжэнне тонкіх правадоў, якія струменілся глыбока ў балота. І не толькі думаць, але ноччу адолець іх, адолець знізу ці зверху, не патрывожыўшы гэтыя, магчыма, напоўненыя токам ніткі.

Дзот з лазовым кустом наверсе нагадваў вялізнага вожыка, які жаралом мог смяртэльна ўкалоць любога, хто ступіў бы на Мёртвую касу. Там, у яго лабірынце, затаіліся адзін ці два вопытныя кулямётчыкі. Хутчэй за ўсё — два. А, можа, вартуюць яны пазменна: адзін ноччу, другі днём. Ноччу падарваць дзот было б лягчэй. Ды і наўрад ці чакае вораг, што нехта зможа перабрацца праз Ведзьмаковы балоты, ахінуць калючы дрот. Калі і здолее, то наўрад ці пройдзе незаўважаным праз хітры невад медных струн. А што яшчэ можа быць за імі? Міны? Ліха яго ведае. А мо і не ставілі іх, спадзеючыся на непраходнасць балот...

Красовіч асцярожна адвёў рукой лязо аерыны, ахапіў вачыма Мёртвую касу. Яна, пясчаная і таямнічая, цягнулая метраў на сто ўдаўжкі і метраў пад трыццаць ушырыню. Яшчэ ўчора ён заўважыў, што нечым яна нагадвае ступню магутнага веліканa, які некалі паставіў адну нагу сярод балота і жоўты след ад яе так і застаўся сярод глухамані. Метраў за трыццаць ад дзота след праразала неглыбокая ўпадзіна. А на самай пяце зеўраў — пракляты дзот. Красовіч утаропіўся ў яго, быццам вачыма хацеў пранізаць бетоннае нутро. Раптам сярод дубцоў лазняку нешта бліснула. Пальцы лёгка адпусцілі аерыну, цела міжволі шчыльней прыціснулася да зямлі. Быццам куля, мільганула думка: “Снайпер!” Так, відаць, гэта быў снайпер, які неасцярожна павярнуў вінтоўку і акуляр прыцэла схапіў сонечнага зайчыка. Іншага там быць не магло. Значыць, баяцца ўсё ж удару ў спіну, хоць і не вераць, што нехта рынецца сюдою.

“Трэба быць асцярожным... — Красовіч палажыў галаву на зямлю. — Што не ўбачыць кулямётчык, тое агледзіць снайпер”.

Лёгкія аблокі закучаравілся на гарызонце, паплылі, засланяючы сонца, на Красовіча. І амаль тут жа з’явіўся іх паганяты — вецер. Нябачнай расчоскай прайшоўся па грыве аеру, шабуршнуў у прысохлым бадыллі трыснягу, закалыхаў, затрапятаў, гайдаючы кожнае каліва травы. “Шчасліваму сам чорт дзяцей калыша, — узбрыла на памяць Красовічу даўнішняя бабуліна прымаўка. — Ды і вока варожае не надта выхапіць мяне ў гэтай варушлівай мітульзе. Толькі б дождж не прыгнала”.

Красовіч узняў галаву, яшчэ раз агледзеў напятыя струны загарадзі, зрокава прыкінуўшы іх вышыню. “Крыху больш за паўтара метра. Браў жа такую некалі. Нават і болей. Але то ж было да вайны, а цяпер... Адзін неасцярожны дотык — і загудзе, зазвініць дрот... А дзот сыпане трасерамі, касяне няшчадна, што і не ўтулішся ў зямлю...” Думкі праплывалі, як аблокі, вышугвалі іскрынкамі, шукаючы выйсце з гэтай пасткі, беглі то ў бок трыснягу, дзе затаіўся батальён, то сігалі да пяты касы. А выйсця, як і сонца, пакуль не было.

На электронным табло беглі вогненныя пункціры. Як і дзесяць дзён назад. Як і тады, некалькі стайераў накручвалі кругі. Як і тады, хлапчукі выдурняліся ля скачковай ямы з паралонавымі матамі.

Боль у назе амаль прайшоў. Аляксей выняў з сумкі цюбік фіналгону, выціснуў сантыметры два і асцярожна расціркай пачаў масажыраваць жаўтлявы падцёк на правым бядры. Светлыя мазкі мазі роўна разыходзіліся па скуры, кругляшык расціркі тарачкай наганяў кроў і тая ўбірала гаючыя дары югаслаўскіх лекаў. Праз колькі хвілін прыемнае цяпло ахутала нагу. Цяпер можна было бегаць, скакаць, куляцца, па-ранейшаму адчуваючы здароўе і спрыт у нагах. Але — Аляксей ведаў гэта — штуч-

ная эйфарыя таіла і небяспеку. Пакуль была пярэрва ў трэніроўках, адвыклыя мышцы якраз маглі не вытрымаць і парвацца ад рэзкай нагрузкі. Таму ён спакойна адзеў трыко, перавязаў красоўкі і лёгка, на першы погляд нават лянівa, пабег па тартанавай дарожцы стадыёна. Ля выяздных варот, убачыўшы Зою, усміхнуўся, памахаў ёй рукой. Тая таксама асвяціла яго кіўком галавы, адкінуўшы назад роспадзь русявых валасоў:

— Ну як?

— Нічога, жыць буду...

— Не перасільвайся!

— Ведаю.

Аляксей бег і думаў: навошта ён бяжыць і куды? Каму гэта трэба і для чаго? Каму? Відаць, трэба, папершае, самому сабе. Наматаць сотні кругоў, падняць тоны жалеза, зрабіць тысячы скачкоў на трэніроўках, каб скочыць вышэй галавы. Па-другое, не толькі пераскочыць сябе, але і дасягнуць той вышыні, якую яшчэ не браў ніхто, адолець яе, парваўшы магнетычныя сілы зямнога прыцяжэння. Вось так некалі рваліся ў неба людзі, ламалі ногі, рукі, гінулі, зайздросцячы птушкам, зноў пачыналі спачатку, пакуль не скарылі неба, не выйшлі ў апраметную Сусвету. Але то ж іх узнялі машыны — магутныя, крылатыя. А чаго можа дасягнуць чалавек сам? Дзе той рубеж, дзе тая мяжа — канечныя, пасля якіх у вяках ніхто больш не прыбавіць сантыметр, грам? Дасюль устанаўліваліся рэкорды, ды яшчэ якія! Скачок у даўжыню — пад дзевяць метраў, сотня метраў — за дзевяць з паловай секунд! Ім маглі пазайздросціць кенгуру і антылопа. Але чалавек упарта рвецца да новых імгненняў і даўжынь. Таму і жыве, жыве надзеяй. А калі знікне мэта — знікне і ён, ператворыцца ў рахманую, лянівую жывёліну...

Аляксей бег і адчуваў, як ранейшая сіла вяртаецца ў наспружыненае цела, дыханне памалу становіцца роўным і глыбокім, хваля цяпла падымаецца вышай і вышай, нарэшце кропелькі поту праступаюць

на лбе. “Хопіць для сугрэву...” Ля сектара для скачкоў ён перайшоў на хадзьбу, некалькі разоў глыбока ўдыхнуў і выдыхнуў, адначасна ў нахіле страсянуў расслабленымі рукамі і пачаў размінку. Хлапчукі з зайздрасцю пазіралі, як ён шырока круціў рукамі ўправа-улева, разаграючы мышцы спіны, размашыста біў паклоны падстрыжанаму газону футбольнга поля, а пасля, падышоўшы да белай стойкі варот, рабіў махі вышэй галавы, прысядаў у глыбокай разножцы, апускаючыся ніжай і ніжай... Яму, Аляксею, хацелася трэніроўкай заглушыць непрыемны асадак ад нядаўняй сваркі з трэнерам, адчуць, што ногі і цела яшчэ не згубілі ранейшыя навыкі і здатныя калі-небудзь выбухнуць магутным скачком уверх. А яшчэ хацелася вярнуць тую ўпэўненасць у сябе, якая была раней, бо без яе, гэтай апоры, вышэй галавы не скокнеш, а калі і скокнеш, то не намнога.

А выйсця, як і сонца, пакуль не было. Праўда, Красовіч і не чакаў сонца. Хутчэй чакаў вечара, ночы, каб неяк адолець гэтыя хітрыя правады і затаіцца ў балаціне насупраць пясчанай упадзінкі, а ранкам за хвіліну-дзве да наступлення выскачыць знянацку на пясок і шыбануць дзве супрацьтанкавыя гранаты ў самы рот дзота, каб замоўк навечна...

Лёгкі вятрыска калыхаў аер. Думкі, як і шапаткія павевы, плылі ў даўніўшняе, далёкае і мінулае дзяцінства, паўгалоднае, цяжкае, але памяткае сваёй уражлівасцю, пазнаннем свету і прыроды. Помнілася, быццам было гэта ўчора, як брала яго баба Наста з сабой, збірала розныя карані і травы, паказвала і расказвала пра лясныя і лугавыя дзівосы. Ці ж ведаў бы ён, што вось гэты аер вякоў сем назад завезлі ў Белую Русь татара-манголы? Баючыся атручанай вады, кідалі яны сухія калівы з бурымі губкаватымі каранямі ў азярыны, старыцы і тыя размакалі, ляпіліся к берагу, учэпіста пускалі ў глеістае дно доўгія мочкі, выстрэльвалі трохграннымі мячамі лістоў, і — як казала баба Наста — ачышчалі ваду. Бывала пры-

насіла яна цэлае бярэмя аеру перад Сёмухай, утыкала яго пад бэлькамі, абвівала абразы, клала на падаконнік. П'янкі водар напаўняў хату, з ім лёгка дыхалася і спалася. Карані ж аеру баба Наста сушыла, пасля рабіла настоі, лячыла ў хворых усякія ўнутраныя хваробы.

Ранняй вясной, калі сплывалі з Нёмана крыгі, а разводдзе памалу ўтаймоўвалася, увахodзіла ў берагі, на сугрэвах узвышаных астраўкоў, што туліліся сярод лугавой вады, зелянілася трава і выпстрыквала чарамша — мядзведжая цыбуля. Баба Наста, худая, прыгорбленая вечнай працай на зямлі, дужымі жылістымі рукамі закідвала ўнука сабе на шыю, высока закасвала падол палатнянкі і сцярожка брыла па халоднай вадзе да тупкага долу. Удваіх яны хутка нарывалі торбу чарамшы, падобнай на лісты ландышу, і баба Наста, перакінуўшы почапку торбы праз плячо, зноў уздзябурвала Аляксея на каршэнь, валакла аж да сухой сцежкі. Хлопец саскокваў на пясок і пытаўся: "Баба, і табе не холадна?" — "Не, унучак, кроў у мяне гарачая. Ды і звыклая я". Аляксей дзівіваўся, што ў бабы Насты кроў гарачая. Чаму ж тады ў яго халодная? Але думаць было не надта калі. Ступаючы ўслед за босымі, закарэлымі пяткамі бабы Насты, ён слухаў лясныя перапевы птушак, пераскокваў на сцежцы жука-паўзуна, накрываў даланёй якую-небудзь кузурку, поркаў у сухія купіны, вышкільваючы адтуль яшчарку, прыпыняўся перад мурашнікам... "Мурашы, як і людзі — руплівыя, разумныя. У іх — свае дазорныя, як і ў нас, нават могілкі за мурашнікам ёсць", — паказвала патырчакай недзе ўбок баба Наста.

Дома дзед Нупрэй адразаў кожнаму па скрылі сала, лусце хлеба. З імі чарамша ўпляталася так смачна, што аж за вушмі трашчала...

Аднойчы баба Наста ў лесе вывела яго на пажарышча. Абвугленыя камлі соснаў абступілі ўзлобак ляснога гала. А пасярод яго высіўся куст ні то асоту, ні то чартапалоху. "Гэта, унучак, мардоўнік. Ён — для

сілы мужчынскай. Найбольш же — у насенні. Запомні гэта месца". Аляксей не вытрымаў тады, катурхнуў бабу пад бок: "А давай дзеду Нупрэю нарвём!" — "Хай ён выпражацца, жарабец гэты!" — баба Наста ведала не толькі замовы, але і кленічы. Тады яму, маламу, няўцям было пра гэты мардоўнік і бабіну кляцьбу. Адным вухам чуў ён, што дзед Нупрэй кожным адвячоркам выходзіў на двор, быццам яшчэ раз зірнуць ці закрыты весніцы і брама, ці замкнёны ўсюды дзверы. Але ж адзін раз нешта надта доўга затрымаўся ён. Баба Наста, відаць, нутром адчуваючы нешта паганае, ціхенька шуснула з хаты, прывідам слізганула каля ёўні і ўбачыла паўрасчыненыя дзверы адрыны. Прыглушаныя галасы дзеда Нупрэя і суседскай Адэлі ў такі час не збілі з панталыку бабу Насту: як раз'юшаная квахтуха, уляцела яна ў прыцемак, ды так накулдэшыла дзедаву абранніцу, што тая, хоць і дзябёлая, стралой пераімчала пляц. А назаўтра дзед па мяжы ўкопваў слупы, прывязваў жэрдкі, гнуў між імі лазовыя пруты — ставіў нечаканы плот.

Аляксей прыйшоў на стадыён рана, але малодшыя групы працавалі ўжо. Сектар для скачкоў мільгацеў разнафарб'ем спартыўных касцюмаў. Цыбатыя падлеткі са смехам куляліся праз планку на мат, падбіралі разбег, білі паклоны футбольнаму полю. Сяргей Панасавіч раз-пораз падыходзіў то да аднаго, то да другога, нешта падказваў, папраўляў, уталкоўваў. Адышоўшы, пільна назіраў за трэніроўкай.

Аляксей лёгка збег па прыступках сектара, зайшоў да Сяргея Панасавіча са спіны. Трэнер, быццам адчуваючы, раптам азірнуўся:

— А-а, Андрэевіч? Ну-ну, ідзі, садзіся...

— Добры адзень!

— Добры, добры... — Сяргей Панасавіч пацiснуў яго руку, лёгка абняў, павёў да лаўкі. — Я ведаў, што прыйдзеш. Адчуванне такое было сёння.

— Адкуль жа?

— Чуў у федэрацыі. Кажуць, Інін там цябе з гразёй мяшаў.

— Хай сабе лясы точыць, людзей марочыць. Я не баюся гэтага.

— І я так думаю: паплявузгае ды перастане. Але іншае мяне бянтэжыць: з табой як далей будзе?

— Да вас вярнуся... Самахоць займацца буду...

— Пачакай мяне трошкі, — Сяргей Панасавіч лёгка ўзняўся, — дам заданне ім, а то размагнічвацца пачалі...

Рэзкі свісток мігам сабраў падлеткаў вакол трэнера. Яны, некаторыя роўныя з ім, а другія вышэйшыя за яго, уважліва слухалі, не перабівалі. Відаць, кожнаму трэнер даваў асобнае заданне.

— Ну, што задумаўся? — Аляксей не заўважыў, як падыйшоў трэнер.

— Ды так, пра жыццё...

— Гэта няблага. Пра жыццё трэба думаць. Маё ўжо амаль мінула, а вось пра тваё — ох як трэба думаць! — Сяргей Панасавіч прымасціўся побач, зірнуў на гадзіннік. — Час ідзе, як і жыццё.

Аляксей вінавата маўчаў. Ды і не любіў ён апраўдвацца. Што зроблена — тое зроблена!

— Ведаеш, сынок, — Сяргей Панасавіч абняў Аляксея за плечы, — я і сам шкадаваў, што перадаў Ініну. Спалохаўся, што не выцягну цябе да той вышыні, якую ты можаш узяць. Ды і няма каму ў нас перадаць. Быў адзін — Роберт Шавакадзэ, алімпійскі чэмпіён... У Грузію з'ехаў. А больш хто? Не было іх больш, высотнікаў. Я даскочыў да майстра спорту і — усё: вайна падкасіла, застуджаныя ногі пачалі балець. Перайшоў на трэнерскі хлеб.

— Сяргей Панасавіч, я сам буду трэніравацца, самастойна буду ўкалваць...

— Не, сынок... Укалваць трэба разумна, прадумана. Укалваць і вучыцца. Вось, дарэчы, што ты ведаеш пра "фосбюры"? Так сабе, у агульных словах... А як скачуць чэмпіёны, якая іх тэхніка разбегу, пераходу планкі? Ці ж бачылі мы? Вядома, не. Мне, старому,

таксама не зашкодзіла б паглядзець на ўсё гэта. А то з малымі атлусцеў, заімшэў, як той камень...

— Ну, што вы, Сяргей Панасавіч...

— Не трэба, Аляксей! Я пра сябе ўсё ведаю. Пара і мне схамянуцца, трохі асвяжыць мазгі. Вось таму і бяру цябе назад, у сваю групу. Будзеш для малодшых — як наглядны дапаможнік. Мая тэорыя — твая практыка. Згода?

— Згода, Сяргей Панасавіч! — Аляксей устаў, як зрынуў у душы велізарны камень.

Той нечаканы плот можна было рассунуць, праз дзірку пералезці на другі бок. А як узяць гэты, драцяны?

Красовіч адмружыў вейкі, але галаву не падняў. Краем вока ўбачыў, як абмінаючы купіну, выслізгнула з парыжэлай травы гадзюка. "Відаць, шукае сабе зімоўку..." Лянiва пераліваючыся, гадзюка перапаўзла руку Красовіча, збоку ад яго па ручаіне чорнай хваляй паплыла далей. "Знойдзе вывернуты корч — зашыецца да вясны..."

Да вечара заставалася гадзіны тры. Тры гадзіны за думкамі-прыпамінамі мінуць хутка і тады трэба адважвацца на нешта, каб перабрацца на той бок драцяной загародкі. Зноў, як і мінулай ноччу, з пярэрвай у чатыры-пяць хвілін пачнуцца выплескі ракет, а недзе далёка глуха пачне выбіваць рытм кулямёт. Вось тут і павінен ён пераадолець праклятыя струны. Як? Пра гэта камбат не сказаў. Падкапацца нельга, бо заўважаць. Відаць, прыйдзецца скакаць. "Але ж на пяску, ды яшчэ без разбегу? Пясок можна крыху разгрэбці. І тры крокі — не больш. А штуршок ад чаго? Ад пяску? Нага паплыве — і тады рынешся ў гэты смяртэльны невад. Зазвоняць струны, узляцяць ракеты і кулямёт праніжа навылёт. А што, калі..." Гэта "калі" і нёс Красовіч з сабой.

Міжволі ўспомнілася яму казка пра маладзільныя яблыкі і жывую ваду. Расказвала некалі баба Наста і таямніча заварожвала голасам: "Пераскочыць

конь сцяну — начэрпай збаночак вады, нарві яблыкаў ды зноў назад імчыся. Але захацелася хлопцу ў заваражанае царства зазірнуць. Зайшоў ён у палац, а там спяць усе. На сцяне меч-кладунец вісіць. І толькі схапіў ён яго, як зазваніла ўсё кругом, прачнулася...”

Вось і тут — зазвоніць усё, прачнецца, калі не пераскочыць ён. Зрэзаны кулямі, упадзе на пясок Мёртвай касы... “А што будзе з наступленнем? Або захлынецца ў самым пачатку, або столькі паляжа іх, пакуль не дабяруцца да дзота...”

Не, пра гэта думаць не хацелася. Чамусьці верылася, што адолее ён гэтую расцяжыстую перашкоду, нечакана выскачыць на касу і шыбане гранату ў варожую печ, дзе затаілася смерць.

Асцярожна, не робячы рэзкіх рухаў, падцягнуў руку да кішэні, выняў гадзіннік, лёгка накруціў галоўку да канца, паклаў яго назад і паволі выпрастаў руку. Толькі цяпер заўважыў, як анямела знерухомелае цела, зацяклі ад доўгай лежкі суставы ног і спіны. Падцягнуў нагу — і па мышцах пабеглі гарачыя мурашкі сутаргі, галёнку балюча закруціла. Красовіч падцяў нагу да жывата, колькі разоў ушчыпнуў амярцвелую скуру, пальцамі рукі пачаў праз халяву бота ціскаць лытку, naganяючы кроў. Хвіліны праз дзве адчуў, як цяпло напаўняе нагу, ажыўляе адубелыя пальцы. “Перад скачком трэба будзе размяць рукамі ногі, а то не адштурхнуся, не зраблю добрага маху...”

Колькі іх, гэтых махаў, было ў жыцці Красовіча? Не так і многа. Хіба што ў дзяцінстве, калі ноччу церабілі чужыя яблыкі або грушы, ■ разбуджаны гаспадар з млёнам ад жорнаў ці з качалкай вылятаў з сенцаў. Вось тады стрымгалоў, губляючы яблыкі, сігалі яны праз плот, ратуючы любімыя месцы паррэгі ад каламазі і пер’я. Ды хіба што ў юнацтве былі скачкі на спрэчку з хлопцамі. Тады нацягвалі вяроўку на самым беразе рэчкі і бралі вышыню, плюхаючыся ў ваду. Красовіч звычайна выйграваў ва ўсіх. Выйграваў лёгка і з вялікім запасам. Але гэта было даўно, да жаніцьбы...

Як велізарны камень, Аляксей бухнуў на падлогу ёмкую адзідасаўскую сумку. Маці з бацькам адчувалі, як цяжка выцягнуць сыну на спорткамітэтаўскую стыпендыю, таму нагрузілі яго, як маглі: з дзесятак буракоў, паўкошыка адборнай бульбы, сала і цыбуля, пара сыроў і гарнушак свайго масла, тры самаробныя кілбасы ды яшчэ розная наедзь, якая дапаможа Аляксею падмацавацца і захаваць сілы. Дзякуй Богу яшчэ, што за спартыўны інтэрнат плаціць не трэба. І ўсё ж маладому арганізму стыпендыі і бацькоўскіх калорый не хапала, таму Аляксей час ад часу хадзіў са сваім земляком-аднакласнікам на падзаробкі. Адзін час іх прынялі грузчыкамі на мясакамбінат. Аляксей вучыўся завочна на трэцім курсе філфака, таму яму было лягчэй перанесці другую трэніроўку на больш позні час. Ды і сама праца грузчыка была неблагой трэніроўкай. А вось Яўгену, невысокаму шустраму студэнту дзённага аддзялення, было горш. Ён мог сарвацца толькі з апошняй пары лекцый, знайшоўшы важкую прычыну ці мусовую зачэпку. Як бы там не было, але яны ў касках, адзетыя ў брызентавыя робы, паўмесяца цягалі свіныя і цялячыя тушы з рэфрэжэратараў, падчэплівалі іх на крукі і па падвесцы гналі ў халадзільныя камеры. Аднойчы ў такой камеры, трыццаціметровай, з праходам пасярэдзіне, затрымаўся Яўген: відаць, паляндвіцу з тушы выразаў на абед. Хлопцы гукнулі і, не пачуўшы адказу, закрылі камеру, уставілі ў зашчоўку шплінт. Герметычныя дзверы аўтаматычна адключылі там, усярэдзіне, святло. Праз паўгадзіны заўважылі, што няма Яўгена, успомнілі, дзе бачылі яго апошні раз. Калі адкрылі цяжкія жалезныя дзверы, з маразілкі вылецела воблака пару. Адагравалі яго спіртам. І хвілін дзесяць з рота ў яго вырываліся ні то ляскат зубоў, ні то гарлавыя мыкі, падобныя на мат.

Брыгаду аднойчы разагналі. І яны ўладкаваліся на піўзавод. Ім выдалі гумовыя боты сорак чацвёртага памеру. Аляксей на шкарпэткі накруціў анучы і гумовікі былі яму ў самы раз. А Яўген набэрсаў на

ногі дзве парыануч, але боты ўсё адно шлэпалі, калі хлопцы цягалі тару для бутэлек, грузілі машыны, пераносілі ячмень. Аляксей, захоўваючы спартыўны рэжым, піва не піў.

А Яўген, нацягаўшыся скрынак, прыкладаўся да бутэлькі ці конаўкі, жлукціў піва літрамі. Адзін раз, калі півавозы высмакталі з чанаў бурштынавае пітво, а хлопцы, стомленыя, знясіленыя, прыселі адпачыць, Яўген прысмокнуў:

— Піўка б для рыўка...

— У чанах — на дне толькі...

— Вядром бы зачэрпаць...

— А як? — спачувальна ўторыў Аляксей.

— Знаеш як? Я вазьму вядро, а ты мяне за ногі патрымаеш. Зачарпну — выцягнеш.

— Давай...

Яўген прынёс вядро, лёг на край чана. Аляксей узяў пад пахі яго ногі, пачаў павольна апускаць у чан. За метр да піва Яўген апусціў вядро, зачарпнуў залацістую вадкасць:

— Цягні!

Аляксей пацягнуў і Яўгенавы ногі вылузнуліся з гумавікоў, а сам ён пялёхнуў у чан. Мокры, як квач, стаяў ён на дне з напоўненым вядром, піва ручайкамі сцякала з мокрага адзення...

— Ну, што рабіць будзем?

— На вядро, а тады цягні мяне.

Вядро з півам лёгка ўзляцела наверх, а Яўген, учапіўшыся за пададзеную папругу, ускараскаўся на край нечаканай купельні. А Аляксею ўспомніўся Нёман, калі Яўгену стаматолаг паставіў залатыя зубы, але не замацаваў іх, каб прыцерліся. Яўген боўтнуў у вір першы, вынырнуў. "Як вада?" — спытаў Аляксей. "О!" — адтапырыў вялікі палец Яўген — і залатыя зубы цыркнулі ў ваду. Доўга ныралі яны ў вір, аблазілі ўсё, але зубоў так і не знайшлі.

Мокры, але вясёлы, Яўген выкручваў світэр, штаны, нязлосна кляў боты сорак чацвёртага памеру.

З піўзавода яны хутка звольніліся.

7 Зак. 3733

Аляксей перакладаў прадукты з сумкі ў халадзільнік і думаў пра заўтрашнюю ранішнюю трэніроўку.

Але гэта было даўно, да жаніцьбы. І хоць прабеглі чатыры гады, усё помнілася да драбніц, да кожнай рысачкі і кроплі. Памяць так яскрава ўвабрала тое даўнішняе жыццё-быццё, што магла, як на кінастужцы, адкруціць яго назад і вярнуць на вочы наноў...

З-за прорваў хмар выглянула няяркае вечаровае сонца, вятрыска аціх, як бы спалохаўся, каб не разагнаць летуценні і прыпаміны Красовіча.

Быццам ніткі правадоў гэтых, таямнічых і смяротэльных, цягнуцца ■ памяці тыя, ваўняныя і льняныя, якія доўгімі восеньскімі вечарамі пралі маці і баба Наста. Прасніца, як вымя каровы з адным сасам, струменіла нітку пад лоўкімі пальцамі левай рукі, правая ж — кружэліста навівала яе на верацяно. Плылі ніткі, лёгка гулі верацёны і вірылі жаноцкія росказні. Бывала, на вячоркі прыходзілі суседскія кабеты і маладзіцы, збіраліся пацвяліцца мужчыны. І тады хата поўнілася вясёлым рогатам, прыўвялічаным аханнем, цікавымі выдумкамі і жартамі. Але за ўсёй гэтай весялосцю жанкі не марнавалі дарэмна час, не адна ручайка напрадзеных за вечар нітак клалася на печ.

Наступны этап быў не менш цікавы. Тыя маткі пражы, якія збіраліся фарбаваць, вымочвалі ў шчолаку, залівалі з бярозавым попелам у жлукце — мятровай кадзі на трох ножках з заткнутай дзіркай у днішчы. Калі пража добра адмакала — паласкалі і сушылі. Потым баба Наста перабірала на пограбе ў торбах пучкі кветак і сцяблін, карані траў і задубелую кару дрэў — рыхтавала для адвару. На прысценных паліцах ляжала да сотні яе летніх здабыткаў, высушаных і перавязаных. Пахі кветак і зёлак пры пярэбары аж дурманілі галаву.

Для чорнага колеру баба Наста адкладала калівы і лісце бабоўніку, мучанік і бруснічнік, кару дуба і

крушыны. Для сінявы і чырвані з торбаў адсыпаліся мацярдушка з валошкай, альховая і рабінавая кара. Бярозавае лісце, маладое і смолкае, сабранае ранняй вясной, баба Наста аджменьвала для зялёных нітак. Потым ужо разам з маці яны мачылі і парылі пражу, варылі і залівалі кіпнем, як бацька казаў — вядзьмарылі!

Тыя ніткі, якія павінны былі заставацца белымі, рыхтавалі да кроснаў яшчэ раз. Пасля Калядаў на сцяне хаты ў выкручаныя свярдзёлкам дзіркі ўстаўляліся тры палкі. З нітак снаваліся пасмы: дзесяць разоў па тры ніткі. Потым маці з бабай збіралі ніткі ў пляцёнкі. Нечым яны нагадвалі косы, якія акуратна ўкладвалі ў ночвы. Маці выцягвала з печы пузатыя чыгуны з кіпнем, ахоплівала анучамі з бакоў, валакла іх да ночваў і апарвала ніткі. Ніцяныя косы падвешвалі на палцы пад бэльку, каб сцякла вада. Аляксей добра ведаў ад бабы Насты, што гэтая працэдура патрабавала пільнай увагі, бо ніткі гатовы былі зляпіцца або кончыкі іх маглі павыкручвацца. На наступны дзень пляцёнку здымалі з-пад бэлькі, рассцілалі на шырокім зыслоне і добра перылі пранікамі, раскладалі па нітках і зноў білі, білі добра і старанна, каб ніткі не воршыліся і не раскудзельваліся. Пасля ўсяго гэтага ніцяныя косы цягнулі адзін к аднаму навыцяжку, каб прыдаць ім шчэ лепшую роўнадзь. А тады падвешвалі на печы, каб яны за дні тры добра высахлі. З печы жаночыя рукі здымалі пражу, зноў моцна расцягвалі і збіралі ў касу. І вось у сакавіку, калі дзень доўжыўся, — памяць тонка захавала гэта — пачыналася самае цікавае. У хату ўносілі ставіцы кроснаў. Баба Наста чамусьці называла іх сошкамі. У іх закладалі два навоі. На адзін навой маці накручвала аснову, нацягваючы ніткі нагой для раўнамернага навівання. Баба драўляным грэбнем увесь час прычэсвала ніцяную пасму. Для таго, каб утварыўся зеў, у аснову прапускалі дзве чыноўныя лёстачкі. І вось тады, калі пачыналася накідванне асновы ў ніты, разгаралася спрэчка між

маці і бабай Настай. Ад парадку прапускання асновы і колькасці нітоў складаўся будучы ўзор тканіны. Калі ткалі палатно, то было прасцей, усё абыходзілася без крыку. Але калі браліся за палавікі ці абрусы, гвалту не міналі. Баба Наста настойвала на простай, у два ніты, палачцы ці клетачцы. Маці ж — каб прыгажэй было! — упарцілася на чатыры або восем нітоў, каб ткаць у елачку і кветачкі, у дымкі і ромбы ці яшчэ якія іншыя выкрунтасы. Нарэшце баба Наста здавалася: “А, давай па-твойму: табе жыць — табе любавацца!” Чатыры ніткі ўцягвалі ў вочкі (ці, як баба называла, кабылкі) ніта і завязвалі. Пасля закладвалася ў набіліцы бёрда, куды падаваліся ніткі з ніта, а лепш кажучы — працягваліся між трасцінак: у кожную — парка. Не дай Бог мінуць трасцінку: атрымаецца дарожка, падобная на разгон, або, як казала баба — ганьба. Між нітак прадзявалі пруточак і замацоўвалі яго на навоі. На цэўку — драўляную палачку даўжынёй ■ пядзю — накручвалі ўточную пражу і ўстаўлялі яе ў чаўнок. Знізу з нітамі злучаліся шнуркамі панажы, якія і прыводзілі ніты ў рух. Маці садзілася за кросны, баба Наста мітусілася побач, сачыла за парадкам — і праца пачыналася. Мільгалі ніткі, ныраў між імі чаўнок, стукала бёрда ■ набіліцамі і тканка памалу сунулся пад кросны, цешыла вока сваім пругам — роўным краем. Колькі прасесцей, або метраў, за дзень ткалі маці з бабай, Красовіч не помніў. Ды і не так лічыў ён даўжыню палавікоў, дарожак і посцілак, як больш углядаўся ў іх чароўны ўзор. Потым, калі пацяплее, палотны будуць перыць на Нёмане і адбельваць на расе, сушыць на беразе, а ручнікі, абрусы і наміткі лягуць у куфар, чакаючы вялікіх і важных святаў, каб выпырхнуць пасля і аздобіць стол, ложкі, ахінуць абразы...

Красовіч адрынуў успаміны, расплюшчыў вочы, балюча зірнуў на лініі дроту. Яны струменіліся, як ніткі ў кроснах, цяклі ў сонечны навой.

Колькі кіламетраў, дзён і начэй ішоў ён і поўз, каб дабрацца да гэтай чортавай пяты? Паўгалодны, змарнелы, аброслы шчэццю, цяжка ранены, ён дапяў сюды ці ж для таго, каб трапіць, як шчупак, у гэты драцяны невад. "Каму патрэбна яна, вайна, шалёная і бязлітасная? Простым аратаям, адарваным ад зямлі? Ці, можа, ім, немцам? Ці таму, самаму верхняму, з імем якога мы ідзём пад кулі, лажымся пад танкі, уміраем? Не, не ўсё так проста, як пішуць і гавораць: на нас напалі — мы абараняемся, адстойваем свой край. Але ж з-за нечага ўсё гэта пачалося? Была ж нейкая прычына першая, быў жа нейкі штуршок? Ці нешта не падзялілі вярхі? А цяпер чубы ў простых мужыкоў трашчаць. Як у лесе: калі ветрык ціхі, толькі вершаліны шумяць, а ўнізе спакойна; а калі ўверсе бура, то і камлі трашчаць. Ой, не ўсё так проста! Але напалі — то трэба бараніцца, ды так расхвастаць іх, каб дзесятаму заказалі не лезці..."

Колькі жыць будзе, запомніць Красовіч горкія вёрсты адступлення. Спаленыя вёскі, кінутыя хутары, здратаванае жыта, учарнелыя трупы, выкручаныя неймавернай сілай рэйкі... Дым і агонь... Пекла ў паветры і на зямлі... Слёзы і гора... Тры гады мясілі яго боты гразь і снег, каб нарэшце спыніць Зямлю і пачаць круціць яе ў другі бок. Здаецца, ад паражэння да наступлення прайшло не так і многа часу — думка сігане хутка! Але калі ўдумацца, ахапіць зрокава тыя франтавыя дарогі, задымленыя, паўгалодныя, закарэлыя, калі памяццю правесці іх праз пакуты і смерць, то, пэўна ж, не знойдзецца меркі і цаны кожнаму дню і кожнай вярсце. Ішоў дагэтуль Красовіч і не думаў, бо не было калі думаць, а вось цяпер, у пярэрве між баямі, раптам як ачаломаўся, ацверазеў, пачаў петрыць аб зямным і вечным. Толькі душа яго, збалелая і высушаная, не магла трываць доўга і рвалася ў бой. Рвалася, каб у помсце знайсці часовую палёгку або імгненную смерць. Жыццё яго пасля апошняга пісьма з дому згубіла сэнс. Яно, тое пісьмо, так раскрыявіла, спапяліла і выхаладзіла

душу, што Красовіч пачаў жыць як у непрытомнасці. Азвярэлы, бязлітасны, ён пёрся пад танкі, скрыгітаў зубамі і гранатамі рваў гарачыя тракі. Першы кідаўся ўрукапашную ў траншэі, і бяда была таму, хто сустракаўся з яго рукой. Кулі, як заклятыя, міналі яго цела. Толькі адзін раз, калі нямецкі танк азвярэла прасаваў той акоп, дзе ўціснуўся ў зямлю Красовіч, асколак не мінуў яго. Тады нямецкі танкіст так і не дабраўся да яго. І калі гусеніцы адкаціліся на метраў дзесяць ад акопа, ён атрос зямлю і шыбануў гранату ўслед танку, у самы бензабак... З выбухам працяла бакавіну, быццам нехта знянацку ўсадзіў у яго кап'ё. Не помніў, як яго падхапілі, данеслі да машыны, адправілі ў шпіталь. Засмяглыя губы не прасілі піць, толькі, калі расцінаўся прыкус, шапталі: "Юля, мілая мая... Юля..." Два месяцы вылежваўся ён, пакуль акрыяў. Тры праламаныя рабрыны і сцяжкамі зашытая бакавіна не ўтаймавалі яго рызыку і гнеў. Дагнаў свой батальён і зноў рынуўся пад кулі, пэўна ж, шукаючы збавенне ў смерці. Але смерць не брала яго. Не браў і страх. Бо не было для каго берагчы сябе. Хіба каб яшчэ не тое пісьмо...

Яно, трохкутнае, падпісанае крывой ці пакалечанай рукой, правалэндаўшыся з палявой поштай ці не з месяцы тры, усё-такі дагнала яго на адным з прывалаў. Пісаў сусед яго, дзед Карусь: "Юлю тваю ўгаворвалі пайсці на працу ў камендатуру. Калі адказалася, заперлі з сынам у хаце і падпалілі..." Калі прачытаў, што згарэлі, — анямеў. Усё, чым жыў дагэтуль, абрушылася. Як стукнуты, ляжаў на доле і ад бяссілля рваў зубамі траву, горка плакаў. Нават вестка аб тым, што ўзнагароджаны другім ордэнам Славы, не схамянула яго, не парадавала і не развеяла цяжкія думы. Бязлітасныя баі трохі адрынулі гора, бо бачыў, што ён не адзін такі: у некага забілі бацьку, у таго прапала сям'я, у трэцяга адарвала ногі. Ці ж ім лягчэй? І ўсё ж воблік яе жыў у вачах, нястомна паўставаў у памяці... Яе, мілай, трапяткай Юлі. Яна, мёртвая ўжо, жыла ў яго душы. А сына не мог

уявіць, бо не бачыў. Тры гады вайны — тры гады сыну... Было б...

Барвовае сонца паволі закацілася за небакрай і рассыпаныя жарынкі пачалі чахнуць, бляднець, знікаць зусім. Сутонне размыла абрысы зямлі і прыцемак ахапіў усё навакол, як быццам глынуў прорву неба.

Юля ўзяла сына на рукі, прыгалубіла: "Ціха, Андрэйка, не плач..." А сэрца ў самой трапятала і шчымела, як у загнанай птушкі. Знадворку грукалі малаткі і забівалі дошкамі вокны. Яна ведала, што там, на дварышчы, стаіць каля сотні сагнаных аднасельцаў, хмура пазіраючы на салдацкія завіханні. Афіцэр, малады, выгалены, вылізаны, прыспешвае эсэсні-каў, бо трэба да ночы вярнуцца ў гарнізон. Юлі здалося, што ён не проста так згледзеў яе ў натоўпе, не проста так пазваў да сябе: "Пойдзеш да нас у камендатуру?" — "Не". — "Мы добра заплацім, не будзеш галадаць". — "Не!" Афіцэр ашалеў ад злосці: "Заперці — спаліць! Так будзе з кожным, хто не хоча служыць нашаму парадку".

Здаецца, цвікі заганялі не ў вушакі і аканіцы, а ў яе сэрца. Яна гладзіла русявую галоўку сына, нячутна малілася. Андрэйка маўчаў, нават не ўсхліпваў.

Грукат сціх. Юля пачула, як загаласілі жанкі,загаласілі жаласна, божкаючы. Крычаць і клесьці ўголас баяліся: аўтаматы сцярожка сачылі за людзьмі. Нешта крыкнуў афіцэр. "А каб ты не даждаў, паскудзь! — Юля прыхінула Андрэйку. — Не бойся, сыночак". — "Мама, я на вуліцу хачу. Тут цёмна". Ён учапіўся ў падол, але не плакаў.

Да апошняга не верыла, што падпаляць хату, думала, што афіцэр хоча напалохаць. Відаць жа было — нутром адчувала, — што з першага пагляду ўлюбіўся, анямеў: з белай касой, акрыялая за тры гады пасля родаў, у самым соку. А каб харч яшчэ лепшы, ды не трывога за яго, роднага, мілага Аляксея? Хіба што лес ад вясны да позняй восені ратаваў: сок бярозавы

і смарчкі, лісічкі і баравікі, ягады, жалуды і травы, зёлкі...

Дым прасачыўся з крайніх шчылін столі, ля самай покуці, дзе вісеў абраз святога Паўла. “Падпалілі з гэтага краю... Хутчэй у сенцы!” Юля падхапіла на рукі сына, выбегла на кухню. Хутка дым прарвецца праз тарчыцы і закрыліны, запоўніць хату, а за ім пад сухія дошкі столі прарвецца агонь. Язычок клямкі заела, але Юля тузанула яе, прыстукнула даланёй і дзверы ў сенцы адкрыліся. “Божачка, паможы, выратуй!” Праз колькі хвілін полымя з'есць саламяную страху, храбуснуць і абваляцца перапаленыя кроквы і тады — усё: яны проста захлынуцца ў дыме, учадзеюць, згараць.

У сенцах было свяжэй і халадней. Юля апусціла сына, прыняла начоўкі, адкрыла дзверы ў камору і раптам успомніла!

Дзед Нупрэй некалі з сынам будавалі хату няспешна. Склюдам акуратна і роўна счэсвалі адбітыя шнурам бакавіны бярвенняў, заразалі вуглы і памалу, вянец за вянцом, выводзілі сцены. У сенцах туліласяварыўня. Побач была камора, напалову шырэйшая за варыўню. Вось тады, калі адгароджвалі дошкамі камору ад сенцаў, баба Наста падбухторыла іх зрабіць у каморы спрат для жыта ці ячменю. Дзед Нупрэй з сынам вывалаклі з Нёмана некалькі мораных дубоў, папілавалі, клінамі пакалолі на плахі. За колькі дзён выкапалі яму, абклалі сцены каменем. За сцяной хаты на дварышчы выкапалі роў, вымасцілі знізу і закрылі зверху плашкамі: лаз метраў на пятнаццаць са сховішча вывелі ў пограб. Плашкі зверху залілі глінай, вылажылі дзёрнам. Па ім смела маглі б прайсці карова ці конь і не праваліцца.

Юля перацягнула ў куток пустую пасудзіну, натужна ўчапілася ў кальцо куфара. Пад ім, даўнішнім, цяжкім, быў спрат. Куфар заскрыпеў, але падаўся. Яна двума рукамі рванула яшчэ мацней, зрушыла яго да пустых кублоў. Утрапёна падхапіла Андрэйку, па драбінах пачала спускацца ўніз. Чула, як не-

дзе зверху-ззаду трашчалі пад агнём крокві. Хуценька ў цемры знайшла на сцяне драўляную закрыўку лаза, адставіла ўбок, падсадзіла Андрэйку: "Паўзі, сыночак! А я за табой..." Малы не праціўіўся, не хныкаў, быццам адчуваючы бяду, адразу шмыгануў у пройму падземнага жолаба. Юля падставіла пузатую бочку дном уверх, усцерабілася на яе і нырнула ў цемень. Метраў за пяць дагнала сына, шапнула: "Паўзі, зайчык, паўзі, толькі ціха..." Відаць, падганяў страх, бо да пограба дапаўзлі хутка. Андрэйка спыніўся. Юля праз спіну малога дацягнулася да драўлянага шчытка, таўханула. Абое выбраліся ў пусты пограб. Вобмацкам знайшла лесвіцу, паднялася на колькі прыступак, галавой уперлася ў крышку, падняла-адкінула яе. Зноў злезла ўніз, падхапіла Андрэйку, лёгка ўзняла сына ўверх, пасадзіла, як маленькі кошык, на зляжалую ігліцу. Калі выбралася, убачыла, што на пограбе амаль светла. Здагадалася: ад пажару! Ля тыльнай сцяны адкінула дзяружкі, разгрэбла леташняе шыпулле, давянула камень. Сюдой восенню, уставіўшы драўляны скат, праз дзірку ў падрубе ссыпалі бульбу. Зноў пусціла Андрэйку ўперад, праціснулася-слізганула сама. Не азірнуўшыся, убілася ў жыта, на каленях папаўзла далей ад бяды. Андрэйка тупаў побач. На самым ускрайку азірнулася: хата вялізным кастром узмывала ў неба. Вось-вось ад яго пякельнага жару ўспыхнуць пограб, ёўня, павець, гумно... Угнуўшыся, узяла сына на рукі, сiганула ў маладым ельнік. Там, за лесам, за Нёманам, на хутары жыве яе цётка Адэля...

Прыцемак ахапіў усё навакол, як быццам глынуў пройму неба. І тут жа з-за лазовай выспы ў чорную бездань шуганула першая ракета. Завісла на некалькі секунд, як бы фатаграфуючы правалы балаціны, потым курадымна паплыла ўніз. І тут жа кароткімі чэргамі затахкаў кулямёт. Быццам была нябачная сувязь між выплескам ракеты і рэхам далёкай чаргі, як між маланкай і перуном.

Красовіч дастаў гадзіннік, каб засекчы пярэрвы між ракетамі, паднёс далонь да вуха і ўслухаўся ў ціканне закрытых колцаў. Другая і трэцяя ракеты ўзмылі ў неба праз чатыры хвіліны. Наступныя таксама выстрэльвалі праз такі ж час. "Усё, трэба пачынаць!" Ён запхнуў гадзіннік у кішэньку гімнасцёркі, у правую руку ўзяў гранаты, а левай — ухапіў пусты кулямётны дыск. Калі чарговая знічка сканала на недалёце, Красовіч папоўз ускрай балота бліжэй да меднай загарадзі. Метраў дванаццаць адолеў хутка, за два выпырскі ракет, затаіўся за цыбурамі трысцягу. Калі ўзвілася чарговая, азірнуўся, шукаючы месца, дзе лацвей было б раздзецца і куды перакінуць адзенне. Метраў за дзесяць па той бок драцянкі ўбачыў вываранець карча. "О, там і затаюся. Толькі пераскочыць бы..." Ракета чадна сканала і цемра зноў замкнулася над дзотам. Гадзюкай слізгануў па траве, дапоўз да астраўка аеру, затаіўся за ім. Чарговае свяціла толькі запэўніла, што месца выбраў ёмкае: і скінуць апратку можна без боязі, і адтуль, з выспы, не ўбачаць наўскасяк. Калі правал цемры зноў звёў свае берагі, Красовіч сцягнуў халат, скінуў гімнасцёрку і світэр, упіраючыся наском то адной, то другой нагі ў запяткі, вылузаўся з ботаў, скінуў штаны і кашулю. Гранаты закруціў у швэдар, агарнуў, каб мякчэй было, халатам. Як і раней, боты ахінуў анучамі. Адклаў кулямётны дыск убок, потым похапкам згроб усё, устаў і перакінуў праз наструнены дрот, перакінуў, здаецца, туды, за разгірэчаны корч. І тут жа лёг. Гарачая хваля хвалявання пачала спадаць, халадок вятрыскі памалу астуджваў цела.

Ракеты ўзвіваліся яшчэ некалькі разоў, але Красовіч не лічыў іх ужо. Зацiснуўшы ў правай руцэ пусты кулямётны дыск, поўз да пясчанай касы. "Толькі б не выстудзілася цела, а то не скокну..." Нарэшце дабраўся да таго ж аеру, дзе ляжаў раней. Адсюль метры за тры затаілася Мёртвая каса. Калі сканаў чарговы зніч, ён, голы, паўзком рынуўся на пясок. Пясчынкі мякка пераліваліся пад ім, сыпуча

расплываліся пад каленямі. Рукі адчулі напятыя струны, адчулі не дотыкам, а так, падсвядома, імпульсіўна. За паўметра ад іх двума рукамі разгроб пясок, і, адчуўшы цвердзь зямлі, умасціў дыск. Пасля, грабучы пясок, пракладаючы тупкую палоску сярод плыткіх пясчынак, хутка папоўз назад. Разгроб метры тры аж да самай травы і шуснуў у схованку аеру. Калі ўзляцела ракета, вызірнуў: ачышчаная сцяжынка была амаль прамая. Прыкінуў, колькі крокаў да мядзянага неваду. “Крокаў шэсць — тры па траве і тры між пяску... А там — дыск”. Красовіч перавярнуўся на спіну і пачаў расціраць ногі. Тую, якой прыйдзецца адштурхнуцца, лёгка пашчыпаў, пальцамі прараў на бядры і лытцы. Перачакаў, калі дагарыць чарговая ракета, і хуценька перахрысціўся: “Ну, Госпадзі, памажы!” Устаў, прайшоў па траве і спыніўся на краі разгрэбенай палоскі.

Вятрыска раптам аціх. На небе пачалі праяснsocца зоры.

Красовіч адставіў правую нагу назад, зірнуў на чорны круг дыска між бляклага пяску, напружыўся і зрабіў тры імклівыя крокі разбегу. Левая нага спружынна ўгнула дыск і з махам правай — кінула цела ўверх. Красовіч адчуў, як махавая нага абыходзіць дрот, таму імгненна склаўся, рвануў правы плячук уніз, а тую нагу, што адштурхнулася, стрыбульнуў уверх. Мяккі пясок амаль бязгучна сустрэў спіну. Напятыя струны маўчалі: ні адна часцінка цела не закранула іх.

Красовіч хуценька папоўз па пяску, шоргнуў па траве, утуліўся ў міжкуп’е. І ў час: ракета высвеціла — ці мо здалося? — надта ж заярка. Калі яна пагасла, асцярожна, мацаючы ўперадзе рукамі, папоўз, папоўз да ўчарнелага вываратня.

Ранішнюю трэніроўку, як заўсёды, Аляксей пачаў з прабежкі. Бег лёгка, разволена, быццам вясновы ветрык, які убачыўшы перад сабой прастор, паплыў няспешна, разаграючыся, каб спакваля сабраць сілы,

а пасля магутна рынуцца на замшэлы лес. Зрабіўшы кругі тры, сышоў у сектар для скачкоў, пачаў размінаць ногі, папераменна падскокваючы з адной на другую. Бядро правай нагі не балела. Аляксей, закончыўшы размінку, нацягнуў між стойкамі рызінку, напяў яе не надта высока: недзе пад метр восемдзесят. Трэба было выверыць разбег, адшліфаваць апошнія фазы скачка — прагін спіны і пераход ног праз уяўную планку. Першы скачок ён сарваў, бо атрымаўся недаступ на сантыметраў трыццаць. Перанёсшы пачатак разбегу крыху ўперад, разоў колькі прабег перад стойкамі проста так, без скачкоў. Цяпер нага дакладна трапляла на адзначанае месца штуршка. Скінуўшы штаны, ён лёгка ўзяў разбег, паўкрута панёсся на скачковую яму... Тры апошнія шырокія крокі, штуршок — і Аляксей адчуў, як у правую пятку загналі цвік, не, нават не цвік, а кап'ё. Так і зрушыўся на маты, заекатаў ад болю. А недзе ў падсвядомасці мільганула думка: "Ахіл! Толькі б не парыў звязак..." Ведаў, чым пагражае гэта: цяжкая аперацыя, доўгае загойванне і, часцей за ўсё — бывай, спорт! Бачыў, як бяссільна плакалі многія пасля такіх парываў, мучыліся ў бальніцах, кульгалі пасля аперацый. Ахілесава пята, ды яшчэ штуршковай нагі, магла давесці любога да адчаю.

"Спакойна паляжы... Можа, яшчэ і не парыў..." Боль трохі аціх, але Аляксей баяўся сагнуць нагу, каб не спудзіць вострую калючку болю.

Ахіл... На першым курсе яны праходзілі антычную літаратуру. Багі і героі Старажытнай Грэцыі так яскрава захаваліся ў памяці, як і магутны доктар навук, які чытаў ім лекцыі. Голас яго адраджаў і ўваскрэшваў даўнішнія легенды і міфы. "Гэта быў сын цара Пелея і багіні Фяціды. Ведала маці, што загіне яе сын ад стралы пад Трояй. І ўсё ж хацела яна перахітрыць суровы лёс, адвесці ад сына смяротнае наканаванне. Цела малога яна націрала амброзіяй і загартоўвала ў агні. Потым спускала Ахіла ў падземную раку царства Аіда, Сцікс, прытым трыма-

ла яго за пятку. Ад гэтага цела яго стала няўражлівым і цвёрдым, як жалеза, але пятку вада Сцікса не кранула. Як раззлаваны леў, змагаўся Ахіл, перамагаючы аднаго за другім герояў Трої. І ён уварваўся б у горад, калі б не з'явіўся бог Апалон і крыкам не спыніў Ахіла. Разгневаны волат пачаў пагражаць богу. Апалон забыў пра сваю клятву берагчы Ахіла, і тут жа накрыўся цёмным воблакам, і, нябачны, пусціў стралу Парыса. Страла трапіла ў пятку Ахіла..."

Вось адкуль і пайшла "ахілесава пята". Аляксей гэта ведаў. Але яго пятцы лягчэй ад гэтага не было.

Сяргей Панасавіч прыйшоў з боку стадыённых варот, спыніўся за крокаў пяць, трывожна спытаў?

— Што?

— Ахіл, відаць, — Аляксей прыўзняўся.

— Парваў?

— Не ведаю...

— На якой назе?

— Правай.

— Кепска, але, калі не парваў, — не смяротэльна.

Аляксей праз боль горка ўсміхнуўся.

— Сяргей Панасавіч...

— Ведаю, Аляксей, ведаю. Маўчы. Ведаю, пра што ты думаеш, што адчуваеш, што хочаш. Я прайшоў гэта. Нават горшае. Але паглядзі — не здаўся. А ты? Кальнула трошкі — і слёзы пусціў. Сцісні зубы і трывай.

— Дык у мяне ж яна штуршковая...

— Ну і што? Памяняем!

— Як памяняем? — Аляксей цяжка сеў на край матаў.

— А так. Зробіш штуршковай левую. Яна больш цягавітая і вынослівая. Разбег — з другога боку.

— Цяжка, Сяргей Панасавіч... Лепш кінуць...

— Кінуць? Гэта — заўсёды паспееш. А вось ты дасягні нечага, дамажыся, высіліся, даскоч. Як твой дзед некалі...

— Мой дзед? Вы ведалі майго дзеда? Адкуль?

— Мы прайшлі разам тры гады вайны, локаць у локаць, разам з'елі пуд солі...

Аляксей і падумаць не мог, што Сяргей Панасавіч ведаў яго дзеда. Ведаў і дагэтуль маўчаў?

Сяргей Панасавіч быццам злавіў яго думку:

— Маўчаў, каб расказаць табе ў самы цяжкі момант. Але не цяпер. Цяпер ты кульгай у медпункт, перабінтуй нагу, зрабі ў паліклініцы рэнтген, пахадзі на электрапрацэдуры. Адным словам — адпачні. Праз дзень пазвані мне.

— Добра, Сяргей Панасавіч...

Аляксей устаў. У сектар пачалі сыходзіцца секцыйнікі са спартыўнымі сумкамі.

Зоры выясніліся на астуджаным небе так ярка, што, здавалася, быццам і няма ніякай вайны, усюды ціха і мірна. Коўш Вялікай Мядзведзіцы быццам сыпануў іскрынкі, як зярняты, а правеяныя асцюкі і пацяруху пагнала ў россып Млечнага Шляху.

Красовіч ляжаў, як крыж, раскінуўшы рукі, на спіне. Першы раз за гэтыя два дні да яго падступіў голад. Падступіў вярэдліва і балюча, як бывае тады, калі ўспамінаеш прысмакі і любімыя стравы. Каб спыніць пякучую хвалю мройлівых вяндлін і іншай наедзі, ён з карэньчыкам вышчыпнуў нейкае каліва, аблузаў сухамяць лістоў і пачаў жаваць невядомую сцябліну. Гаркаваты прысмак адразу ж звёў сківіцы і перасмыкнуў кадык. І ўсё ж вочы нельга было падмануць. Яны помнілі ўсё... “Эх, каб цяпер сюды тую яечню, што дзед Нупрэй з бацькам спяклі на беразе Нёмана”.

Той надзел зямлі, які застаўся пасля жаніцьбы старэйшых сыноў, збяднеў зусім. І хоць дзед Нупрэй з малодшым сынам добрылі яго гноем, вазілі з недалёкага забалатка тарфяны чарназём, сеялі то авёс, то ячмень, а на другую вясну садзілі бульбу — жаўтапёс быццам выраклі: бульба чарвівела, а збажына — як каторы год. Усё залежыла ад неба. Калі вясной залевы асвячалі кусцістую рунь, шчодра напойвалі зямлю, а потым яшчэ лета добра прыпякала, не забываючы сяды-тады марсянуць дажджом, то і колас выганяла ў рост чалавека, а потым важка гнула долу.

Тады, пасля малацьбы, кадзі і судзіны былі поўныя. Калі ж неба адносіла хмары недзе далёка, а летняя сухмень выпальвала апошнія кроплі расы і мігам залаціла яравое, то колас гібеў і не наліваўся ядрана. Жаціва было бедным: зерне заставалася толькі на наступны пасеў, а салома — на пару стрэх ды на падсцёл. Трэба было нешта маракаваць. І дзед песціў думку пра куплю новай зямлі, праўда, далекавата, аж недзе пад Слуцкам. Любіў ён вечарамі на прызбе, пыхкаючы люлькай, будзіць уяўленне сямейнікаў той, далёкай урадлівай бульбай, тры-чатыры якой ледзь у гаршчок улазілі. А жыта, па яго словах, фантанамі біла з-пад цэпа, ракою цякло ў засек. І гэтыя росказні яшчэ больш напалялі няўрымслівую натуру, не давалі патухнуць пэўнасці, што зямлю трэба купляць. Але як жа купіць яе? А, галоўнае, за што? Грошай лішніх не было. А тыя — так сабе драбната! — ішлі на розныя патрэбы. Праўда, баба Наста сякія-такія рублі прыхоўвала на чорны дзень. А калі поле не радзіла, то прыходзілася жыта і на семя прыкупліваць. І ўсё ж дзед жыў гэтай надзеяй, яна не давала яму супакою, мусіла шукаць нейкае выйсце.

Аднойчы па вясне, вярнуўшыся з Зарачанскага лесу, дзед Нупрэй як пераманіўся. Разгарачаны, уляцеў ён у хату: "Давай скарэй, жонка, грошы! На Уздзенскім кірмашы — яйкі па пяць рублёў. На кожным — рубель як знайду!" Напор дзеда быў такі, што і баба Наста здалася. Выцягнула з-пад сенніка загорнутыя рублёўкі і пляснула на стол: "На, купляй! Толькі свае не пагубляй". Дзед прапусціў кпін ля вушэй і пайшоў перапрагаць каня. Распараны Фірка не надта жадаў зноў выбірацца ў дарогу, але дзедава "но, псякрэў!" астудзіла яго мройныя думкі пра ўтравелы поплаў, змусіла борзда тузануць воз, на якім ляжала пара ахапкаў сена.

Дзед да вечара аб'ездзіў сваю і суседнія вёскі, скупіў ці не тысячу яек, а некаторых гаспадынь угаварыў нават прадаць і тыя, што клалі на седалах на поклад. Ён вёз іх, пераложаныя сенам, асцярожна, не нокаючы на Фірку, вёз задаволены і за дзень раз-

багацелы. Гэта ж трэба — так пашанцавала! Купляў па чатыры рублі за адно, а заўтра прадасць па пяць! О дзе яны рублі, во дзе яна, зямля! Толькі трэба яшчэ сёння паспець трапіць на паром, каб пераехаць Нёман і дабрацца да Узды.

Нават не павячэраўшы, выехалі яны з дому. Фірка спраўна цягнуў далікатны груз. "Ідзі, ідзі, Лёксачка, будзеш заўтра памагаць, — шчодрыўся дзед. — Прададзім — не праядзім". Лёксачка млява ішоў ззаду, поркаючы лазовым прутком у дышла. Дзед з сынам моўчкі пешылі з бакоў воза.

Да прыцемку мінулі чортаў камень — велізарны валун ускрай дарогі. Яшчэ вярсты тры — і выбегуць насустрач свераноўскія хаты, за імі спуск з Яшуковай гары і — вось ён, Нёман, з рыпучым паромам.

Дзед Нупрэй ганарыста ішоў ля воза, нават люльку не вымаў з кішэні. Калі выехалі за хаты, ён перайшоў уперад, левай рукой узяўся за аброць каля пысы Фіркі: "Буду тармазіць з гары, каб не панёс акаянны". Бацька таксама напружыўся, падабраў карацей лейцы. Аляксей плёўся за метраў пяць ад воза.

Вось нарэшце і яна, Яшукова гара. Круты спуск між размытых абочын. Дзед Нупрэй упінаўся, не даючы разгону каню. Бацька нацягнуў лейцы, аж скрыгатнулі на зубах Фіркі цуглі. І раптам пэнкнула на хамуце супоня. Хамут раз'ехаўся, выскачыла правая аглобля. Конь, адчуўшы волю, рвануў управа, бокам шкалдыбнуў дзеда. Дзед Нупрэй з мацюкамі паляцеў пад адхон. Бацька ад нечаканасці паслабіў лейцы і Фірка папёр на схіл. Воз затросся, правымі калёсамі узбіўся на груд і раптам кульнуўся ўлева, з усяго маху плюснуўся аб дарогу. Конь на адной аглоблі працягнуў яго ўніз і ў лагчыне спыніўся. Дзед выкараскаўся з пяску, збег уніз: "О, маць тваю, воўчае мяса! О ўдружыў дык удружыў! От табе і рублі, от табе і зямля!"

Калі адвярнулі воз, сярод жаўткоў і бялкоў знайшлі трынаццаць не пабітых мацакоў. Дзед асцярожна паклаў іх у шапку, спусціўся да Нёмана, спаласкаў у вадзе: "Збегай, Лёксачка, к старому Не-

крашу ў крайнюю хату, папрасі скавараду". Лёкса прымчаў мігам. Бацька наламаў сухога сачка прыімчаў мігам. Бацька наламаў сухога алешніку, распаліў касцёр. Дзед сцізорыкам парэзаў шматок сала, расклаў на скаварадзе. Языкі полымя як бачыш угрэлі пазычаную скавараду і трынаццаць яек боўтнулі на сквірчастыя прысмакі.

Аляксей еў яйкі са скваркамі і ўспамінаў, як аднойчы яны з бацькам у занямонскім лесе назбіралі поўную карзінішчу чарніц. Цэлы дзень кленчылі на санцапёку, адбіваючыся ад камарэчы, але чыста-такі ababрали нечаканую неруш. Дамоў вярталіся Язвінскім бродам. Бацька ішоў паперадзе, важка трымаючы на плячы карзіну. Аляксей, закасаўшы сарочку на грудзі, брыў ззаду. І раптам бацька за нешта зачапіўся, ад нечаканасці хіснуўся. Карзіна з пляча кульнулася ў ваду. Аляксей утрупянеў: чорная хмара ягад паплыла па Нёмане і яе нельга было ні спыніць, ні сабраць.

Дадому вярталіся ноччу. Дзед Нупрэй сядзеў на возе, курыў люльку, раз-пораз прыцмокваў: "От табе і рублі, от табе і зямля..." Бацька з Аляксеем маўчалі. Не хацелася думаць, якімі кленічамі сустрэне дзеда баба Наста.

Правая нага вытрымала: парыву звязак не было. Рэнтген трохі супакоіў Аляксея. І ўсё ж расцяжэнне "ахіла" прыйдзецца лячыць. Участковая паліклініка, куды выпісалі накіраванне, не надта радавала яго. Чэргі нямоглых пенсіянераў у кожны кабінет, гультаяватыя мядсёстры з нейкімі тайнамі і сплетнямі, паломкі электраапаратуры... — усё гэта схіляла яго да думкі, што лепшага лячэння, як на стадыёне, ён не знойдзе. Там, у Зоі, у чысценькім і ўтульным кабінеце, — тыя ж апараты, ды яшчэ — баракамера. І, як помніў Аляксей, — прыемны пах зёлак, ні то лясных, ні то палявых.

Трамвай дакаціў да стадыёна хвілін за пятнаццаць. Накульгваючы, Аляксей асцярожна падымаўся па прыступках да прыгожай аркі, за варотамі якой у падтрыбунні — лечпункт.

Зоя нешта перапісвала і, калі ён зайшоў, шчаслівa — а мо здалося? — усміхнулася, а потым спачувальна сказала:

— Я ж табе казала: не перасільвайся, не рві рэзка.

— Я не вельмі, каб рэзка... Яна даўно ныла, відаць, не вытрымлівала нагрузак...

— Ты садзіся, садзіся! Я зірну, што табе прыпісалі, і вымыю рукі.

Аляксей падаў лісток.

— Ага, токі Бернара, кварц... Мая баракамера — таксама зробіць цуд. А для поўнага выздараўлення я абяцаю табе масаж. Хоць тут і не запісана.

Аляксей глядзеў на Зою і перад вачыма ўставала такая ж дзяўчына, яго першае каханне... Такая ж роспадзь светлых валасоў, блакітныя вочы і рухі рук, цела... — гэта ж трэба такое падабенства! Ён, адзінаццацікласнік, закахаўся тады ў занёманскую дзевяцікласніцу, якая хадзіла ў іхнюю школу за чатыры кіламетры. Першы раз правёў яе дамоў са школьнага вечара, нешта расказваў, чытаў вершы... Месяц яны сустракаліся, але так і не адважыўся Аляксей пацалаваць яе. Калі ён з'ехаў у сталіцу, пасылаў ёй пісьмы. Яна не адказвала. Ад знаёмых хлопцаў чуў, што ходзіць з некім другім, потым — з трэцім... Як закончыла школу, адразу ж выскачыла замуж.

Зоя выцерла рукі прыгожым кітайскім ручніком, лоўка засцяліла канапу прасцінай:

— Скідай трыко, лажыся.

Аляксей раптам засаромеўся, уявіўшы, што Зоя будзе разглядаць яго ногі, будзе масажыраваць яго мускулістыя ікры і бёдры. Адна справа — бег, скачкі, калі спартыўны касцюм перашкаджае волі рук і ног, і зусім іншая тут — перад пекнай дзяўчынай.

Зоя быццам угадала яго замінку:

— Лажыся, не саромейся...

Аляксей ляжаў і адчуваў, як лоўкія пальцы перабіралі-пагладжвалі яго жылістыя спляценні мускулаў, лёгка пашчыпвалі скуру і расціралі суставы, гналі прыемную хвалю цяпла ніжай, у самую ступню...

— Расслабся, ні аб чым не думай... — Голас далятаў здалёк, як пяшчотны майскі ветрык. — Ты папраўшся, абавязкова папраўшся...

Яе рукі плылі па назе далікатна і гаюча, пальцы, здаецца, igралі такую знаёмую, але забытую, мелодыю, зачароўвалі, вялі ў сонечна-цёплы Эдэм. І ён аддаўся гэтай музыцы пальцаў, бязважка ляцеў у зорную мітульгу неба...

Ціхі дотык яе рукі да спіны вярнуў Аляксея на зямлю.

— Не заснуў?

— Яшчэ трошкі — і праваліўся б...

— Ну, нічога. Токі Бернара разбудзяць цябе.

Зоя паклала на "ахіл" пракладкі з пласцінамі, адхінула правады і ўключыла датчык. Ток шчыпуча затрос нагу, адпусціў на колькі секунд, пасля з нарастаннем паўтарыўся.

— Зоя, адкуль ты з'явілася тут?

— З медінстытута. Перавялася на завочнае. Бацьку забіла на вагонарамонтным. А маме цяжка траіх адзець і пракарміць. Вось і пайшла сюды на свой хлеб.

Аляксей глядзеў на вабны стан Зоі ў белым халаціку і думаў пра тое, як нялёгка ёй вучыцца і працаваць, як цяжка ёй без бацькі.

Хвілін пяць Зоя кварцавала яго "ахіл", пасля выключыла апаратуру:

— На сёння — даволі!

Аляксей адзеў трыко, прыўстаў з канапы:

— Дзякуй табе, лекарка!

— На здароўе.

З крана лілася вада, лоўкія пальцы лекаркі абгладжвалі мыла...

Аляксей падышоў да яе, ахапіў за плечы і павярнуў да сябе. Дзяўчына спуджана зірнула, але нічога не сказала. І ён не стрымаўся, прыпаў да яе губ...

Вада струменіла з адкрытага крана.

Яна ахапіла яго шыю мокрымі далонямі, моцна адказала на пацалунак.

— Я шукаў цябе ўсё жыццё... Верыў, што сустрэну... Мілая мая...

— І я цябе чакала, адзінага, любага...

Аляксей раптам адкаснуўся, зірнуў ёй у вочы:
— Пойдзеш за мяне замуж?
— За цябе — пайду.
Яны зноў зліліся ў пацалунку.

Зоры ярыліся так шчодра, так зырката, што яскравістае святло іх, здаецца, відушча абняло ўвесь край, растварыла ў сваім разліве чорна-сінія цені кустоўя і травы. Нават выплескі ракет у нябесным асвятленні пабляклі, быццам напалову згубілі моц і вартасць пораху.

Красовіч добра помніў тую ноч, такую ж зорную і мяккую, як і сёння...

Ён, стомлены і спустошаны ламавой працай, вяртаўся з руму. Цэлы дзень бомай раскочваў шліхты камлістых бярвенняў. Па лагах у пары з суседскім дзядзькам Янакам peравальваў іх да ўзлобка гары, каб пасля, калі назбіраецца на плыт, пусціць іх уніз па пяску да Нёмана. Старэйшыя мужчыны ў вадзе раскруцяць палена як трэба, ахопяць яго лазовым перавяслам, лоўка заціснуць у лучнасці з іншымі. Калі будзе звязана з дзесятак лавак, рэтман адправіць плыты ў нялёгкую вадзяную дарогу, адправіць далёка, аж у гарады Балтыі. Плыць ім дзён дзесяць, а то і болей, мінаючы глыбокія нарты і, выпінаючыся з апошніх сіл на вірлівых круцялях, каб не даць “казла” ў бераг, млява гайдацца на спакойнай роўнядзі, каб за Гародняй нарэшце вырвацца з заціску выкручаста-вузкіх берагоў...

Ён так бы і вярнуўся дахаты з пустой торбай ад полудня, але ў апошні міг перад паваротам у Свіную вуліцу падумаў, што варта добра выкупацца ды і абмацаць прыбярэжныя норы і куп’ё: а раптам навыкідаецца рыбы на скавараду? З першага ж нырца заціснуў двух плотак, шпурнуў іх на бераг. У неглыбокай выдме прыпёр у нары яршыстага акуня фунты на два. Пакуль дабраўся да жабраў, балюча ўкалоў руку. На глыбейшым выхапіў з падмытых купін з паўдзесятка падлешчыкаў, ля затопленага дуба ўшчаміў двух ніштаватых мянькоў. “Усё, скаварада рыбы ёсць...” —

Красовіч трохі паплаваў, вылез на бераг, адзеўся. Ісці назад праз кароўскі брод не хацелася, таму пашыбаваў да маста. Калі па адкосе ўзабраўся да парэнчы, убачыў на тым краі насцілу дзяўчыну з бялёсай касой. "Чыя ж то? Не, не нашая. Відаць, з суседняй вёскі". Красовіч ішоў і любаваўся яе паставай. Зграбная ў хадзе, лоўкая ў кроку, яна блізілася, прывабліва зачароўвала вышыванкай напятай блузкі... Ён і цяпер не мог дапетрыць, што штурхнула і спыніла насуперак: "Ты чыя?" — "Гарунова", — адказала смела і спераду адкінула за плячо касу. — "Адкуль жа?" — "З Бельказўшчыны". — "А ці пойдзеш за мяне?" — "А што — пайду!" — зноў вярнула касу на грудзі, вышмаргнула з яе каснік. — "Ты ж не ведаеш мяне." — "Чула". — "А што чула?" — "Што здаровы і дзяўчат баішся". Ён засмяяўся. І яна таксама. — "Давай, як сцямнее, прыйду да цябе?" — "Прыходзь... Да Яснай крыніцы", — зірнула так міла, так прыцягальна, што здалося, быццам у яе валошкавых вачах прабеглі дзве іскрынкі.

Звечарэла хутка. Аляксей ішоў да крыніцы і дакараў сябе за тое, што не спытаў, як завуць яе, бельказўскую Гаруніху. Што ж, прыйдзецца перапытаць.

За Княжай лугавінай пад ніцай вярбой струменіла чыстая сляза зямной прахалоды. Усе дзённыя сцежкі сыходзіліся тут. Жанкі і мужчыны, вымерхаўшыся за дзень на касьбе, дапіналі сюды і нагбом неспатольна пілі крынічную ваду. Дзецюкі, падшыванцы і гаманкія дзеўчаняты вярталіся з грыбоў і ягад таксама сюдою. Вясковыя шаптухі і вядзьмаркі тайком чэрпалі ваду для розных замоў, ад суроку і перапуду, варажбы і чараў. І не адна з іх не пусціла падземны струменьчык на глум і шкоду жывому. Таму, відаць, і назвалі крыніцу Яснай.

Аляксей напружана ўглядаўся ў сутонне, лавіў начныя гукі, але яна ўзнікла нечакана, пад вярбой, быццам прывід уваскрэс з ніадкуль. "Ты?" — "Я". — "Сядзем". Яна ўкленчыла побач. — "Дурны, не спытаў, як завуць цябе?" — "Юля". На ёй была іншая вышыванка, у касу ўплецены два васількі.

Зоры ўзышлі раптам. Ён глядзеў на велізарнае неба і дзіву даваўся разлёту і бязкраю Сусвету. Хто яны ў гэтай бездані Божага тварэння? Адкуль прыйшлі на грэшную, палітую потам і крывёю, зямлю? Дзе іх пачатак? Што чакае іх у беспрасвецці дзён і гадоў? Неба глядзела на іх тысячамі зорак. А тут былі дзве крыніцы. Адна — зямная і халодная, другая — жаданая, вабная і цёплая. Аляксей не стрываў, без слоў прыпаў да Юліных губ. Яна ахапіла яго рукамі, зацалавала сама. “Я чакаў цябе ўсё жыццё... Прыдумаў, выснiў... І ты прыйшла... Мілая... Любая...” — “І я... верыла, што ты недзе ёсць, жывеш... Верыла, што сустрэну...” Яе валасы пахлі рамонкам, каса расплялася і роспадзь белых пасмаў ахінула яго плечы. Аляксей даланёй гладзіў яе плечы, гнуткі стан і, як шалёны, якога могуць вось-вось адарваць ад каханай, цалаваў губы, шыю, лёгкі завіток ля мочкі вуха. “Ідзі ка мне... Ідзі...” Як у сне, адляцела блузка, вызваліўшы тугую напругу яе грудзей, веерам легла на мурог кужэльная сукенка... Ён рынуўся к ёй бессаромна, прагна, стараючыся ахапіць усю, увабраць сваім целам кожную яе тканку, кожны ўздых... Для яго, магутнага, згаладалага, была цяпер толькі адна крыніца — яна, Юля.

Зямля плыла па свайму спрадвечнаму кругу. Мірыяды зорак праводзілі яе сваімназіркам. Зрываліся і згаралі ў лёце знічы. Жыццё зачынала новы круг, круг для іх, дваіх.

Праз месяц боль у назе прайшоў. Ці то электраапаратура, ці то гаючыя рукі Зоі вярнулі сілу і ўпэўненасць Аляксею. Трэнер задаволена агледзеў нагу, усміхнуўся:

— Здаровы конь і цягне дужа...

— Пара нагружаць, Сяргей Панасавіч, а то зусім разгультаюся.

— Не, Андрэевіч. Гэты раз мы пачнём асцярожна, як гаворыць мая жонка, ашчадна. Пачнём не са скачкоў, а з трэнажораў. А месяцы праз два можна паспрабаваць і на вышыні. Вось табе план трэніровак, тут па-

мінутна ўсё распісана. — Сяргей Панасавіч перадаў Аляксею даволі ёмкі сшытак. — Будзеш сам сябе кантраліраваць, па адчуванню і жаданню. Ну — з Богам!

Аляксей пачаў асцярожна асвойваць залу для штангістаў. Трэнажоры-арэлі, рэечныя устаноўкі, падвескі... Напятыя стальныя ліны і ланцугі аж стагналі ад маладых мускулістых рук. Пот цуркамі ліўся за каршэнь футболкі, акрапляў паркет падлогі. Як прывязаныя да аўтамата-робата, узляталі-апускаліся важкія гіры, снавалі туды-сюды па сваіх вузкакалейках жалезныя кацёлкі, рыпелі пад узмакрэлай спінай цвердаватыя падмосткі... Усё гэтае сілавое прычындалле, як казаў Сяргей Панасавіч, павінна развіць і ўмацаваць плечавыя суставы, брушны прэс і вялікія мышцы бёдраў. Вялікую нагрузку на правую нагу Аляксей пакуль баяўся даваць.

Два месяцы мінулі хутка. І сапраўды, цяпер ён адчуў, што плечы пашырэлі, рукі наліліся крутой сілай, а на жываце, калі напяць прэс, мог паскакаць не толькі які-небудзь карапуз, але і ўстаяў бы рослы мужчына. Цяпер Аляксей перайшоў на двухразавыя трэніроўкі. Раніцай, адзеўшы свінцовы пояс, лёгка прабягаў кіламетраў пяць, пасля пускаўся ў падскокі: на двух нагах, пачаргова на правай, на левай, зноў на двух. "Ахіл" не балеў. І Аляксей на другой трэніроўцы, вячаровой, са штангай на спіне рабіў дзесяткі прысяданняў, памалу нагружаў ногі. З тыдзень яны стомлена гулі, але пасля прывыклі, і Алясей дабавіў на грыф штангі яшчэ пару бліноў. Прысяданні сумяжваў з рыўкамі, імітуючы адрыў ад апоры і выбух скачка. Стокілаграмовая штанга выгінаста вібрыравала ў мазолістых руках, часам вяла ўбок, але, утаймаваная, застывала ўверсе, а потым з ляскатам абрушвалася на памост. Колькі тон жалеза падняў ён за тры месяцы, цяжка было сказаць. Але тое, што і ногі сталі амаль жалезнымі, было бясспрэчна. Цяпер ранішнія трэніроўкі Аляксей пачаў праводзіць з акрабатамі. Сальто з мосціка назад, кульбіты на бату-

це... — усё гэта нагадвала канчатковую фазу скачка ў вышыню. Але тут спружыніста адштурхоўваў гімнастычны мосцік, і падкідала нацягнутая сетка, а там, у сектары, не будзе гэтай падмогі, толькі сіла сваёй нагі, левай.

Сяргей Панасавіч сяды-тады заглядваў у залу і, нябачны, затоена назіраў за трэніроўкай. Хвілін праз пятнаццаць не вытрымліваў, падыходзіў да Аляксея:

— Бачу-бачу, працуеш...

Аляксей здагадваўся, што Сяргей Панасавіч перазваньваецца з трэнерам акрабатаў, распытвае, аб нечым просіць. Бо кожны раз на скачках назад той папраўляе яго, шліфуе рухі.

— Зайдзі, Андрэевіч, сёння да мяне. Паглядзіш, як скачуць Майфарт і Крокас.

Аляксей прыходзіў да Сяргея Панасавіча, няёмка таптаўся ў прыхожай, нарэшце, скінуўшы красоўкі, праходзіў у большы пакой, дзе стаяў тэлевізар. Трэнер уключаў відзік:

— Глядзі ўважліва, прыкмячай.

Сяргей Панасавіч таксама не драмаў у шапку гэтыя тры месяцы. У Маскве перазапісаў на відэакасеты скачкі лепшых высотнікаў-замежнікаў, а таксама і сваіх.

— Глядзі на разбег. Як падкрадаецца да планкі... І рэзкі спурт... Тры шырокія і — скачок! Заўваж, які прагін, што робяць рукі і ногі...

Яны дзесяткі разоў пракручвалі запаволеныя здымкі чэмпіёнаў, абмяркоўвалі кожную фазу скачка, спрачаліся і, задаволеныя, разыходзіліся.

Ранішнюю трэніроўку Аляксей, як звычайна, праводзіў у зале: трэнажоры, штанга, акрабатыка. Другую ж цяпер перанёс на стадыён, у групу Сяргея Панасавіча. Як ні дзіўна, але трэнер прымусіў яго вучыцца бегаць, бегаць кароткія адрэзкі. Гэтыя спурты — Аляксей разумеў гэта — былі частковай копіяй яго разбегу перад планкай, але тут, на дарожцы, яны праходзяць прамком, а там, у сектары, яны выгнуцца на віражы, па дузе. Месяц Аляк-

сей шліфаваў адрэзкі метраў пад дваццаць, не ўступаючы ў хуткасці "чыстым" стайерам, дзёр, выжыльваючыся, рэкартанавыя палоскі шыпоўкамі, каб выйсці на сотні метраў з адзінаццаці секунд... Нарэшце дамогся гэтага, і трэнер, разоў колькі шчоўкнуўшы секундамерам на кантрольных прабежках, вярнуў яго назад, у скачковы сектар. Пачаліся цяжкія і ўпартыя падборы разбегу, шліфоўка штуршка, адточванне тэхнікі пераходу планкі. Вось тут і ўспаміналіся скачкі мацнейшых, але Аляксей не стараўся ўсляпую капіраваць іх кожны рух, бо адчуваў каардынацыю свайго цела тонка і відушча. І ўсё ж бачанае раней вельмі дапамагала. Вынікі, як і вышыня, памалу раслі. І той спосаб, якім адольваў планку Аляксей, "фосберы-флоп", дапамагаў яму адчуць прыгажосць скачка, скарыстаць у ім усё, што ён набыў і ўмеў.

Незаўважна мінуў год.

Зямля плыла па свайму спрадвечнаму кругу. Блізіўся ранак. Зоры, як крупінкі солі ў вадзе, пачалі раставаць.

Красовіч выняў з кішэні гімнасцёркі гадзіннік, зірнуў: да наступлення заставалася паўгадзіны. Яшчэ раз прыкінуў адлегласць да ўпадзінкі і дзота: "Метраў дваццаць пяць — трыццаць". Асцярожна, каб рухам не выдаць сябе, развязаў гранаты, бо адчуваў, што дзве ў звязцы трапна не дакіне. "Шпурну адну, калі паспею — і другую".

У лазовым кусце — мо здалося? — нешта заварушылася. Красовіч утаропіўся: так і ёсць — галінка гайданулася і знерухомела. Вочы, хоць і мінуліся тры гады вайны, не выела дымам, не выпаліла агнём. Зрок — вострь яшчэ, учэплівы, ні разу не падводзіў ні ў стральбе, ні ў разведцы. "Снайпер. Да світання ладкуецца на лежку. Што ж так неасцярожна?" Красовіч выняў парабелум, уклаў у далонь правай рукі. Ведаў: праз колькі хвілін зірк і ствол сальюцца ў адно, куляй рынуць працяг рукі

ў лазовы куст і, калі трапна, перасякуць нечую нітку жыцця. Хто ведае, мо праз колькі хвілін загіне і ён, Красовіч. Але закон вайны суровы і жорсткі: не ты яго, дык ён цябе. Заб'е — і рука не здрыганецца. "Ён і я — ворагі, заклятыя, смяртэльныя".

За трысцягом — Красовіч ведаў гэта — затаіўся батальён. За дзве ночы і дзень салдаты акрыялі, падсушыліся, выспаліся. Кожны з іх яшчэ раз праверыць экіпіроўку, патроны, гранаты. Хто ведае, ці ўдасца Красовічу падарваць дзот. А раптам не? Тады пад прыкрыццём кулямётаў рынуцца яны на Мёртвую касу, каб прарвацца праз рэскруць калючак, зматлашыць тонкія струны дроту і з гранатамі дапяць да жарала дзота. Хто навечна застанецца на міжбалотным пяску, а хто прарвецца? Цяжка сказаць.

Дваццаць хвілін... Дзесяць хвілін...

Ракеты як захлынуліся і болей не ўзляталі.

Красовіч глядзеў, як стрэлка гадзінніка адлічвае секунды, завяршае круг. "Так і мой круг можа перарвацца тут, перарвацца навечна, без працягу..." Калі да наступлення засталося тры хвіліны, ён паклаў гадзіннік у кішэню і пачаў лічыць секунды сам: "Раз, два, тры... пятнаццаць... трыццаць..." За хвіліну ўзняў парабелум, прыцэліўся і, доўга не чакаючы, каб не здрыганулася рука, стрэліў у лазовы куст. Чуў, як нехта ўскрыкнуў там. "Ну — з Богам!" Імгненна ўскочыў і рвануў праз куп'ё да пясчанай упадзінкі. Па гранаце ў кожнай руцэ. Кулямёт маўчаў. А мо анямеў ад нечаканасці. Тры... пяць крокаў па пяску... Указальным пальцам левай рукі рвануў чаку правай гранаты, замахнуўся і, укладаючы ў кідок усё: нянавісць і гнеў, помсту за жонку і сына, шыбануў гранату ў зеўру дзота. Другую супрацьтанкавую пераклаў з левай у правую, але рвануць чаку не паспеў. Кулямёт паласнуў рэзка, паласнуў па грудзях, быццам вогненнае шыла працяла лёгкія. Гарачая хваля затапіла цела, пякельна пабегла да галавы. Краем вока Красовіч убачыў, як граната рванула ў самай амбразуры дзота. Ён не

чуў, як ззаду ў атаку пайшоў батальён. Неба паплыло і закружылася, пабеглі зоры на ім... Як у тую даўнішнюю ноч, ён убачыў крыніцу. Юля, голая і вабная, цягнула да яго рукі, нешта шаптала, з-пад вярбы бег яго трохгадовы сын і, здаецца, крычаў: “Бацька, не падай, я падтрымаю...” Красовіч працягнуў руку насустрач, пальцамі дакрануўся да яго мяккай далонькі. Зоры раптам пайшлі кругам, пачалі падаць у крыніцу. Ён сіліўся спыніць іх, але пахіснуўся і сам пялёхнуўся ў крынічную ваду...

Сяргей Панасавіч стомлена прысеў на лаўку, правёў пяцярнёй па сівай кучомцы валасоў. Аляксей пазіраў на яго і прыгадваў партрэт свайго дзеда, таксама Аляксея Красовіча. “Загінуў смерцю мужных” — кароткі ваенкаматаўскі радок, што прыйшоў на запыт бабы Юлі пасля вайны, амаль нічога не гаварыў. Загінуў як, загінуў дзе? Пасмяротна ўзнагароджаны трэцім ордэнам Славы. Ніхто нават не ведаў, дзе прытулілася яго магіла.

Трэнер выняў з партманэ невялікі гадзіннік, колькі разоў круцянуў яго завадную галоўку:

— Ведаеш, сынок, я даўно збіраўся табе расказаць пра яго, твайго дзеда, але ўсё неяк не знаходзіў патрэбнага моманту і адпаведнага стану душы сваёй. А вось сёння табе трэба ведаць гэта.

Аляксей, як заварожаны, слухаў трэнера.

— Тры дні прабіраліся мы Ведзьмаковымі балотамі, гібелі ў гразі і ў вадзе, нарэшце выйшлі да Мёртвай касы. На ўзгорку яе затаіўся нямецкі дзот, які, як костка ў горле, перакрыў наш план наступлення. Камбат рашыў паслаць яго, Аляксея, каб супрацьтанкавымі ачысціць дарогу. Не так паслаў, як Аляксей сам напрасіўся. Мы залеглі ў трыснягах, а ён папоўз. Ноч, дзень і яшчэ адну ноч мы, затаіўшыся, чакалі наступлення. Для падстрахоўкі замаскіравалі тры кулямёты, каб можна было ў выпадку чаго хоць агрызнуцца агнём. Але балота і Мёртвая каса маўчалі. Нам засталося толькі гадаць, як ён перабраўся праз калючку і дра-

цяную загарадку. А ў шэсць гадзін раніцы, калі батальён прыгатаваўся да рыўка, прагучаў пісталетны стрэл, тры ці чатыры кулямётныя выстралы і бухнула граната. Мы рынуліся ў наступленне. Дзот маўчаў. Калючы дрот закідалі вязкамі аеру, медныя струны дзіўнай загарадкі проста парвалі. А за ёй ляжаў ён, Аляксей. Я падхапіў яго, акрываўленага, але адчуў, што позна. Яго грудзі былі прабіты навылёт. Узяў пісталет, выняў гадзіннік, падхапіў другую супрацьтанкавую гранату... Камбат загадаў пахаваць яго тут жа. Сапёрнай лапаткай я выкапаў у пяску магілу — пахаваў яго. Спыняцца не было калі, трэба было даганяць батальён. Я пабег. Краем вока ўбачыў, як граната развярнула амбразуру дзота. А збоку ад яго ляжаў мёртвы снайпер. Вось чаму мы пачулі пісталетны стрэл.

Батальён я дагнаў. Для ворага ўдар з глыбіні балот быў нечаканым. І ўсё наступленне было ўдалым.

Аляксей слухаў і ўяўляў бескрай непраходных балот, пясчаную касу між імі і дзедаву магілу за метраў трыццаць ад разбітага дзота.

— А гэта, як памяць, засталася ад яго. Вазьмі, хай будзе ў цябе. — Сяргей Панасавіч працягнуў Аляксею гадзіннік з ланцужком.

На хлапечай далоні ляжаў срабрысты кружок, цікала пружына ўсярэдзіне, круціліся нябачныя колцы. Жыццё працягвалася.

Аляксей страсянуў кісцямі рук, як бы скідаючы з іх нябачныя пылінкі, пачаў разбег... Пачаў імкліва, быццам яму трэба было пераскочыць не планку, а ўсю заходнюю трыбуну стадыёна. Ногі лёгка неслі яго па віражы разбегу... Тры шырокія апошнія крокі і — магутны штуршок. Аляксей адчуў, як на долю секунды яму ўдалося парваць зямное прыцяжэнне, выпырхнуць лёгка ўверх. Прагінам спіны абышоў планку, кінуў ногі ўверх. Падаючы плячамі на паралон, пачуў голас і крык стадыёна, узнятага ў адным парыве. Узняў вочы ўверх: планка нават не здрыганулася.

# БУСЕЛ

*апавяданне*

Піла віскнула, тузанулася разоў колькі, але, заціснутая ў зрэзе, нерухома анямела.

— Схініся! — Юзік вастрыём бусака прутка ўпёрся ў разгаліну ствала, штосілы налёг на жардзіну.

Крона топаля хіснулася, храбуснула недапіленая абалонь, адкалоўшы ад камля доўгую шчапу з бурай карой, і, замёршы на міг, важка бухнула на зямлю. Быццам ветравой хваляй падхапіла з суседскіх прысад перапалоханых галак і варон, кінула ў неба, пасля рванула ў крутым віражы і з птушыным гвалтам пранесла над раптам аголенай хатай.

— Усё, браток, аджыў ты сваё! — Антось змахнуў з вачэй ні то пілаванне, ні то набегшую слязу і, перахапіўшы левай рукой разак, зірнуў з вышыні па-новаму, як ніколі дасюль не бачыў, на вёску.

У зялёных купах садоў, як пастаўленыя на вокладкі кнігі, бялелі шыферам дахі хат. Расквечаныя яблыні і грушы калыхалі будучыя прысмакі. А там, за папарам, гнала хвалі маладое жыта. Асмужаны небакрай як раздаўся ў бакі, шырока адкрыўшы абрысы сіняга лесу, і здалося, што вока ўгадвае ў зараснiках алешніку і ляшчынніку вывівастую плынь Нёмана. Душа ад гэтага відовішча напоўнілася цяплом, быццам памаладзела, і, каб былі крылы, пэўна ж, рванулася б з абжытага котлішча, азірнула б спрадвечныя дарогі і краявіды...

— Хрысціла яго маланка, для птушак была калыханка, а цяпер будзе трасянка... — Юзік задаволена ўсміхнуўся са свае выдумкі, узяў за крайні зуб прысланеную да плота барану. — Падсабі, Міхась, бо адзін не падам: сілы не тыя.

Міхась злез на зямлю з другіх драбін, узяў барану і зноў палез наверх.

Жалезная рашотка легла на шырокі спіл топаля. Антось дастаў з-за папругі дзве скабы, выцягнуў з

галянішча бота сякеру. Скобы мякка пайшлі ў дзерава пад ударамі абуха, намёртва прыхапілі барану.

— Хоць сам, Антось, лажыся, як той ёг! — зарагатаў Міхась, паспрабаваўшы, як прымацавана барана.

Бусел вясной не пасяліўся на топалі. Ці аблюбаваў сабе іншае месца, ці не ўпадабаў разгалінаваную, абрэзаную прыстань... Антосю не шкада было прасторнага куратніка, дзе цыбаты Гоша важна пахаджваў між курэй і крыклівых гусей, не шкада было яму і марнай работы... Хіба толькі тачыла сэрца вярэдлівая думка, што магутны топаль-велікан, яго аднагодак, быў абрэзаны дарма...

Ён звыкся, што і яго празвалі ў вёсцы Буслам. Цыбаты, угнуты гадамі, працай і зямлёй, ён і сапраўды быў падобны на бусла: доўгія растапыраныя рукі пры хадзьбе нагадвалі неапераныя крылы, нахіленая крукам постаць як нешта шукала на зямлі, а доўгі каструбаваты нос з гарбінкай пасярод яшчэ больш маляваў гэтае падабенства.

Не, ён помніў усё: і здзекі жонкі, і кпіны мужчын на касьбе, і жарты суседзяў... Яна, яго Маня, неяк вясной выправіла на кірмаш па гусіныя яйкі. Ліха яго ведае, якога яны памеру! Што за курыныя большыя — факт. А іншых адзнак — ніякіх: ні рабаціння, ні навобмацак не адрозніш, ні “носік” з “пухой” нічым не выдзяляюцца. Адным словам — яйкі як яйкі. Можа, таму і ўпіхнула яму тая гарластая кабета ў гусіным дзесятку адзін, нічым не адрозны, бусліны зносак. Адважыўся ж нехта ўсцерабіцца на ліпу ці дуб, спужнуць бусліху з гнязда і звалакчы яйка. Жонка ўсхадзілася, лаялася дні са тры, як вылупіліся, раздзёўбшы шкарлупінне, гусяняты. І гэты недарэка сярод іх: няўдалы, большы за ўсіх, у бела-чорным пушку... “І куды ты глядзеў, сляпак, мо на “бусліху” тую больш за прылаўкам, чым на яйкі? Як малога, абдурылі...”

Антось надта і не пярэчыў: абдурылі дык абдурылі, такой бяды. Але калі жонка ўсхадзілася, каб выкінуць няўдалага “пярэваратня”, ён па-мужчын-

ску стаў на сваім: “Сам купіў — сам выгадую”. Баба, убачыўшы нечаканую цвёрдасць, паволі аціхла, змірылася з яго капрызам...

З мужчынамі было цяжэй. На касьбе ён не сказаць, каб адставаў, але раз-пораз прыпыняўся, падкідаў нагой скакучае жабяня, пасля зграбаў яго разлапістай даланёй, запіхаў у салдацкі кацялок і шчыльна закупорваў накрыўкай. Потым, калі другія мянташылі косы, ён бег у пачатак пракоса і выкульваў кацялок у бойку, напалавіну напоўненую вадой. “Прысмакі, як у французаў...” — вырагатвалі мужчыны.

Суседзі здзіўлена пазіралі на старога Антося, пасміхаліся за вочы, а сёй-той нават круціў пальцам ля скроні: “Здзяцінеў ці з глузду з'ехаў...”

І толькі дзеці цешыліся, несучыся зранку ў Антосеў двор. Усё было ім цікава: і як карміў дзед рыбай і жабянятамі свайго Гошу, і як той няўдала перасмыкаў цыбатымі чырвонымі нагамі, абходзячы двор. Але аднаго моманту дзятва чакала з вялікім нецярпеннем.

Антось адкладаў чаўнок з шаўковымі ніткамі, падвешваў на плот недавязаны венцер, затым ішоў у хату, а пасля зноў выходзіў, трымаючы дзве-тры магазінныя рыбіны. Важна падыходзіў ён да свайго Гошы, браў яго пад паху і шкандыбаў на прыгумень.

— Дзед, дзед, дай яму рыбу! — прасілі басаногія падшыванцы.

— Паспее яшчэ зглымзаць... — Антось з буслам асцярожна лез па драбінах на гумно, каля вільчыка выпрамляўся ва ўвесь рост, браў Гошу дзвюма рукамі і перш, чым падкінуць, аглядаў наваколле...

— Ну, ляці!

Птах нязграбна лапатаў крыламі, выцягваў шыю, і здавалася, — усё, паляціць, адолеўшы зямное прыцяжэнне, рванецца ў блакітную бездань неба, завісне над яго купалам, агледзіцца і паплыве шырокімі кругамі, уладарна азіраючы зялёныя карункі дрэў...

— Ну, ну, Гоша! — дапамагалі дзеці.

Але Гоша, патрапятаўшы крыху ў паветры, падаў у бульбоўнік. Старэйшыя падлеткі падхоплівалі няў-

далага "вестуна", як часам ласкава называў бусла Антось, церабіліся па прыступках на страху, і ўсё пачыналася спачатку. А калі "ўрок палёту" заканчваўся, дзед даставаў рыбу і аддаваў яе Гошу. Бусел задаволена падкідваў дзюбай пачастунак, пасля праглытваў, толькі вузлавата шырыўся гарляк. Пасля такога глыту Гоша задзіраў галаву ўверх і рэзка крычаў, лопаючы крыламі. Ні то была падзяка за ласунак, ні то смачная задаволенасць... Радасць ахоплівала Антосева сэрца, поўніла кожную клетачку. Ён гладзіў белае пер'е і цешыўся: бусел рос, крыяў, убіраўся ў сілу. Адна толькі аказія — не ўмеў лятаць...

Антосевы вочы замружваліся, і перад ім паўставаў пойміcты бераг Нёмана, высокія, у два абхваты дубы, а на іх — шапкі буслiных гнёздаў. Вунь пад тым кустом палешыны Антось затоена, адным вокам сачыў за паплаўком, а другім назіраў, як дарослыя буслы вучылі лятаць маладых. Калі адзін саскокваў з гнязда і рабіў круг, паказваючы, як трымацца на крылах, другі дзюбай падштурхоўваў буслянят на край. Тыя махалі крыламі, баязліва адступаючы назад, зноў пад прымусам бацькоў вытанцоўвалі перад невядомай паветранай безданню... "І хочацца і колецца... — думаў Антось, падсякаючы чарговую драбязу. — Вось-вось паляцяць..." І праўда: у адзін з такіх заходаў буслы саштурхвалі бусляня са сваёй зялёнай каланчы, тое ляцела трохі суматошна, рабіла невялікі круг і ўдала завяршала першы палёт на сваім гняздзе. Так было і з другімі буслянятамі.

Антось адмружваў вейкі, адпускаў белага пестуна з рук, бо на двор выходзіла Маня і, як заўсёды, — не, ужо не злаcліва — бурчала:

— Курэй толькі паразганяў пярэварацень гэты... Несціся не хочуць...

— А ты карытам накрый каторую. Пасядзіць у цемнаце гадзіну, падумае, што перанaчавала, дык і знясецца, — усміхаўся Антось і браўся за чаўнок.

Зіма мінулася неяк хутка і непрыкметна. Набрынялы снег неўпрыкмет ачах, расплавіўся пад сакавіцкім сонцам і збег у вірластую розвадзь Нёма-

на. Разняволеная зямля млява мякла на сугрэвах, мройна курэла парай, вяртаючыся да спрадвечнага жыцця. Калівы новай травы быццам выпрамляліся з-пад зімовага гнёту, выпстрыквалі тоненькімі зялёнымі стрэламі, вабна рунелі на прасохлых грудках сіняпёсу...

Антось толькі цяпер убачыў, як вырас Гоша, уваб-раўся ў сілу. У тым маленькім катуху хлява, дзе і крылы да канца цяжка выпрастаць, бусел незаўважна стаў прыгажуном — ці не большы нават за дзікіх? Сярод курэй ён ішоў па двары велічна, звысаку аглядаючы сакатлівых нясушак, ішоў на сваіх доўгіх нагах, не звяртаючы ўвагі на забіяцкіх пеўняў. Доўгая дзюба са жвавымі вачанятамі выгінаста ёкала то ў адзін, то ў другі бок, быццам вывучала двор па-новаму.

У гэты ж дзень Антося ўвяло ў здзіў яшчэ адно: калі вясёлая дзятва хлынула ў двор, Гоша зрабіў тры магутныя скачкі па зямлі, распусціў свае веееры-крылы і за два велізарныя ўзмахі апынуўся на вільчыку таго самага гумна, з якога падкідваў яго Антось.

— О-о, глядзі, Антось, — з-за суседскага частаколу высунулася галава Юзіка. — Ці не куры яго за зіму лятаць навучылі?

— Куры не куры, а бачыш, як анёл узнёсся, — задаволена ўсміхнуўся Антось. — Цяпер паляціць, дома не выседзіць...

Антось не памыліўся. Бусел сапраўды паляцеў: спачатку нясмелымі кругамі над хатай, хіба каб запомніць родны панадворак, потым вышэй і шырэй — над усёй вёскай, а пасля — як збачыць вока ўгары. Толькі ў абед ды вечарам Гоша, як на аэрадром, пікіраваў на свой прыгумень, цупка прызямляўся і радасна клекатаў. Падзяўбаўшы крыху з курынага карыта, ён вінавата цёрся выгінастай шыяй аб Антосеву ватоўку, быццам казаў: "Даруйце, але мяне чакае неба..." Клекатнуўшы разоў колькі, як даўшы некалькі чэргаў з аўтамата, бусел рабіў два-тры крокі і зноў узмываў у блакіт. Антось задзіраў галаву, захінаў далонню вочы ад сонца і доўга пазіраў на гэты жывы бялёсы паплавок у мройлівай сіняве неба...

Бусел адчуваў сваю сілу. Адарваўшыся ад зямнога прыцяжэння, ён лавіў паветраныя патокі, лёгка вібрыруючы крыламі, кіраваў сваім палётам. Робячы ўсё больш шырокія кругі, ён з асалодай замружваў вочы і плыў па нябачным коле. Паветра прыемна халадзіла цела, узносіла сваімі нябачнымі фантанамі ўсё вышэй і вышэй. І толькі тады, калі хаты на зямлі станавіліся зусім малюпаценькімі, а зялёныя лапікі жыта маглі засланіцца адным крылом, — здавалася, не будзе куды і сесці, — тады бусел, як схамянуўшыся, нырaў на гэтую здрабнелую зямлю, большаў і шырыў яе...

Ужо трэці дзень, як над лугам, крыху ніжэй, чым ён, круцілі нябеснае кола пяць дзікіх буслоў. І так рупіла паляцець да іх, паказаць сваю сілу і лоўкасць лёту, што Гоша ўжо амаль скіраваў крыло на разварот, але раптам убачыў: ад тых пяці аддзялілася маладая бусліха і павеславала проста да яго. Гоша зноў пайшоў на круг, але меншы. Бусліха зазыўна крыкнула і, быццам угадаўшы нябачную лінію яго кола, паплыла паперадзе, метраў за дзесяць ад яго. Худзейшая, але зграбная ў палёце, яна як прываражыла, прыцягнула нябачным магнітам, павяла на круг шырэйшы. Гоша бачыў, што круг яе выходзіць на тых, чатырох, буслоў, але гэта не спалохала яго: жылістая сіла крылаў і ног смела вяла яго за ёю. А яшчэ ён убачыў, што іх — дзве пары. Гатовы адстаяць і абараніць яе, Гоша насцярожана плыў на іх круг. Але буслы спікіравалі ўправа, на нёманскі луг, уступіўшы сваю абагрэтую прастору. І толькі тады, калі бусліха павяла на купу прырэчных дубоў, Гоша рэзка крыкнуў услед і павярнуў на вёску...

Антось і назаўтра ўбачыў бусліху. Яна праляцела за яго пестуном над хатай, але пабаялася апусціцца за ім, прызямлілася на папары. Вось тады і запала ў Антося думка зрэзаць топаль.

Буслы не пасяліліся на баране. А дні праз тры, калі Антось доўга выстаяў ля гумна, углядаючыся ў падпаліны вечаровага неба, як бы нешта прадчуваючы, яго пястун начаваць не прыляцеў.

Адшчыравала сакаўная вясна, перадаўшы бухматую зелень утрапёнаму лету. Начамі, як перад сконам, жагналі маланкі, як велізарнае неабдымнае дрэва, калолі неба перуны, а днём сонца смаліла, як наведзенае шкло. Вечарам зноў збіраліся аблачыны, гуртаваліся ў сіні кіпень хмар, каб рынуцца на апоеную зямлю шалёнымі залевамі... Ад вільгаці і сонца агароды буялі як ніколі. Лес, прамыты ў кожным карэньчыку, на радасць вясковым кабетам, высеяў сузор'і лісічак і сыраежак. Толькі луг, заліты па лагчынах вадой, чакаў калгасных касілак — "нулёвак".

У сярэдзіне чэрвеня да Антося прыехаў з горада старэйшы сын з трохгадовым Васільком. З іх прыездам дажджы перасталі хрысціць вёску, пацякло спакойнае млявае лета...

— Ну, Антось, помач ля дому ў цябе ёсць, то давай на рыбу збірацца. — Юзік падсеў на лаўку, зацягнуўся самакруткай, аж кончыкі пажаўцелых пальцаў прыцмокнуў. — І Васілька з сабой возьмем рыбу насіць. Хай Нёман хоць паглядзіць наш...

Васілёк, заняты нейкай мошкай, якая ніяк не магла абабегчы падстаўленую трэску, адразу ж падхапіўся:

— Дзед, дзед, і я з вамі...

— Ну, от! Цяпер не адкруцішся. Прыйдзецца з вышак вуды даставаць. — Антось пагладзіў бялёсы чубок унука. — Вазьму, Васілёк, вазьму... Ідзі гуляй.

Юзік высмактаў агарак самакруткі, кінуў пад ногі, затушыў абцасам:

— Даўно мы на "жыўца" не кідалі... Давай заўтра пад Ёлава махнём. Вада трохі сышла. Якраз ісці... На чарвяка, на мушку — наловім на юшку.

— Пасля снедання хіба, — згадзіўся Антось. — Толькі што там наловіш... Мінуўся той час — прапала рыба.

— Мінуўся... — Юзік з адрэзанага квадраціка газеты згарнуў новую "суслу", як казала яго жонка. — А помніш?..

Антось і Юзік любілі ўспамінаць рыбацкія прыгоды. У кожнага ў душы даўно пераплялася праўда з выдумкай, выраслі свае дзівосы і легенды, і з часам яны не гаслі, а, як гарачыя вугольчыкі пад ачахлым

попелам, тлелі ў памяці і тады-сяды, на вячорках ці пры нагодзе, успыхвалі патаемным полымем, вырасталі па-новаму... Гэтыя росказні мужчыны любілі слухаць, паддаквалі і прытворна здзіўляліся, ахвотна смакавалі трапяткое — злоўлена-ўпушчанае — рыбацкае шчасце. Дый як не верыць было? Усе добра помнілі ў вёсцы, як Антось такой жа парой, праўда, даўнавата, гадоў дваццаць назад, на хрушча налавіў паўмяшка язёў. І каб не насунуліся тады плыты — было б болей. Але і так хапіла, усіх суседзяў пачаставалі... А шчупак? Хто яшчэ з заядлых рыбакоў такога шчупака выцягнуў? Ніхто. Гэта ўсё яна, самаробная вуда. Куды там куплёнай магазіннай лёсцы! Глымзне раз зубамі шчупак — адно і бачылі! А перагрызі ты сплеценую конскую валасню ды ля кручка — з паўметра тонкага дроту... Шаснаццаць кілаграмаў — о, гэта быў шчупак! Праўда, мяса нясмачнае...

Не, іх рыбацкая памяць магла забыць што-небудзь іншае, але такое — ніколі...

Раніца даўно лагодзіла прыроду сонцам. На суграх высахла раса, а ў цяні яе буйныя, адстоеныя за ноч кроплі віліся лёгкай парай, знікалі ўвачавідкі.

Антось паснедаў першы і цяпер выцягваў з-пад застрэшша гумна вуды. Маня таўклася каля хлява: давала парасятам есці, выпускала курэй і гусей. Сын выцягваў з павеці акораныя слупы: браўся перагароджваць плот ад вуліцы. Пазней за ўсіх выбег з хаты Васілёк. У лёгкай сіняй куртачцы, у гумовых боціках, ён снаваў каля дзеда, пазіраў, як той правяраў рыбацкія снасці.

— Мяшок не забудзь! — страсянуў вудамі Юзік за сваім частаколам.

— І ты захапі, — падтрымаў Антось.

Яны заўсёды зачыналі дзень замест прывітання якім-небудзь жартам. І толькі пазней, сустрэўшыся на вуліцы, здароўкаліся.

...Разняволена і пакручаста, абягаючы ўзгорыстыя сасні́кі, раздзяляючы заліўныя лугі, плыве з вякоў няспешна Нёман. У яго затоках і завоінах, асмужаных аерам і асакой, шныпараць серабрыстыя плоткі,

тапырацца зялёна-чырвоныя, з сінім адлівам акуні, як падводная лодка, як нежывая здань, назіркам праплыве гарласты шчупак, сыта і цельпукавата прасунуцца ў прыцемку язі...

Антось ой як даўно ведаў кожны выгін і кожнае нёманскае калена. Яшчэ тады, калі сам ганяў плыты ў Коўна, бусаком перамераў усе бухты і водмелі, вывучыў нечаканыя вірластыя круцялі і ціхія завадзі. А тут, ля дому, дзе няма на вадзе месца, па якім не сцябала яго вуда-валасянка, Антось мог без памылкі ўявіць усё гэтае падводнае царства. І хоць з году ў год рэчышча рабіла новыя выкрунтасы, наносіла пясчаныя грады, пакідала старыцы і адкрывала выдмы, падмывала і валіла на дно ўчэпістыя дубы, ён, вырываючыся прыхапкамі ад сялянскай штодзённіцы, запамінаў гэтыя змены і бярог у памяці...

Рыба не вельмі бралася: пара плотачак і падлешчык пялёхалі ў вядры. Васілёк поркаў у іх лазовай галінкай, звонка смяяўся. Метраў за трыццаць ніжэй закідаў сваю вуду-яльцоўку Юзік. Але і яму, відаць, не надта шэнціла: Антось ведаў, калі Юзік не скідаў з галавы шапку-аблавушку, клёву не было.

Над лугам пырхалі лёгкія матылькі, гулі пчолы, выцалоўваючы званочкі кветак, а ў сонечным пераліве заліваліся радасцю жаваранкі. З-за Яшуковай гары — рукой падаць ад Нёмана — выпаўзлі чатыры калгасныя касілкі і паплылі па бухматым зяленіве, пакідаючы за сабой роўныя пракосы. Зводдаль за імі — Антось засланіў рукой сонца, пільна ўтаропіўся — ішла пара буслоў, шукаючы спуджаных жабянят. "Ці не мой там са сваёй краляй?" — падумаў Антось, уторкваючы вудзільна ў бераг.

Касілка параўнялася з Юзікам.

— Дзед, ці злавіў што? — з кабіны высунуўся загарэлы дзяцюк.

— За табой наловіш... — Юзік зняў з галавы аблавушку. — Сваім драндулетам усю рыбу паразганяў.

Васілёк здзіўлена глядзеў, як дзед Антось, забыўшы пра паплавок, пайшоў па скошанай траве насустрач двум буслам.

— Гоша, Гоша... Дурненькі... Ну, ідзі, ідзі да мяне...

Бусліха не вытрымала і ўзляцела, села на ўсохлай вяршаліне бліжняга дуба. А бусел без боязі ішоў насустрач Антосю...

— Знайшоў-такі дзед свайго пестуна, — рагатнуў загарэлы.

— Ціха ты, гіцаль! — цыркнуў на яго Юзік, забыўшы пра сваю вуду.

— Дурненькі... Знайшоўся-такі... — Антось ішоў па пракосе з растапыранымі рукамі...

Бусел метраў за сем развёў шырокія крылы і пабег насустрач...

— Гоша... Харошы мой... — Антось гладзіў свайго пестуна па спіне, лёгка перабіраў пальцамі па шыі, заглядваючы ў вочы, быццам хацеў зазірнуць у душу птаха. У горле пяршыў даўкі камяк, сляза набегла на вока...

— Васілёк, нясі дзеду рыбу, — Юзік узяў з-пад алешыны бляшанку з яльцамі...

Бусел асцярожна браў пачастунак з рук, высока задраўшы дзюбу, лоўка заглытваў рыбіну...

— Дзед, дзед, гэта наш? — не мог нарадавацца Васілёк. Яму, няўрымсліваму жывунку, было асабліва цікава: такая прыгожая, дзікая птушка — на табе! — у яго пад рукой! Гэта не бабуліны куры і гусі.

Самага вялікага Юзікавага яльца Гоша моцна заціснуў у чырвонай дзюбе, адышоў, зірнуў на рыбакоў, глянуў на дуб, дзе чакала бусліха, і ўзмыў у паветра...

— Во хто звяла яго... Як тая Янечка Шуську... — Юзік падняў бляшанку, выплеснуў на пакос ваду. — Пара, брат, і нам дадому кіравацца. Нешта вымерхаўся я...

Цэлы тыдзень хадзілі лавіць рыбу Антось з Юзікам у тую нёманскую затоку, ля якой сустрэлі буслоў. Цэлы тыдзень не мог нарадавацца Васілёк, тупаючы каля Гошы, аддаючы яму двайны ўлоў. На дне вядра і бляшанкі хіба заставаліся калючыя акуні. Бусел не ўцякаў ад малечых рук, даваўся пагладзіць

крылы і шыю, толькі калі Васілёк церабіў чорнае пер'е на хвасце, выкручваўся і крычаў.

У той дзень, адразу пасля Купалля, раніцою насунулася велізарная хмара, пастаяла-пастаяла і, так і не разрадзіўшыся дажджом, сплыла. Зноў вызырылася сонца, аднавіўшы летнія фарбы, зноў ажылі птушыня прасторы, вольныя і лёгкія...

У той дзень Антось і Юзік не "прызямліліся" на звычайным абжытым месцы ў Ёлаве, адышліся трохі далей, туды, дзе Нёман заломліваў управа, пакідаючы метраў за сто ад сябе даўгаватую старыцу. Антось добра ведаў яе. Вясной, калі разводдзе залівала луг, выраўнівала азёркі, старыцы і рэчышча, рыба губляла летнюю асцярогу, выходзіла жыраваць на заліўныя лугі. А ў канцы красавіка паўнаводдзе неяк раптоўна схлынала, агаляючы ўзгоркі і выспы, адразаючы шлях той рыбе, якая загулялася. І ёй нічога не заставалася, як сплываць у бліжнюю старыцу ці азярко, каб дачакацца наступнай вясны. Антось, пасучы каровы, садзіўся, бывала, тут, ля старыцы, і выкідваў самай малой вудай "жыўчыкаў" — драбязу, якая потым была прыманкай для шчупака. Вялікая рыба, хітрая і асцярожная, звычайна ў старыцы не заплывала...

Васілёк бегаў па пяску, сцябаў лазінай па вадзе з краю старыцы, на самым мелкаводдзі. Антось, прымасціўшыся ля алешыны, закідаў недалёка, праз разоў колькі правяраючы чарвяка. Юзік прыхінуўся ў канцы старыцы, вымяраў ваду на самым глыбокім месцы.

У мурожных сховах берага цвыркаталі конікі, лёгка вібрыравалі сінімі крыламі стракозы, рэзалі мроіва над Нёманам беражанкі. У бялёса-блакітным небе пад рэдкімі аблачынкамі кружыла пара буслоў...

"Мой пястун са сваёй..." — падумаў Антось, адхінуўся, зноў зірнуў на ваду. Паплавок калыхнуўся, дзеўбануў ваду і павёў убок. Рука звыкла падсекла — акунь, бліснуўшы луской, затрапятаў на беразе і тут жа вызвалена боўтнуўся ў вядро. Праз мінут дзесяць яшчэ адзін злоўлены яршысты трапятун расплюхаў набраную ваду...

Юзік не скідаў сваю аблавушку, памалу пераходзіў бліжэй да Антося...

Васілёк забрыў па калені ў ваду, нешта лавіў на дне рукой...

Было спакойна і хораша. І раптам Антося як працяў голас Юзіка:

— Глядзі!

Антось прыўскочыў, зірнуў на ўнука...

З неба чырвона-белай маланкай, склаўшы крылы, выцягнуўшыся стралой, падаў уніз бусел. Перад самым хлопчыкам бусел распусціў крылы і чыркнуў імі па вадзе, нязграбна развярнуўся і цяжка паляцеў да бліжніх дубоў. Васілёк спалохана адступіўся, не ведаючы, што здарылася, заплакаў.

На тым месцы, дзе бусел спудзіў ваду, нешта жывое і вялізнае валюхаста развярнулася, пусціўшы вір, таямніцаю сплыло ў глыбіню...

— Васілёк... Унучак... — Антось, расхрыстаны, напалоханы, бег па беразе. — Ну, не плач, не плач, дурненькі. Гэта ж наш Гоша.

Юзік падышоў, зняў аблавушку, пачухаў патыліцу:

— Я — не я буду, гэта — сом.

— Ліха яго ведае. Можа, і сом. Павыядаў усю рыбу, адны акуні засталіся, — Антось гладзіў унука. — Ну, не плач. Мы яго зловім...

У замружаных вачах, як з цемры, выясніліся дзве постаці буслоў, высвечаныя і гнуткія. Яны, плаўныя ў нябесным крузе, плылі над роднай зямлёй, азіраючы знаёмыя ўзлескі і лугі... Адзін з іх не зводзіў вачэй з белай кропкі на вадзе — малога хлопчыка. І тады, калі на пясчаным дне вымалявалася нешта цёмнае, як кавалак моранага дуба, нешта жывое і пагрозліва, асцярожна пачало блізіцца да белай кропкі, бусел рынуўся ўніз, імгненна прасек тую прастору...

...Чатыры, сплеценыя ў два рады, невады, навязаныя на жардзіны, рассеклі ваду. Жылістыя рукі мужчын павялі іх павольна, таўкучы жардзінамі ля берага. Грамада людзей засяроджана сачыла за невадам.

Антось вёў свайго ўнука за руку, а поруч ішлі Юзік з Міхасём.

З сярэдзіны старыцы жардзіны перахапілі маладзейшыя, павялі невады хутчэй. Верхнія вяроўкі з паплаўкамі выцягнуліся дугой па вадзе, але ішлі наперад, разганяючы жабурынне і раску.

— Хаця б корч які не тырчаў на дне, — выдыхнуў з дымам Юзік.

— Не павінна, — Антось глядзеў на невад. — На маёй памяці дубоў тут не завальваў Нёман.

Да канца старыцы заставалася метраў пятнаццаць, а вада была спакойнай.

— Мо залёг дзе пад берагам ці пад невад прашыўся? — не выцерпеў Міхась.

І толькі сказаў ён, як велізарная рыбіна — ці не паўтара метра? — ляснула хвастом па вадзе перад невадам, зрабіла разварот на мелкаводдзі і тарпедай пайшла на невад.

— Дзяржы! Дзяржы! А то невад праб'е! — ажылі два натоўпы на адным і другім берагах.

Невад напяўся, але вытрымаў, адкінуў назад чорную рыбіну.

— Крыллі зводзь! — замітусіўся ля канца старыцы Юзік. — А то ўцячэ падла.

— Не ўцячэ. Няма куды, — Міхась абапёрся на сваю кульбаку. — Здаровы гад!

Крыллі невада сышліся, замкнуўшы круг, напяліся і вывалаклі на пясок велізарнага сома. Чорны, слізкі, ён, як перад сконам, біўся пад сеткай, задыхаўся, выціваўся, сілячыся парваць нацягнуты невад, але шаўковыя ніткі трымалі моцна.

Пасля сом заціх.

— О завала! — Юзік штурхнуў ботам абвялую тушу. — Пудоў пяць!

Антось зірнуў на сома, палажыў далонь на бялёсы чубок Васілька, а потым узняў пагляд на неба...

Чыстае ад аблачын, яно, здаецца, раздалося ўшыркі. Свяціла сонца, залівалася песняй жаўрук, а на самым дне нябеснай завадзі, на самай высачыні, як два белыя рыбацкія паплаўкі, плылі буслы...

# ЛЯСНАЯ ФЕЯ

*апавяданне*

— Гэ, браток, не марнуй часу дарэмна. Не назбіраеш ты нічога, бо іх няма яшчэ... — дзядзька Міша, сусед з густымі чорнымі брывамі, якія сыходзіліся разам у адну панурую шчотку і прыкрывалі чорныя пацеркі вачэй, убачыўшы маю лазовую карзіну і скручаную плашч-накідку на тонкім раменьчыку, перастаў капаць і абапёрся на лапату. — Каб жа дождж пайшоў, а то — сухмень... А грыбам парнасць трэба: каб ноччу ліло, а днём пякло.

— Дык не было ж увесь час суха.

— Але залевы ні адной.

— Ды і жыта вунь у колас пайшло. Якраз першыя баравікі павінны з'явіцца.

— Ну-ну, дай Бог чутае бачыць... Хадзем во лепш у рыбу. Я чарвякоў накапаю, пляшку захаплю і махнём пад Язвінскі брод. Акунёў там — аж Нёман пярэсты!

— Дык смаліць жа, дзядзька Міша, рыба не будзе брацца.

— Покуль дойдзем, сонца ачахне. Акуні пад берагам любяць шнырыць, у цяньку...

— Не, усё-такі па лесе прабягуся.

— Ну, глядзі, заблудзішся — дадому не прыходзь, бо маці есці не дасць.

Дзядзька Міша ведаў лес як ніхто. Гадоў пятнаццаць у маладосці выжыльваўся ён на руме, бомай варочаў здаравенныя камлі, каціў іх са шліхтаў з гары ўніз, да вясковага халоднага Нёмана, вязаў лазовай віткай плыты, ставіў на апошняй лаўцы дубовую барбару — завостранае палена для тормазу, падбіраў плытагонам надзейныя вёслы-апачыны і бласлаўляў іх у нялёгкі водны шлях аж да Коўна... Мо тут, у халоднай вадзе, і застудзіў ногі, бо цяпер зімой і летам хадзіў у бітых валёнках. Але лес вывучыў і не раз вяртаўся з працы з поўнай, з завязанымі рукавамі і каўняром, кашуляй баравікоў.

Я паволі пайшоў па сцяжынцы каля цагельнага завода, мінуў першыя кар'еры, збочыў з тупкага і пабрыў па церпкім пахучым палыне да апошніх копанак, за якімі пачыналася Залессе. "Зазірну ў гэты ельнік, раптам ніхто яго не абшнырыў". Помнілася, як мы некалі з бацькам звярнулі са сцежкі і пад самым носам у людзей натрапілі на такую неруш баравікоў, што праз гадзіну вярнуліся дахаты. Маці аж успляснула рукамі: "А Божачка! Што здарылася?" Мы выклалі баравікі на разасланую салому: маці выпаліць у печы, наніжа грыбы на пруткі і на бляшанках для булак паставіць іх сушыцца на гарачы под. Мы ж пабеглі ў лес другі раз.

Я напрамкі шнураваў да апошняй копанкі, дзе за сухімі расцяробамі ядлоўцу пачынаўся ельнік, сярод якога там-сям млелі ад спякоты высачэзныя яліны. Тут на іх гаспадарылі вавёркі, а ўнізе ў расшчэпе сасновага спарыша распраўляўся з шышкамі дзяцел. Яго лясная кузня была не так і высока, як рукой падаць, а на долеігліца была ўсыпана карычневымі лускаўкамі-лушпінкамі ад шышак. Успомнілася з кніг, што ўсе дзятлы паміраюць ад кровазліцця ў галаву. Як і большасць пісьменнікаў — ад інсультаў ды яшчэ ад інфарктаў...

Баравікоў не было. Я абгледзеў увесь маладняк, зазірнуў пад старыя яліны і выйшаў на палянку, сярод якой ляжала разлапістая старадрэвіна. Ад злосці, што не знайшоў нічога, трэснуў кедам па трухлявай абалоні — аж пасыпалася парахня. Я зірнуў на тоўсты камель і абамлеў: з-пад аблузанай усохлай кары, як паласатыя тарпеды, выляталі шэршні. А балючапухлінную сілу іх укусу я ведаў з дзяцінства, калі поркаў якой-небудзь патырчакай у дзіркі пад збуцвелымі пнямі, ганяючы вужак і яшчарак. Успамін гэты імгненна ажывіў мае ногі, і яны панеслі мяне да вадзянога выратавання. Шэршні снавалі над галавой, залятали наперад, завісаючы ў паветры, сярдзіта гулі, але карзіна, якая прыкрывала мае аголеныя месцы, не давала ім рынуцца ўніз і шалёна ўсадзіць вострыя джалы.

Умомант працерабіўся праз трыснёг, пляснуўся ў цёплую ваду і па шыю прысеў. Шэршні насіліся над вадой, выглядаючы месца для ўдару, але я прысеў яшчэ ніжэй, аж карзіна краямі дакранулася да вады. Праз хвілін колькі яны астылі — не пакусалі, дык хоць у ваду загналі! — і паляцелі ў сваё трухлявае гняздо. Я мокры, як квач, выбраўся не бераг і пашлэпаў, хлюпаючы кедамі, ускрай копанкі да маладога сасняку. Тут спыніўся, выліў ваду з абутку, скінуў і выкруціў трыко. "Так яно і прахалодней будзе. Вяртацца назад на пераадзяванне не буду, а то дзядзька Міша засмяе: "Ну што, налавіў грыбоў?" Прайду кіламетраў пяць — усё высахне". Плашч-накідка ў карзіне не намокла, бо я прыціснуў яе галавой да дна. Значыць, не намоклі хлеб з паляндвіцай і гурком, якія я прыхапіў для перакусу.

Дарога вілася між знаёмых пералескаў, памалу супакойвала ад нечаканай прыгоды, ды і адзенне пачынала падсыхаць на сонцы. Я не хацеў блытацца па задзірыстых чашчобах маладога гушчарніку, па рэдкім сасновым узлессі, а бадзёра шыбаваў да сваіх любімых мясцін. Яны, такія мясціны, відаць, былі ў кожнага, хто любіць пагодным ранкам прабегчы па ласіных сцежках ці восеньскай слотай паблукаць па захмурнелым мокрым лесе, каб па адным, па два назбіраць поўную карзіну лясных прыгажуноў-баравікоў. Ідзеш, бывала, па сваіх любімых сцежках і нутром адчуваеш — вось тут, за гэтым кустом ці сасной, стаіць на стромкай белай ножцы цар грыбоў з карычневай шапачкай. А не тут, дык там, на белым імху, чорны, не паточаны за ночляснымі чарвякамі. Назбіраеш, ледзь давалачэш поўны кош ці карзіну, паставіш, стомлена-задаволены, на ганку... А маці будзе ахкаць, падхвальваць: няйначай, каб і заўтра пайшоў. А ноччу ў сне зноў збіраеш баравікі з тоўстымі белымі і з асмужанымі ножкамі, адкрытыя людскому воку ў баравінах і затоеныя ў ігліцы і прэлым імху...

Вунь там, на крыжаванцы лясной дарогі і лініі, аднойчы гарадскія бэйбусы перастрэлі мікуціцкіх хлапчукоў з поўнымі карзінамі баравікоў. Якраз быў выса-

косны год, а, як казалі старыя людзі, у такі год асабліва родзяць грыбы... Перастрэлі і забралі баравікі. Пасля гэтага ад'ехаліся на машыне не так далёка і пачалі дазбірваць грыбы. А падлеткі, праўнукі тутэйшых партызанаў, падцікавалі, дзе спыніліся мінчукі, нацягалі сухалому пад машыну дый запалілі. Кінуліся рабаўнікі ў вясковы сельсавет, а там адпрэчылі іх: "Грыбы забралі? Забралі! Малых запомнілі? Не! Вёска ж вялікая, дзе ж ты іх знойдзеш? А калі і знойдзеш, то не пасадзіш, бо малыя... А бацькі скажуць, нашто адабралі?" Так з нічым і паехалі ў Мінск зайздросныя грабіцелі.

А вунь там, ля яловага вываратня, нехта з гарадскіх паставіў свае чырвоныя "Жыгулі" і пайшоў у лес. А набрыў на машыну лось. Ці то колер яму не спадабаўся, ці то не ў нораве быў... Пярэднімі капытамі змалаціў машыну на плешку. Змясіў і пайшоў сабе ў лес. Таксама ўлегцы паехаў бедалага ў горад...

Трыко амаль высахла, толькі кеды, выпацканыя пяском, не прынялі ранейшага выгляду. Але то не бяда: на гарачых нагах і яны хутка абсохнуць.

Я зазірнуў у адну любімую мясціну, абабег другую, напрамкі прашыбаваў трэцюю, але толькі ў чацвёртай выкалупаў два крывулістыя баравыя баравікі. Вяртацца назад з такім зборам надта не хацелася: зноў падпадзеш пад кпіны дзядзькі Мішы. Дый час быў яшчэ не позні — недзе каля полудня. "Хіба ў Чартавіцу завітаць?" Але я тут жа адагнаў гэтую думку, бо трохі пабойваўся пушчанскага гушчарняку і балоцістага, купчастага, з высокім параснікам адзічэлага глушняку. Некалі я дапяў сюды ў пошуках нерушы. Аблазіў усе закуткі і толькі пад разлапістай ялінай на краі нейкай яміны ўбачыў баравік. Ён стаяў, як на выставе, вялікі і заманлівы, крохкі ў сваім смуглаватым целе... Я паставіў карзіну і з саматобным нажом-фінкай рынуўся да яго, рынуўся і адхлынуў: з яміны, увесь у гразі, уздымаўся чорнабуры кныр. Пагрозліва бліснулі ашчэраныя клыкі... Гэтага хапіла, каб сігануць назад, ухапіць карзіну і паджгаць у бок далёкай дарогі. "А каб пагнаўся за

мной сякач? Што тады? Не ўратавала б мяне і фінка. Хіба што на дрэва якое ўсцерабіўся б..." Але дзік не пагнаўся. Ці то не хацеў з гразі вылазіць і пакідаць сваё прахалоднае лежыва, ці то паленаваўся гнацца за перапалоханай двухногай зданню...

Два баравікі не надта цешылі вока. Відаць, пра́вы быў дзядзька Міша, калі гаварыў пра зацяжныя цёплыя ліўні. Бо без іх зямля не паравала, не курылася лёгкім мроівам. Але, успомніўшы дзядзькавы кепікі, вырашыў я даць кругаля і зазірнуць на Ласіныя горы. Некалі бацька валок адтуль цяжкі, аж пад ручку, кош баравікоў і гаварыў: “Не будзе грыбоў — ідзі на Ласіныя горы, там заўсёды знойдзеш”.

Я доўга не вагаўся, перавязаў шнуркі на кедах і рушыў да Ласіных гор. Ішоў і думаў пра тое, як бы добра было знайсці мінашукальнік і перарабіць яго, настроіць на грыбы. Вось дзе цуд быў бы! Ідзеш па лесе, а ён — пік, пік... Але — баравік! Зноў “пік, пік” — другі баравік! Як бачыш назбіраў бы карзіну, ніводнага не прапусціў бы... Але гэта толькі фантазія...

За гэтымі думкамі хутка прайшоў некалькі квадратаў, мінуў выразаную спрэс дзялянку, абышоў даволі ўжо высокі маладняк, які — запомнілася добра — садзіла вострым ланцэтам мая маці з вясковымі кабетамі. Флянцы прагна ўчапіліся ў сіняпёс, раскашлаціліся, а пасля спорна пайшлі ўверх, ашчэрыўшыся патырчакамі сушняку на ствалах, гонка ўзнялі свае вяршаліны на добры дзесятак метраў.

За Свераноўскай лініяй пачыналіся Ласіныя горы. Я ўзяў з карзіны нож, паправіў раменьчык плашчнакідкі і выйшаў на паляну. Выйшаў — і зніякавеў: на замшэлым грудку сядзела дзяўчына. Яна ўбачыла мяне і таропка падхапілася:

— Ой, хто вы?

— Адтуль я, з вёскі...

Яе раптоўная радасць змянілася непрыхаванай трывогай: а што, калі я чалавек ліхі? Ды яшчэ з фінкай...

— Не бойцеся, я забрыў сюды ў любімае бацькава месца. Некалі яно было такое грыбное. А цяпер якое — і сам не ведаю... А вы, даруйце, хто?

— Я — з турбазы. Пайшла ў грыбы і заблудзілася.

Прыгожая чырвань заліла яе шчокі. Лёгкі шэры світэр і сінія джынсы вабна аблягалі яе бездакорную постаць. Белая спартыўная шапачка яшчэ больш падкрэслівала яе цнатлівы ружанец.

Я перасмыкнуў кадыком, праглынуўшы сліну, і прапанаваў:

— Давайце разам заглянём на Ласіныя горы... А раптам натрапім на баравікі.

— Давайце... — нясмела згадзілася яна.

— Тады — будзем знаёмы: Аляксей... — Я пераклаў нож у левую далонь і працягнуў руку. Яе рука, далікатная і вытанчаная, спуджана страпянулася ў маёй лапе, а голас усё ж ціха вымавіў:

— Святлана.

— Вельмі прыемна. А цяпер пайшлі па грыбы.

Яна спрытна нагнулася, узяла даволі ёмкі кошык, сплецены з каляровых дроцікаў, дастала маленькі сцізорык. Яшчэ раз я ацаніў яе стройны і зграбны стан, кірпаты акуратны носік, русявую пасму валасоў, што выбілася з-пад шапкі, прыгожыя прыпухлыя губы...

— Пайшлі... — яна запытальна акінула мяне з галавы да ног.

— Туды! — паказаў я на Ласіныя горы.

Мы мінулі паляну, падаліся па рэдкалессі, якое паволі падымалася ўгору. Мох на гарах быў сухі і шорсткі. Мае кеды высахлі і ўпэўнена вялі ўперад. Яе чорна-белыя красоўкі ішлі поруч...

Баравікі пачаліся знянацку.

— Ой, колькі іх! — радасна ўсклікнула Святлана і паставіла кошык ля першага здаравяка.

— Толькі не зразайце яго, — я таксама прыпыніўся.

— Чаму?

— Трэба яго выкруціць з зямлі, а пасля ўжо абчысціць корань. А калі зрэжаш — корань загніе, загніе і грыбніца.

— А я і не ведала... — яна, дзівосная і прыгожая, як лясная фея, глядзела на мяне вялікімі блакітнымі вачыма.

— І я спачатку не ведаў. Бацька падказаў.

Баравікоў было сапраўды многа — сапраўдная неруш. І ўсе — адзін у адзін. Быццам блізняты выбухнулі з-пад імху ў адначассе. Па адным, па два, а то там-сям і па тры...

Святлана забыла пра свой нядаўні страх, перабягала ад аднаго баравіка да другога, як дзіцё, радавалася кожнаму грыбу:

— Аляксей, глядзі, які прыгажун! А во, побач які, як пан таўсматы! Глядзі-глядзі, а вунь яшчэ два, і яшчэ...

Я таксама збіраў з радасцю, з той простай чалавечай радасцю, якая была суперажывальна чужой, невядомай, але такой знаёмай радасці ад знойдзенай нерушы.

Мая карзіна і яе кош хутка напоўніліся. Я важна браў сваю ношу, прадчуваючы вельмі блізкі шлях дахаты, прыкідваў яе вагу на руцэ... Але баравікі паўставалі то спераду, то збоку... І кладзь мая напоўнілася да самай ручкі, я выпраміўся:

— Святлана, можа, хопіць? Хай і ласям застанецца...

— Мне даўно хопіць. Як убачаць на турбазе — не павераць.

— Тады пайшлі.

Мы спусціліся з Ласіных гор і зноў аказаліся на той самай палянцы, дзе сустрэліся.

— Давай, Святлана, перакусім, — я зняў плашчнакідку ■ пляча, скінуў ■ яе раменьчык і разгарнуўраскінуў пластыкавыя крылы на шараватым доле.

— Давай, калі што ёсць, — Святлана зняла шапачку з галавы, і валасы русявым вадападам упалі на яе плечы. Яна лоўка ўскалыхнула іх, прыхарашыла...

Я разгарнуў місткі паперы, парэзаў паляндвіцу на тонкія скрылёчкі, палову іх паклаў на лусту хлеба, распалавініў агурок і падаў ёй у рукі:

— Смачна есці!

— Дзякуй! — яе рука зноў патанула ў маёй лапе, але цяпер ужо далонню ўверх. Быццам ток прабег па маіх мускулах. — Смачна як! Я тысячу гадоў не ела паляндвіцы. Некалі цётка жыла ў вёсцы, трымала парасят. Прыязджала ў госці да нас — прывозіла... А цяпер няма яе ўжо...

— Святлана, а ты гарадская? — вяртацца да "вы" было неяк няёмка.

— Я — з Брэста.

— А я ў Мінску жыву.

— Мінск — Брэст — адзін пераезд, — усміхнулася яна. — Але трэба ж ісці... Толькі куды?

— Толькі за мной.

Мы пайшлі. Маю карзіну, намнога цяжэйшую, узялі за ручку ўдваіх, а у правай для раўнавагі я нёс Святланін кошык. Мінулі пару хмызнякоў і выйшлі нарэшце на гравійку. Пайшлося тупка і хутчэй. Ішлі мы і маўчалі. Відаць, кожны па-свойму перажываў гэтую прыгоду. А можа, проста ішлі двое маладых незнаёмых людзей і любаваліся лесам, радаваліся дарозе, што вяла дахаты... На Арцюхоўскай лініі я спыніўся:

— Метраў за трыста — асфальт, а там — налева і ўказальнік "Турбаза..." А я па лініі пайду, мне тут значна бліжэй.

Яна глядзела на мяне блакітнымі вачыма і быццам заварожвала, уцягвала маю душу ў гэтыя таямнічыя віры...

— Заходзьце. У госці... — А пасля: — Суседка не прыехала, і я ў доміку — адна. У мяне каньяк нават ёсць... А домік мой — дваццаты, ля самага пляжа...

Я зірнуў на яе, быццам вачыма хацеў увабраць яе кожную рыску ў сябе, запомніць такой, юнай і шчаслівай... Ісці па ўзаранай лініі не хацелася, але ведаў: будзе хваляваіца маці... А што да запрашэння... Хто ж адмовіцца ад зваблівага клічу такой красуні — лясной феі?

— Прыйду, калі будзеш чакаць, — я падхапіў карзіну, ацяжэла ўскінуў яе на руку і пайшоў па жаўтлявым пяску лініі. Ішоў і думаў, як прыйду дахаты, перабяру баравікі, з'езджу выкупаюся ў Нёмане, нацягну джынсы, футболку і пайду — вядома ж, пайду! — на турбазу, да яе ў дваццаты домік. Што мне да знаёмых хлопцаў, якія прыйшлі на турбазаўскія танцы, што мне да іх пытанняў! Я зайду да яе ў пакой і, пэў-

на ж, яна замкне дзверы, каб ніхто не перашкодзіў, дастане чаркі і нальe ў іх каньяку... Мы вып'ем за незвычайнае знаёмства, пагаворым, зноў вып'ем... А потым я не стрымаюся, прыхіну яе да сябе, асцярожна пацалую, а яна не запярэчыць, потым захлынуся ў яе абдымках, знікну, прападу пад вадападам яе валасоў... Як праз сон, пачую толькі, як жыкне замочак яе джынсаў... І толькі раніца ўладарна развядзе нас... Развядзе, бо днём мне — на аўтобус.

Яно ўсё так і адбылося, толькі да таго моманту, калі я пераапрануўся і сабраўся ісці на турбазу... Тры аднакласнікі, якіх я не бачыў амаль год, гаманліва адкрылі весніцы на двор, пастукалі ў шыбу:

— Дзе ты там, грыбнік? Вылазь, пойдзем на прыроду! У нас і чарка, і скварка ёсць. Пасядзім ля вогнішча, пагамонім...

Усё — палац разрушыўся! Я не змог прызнацца, хто мяне чакае ў дваццатым доміку на турбазе. Згадзіўся і пайшоў з сябрамі на бераг Нёмана. А там за гаворкай засядзеліся мы аж да поўначы...

У сне, як заўсёды, сніліся баравікі — чорныя і белыя, па адным, па два, па тры... А раніцай я сабраў сумку, сеў у аўтобус... Ехаў па шашы і ўспамінаў яе, лясную фею, яе руку, валасы, губы, якія, здаецца, прасілі: "Я хачу, каб ты прыйшоў да мяне..."

# “КАЮСЯ, ГОСПАДЗІ...”

*апавяданне*

— Што прывяло цябе, отрак, у храм Божы?

— Хачу пакаяцца, ойча.

— Праз пакаянне — дарога да ісціны. Ці ж зело грахі твае вялікія?

— Не сказаць, каб зло, але ж перад жонкай узяло... Грэшны я... Не спіцца ноччу, варочаюся тудысюды, а яно не адступае, мроіцца, як учора было, у вачах стаіць...

— Кажы праўдзіва, не таі грэшныя мыслі свае, каб атрымаць Госпадняе суцяшэнне.

— Я і скажу, усё скажу, ойча. Нічога не схаваю. Таму і прыйшоў сюды.

— Ці не парушаў святыя запаведзі ў жыцці сваім?

— Трохі.

— Трохі ці многа — усё адно грэх. Калі гаворым, што не маем граху, падманваем саміх сябе. Калі спавядаем грахі нашыя, то Ён, будучы верным і праведным, дарує нам грахі нашы і ачысціць нас ад усякай няпраўды.

— Ісціну кажаце, ойча.

— Не забіў каго у суяце мірской?

— Што вы, ойча! На чалавека — рука не падымецца, каб і ўгнявіў хто страшна. А пеўня засек раз. Здаравеннага, на хіміі гадаванага.

— Певень — таксама істота боская.

— Я нічога, хай бы жыў. Але ж маці папрасіла: дзве курыцы затаптаў, трэцяя з нагой выкручанай чыкільгала... Здаравенны — як стравус. Бяжыць, бывала, па двары — тупат аж на печы чуваць. Кіль дзевяць быў.

— Хоць і грэх, але для патрэб плоці тваёй.

— Вы ж таксама, ойча...

— Маўчы пра мяне! Я пасланнік Божы, дзень і ноч перад Госпадам малюся, другіх на пуць ісцінны настаўляю.

— Маўчу, ойча.

— Кажы, богаадступнік, ці не краў злосна?

— Калі па-вялікаму, то не. Язык не падымецца сказаць. А ў маленстве было... Яйкі курыныя любіў я, сырыя. Курыца не паспее адкудахтаць, а я яго, цёпленькае, цап з седала і — у бульбу! Лягу ў разору між бульбоўніку, каменьчыкам — дзюк па ім і смакчу. Вылезу потым, а маці тут як тут: “Во знеслася ж толькі, а няма ўжо — як кот злізаў! Ты, Коля, выпіў?” — “Не, мама, не я”. — “Ты, Саша, выпіў?” — “Не, мама, не я”. А ў самога шчокі аж да вушэй жаўтком вымазаныя... “А каб не краў, а каб не лгаў!” — дубец у мамінай руцэ пякучы быў...

— І гэта для плоці тваёй ненасытнай. Па-малечаму недамыслію ўсё гэта чынена. А ў чым жа грэх свой бачыш ныне?

— Пралюбадзействаваў я, ойча...

— Грэх то вялікі і страшны. На Судзе Божым ваздасца табе па віне тваёй. Слухай, што кажацца ў Свяшчэнным пісанні: “...поступайте по духу, [redacted] вы не будете исполнять вожделений плоти, ибо плоть желает противного духу, [redacted] дух — противного плоти. Они друг другу противятся... Дела плоти известны, они суть: прелюбодеяние, блуд, нечистота, непотребство, идолослужение, волшебство, вражда, ссоры, зависть, гнев, распри, разногласия, соблазны, ереси, ненависть, убийства, пьянство, бесчинство и тому подобное... поступающие так царствия божия не наследуют. Плод же духа: любовь, радость, мир, долготерпение, благость, милосердие, вера, кротость, воздержание”.

— Каюся, ойча...

— Цела не для блуду, а для Госпада, і Гасподзь для цела.

— Вінаваты, ой як вінаваты, ойча...

— Колькі разоў пралюбадзействаваў?

— Адзін раз усяго...

— Кажы, отрак, не тоячы.

— Было гэта летам, гадоў сем назад. Жонка ў лагер з дзецьмі паехала, а я адзін застаўся, як халасцяк. Яно мо і добра: прыелася кожны дзень тое самае...

— А саблазніцелька хто?

— Па працы маёй каляжанка. Вабная такая! Усё ў яе было: і постаць, і прыгажосць, і душа. Вочы — лепш не глядзець, не вынырнеш... Губы — акрэсленыя, прыпухлыя, прагныя і, як мне здавалася, нахабныя. І як толькі яна замужам не была? Усе мужчыны млелі па ёй, чапляліся, намякалі... А яна — жартам: "Такога цвету — па ўсяму свету". І я млеў, але ўпотай, з душы не выпускаў. А яна, акаянная, пройдзе побач, бліснe вачыма — аж там, унутры, загарыцца шчымліва, папаўзе цёплай хваляй у грудзіну... Як ні тушыў я агонь гэты, а знямогся, пачаў думаць пра яе, трызніць нават. Здаецца, прытульваю яе, выцалоўваю губы і вочы, захінаюся грывай яе смаляных валасоў. Прахаплюся — цьфу ты! Жонка пасопвае пад рукой. Добра, што хоць імя чужое не вышаптаў...

— Як далей дзеялася?

— Засталіся аднойчы мы разам дзяжурыць. Я кнігу чытаў, а яна часопіс нейкі праглядала. Тэлефон маўчаў, ніхто не прыходзіў. Ды і каму хацелася ісці ў лівень гэткі. А яна сядзела, смактала карамельку і хараша па-дзіцячы ўсміхалася: ці сама сабе, ці вычытанаму, а можа, і мне — хто яго ведае? Бачыла яна ці не, што я сачу спадцішка, кожнай клетачкай адчуваю яе? Пэўна, здагадвалася вядзьмарка. Бліснула по вокнах маланка, бабахнуў пярун... І яна, як маланка, вачыма, і засмяялася: "Цукерку хочаш?" — "Хачу..." — не паверыў я. А яна выпіхнула карамельку напалову з рота, зацiснула яе зубамі: "Адкусі палавінку..." Я ад нечаканасці зніякавеў, але падаўся да яе і прыпаў, хацеў губамі забраць усю цукерку, але яе зубы не далі. Прыйшлося захапіць цукерку сваімі зубамі і зліцца ў мусовым пацалунку...

— Не помніў ты, як Ева Адама яблыкам спакусіла?

— Каб і помніў, ойча, усё адно не адкаснуўся б. Гэта было па-за сіламі маімі. А яшчэ дзед падштурхнуў мяне...

— Які дзед? Вы ж удваіх былі.

— Так, удваіх. Але я прыгадаў дзеда Хвядоса і словы яго...

— Кажы, вераадступнік.

— Вандроўнічаў я студэнтам па Палессі па вёсках і хутарах, ад старых людзей даўнейшыя песні запісваў. Запішу з дзесятак у адным сяле — валакуся ў другое. Уся мая гаспадарка — у валізцы. Дык от, заблытаўся я ў Белазер'е. Сяло — не сяло, а так хат дзесяць ускрай Гарыні. Падказалі мне людзі: "Ідзі к Парфенчыкам, яны табе і наспяваюць, і нараскзваюць. Ды і нагода ёсць: брыльянтавае вяселле сёння ў іх. Я — за валізку і пачыкільгаў туды. Прыходжу — і, праўда, вяселле! Сталы павыносілі, гасцей поўна, музыкі польку наярваюць... Зніякавеў я трохі: няпрошаны госць — горш за татарына. Стаю, як збянтэжаны Саўка. А тут бабка Стэфа (як я потым уведаў) падплыла з чаркай: "Не саромейся, саколік, ідзі за стол, выпі ды прыкусі, паслухай ды паглядзі. Пра цябе ж мая праўнучка з Рамашоў сёння паведала. Кажа, адны аблігацыі, абразы старадаўнія збіралі, а гэты — песні. А я ёй кажу: "У песні — душа чалавечая. Гэта вы цяпер ад гэтай скрынкі цівілізарнай вечарам шалееце, як унурыцеся — волакам не адцягнеш". Пасадзілі мяне за стол і давай частаваць. Я п'ю, дамашняй каўбасой закусваю, а сам думаю: некалі хіба што залатое вяселле адзначалі. Гэта цяпер жэняцца маладыя, год пражылі — сітцавае святкуюць, дзесяць — бронзавае, дваццаць пяць — сярэбранае... А яшчэ колькі іх, гэтых вяселляў, — зблытаешся. А тут — брыльянтавае! Семдзесят пяць гадоў разам! Бабулі — дзевяноста шэсць, дзеду — сто. Бабка Стэфа — маленькая, ды такая ўвішная: і з гэтым чарку вып'е, і з тым патанцуе, і песню

зацягне, і гасцей даглядае — то налье, то закусь падасць... А дзед Хвядос — белы, як лунь, з вусамі казацкімі, каржакаваты сядзіць ціха, і слёзы ў чарку — кап, кап... Не вытрываў я, падсеў: "Дзед, а дзед... Што гэта вы плачаце? Вы зірніце, якая жонка ў вас: усіх перапіла, усіх ператанцавала, усе амаль покатам ляжаць, а яна — хоць бы што!" А дзед стукнуў кулаком колькі разоў у грудзіну і ледзь пракаўтнуў горка: "Як падумаю, што не дзеўкай узяў — сэрца крывёю абліваецца..."

Застаўся я начаваць у "маладых". А назаўтра дзед Хвядос на рыбалку запрашае. "Давай, — кажа, — па старыцах з кломляй пашастаем, юшкай цябе нашанскай пачастую". Сабраліся мы, торбы пабралі, кацёл літраў на пяць прыхапілі, ну і пару пляшак не забылі... Гадзіны дзве бродзілі — не больш, налавілі кіль дваццаць. Цяпельца ля Гарыні развялі... Дзед Хвядос над варывам вядзьмарыў, [redacted] я паляндвіцу наразаў, хлеб раскладваў... А ноч — уся зорамі высеяна, салаўі — аж захлынаюцца. Выпілі мы па чарцы, па другой кульнулі. Добра стала так. Языкі самі ў гаворку пайшлі. Дзед успамінаў сваю маладосць, сталейшыя гады... Ды і было што ўспомніць: ведама, перажыў столькі! А пад раніцу, як ноч пачала пусцець, ды і другая пляшка таксама, падкінуў я ў касцёр сухога алешніку і асмеліўся запытацца: "Дзед, а ці хоць раз здраджвалі вы сваёй кабеце?" Доўга маўчаў ён, толькі ў вачах мільгалі водсветы полымя. А мо і ўспаміны якія... Потым устаў, закінуў за плечы кломлю і кхэкнуў: "Ведаеш, браток, кот, пільнуючы мыш ля адной норкі, ад голаду лясне..." Вядома ж, я зразумеў усё. От з таго часу і запалі мне дзедавы словы ў душу...

— Кайся ж, кайся, вераадступнік. "...ибо живущие по плоти о плотском помышляют, а живущие по духу — о духовном. Помышления плотские суть смерть, а помышления духовные — жизнь и мир:

потому что плотские помышления суть вражда против Бога, ибо закону Божию не покоряются, да и не могут. Посему живущие по плоти Богу угодить не могут".

— Усё так яно, ойча. Душою я-то петру гэта, але ж цела тады спакусай ссіліла...

— Кажы, як зграшыў ты?

— З'ехала мая жонка на месяц у лагер летні, кіраўніцай над дзецьмі. Вёрст за дзесяць ад горада летнік той быў, на ўскрайку возера. От неяк купіў я таго сяго і папёр аўтобусам да яе ў праведкі. Пасядзеў трохі, выкупаўся ў возеры ды і з'ехаў апошнім аўтобусам. А душа гарыць, аж трымчу ўвесь: "Пазвані ёй, сапраўды любай, дадому ў госці запрасі..." Я і пазваніў. Баяўся, праўда, што не згодзіцца прыехаць. Але, як ні дзіўна, яна адгукнулася і праз гадзіну якую была ў мяне...

— І ты не змог устаяць супраць спакусы?

— Не змог, ойча. Надта ж яна пекная была! А ў прыцемку — яшчэ і тайная...

— Не чытаў, што Ісус Хрыстос казаў у Нагорнай пропаведзі: "...что всякий, кто смотрит на женщину с вожделением, уже прелюбодействовал с нею в сердце своём. Если же правый глаз твой соблазняет тебя, вырви его и брось от себя: ибо лучшее для тебя, чтобы погиб один из членов твоих, а не всё тело твоё было ввержено в геенну. И если правая твоя рука соблазняет тебя, отсеки её и брось от себя: ибо лучшее для тебя, чтобы погиб один из членов твоих, а не всё тело твоё было ввержено в геенну".

— Не чытаў я гэтага, ойча. А ў той міг я чытаў яе: плаўныя жэсты рук, што вытанчана неслі чарку да губ, вочы — вірлівыя, звабныя... Мо і не было б нічога, каб яна запрацівілася... Але губы мае яна злавіла так страсна, так горача, правяла па іх кончыкам языка, зайшла глыбей, заказытала па нёбу, па зубах... Не мог вытрываць я: уся плоць мая

наструнілася, засмылела ад прадчування хуткай слодычы...

— То ж і пра цябе пісана, бо ведаць павінен, што "...тело же не для блуда, но для Господа, и Господь для тела... Разве не знаете, что тела ваши суть члены Христовы? Итак, отниму ли члены у Христа, чтобы сделать их членами блудницы? Да не будет! Или не знаете, что совокупляющийся с блудницею становится одно тело с нею? Ибо сказано: "Два будут одна плоть". А соединяющийся с Господом есть один дух с Господом. Избегайте блуда: всякий грех, который делает человек, есть вне тела, а блудник грешит против собственного тела. Не знаете ли, что тела ваши суть храм живущего в вас Святого Духа, которого имеете вы от Бога, и вы не свои? Ибо вы куплены дорогою ценою. Посему прославляйте Бога и в телах ваших и в душах ваших, которые суть Божьи".

— Яно так, ойча. Але ці ж думаў я тады што? Губы і рукі думалі за мяне тады...

— Кажы далей, грэшнік.

— Падхапіў я яе на рукі і, не помню ўжо, як да ложка данёс... Цалаваў, як шалёны, вызваляючы яе ад блузкі, спадніцы, калготак... Цалаваў і баяўся, што раптам знікне яна як прывід,растане ад цяпла губ і рук маіх... Яна агарнула мяне, увабрала сваім целам усяго... Дзе быў я, дзе яна — дыханне ў дыханне... Як Сула ўліваецца ў Нёман ці Нёман убірае ў сябе Сулу... Адным словам, згарэў я першы раз. І хоць шаптала яна: "Не спяшайся... Ціха... Ціха..." — але рынуўся я ў яе нястрымана і нeўтаймоўна... Як той матылёк на вогнішча... Потым стаялі мы, як два шчаслівыя грэшнікі, пад струменямі душу, голыя, неспатольныя, і чакалі зноў тае хвілі... А калі леглі, то я з ёй спазнаў за дзве гадзіны тое, чаго не спазнаў са сваёй жонкай за пятнаццаць гадоў... "У пасцелі нічога сарамяжнага няма... — шаптала яна. — Мы — двое, мы — адно...

Будзь вольным і вучыся кахаць". Яна то прыпыняла міг, то прыспешвала мае рухі і думкі... Зноў супыняла іх, як перад безданню, выцалоўвала губы і вочы, грудзіну і плечы, заварожвала маё цела пальцамі... І шаптала: "Ідзі, ідзі да мяне, даганяй мяне, даганяй мяне ў кожнай тканцы майго цела, бо я — усюды..." Я даганяў яе і не мог дагнаць, толькі адчуваў, што па целе маім пачынае пульсаваць ток і я станаўлюся маланкай, якая наліваецца сілаю, палымнее, разрастаецца... "Яшчэ, яшчэ трошкі..." Яна заекатала не то ад слодычы, не то ад болю... Не, хутчэй ад слодачы... І я, як маланка, уліўся ў галінкі яе цела, растварыўся ў кожнай тканцы і нарэшце дагнаў яе...

— Грэх, ой грэх які!

— Хоць і грэх, ойча, але салодкі...

— У кожнай слодычы горыч затоена... Кажы далей.

— Ляжалі мы, напоўненыя адно адным. І слоў не трэба было гаварыць. Пасля яна прыўзнялася і шапнула: "Хачу, каб выпіў з мяне". — "Як?" — не зразумеў я. "Налі каньяку сюды..." — яна паказала на ўпадзінку пупка, і я, таўкач, нарэшце здагадаўся. Вольнай рукой дацягнуўся да апалавіненай пляшкі і наліў колькі кропель у гэты дзіўны жывы келіх. Яна ціха ляжала, замружыўшы вочы. Месяц сінявата высвечваў яе прыгожае цела. Я асцярожна губамі зверху прыпаў да яе жывата, выпіў пякучыя кроплі напою, языком казытнуў яе пупок... Яна апякла мяне гарачым дыханнем: "Ты адамкнуў мяне, адамкнуў і небыцця, вярнуў ува мне жанчыну..."

— Блудніца, грахаводніца акаянная. Кажы далей.

— Раптам я працверазеў, пачуўшы, як у дзвярным замку шоргае ключ, спрабуе асіліць зацiснутую зашчоўку... "Жонка, толькі яна!" Я спружыніста ўскочыў з пасцелі, запхнуў пляшку за шафу.

— То кара Боская за грахі вашыя.

— Кара — не кара, лапці не спляцеш... Але трэба было ратаваць яе, дый самому выкручвацца. "Ціха

адзявайся", — шапнуў я. Яна імгненна апранулася, чакала. А замок не паддаваўся і праз колькі секунд задзылінкаў. Я падышоў да дзвярэй, спытаў. Жончын голас не прадракаў нічога добрага. І я пачаў шукаць выйсце і, здаецца, знайшоў яго. Гэта быў адзіны шанс з тысячы. "Не ламі ключ, наш замок заядае... — з хваляваннем сказаў я. — Сыдзі ўніз, я скіну з балкона свой ключ. Паспрабуй ім". — "У цябе нехта ёсць, — заўпарцілася жонка. — Ламі замок". Я адчыніў шафку, узяў сякерку і разы два абушком стукнуў па замку. Гук удараў спалохаў цяпер яе. Было ж тры гадзіны ночы. "Кідай ключ", — сказала яна і зацокала па прыступках уніз. Я ціха пазваў каляжанку і шапнуў: "Пакуль я кіну ключ, падыміся на пяты паверх. Зойдзе жонка — скінь туфлі і ціха сыдзі ўніз. Грошы на таксі ёсць?" — "Ёсць", — сказала яна і лёгка пацалавала мяне ў шчаку. Я адчыніў дзверы і выпусціў яе. Зноў узяў замок на зашчоўку. Пабег і адчыніў дзверы на балкон. Жонка выйшла з пад'езда, паглядзела на наш трэці паверх. Я кінуў ёй ключ і зноў пайшоў да дзвярэй. Ключ шоргаў, тужыўся адамкнуць замок... "От зараза, заядае..." — паўтарыў я, [illegible] праз секунд трыццаць падняў зашчоўку ўверх. Замок адкрыўся. "Адкуль ты?" — спытаў я, прытворна пазяхаючы. "На "хуткай" хлопчыка прывезла... Жывот хапіў". Жонка зайшла, падазрона агледзела кватэру і, нюхнуўшы паветра, спытала: "Піў?" — "Зуб балеў, каньяком прапаласкаў, каб заснуць", — апраўдаваўся я. А сам услухоўваўся ў цішыню. Лесвіца маўчала. І толькі праз хвілін пяць ціха рыпнулі дзверы ў пад'ездзе. Я зразумеў, што выйшла яна.

— Ці прызнаеш грэх свой, отрак?

— Так, ойча, прызнаю. "Прызнаю, што жаніўся з нялюбай..."

— У думках і ўголас паўтарай жа за мной...

— Буду, ойча.

— Помилуй мя, Боже, по великой милости Твоей и по множеству щедрот Твоих очисти беззаконие моё. Найпаче омый мя от беззакония моего, и от греха моего очисти мя: яко беззаконие моё аз знаю, и грех мой предо мною есть выну, Тебе единому согреших и лукавое пред Тобою сотворих...

— ...и лукавое пред Тобою сотворих... "А не сатварыў бы, то і не пазнаў бы любові... Хай сабе і грэшнай..."

— Помилуй нас, Господи, помилуй нас...

— Помилуй нас, Господи, помилуй нас... "І мілую маю, любую, таксама памілуй..."

— Милосердия двери отверзи нам, благословенная Богородице, надеющиеся на Тя да не погибнем, но да избавимся Тобою от бед: Ты бо еси спасение рода христианского...

— ...спасение рода христианскога... "А дзе той мой род? Няма працягу, бо няма дзяцей..."

— Господи помилуй, Господи помилуй, Господи помилуй... "І мілую маю, любую, таксама памілуй..."

— Господу помолимся. Боже, Спасителю наш, иже пророком Твоим Нафаном покаявшемуся Давиду о своих согрешениях... ...презирай ему вся содеянная, оставляй неправды, и превосходяй беззакония...

— ...и препосходяй беззакония... "І то ж праўда: беззаконне гэта, жыць з нялюбаю, а сохнуць па іншай..."

— Каюсь, Господи, помилуй и прости!

— Каюсь, Господи, помилуй и прости!

— Согрешил, Господи, тем, что осквернил тело своё и душу свою блудом и всякими блудными и скверными делами. Согрешил сладострастием и срамными желаниями и мыслями и другими блудными помыслами. Согрешил соблазнительным поведением, невоздержанием душевных и телесных чувств...

— ...невоздержанием душевных и телесных чувств... "О, колькі я дзяржаўся, трымаў сябе ў вуздэчцы... А цяпер — крышка, развядуся! У яе, другой, сын мой расце... От дзе грэх, бо без бацькі расце..."

— Падыдзі да Чашы Святой...

— Іду, ойча...

— Господь и Бог наш Иисус Христос, благодатию и щедротами Своего человеколюбия да простит ти, чадо Алексей, вся согрешения твоя: и аз недостойный иерей, властию Его мне данною, прощаю и разрешаю тя от всех грехов твоих, во имя Отца, и Сына, и Святого Духа. Аминь.

# ВІНОВЫ ТУЗ

*апавяданне*

Кабета палола бульбу. Праз нешырокія рады шчыкетнікаў было відаць, як яна няшчадна рвала ўчэпістую плашчугу, падхоплівала паддатлівую зеленьмакрыцу, выкарэньвала з зямлёй лебяду. Раз-пораз адгіналася ад пляцу, брала похапак зелля, падыходзіла да плоту і праз верх перакідвала звялае, перасыпанае пяском, каліўё сюды, на поплаў. Па ёй
 цяжка было вызначыць узрост: нехлямяжая верхняя апратка — відаць, каб не так пякло сонца, насунутая на лоб пярэстая касынка, загарэлы, смуглы хударлявы твар...

— Вы б з нашым Петраком згулялі, пакуль Верка бібліятэку адкрые, — яна гэпнула праз плот яшчэ адзін ахапак зелля, з цікавасцю бліснула вачыма на нас.

Мы, два сталічныя правяральшчыкі, прымасціліся на сваіх лёгкіх куртках у прыцяньку клубнага задворка і лянiва пляскалі картамі ў "дурня" — бавілі час.

— А дзе ж ваш Пятрок жыве? — Валодзя з адной нагі ўкленчыў на куртцы. З цікавасцю ўтаропіўся ў жанчыну і я.

— А вунь, праз вуліцу, у тым жаўтлявым церамку...

— А хто ён такі? — прыўзняўся я.

— Самі ўбачыце. Нашы мужыкі баяцца з ім гуляць, — яна падабрала падол доўгай спадніцы і, каб не памясіць бульбоўнік, асцярожна пайшла па міжрадкоўі.

— Ну што, носьбіт культуры і ведаў? — ухмыльнуўся Валодзя. — Можа, рызыкнём?

— А што, пайшлі!

Жоўты церамок тануў у навіссі яблынь і груш. Лёгкія жалезныя весніцы ўпусцілі нас на прыгожую цэментаваную дарожку, якая вяла ў глыбіню двара.

Недзе там, у садзе, зазвінеў тазік ці міса, і мы здагадаліся, что гаспадар там. Другія, ужо драўляные весніцы, правялі ў сад. Пад яблынямі, грушамі, пад прыплотнай зарасцю вішняку стаялі вуллі. А ў самым канцы сада, бліжэй да гумна туліласся некалькі калод: тры стаякі і — ці не чатыры? — лежакі.

Мужчына, не здымаючы сітак, паказаў рукой на самаробныя лаву і столік, паставіў на зэдлік дымакур, узяў меншую міску і рэзічку — нож-медарэз, паклэпаў да крайняй калоды-лежака. Было відаць, як ён прыпадняў накрыўку над калодай.

— Гаспадар... Нічога не скажаш! — Валодзя абліэаў перасмяглыя губы. — Столькі раёў! Не кожны справіцца...

Пятрок, як пайменавала яго кабета, набраў поўную міску мёду з сотамі, прыкрыў калоду, вярнуўся да століка:

— Я гурочак свежы прынясу, лыжкі, а вы пачакайце... — ён скінуў з галавы сітак.

Мы ніякавата пераглядаліся, але не паварочваць жа аглоблі назад. Нечакана трапілі ў нязваныя госці.

На стале каля міскі з мёдам леглі тры лыжкі, з'явілася з дзесятак — ці не першых? — агуркоў, стаяла пляшка-семісотка з самагонкай, на што ўказваў самаробны корак.

— Не саромцеся, пачастуйцеся... Мядку во адведайце, з гурочкам, па чарачцы выпіце. Усё сваё, прыроднае, не куплёнае... —дзядзька Пятрок наліў тры чаркі, падняў сваю. — Эх, смаката! Ну, за пчол маіх! Каб не журыліся, за мядком насіліся.

Паднялі свае чаркі і мы, выпілі. Самагонка, і праўда, была добрая: мяккая, хлебная. А гурок з мёдам, пра што я многа чуў, еў упершыню.

— От некалі мы з дзедам мёду мелі — не то, што цяпер. Я малы шчэ быў, а дзеду собіў ва ўсім. Мы з ім пушчу, як галаву сваю ведалі. Адшуквалі ў стайлінах дуплы, выдзёўбвалі борці. Як бачыш пчолы заводзіліся. Або вабікі для вылётных раёў ставілі і перасялялі пчол. На дрэвы па станавісках калоды

ўсцягвалі. А каб мядзведзь-валацуга не ўсцерабіўся, рабілі подкур з тоўстых тарчыц вакол дрэва, ды ўтыкалі вострыя драцяныя спіцы, падвешвалі самабіткі. Не вельмі і ўзбярэшся. А самі па лыкавым лязіве ці лясіне з астраўкамі да борці дабіраліся. Вось тады мёду было! А цяпер — павытручвала ўсё хімія, ды і клешч пчаліны — ратунку няма.

Я храбустаў гурок, лізаў свежы цягучы мёд і глядзеў, любаваўся дзядзькам Петраком. Невысокі, пухленькі ў твары, але не мажны ў целе, ён далікатна браў малымі выгнутымі пальцамі бутэльку, падліваў ў чаркі і прыгаворваў:

— Душа ў гарэлцы меру знае і лішку не бярэ ніколі... Як ракам стаў — дык і даволі! — хітрыя жывыя вочы гаварылі аб тым, што ён — чалавек змыслы і няпросты, а ямачка на шчацэ, што вынікала пры ўсмешцы, рабіла яго добрым і па-свойску вабным.

— Але — хто пра мёд, а хто пра плот. А я, ёлы-палы, загаварыў вас, то й не спытаўся, па якой патрэбе завіталі.

Я пракаўтнуў гурок, аблізаў і палажыў лыжку:

— Кажуць, дзядзька Пятрок, вы ў карты добра гуляеце.

— Кажуць-вяжуць... Гуляў некалі, а цяпер пальцы не тыя сталі, цяжкія. Ды і няма з кім гуляць. Мужчыны мяне баяцца, на вячоркі не завуць. А сам з сабой гуляць не будзеш.

— А мо, тасанулі б адну? — Валодзя са смакам аблізаў лыжку і паклаў на стол.

— А няго ж! Ну і ў што ж? — вочы ў дзядзькі Петрака раптам як азарыліся, хітра бліснулі блакітнымі зрэнкамі. — А калода чыя? Ці свае прынесці?

— Не, у нас амаль новыя карты... — я запусціў руку ў джынсы і выняў яшчэ амаль новую, пакуль не замусоленую калоду звычайных шырпатрэбаўскіх картаў.

— Эх, ёлы-палы! — дзядзька Пятрок лоўка шчоўкнуў па ўпакоўцы пальцамі і трыццаць шэсць маляўнічых карт, як каралеўская знаць са сваёй прыс-

лугай, паслухмяна выплылі на невялікую выгінастую далонь. — Дык у што?

— А хаця б у дваццаць адно, — Валодзя, быццам магніцячы, пацёр свае магутныя далоні.

Не паспеў я і два разы міргнуць, як дзядзька Пятрок правай рукой без пярэбару за секунд пяць перацерусіў калоду, адкінуўшы дванаццаць малодак, ахінуў карты дзвюма рукамі, хукнуў на іх і пачаў тасаваць. Нават у цырку я ніколі не бачыў такога лёгкага і ўмелага жангліравання. Карты ішлі вадападам, пасля беглі перад нашымі вачыма па кругу і — было бачна — клаліся адна к адной не проста так, а відуча, з умовамі той гульні, якую мы заказалі. Пальцы дзядзькі Петрака быццам іграли на нябачным інструменце і, пэўна ж, чулі нейкую даўнюю паўзабытную мелодыю, яны, амаль нябачныя, пускалі карты ў русла левай, зноў запускалі іх кругавым веерам і напрыканцы, пусціўшы карты зверху, як доўгую лесвіцу, злавілі і супакоілі калоду.

— Ну, блін! — Валодзя, як заварожаны, з паўадкрытым ротам глядзеў на дзядзьку Петрака. А той з форсам раздаў карты. Я зірнуў у свае і ў думках усміхнуся: “Дваццаць адно!” Валодзя глянуў у свае і задаволена расцвіў. Відаць, таксама дваццаць адно. Дзядзька Пятрок няспешна адкрыў свае і паказаў нам. Таксама — дваццаць адно!

— Ну, ёлы-палы, мо і гуляць не будзем? — ён задаволена ўсміхнуўся, кінуў свае карты на астатак калоды, наліў у пустыя чаркі. — Ды ежце ж вы, ежце, а то захмялееце, калі піць не ўмееце. Я во на хвілю адвінуся і з палядвічкай вярнуся...

Дзядзька Пятрок пайшоў у хату, а я зірнуў на Валодзю:

— Ну як?

— Клас!

— Але адкуль! Школа вышэйшага карцёжнага пілатажу!

— Зараз распытаем. Ды й здаецца мне, што і яму хочацца паспавядацца, даць сваёй душы нейкі схлын.

Дзядзька Пятрок вярнуўся з ружовымі скрылямі паляндвіцы на талерцы, лустамі хлеба і з паўлітэркай той жа хатняй самагонкі. Сеў, капнуў хлебнай у чаркі, паставіў бутэльку і двумя выгінастымі пальцамі, вялікім і ўказальным, узяў калоду:

— Гуляў я некалі, хлопцы, без пахвальбы, як маг. Карту кожную наскрозь бачыў, нутром адчуваў. Ды і карта мяне любіла, заўсёды ішла шанцаўлівая. Перад самай вайной, калі мы з бацькам будавалі, вось гэтую хату, прыбіўся да нас адзін цясляр, бяздомны, нежанаты, нелядашчы і запушчаны. Росту ён быў — шапка з вяршком. Але ёлы-палы, як ён дзерава часаў! Не склюд — а фуганак! Шнурам наменіць і так бервяно выведзе — хоць басанож коўзайся, ні адной страмякі не загоніш! Смаляныя сукі як збрываў. — Дзядзька Пятрок узяў карты шчопаццю і адным узмахам роўна выклаў на стале прыгожы веер:

— Дык от зачыналі мы працу з сонцам. Адразу часалі, потым заразалі вуглы, а пасля вянец за вянцом клалі зруб. Паабедаўшы, завіхаліся яшчэ гадзіны тры і, прыкінуўшы заўтрашнюю работу, закругляліся. А летам, ведама, дзень вялікі. Дык от усядзецца Горлік — так назваў ён сябе — пад вішняй, выме калоду картаў і пачынае ганяць іх адна за адной. А мне, ёлы-палы, цікава. Падсяду і я да яго, любуюся лоўкасцю рук. Памалу-памалу і мяне дзядзька Горлік прыахвоціў да карцёжнай гульні. Ды не проста так, а паказаў усю сістэму падманаў і махлёўкі. Пазнаваў я гэтую няпростую навуку няспешна, памногу разоў вяртаючыся назад, каб не толькі запомніў, а з завязанымі вачыма мог паўтарыць. Бывала, ёлы-палы, складаў я карты і вечарам пасля чаркі і перакускі запушчу перад Горлікам трашчотку. А гэта ж такі прыём: здаецца, што ты тасуеш карты, а яны застаюцца ў тым жа падкладзеным парадку. Горлік зыркае сваім хітрым вокам і папраўляе: “Трохі хутчэй. Хутчэй... Каб ніякі лох, твая ахвяра, не здагадаўся...”

Расказваў мне дзядзька Горлік і пра пакоўшчыкаў, карцёжнікаў-адзіночак, якія свой выйграш у золата і каштоўныя камяні пасля ўкладаюць. А яшчэ цікавей было слухаць пра гусараў, вагонных гастралёраў. Тыя шулеры, ёлы-палы, па двое звычайна ездзяць, выдаюць сябе за прыстойных і вучоных людзей. Падман яны вядуць падтасоўкай картаў, а стаўкі павялічваюць паступова, каб у канцы сарваць вялікі куш і знікнуць. А пра катрашнчыкаў я і расказваць не буду, бо Горлік вельмі ж лаяўся, успамінаючы іх.

Дзядзька Пятрок, падставіўшы мізінец пад карты, як рак клюшню, лоўка двума пальцамі сабраў калоду:

— Ну, хлопцы, яшчэ па адной, каб здавалася вадой. За жанчын і ўдоў! — ён адным глытам каўтнуў сваю самагонку, адкусіў невялікую дольку агурка і, падкінуўшы калоду, злавіў яе ў паветры, накрыў даланёй на стале:

— Дык от навучыўся я за тры месяцы ўсім карцёжным мудрасцям: умеў, як хацеў, тасаваць, ведаў дзесяткі спосабаў раздачы, усе маякі — умоўныя сігналы — вывучыў, ведаў гульню на шчуп краплёнымі або мечанымі картамі. А апошні месяц — мы тады ўжо бэлькі клалі, крокввы ставілі, — дзядзька Горлік перадаў мне свае тонкасці і хітрасці, як ён казаў, розумам дапетраныя. Для таго, казаў ён, табе перадаю, каб мог абгуляць любога шулера. А восеню, калі бацька прынёс страхарку і пачаў развязваць кулі жытняй саломы — пачыналі крыць хату, — Горлік, прыхапіўшы свой невялікі вандзэлак, ціха сыйшоў. Нават калоду картаў мне пакінуў...

Я маўчаў. Маўчаў і Валодзя. А дзядзька Пятрок узяў на кончык лыжкі мёду, лізнуў, замружыў вочы і, быццам нешта перавярнулася ў яго думках, распусціў даланёй карты на стале:

— Эх, хлопцы, ёлы-палы! Была б у мяне жонка, мо і жыў бы па другому...

— А што ж так? — асцярожна спытаў Валодзя. — Яшчэ і цяпер не позна...

— Позна-не позна, а ўжо не завозна. — Наліўшы чаркі нам і сабе, дзядзька Пятрок глыкнуў гарэлку і, не закусваючы, стукнуў сабе ў грудзіну. — Была, была ў мяне любоў, ды яшчэ якая! Суседку маю Кацярынкай звалі. Чарнабровая, каравокая, уся — як вытачаная з магніту... Песню завядзе — птушкі ціхлі, абрус вытча — сонца загледзіцца... Як вясна прыйшла, пачалі мы сустракацца з ёй. Цалаваліся-мілаваліся аж да раніцы... Эх, ёлы-палы, каб не вайна гэтая! Грымнула нечакана, усе планы збіла, а колькі жыццяў пераварнула! Да сорак трэцяга ні куля мяне, ні асколак не кранулі. А мо любоў берагла мяне. Ішоў я па франтавых дарогах з Кацярынкай у сэрцы, біў праклятага ворага і думаў: "Скончыцца вайна, вярнуся — ажанюся з ёю, і зажывём мы шчасліва і хораша... Дзяцей гадаваць будзем... Дык каб жа так было, як думаеш... Бабахнула ў адным з баёў каля самага мяне... Ці то міна, ці бомба... Кантузіла, зямлёй прысыпала. Мо таму і не ўбачылі, не знайшлі мяне свае. А як выкараскаўся — у вушах трохі адлажыла. Пайшоў, як п'яны. Вось тут мяне немцы і аблажылі. Не адбіцца, не застрэліцца не было з чаго. Завезлі мяне ў канцлагер. Не дай Бог каму пазнаць і ўбачыць такое! Людзі — як шкілеты. Мерлі, як мухі. Ды і нішчылі іх, як калоды картаў, у душагубках. I я б не выжыў. Але карты дапамаглі. Афіцэр іхні, другая шышка ў лагеры, вельмі ж заядлым карцёжнікам быў. Калі пару яму пачалі шукаць, я і шагнуў уперад. Ай, думаю, так і так уміраць. Прывялі мяне да яго, накармілі. А немец высокі, злосны, у акулярах. Ды як карты ў рукі браў, мяняўся адразу, дабрэў, усміхаўся звысака: маўляў, я цябе зараз аб'ягору...

У першай партыі я нават і хітрасці не прыняў, абгуляў яго па памяці. А каб цікавей было, у другой партыі паддаўся. Як ён, зараза, радаваўся, паціраў далоні і прыгаварваў: "Гуд, гуд!" У трэцяй і чацвёртай гульнях я яго, як дзіця, умалаціў. Праўда, некалькі фокусаў сваіх прымяніў. Ох і злаваўся ж ён! Думаў, застрэліць. Але не, адправіў назад у барак.

Назаўтра зноў выклікаў. Я праз перакладчыка сказаў, што буду на хлеб гуляць. Згадзіўся ён. Сем разоў я выйграў, а тры — ён. Чатыры булкі хлеба прынёс я сябрам. Падзялілі на ўсіх. Пасля гуляў я з ім на прадукты і тое-сёе са сваіх фінтоў паказваў. Не ўсё, вядома. Ён, як малы радаваўся, калі ўдавалася паўтарыць. Так і беглі дні, і я не галадаў, і другіх падкормліваў.

Аднойчы выклікаў мяне, злы, раз'ятраны. Ці то, можа, ад начальства які адлуп атрымаў. Я, ёлы-палы, падумаў: з-за мяне. Аж не. Перакладчык пераказаў мне ўмову: гуляецца адна партыя ў "дурня". Не проста так, а на жыццё палоннага маёра. Прайграю я — побач з ім ля сцяны стану, дваіх растраляюць Выйграю — дваіх жывымі застанёмся. Ніколі я так не хваляваўся, аж рукі спацелі, і мяне ў пот кінула. І ўсё-такі абхітрыў я яго. Ён, гад печаны, адчуваў нутром, што недзе зжульнічаў я, але не злавіў за руку. Ды і афіцэры, яго балельшчыкі, не заўважылі. Так і выратаваў я маёра. А ноччу самалёты нашыя наляцелі, бомбамі закідалі. Адну сцяну агароджы развярнула, калючы дрот, як павуцінне, разарвала. Мы і хлынулі ў гэты прарыў... Па дарозе танкі свае сустрэлі... А праз месяц і перамога дакацілася...

Дзядзька Пятрок узяў карты, лоўка апусціў між пальцаў, тры разы пстрыкнуў — і з калоды выпалі віновы туз, бубновы кароль і крастовая дама...

— Не ведаў я, што мая Кацярына ў пачатку вайны замуж выйшла. За вяскоўца нашага. Потым і дачку радзіла. А яго, бедалагу, таксама на фронт забралі. Не вярнуўся ён, толькі лісток прыйшоў, што прапаў без вестак...

Рука дзядзькі Петрака пацерла лоб, прайшлася па вачах, быццам змахнула нябачную слязу, зноў легла на стол...

— Ехаў я дадому і, ёлы-палы, радаваўся: выжыў, вырваўся з праклятага пекла. Кантужаны быў, але не пакалечаны, рукі цэлыя, ногі цэлыя, усё, як кажуць, пры мне...

Недзе пад Варшавай убіўся ў вагон гусар адзін. Змысліві такі, хітраморды. Я адразу змікіціў, што пасля карцёжных фокусаў у гульню ўцягваць пачне. Так яно і выйшла. Праз колькі гадзін добра пачысціў ён захмялелых ваяк. Сёй-той і золата, што з Германіі вёз, прайграў. Падсеў ціха і я к яму. Колькі разоў прайграў, а пасля выйграваць стаў. Ох і завёўся ён! Паўмяха грошай перайшло ка мне, золата ён прасадзіў, а спыніцца, ёлы-палы, не мог. Такая яна, зараза, карцёжная гульня. Пад Брэстам адпусціў я яго, сказаў, каб не ездзіў па Беларусі, бо я тут — кароль. Вось так і вылез я з гразі ў князі. Быў гол, як сакол, і раптам абагаціўся.

Дзядзька Пятрок наліў яшчэ па адной, кіўнуў нам, смачна выпіў.

— Прыехаў я дадому, а Кацярынка мая з малой дачкой на пажарышчы стаіць. Ліха яго ведае, ад чаго яе хата занялася. Ці то не дагледзела пячурку, адвінулася куды, ці то газоўка скінулася. Адна печ мурзатая сярод асмалкаў тырчыць. Аддаў я ёй тыя паўмяшка грошай і жменю золата на новую хату. А замуж за мяне выйсці адмовілася, сказала, што будзе чакаць свайго Івана...

— А сёння яна жыве? — Валодзя адсунуў шклянку, паклаў лыжку.

— А вунь агарод поле. Каля клуба нашага. Хату яна пабудавала, дачку выгадавала. У Мінску яна недзе, інжынерам. А за мяне, ёлы-палы, так і не пайшла. Ды і я на другіх кабет на заглядаюся: вельмі ж моцна сядзіць у сэрцы тая, маладая Кацярынка...

Ішлі мы з Валодзем ад дзядзькі Петрака па вясковай дарозе і маўчалі. Не хацелася думаць, што прыйдзецца прыдумваць добрую даведку аб працы вясковай бібліятэкі. Рабіць справаздачу аб далёкай камандзіроўцы ў забытую глыбінку. Толькі ў мяне ў вачах стаяў невысокі, далікатны і зажураны дзядзька Пятрок — Віновы Туз, як празвалі яго вясковыя мужыкі.

# З таго Свету

*апавяданне*

Іван кінуў піць. Кінуў раптам, як адсек. Вяскоўцы дзіву даваліся: не можа быць, каб Іван ды кінуў піць. Але трактарыст адмаўляўся ад пляшак, калі прывозіў з лесу дровы, не заходзіў у магазін, каб на скалымленыя рублі прыхапіць "фауст чарніла", цураўся мужчын, якія ля завуголля скідаліся на траіх. На запыты суседзяў жонка толькі пацепвала плячыма і загадкава ўсміхалася: пытайце ў яго...

Год назад худая і ўпартая Верка, як казаў Іван, стала рубам: "Спаць з табой не буду. Ты ж усю ноч нагою тузаеш, у сне на тормаз цісне". І што ты з ёю, дурною, зробіш. А то не ведае яна, што ад прывычкі гэта, бо, ведама, дваццаць гадоў на трактары за рулём. Пакрахтаў ён трохі, пабурчаў, але перабраўся на раскладную дубовую канапу, якую шчэ бацька збіваў. Ды і не было часу сварыцца з ёй, наклікаць яшчэ большы гнеў, бо, любіў ён паўтараць, воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.

Дні зноў пабеглі, як парэдняе кола трактара. У калгасе не пастаіш доўга: то сілас трэба вазіць, то цялятам бочку вады завалачы, то салому перакінуць бліжэй да фермы. І толькі пасля работы мог сямутаму з вяскоўцаў вытраляваць бярвенні, прывезці дадому. Не было ў акрузе лепшага вазака, як казала Верка, які мог бы так лоўка выкруціцца між соснаў, сцягнуць на трактары абхвацістыя камлі, сцягнуць да бліжняй дарогі. Мог і падсобіць грузчыкам, не раз падстаўляючы пад груваздкія чатырохмятроўкі сваё магутнае плячо. Разлік пасля быў адзін — вясковай валютай, самагонкай. Добра ўліўшы нечай "гары", ехаў ён да сваёй хаты роўна, як кажуць, на аўтапілоце. Але за два дзесяткі гадоў ні разу не ўрэзаўся ў

чужыя і свае ліпы, ніколі не пералічыў чыйго-небудзь плоту, не задушыў курыцу ці гуся. І толькі заехаўшы ў двор, расслабляўся, засынаў на рулі. Верка яго не трывожыла, не лемантавала, бо ведала: драмане гадзіны дзве — ацверазее, сам вылезе з кабіны.

Гэтае лета выдалася дажджлівае. Першы ўкос напалову скідалі ў сіласныя ямы, а тое, што высахла на грудах, зцюкавалі і вялізныя кацёлкі склалі на сенавале. Вось тады, калі звезлі і людцкае сена, Іван пачуў нейкі стук у трактары, быццам адкруціліся гайкі і пачалі ўсярэдзіне падскокваць балты. Была пярэрва дні на тры між работамі і ён, папярэдзіўшы старшыню, загнаў свайго "беларуса" ў двор, пачаў рамонт. Каробка перадач была спраўная. Праўда, сёетое падцягнуў, падкруціў. Дабраўшыся да карбюратара, рашыў яго прамыць бензінам. Відаць па ўсім, загвоздка была там. Дзень патраціў на прамыўку, а раніцай пачаў збіраць жалезнае нутро свайго кармільца. Да абеду справіўся і задаволена накруціў пускач, рвануў на сябе. Матор завёўся, чмыхнуўшы смярдзючым дымам, запрацаваў роўна, без перастуку. Не бачыў нават, як прыйшла з бухгалтэрыі Верка, замяшала свінням. Заўважыў толькі, як вылівала яна цёплае месіва ў карыта, прыадчыніла веснічкі, выпусціла курэй. Змачыўшы анучу, пачаў выціраць пыл у кабіне. А жонка, падхапіўшы бляшанку з учарнелым бензінам — "Вечна за сабой не прыбярэ", — занесла яе і выплюхнула ў туалет.

Трактар роўна гуў, душа спявала ад заканчэння карпатлівай работы. Заглушыўшы матор, пайшоў па надобе туды, куды цар пяшком хадзіў. Сядзеў і думаў, як добра, што перацягнуў вузлы і часткі, пачысціў і прамыў свайго бегунка. І наогул, не так і кепска жыць на гэтым свеце, радавацца сонцу, пакуль яшчэ ў сіле і здароўі. Дакурыўшы "Астму", як казала Верка, кінуў акурак у правал ямы і... Магутнае полымя шуганула знізу, асмаліла бёдры і азадак, апякло яго мужчынскае багацце. Вылецеў, бразнуўшы дзвярыма, як ашпараны кіпнем, з матамі і лаянкай. Спало-

ханыя куры разляцеліся па баках, толькі певень здзіўлена пазіраў, як Іван аглядваўся — ці не бачыць хто? — хуценька нацягваў штаны.

Апошняй кропляй быў дзень нараджэння Веркі. Прыйшла яна з бухгалтэрыі раней, накрыла стол. А Іван, уліўшы ці не літар, даехаў, заглушыў трактар, ледзь увайшоў у хату, ціха звіўся на падлозе каля канапы. Жонка адкрыла канапу, выкінула ў спальню падушку і коўдру, цяжка закуліла яго ўсярэдзіну і закрыла. Ён не чуў, як гадзіны дзве гулі госці, каляжанкі Веркі. Калі развіталіся, яна пайшла іх праводзіць.

І тут ён прачнуўся. Мац-мац — дошкі, кругом дошкі. "Памёр! То ж труна! — ляжаў і мацаў у цемнаце дошкі. — А колькі зямлі нада мной? Метры са два..." Ляжаў і думаў: "А мо жывога закапалі?" Івана ад гэтай думкі кінула ў пот. "Так і памру тут, задыхнуся..." Ён нема зароў, пачаў біць у донца і крышку труны нагамі...

Жонка прыбегла, выцегнула яго з канапы. Дапоўз да кухні, да вядра і доўга піў ваду, быццам выбраўся з таго свету.

З таго дня Іван кінуў піць.

# ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

**КАМАРОЎСКІ Алесь Адамавіч**

# ПЕНАЛЬЦІ

*Для дзяцей старэйшага школьнага ўзросту*

Загадчык выдавецкага аддзела *У. А. Герасімовіч*
Рэдактар *Э. І. Ліпніцкі*
Мастак *У. Б. Максімаў*
Мастацкі рэдактар *А. М. Хількевіч*
Тэхнічны рэдактар В. А. Віценка
Карэктар Л. К. Місуна
Камп'ютэрная вёрстка В. А. Дыбчук

Здадзена ў набор 17.05.2000. Падпісана да друку 23.11.2000. Фармат 84 x 108 $^1/_{32}$.
Папера газетная. Гарнітура Школьная. Афсетны друк.
Ум. друк.арк. 13,86. Ум.фарб.-адб. 14,28. Ул.-выд.арк. 12,29. Тыраж 3 000 экз.
Заказ 3733.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.300.

Унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва "Ураджай"» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 8 ад 16.08.2000 г.
220048, Мінск, пр. Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства "Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня". 225320, Баранавічы, Савецкая, 80.

**Камароўскі А. А.**

К 18 Пенальці: Аповесці і апавяданні: Для ст. шк. узросту.— Мн.: Ураджай, 2000.— 262 с.: іл.

ISBN 985-04-0319-5

Першы раздзел кнігі склалі аповесці «Заваражаны мяч» і «Пенальці» аб самай папулярнай спартыўнай гульні — футболе. У цэнтры ўвагі пісьменніка — лёс футбольнай каманды, яе ігракоў. Аўтар закранае самыя розныя грані чалавечага характару — сумленнасць, адданасць любімай справе, вернасць роднаму калектыву. Аповесць «Ахілесава пята», напісаная ў форме паралелізма, прысвечана скачкам у вышыню.

Другі раздзел кнігі склалі апавяданні, героі якіх аказваюцца ў самых незвычайных абставінах.

УДК 882.6-93
ББК 84(4Бен)6